# У. Г. Караленка

# Апошні прамень



**ВЫБРАНАЕ**

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1984

# Імгненне

*Нарыс*

I

— Будзе бура, таварыш.

— Так, капрал, будзе страшная бура. Я добра ведаю гэты ўсходні вецер. Ноч на моры будзе вельмі неспакойная.

— Святы Іосіф, беражы нашых маракоў. Рыбакі паспелі выбрацца...

— Аднак зірніце: вунь там, здаецца, я бачыў парус.

— Не, гэта мільганула птушынае крыло. Ад ветру можаш схавацца за зубцамі сцяны... Бывай. Змена праз дзве гадзіны...

Капрал пайшоў, вартавы застаўся на сцяне невялікага форта, які з усіх бакоў акружалі ўздыбленыя хвалі.

Сапраўды, набліжалася бура. Сонца садзілася, вецер усё мацнеў, захад разгараўся чырванню, і, па меры таго як полымя разлівалася па небе,— сінеча мора рабілася глыбейшай і халаднейшай. Дзе-нідзе цёмную паверхню яго праразалі белыя грабяні валоў, і тады здавалася, што гэта таямнічая глыбіня акіяна, злавесная і бледная ад доўгага стрыманага гневу, спрабуе выглянуць наверх.

На небе таксама ўсталёўвалася паспешлівая трывога. Воблакі, выцягнуўшыся даўгімі палосамі, ляцелі з усходу на захад і там загараліся адно за адным, быццам ураган кідаў іх у жарала велізарнай напаленай печы. Дыханне блізкай навальніцы ўжо адчувалася над акіянам.

Над цёмнымі хвалямі, нібы крыло спалоханай птушкі, мільгаў парус: запознены рыбак, уцякаючы ад буры, відаць, не спадзяваўся ўжо дабрацца да далёкага берага і скіраваў сваю лодку да форта.

Надыходзіў вечар, і бераг даўно патануў у тумане, пырсках і змроку. Мора раўло глыбока і працяжна, і вал за валам каціўся ўдалеч да яшчэ светлага гарызонта. Парус мільгаў, ён то знікаў, то паказваўся. Лодка цяжка

адольвала хвалі і паволі набліжалася да вострава. Вартавому, які глядзеў на яе са сценкі форта, здавалася, што змрок і мора грозна і свядома спяшаюцца пакрыць гэтае адзінае судначка імглой, пагібеллю, плёскатам сваіх пустэльных валоў.

У сценцы форта ўспыхнуў агеньчык, другі, трэці. Лодкі ўжо не было відаць, але рыбак мог бачыць агні — некалькі трапяткіх іскраў над бязмежным разгайданым акіянам.

## II

— Стой! Хто ідзе?

Вартавы са сцяны аклікае лодку і бярэ яе на прыцэл.

Але мора страшнейшае за гэту пагрозу. Рыбаку нельга кінуць руль, бо хвалі імгненна шпурнуць лодку на каменне... Да таго ж старыя іспанскія ружжы б'юць не надта трапна. Лодка асцярожна, быццам птушка, што плыве па вадзе, чакае прыбою, разварочваецца на самым грабяні хвалі і раптам апускае парус... Прыбой кідае яе наперад, кіль сунецца па друзе ў маленькай бухце.

— Хто ідзе? — зноў крычыць вартавы, які толькі што са спачуваннем сачыў за небяспечнымі манеўрамі лодкі.

— Брат! — адказвае рыбак.— Адчыніце вароты, святым Іосіфам прашу. Бачыш, якая бура!

— Пачакай, зараз прыйдзе капрал.

На сцяне заварушыліся цені, потым адчыніліся цяжкія дзверы, мільгануў ліхтар, пачулася размова. Іспанцы прынялі рыбака. За сцяной, у салдацкай казарме, ён знойдзе прытулак і цяпло на ўсю ноч, і там, супакоіўшыся, яму добра будзе ўспамінаць і злосны грукат акіяна і жудасную цемру над безданню, дзе яшчэ так нядаўна гайдалася яго лодка. Дзверы з трэскам зачыніліся, быццам форт замкнуўся ад мора, па якім шырокай, на ўсю мора, градой, таямніча бліскаючы ўспышкамі фасфарычнай пены, ужо ішоў першы шквал.

А ў акне вуглавой вежы асцярожна гарэў агеньчык, і лодка, уведзеная ў бухту, мерна гайдалася і ціха рыпела пад ударамі аслабленай, але ўсё яшчэ моцнай хвалі.

## III

У вуглавой вежы была келля іспанскай ваеннай турмы. На нейкае імгненне чырвоны агеньчык, што свяціў з яе акна, зацямніўся, і за кратамі азначылася чалавечая по-

стаць. Нехта паглядзеў адтуль на цёмнае мора і адышоў. Чырвоныя адбіткі агеньчыка зноў закалыхаліся на грабянях валоў.

Гэта быў Хуан-Марыя-Хазэ-Мігуэль-Дыяц, інсургент [1] і флібусцьер [2]. У мінулае паўстанне іспанцы ўзялі яго ў палон і прысудзілі да пакарання смерцю, але потым, па прыхамаці нейчай міласэрнасці, яго памілавалі. Яму падаравалі жыццё: прывезлі на востраў і пасадзілі ў вежу. Тут з яго знялі кайданы. Яны былі лішнія: сцены — каменныя, у акне — тоўстыя краты, за акном — мора. Яго жыццё было ў тым, што ён мог глядзець у акно на далёкі бераг... І ўспамінаць... І яшчэ, магчыма,— спадзявацца.

На першым часе, светлымі днямі, калі сонца ззяла на грабянях сініх хваляў і набліжала дальні бераг, ён падоўгу глядзеў туды, узіраючыся ў абрысы родных гор, у няпэўныя звіліны цяснін, у ледзь прыкметныя плямы далёкіх вёсак... Прыпамінаў бухты, дарогі, горныя сцяжынкі, па якіх, здавалася яму, блукаюць лёгкія цені, і сярод іх адна, некалі дарагая яму. Ён чакаў, што ў гарах зноў заблiскаюць агеньчыкі стрэлаў у клубах дыму, што адтуль, з далёкага берага, па хвалях панясуцца парусы з родным сцягам непакоры і свабоды. Ён рыхтаваўся да гэтага і цярпліва, асцярожна, настойліва дзяўбаў камень ля ржавых кратаў.

Але гады ішлі. На беразе ўсё было спакойна, у цяснінах ляжала сіняя імгла, ад берага адыходзіў толькі невялікі іспанскі вартавы кацер, ды мірныя рыбацкія судны снавалі па моры, як марскія чайкі ў пошуках здабычы...

Патроху ўсё мінулае рабілася для яго сном. Як у сне, драмаў у залацістым тумане сцішаны бераг, і ў сне блукалі па ім здані даўно мінулага... А калі ад берага аддзяляўся дымок і, разразаючы хвалі, імчаў ваенны кацер — ён ведаў: гэта вязуць на востраў новую змену турэмшчыкаў і варты...

І яшчэ прайшлі гады ў гэтай летаргіі. Хуан-Марыя-Мігуэль-Хазэ- Дыяц супакоіўся і пачаў забываць нават свае сны. Нават на далёкі бераг ён глядзеў ужо з тупой абыякавасцю і даўно перастаў ужо трывожыць краты... Навошта?..

Толькі калі ўзнімаўся ўсходні вецер, асабліва страшны ў гэтых мясцінах, і хвалі пачыналі крышыць каменне на

[1] Бунтаўшчык, удзельнік паўстання *(лац.)*.
[2] Марскі партызан *(франц.)*.

адхоне маленькага вострава,— у глыбіні яго душы, як гэтыя камені на дне мора, пачынала глуха варушыцца туга, няясная і тупая. Ад ахутанага імглой берага, здавалася яму, зноў аддзяляюцца нейкія цені, і нясуцца над марскімі валамі, і крычаць пра нешта моцна, паспешліва, жаласна, трывожна... Ён ведаў, што гэта крычыць толькі мора, але міжвольна не мог не прыслухоўвацца да гэтых крыкаў... І ў глыбіні яго душы ўздымалася цяжкае, цёмнае хваляванне.

У каменнай падлозе яго каморкі з кута ў кут, па дыяганалі, была азначана паглыбленая сцежка. Гэта ён, бегаючы ў бурныя ночы па сваёй клетцы, вытаптаў босымі нагамі камень. Часам у такія ночы ён зноў калупаў сцяну ля кратаў. Але ў першую ж раніцу, калі мора, супакоіўшыся, пяшчотна лізала каменныя ўступы вострава, ён таксама супакойваўся і забываў хвіліны шалю...

Ён ведаў, што яго трымаюць тут не краты... Яго трымала гэта каварнае, то злоснае, то пяшчотнае мора, а яшчэ... сонны спакой далёкага берага, які ляніва і тупа драмаў у сваіх туманах...

## IV

Так прайшлі яшчэ гады, якія здаваліся ўжо днямі. Гадзіны сну прападаюць для свядомасці, а ўсё яго жыццё было сном, тупым, цяжкім і бясследным.

Аднак з нейкага часу ў гэтым сне зноў пачалі мільгаць дзіўныя прывіды. У ясныя дні на беразе ўзнімаўся дым вогнішчаў ці пажараў. У форце адбываўся незвычайны рух: іспанцы пачалі рамантаваць старыя сцены; шчыліны, якія ўзніклі за гады ціхамірнага спакою, таропка замазваліся; між берагам і востравам часцей мільгалі паравыя баркасы з ваенным іспанскім сцягам. Разы два, нібы грузныя спіны марскіх пачвар, цяжка прапаўзалі маніторы з вежамі над самай вадой. Дыяц глядзеў на іх абыякавым позіркам, у якім часам прабівалася здзіўленне. Неяк яму нават падалося, што ў цясніне і на ўступах знаёмай гары, якая ў гэты дзень была ярка асветлена сонцам, устаюць белыя дымкі ад стрэлаў, маленькія, як шпілечныя галоўкі, раптоўна і ярка выплываюць яны на цёмна-зялёным фоне і ціха раставаюць у светлым паветры. Адзін раз доўгая чорная паласа манітора прайшла да далёкага берага, і некалькі кароткіх адрывістых удараў таўханулася з мора ў яго акно. Ён схапіўся рукамі за краты і моцна скалануў іх. Яны дзынк-

нулі і задрыжалі. Друз і смецце пасыпаліся з гнёздаў, дзе жалезныя палосы былі ўмураваны ў сцены...

Але прайшло яшчэ некалькі дзён... Бераг зноў прыціх і задрамаў; мора было пустое, хвалі ціха, задумліва накочваліся адна на адну і, быццам ад няма чаго рабіць, білі ў каменны бераг... І ён падумаў, што гэта зноў быў толькі сон.

Але ў гэты дзень зранку мора пачынала зноў раздражняць яго. Некалькі валоў перакацілася ўжо цераз хвалярэз, што аддзяляў бухту, і злева было чуваць, як каменні лезуць са дна на берагавы адхон... Пад вечар у чатырохкутніку акна раз-пораз мільгалі бліскучыя пыркі пены. Прыбой заводзіў сваю глыбокую песню, бераг адказваў глыбокімі стогнамі і гулам.

Дыяц толькі павёў плячыма і выпашыў легчы раней. Няхай мора гаворыць што хоча; няхай як хоча выбіваецца з хаатычнага нагрувашчвання валоў і запозненая лодка, якую ён убачыў у акно. Рабская лодка з рабскага берага... Яму няма справы ні да яе, ні да галасоў мора.

Ён лёг на свой сяннік.

Калі вартаўнік-іспанец у свой час прынёс ліхтар і з калідора ўставіў яго ў адтуліну над замкнёнымі дзвярыма, то ліхтар асвятліў бледны твар вязня з заплюшчанымі вачыма. Здавалася, Дыяц спакойна спаў; толькі часам бровы яго сціскаліся і па твары праходзіў цень тупой пакуты, быццам у глыбіні ўсыплёнай свядомасці штосьці глуха і цяжка варушылася, як гэтае прыбярэжнае каменне ў марской глыбіні...

Але раптам ён прачнуўся, бы хто назваў яго па імю. Гэта шквал, пераляцеўшы цераз хвалярэз, ударыў у самую сцяну. За акном у цемры несліся белыя шматкі фасфарычнай пены, і, нават калі грукат сціх, камера была напоўнена шыпеннем і свістам. Адгалоскі праніклі за замкнёныя дзверы і панесліся па калідорах. Здавалася, нешта свядомае і грознае праляцела над востравам і заціхла, і замірае ўдалечыні...

Дыяц адразу ўскочыў. Яму здалося, што ён спаў усяго некалькі секунд, і ён зірнуў у акно, чакаючы яшчэ ўбачыць белы парус лодкі. Але ў акне было чорна, мора шалела ў поўнай цемры, і чуліся збэрсаныя крыкі шквалу, які ўжо адыходзіў.

Хоць такія буры бывалі не часта, але ўсё ж ён добра ведаў і гэты грукат, і свіст, і шыпенне, падземнае дрыжанне каменнага берага. Але цяпер, калі гэты раз'юшаны гул

пайшоў на спад, скрозь яго пачуўся яшчэ нейкі новы гук, нешта ціхае, пяшчотнае і незнаёмае...

Ён кінуўся да акна і, ухапіўшыся рукамі за краты, зазірнуў у цемру. Мора было бясформеннае і дзікае. Далёкі бераг увесь быў агорнуты імглой. Толькі на некалькі імгненняў паміж ім і хмарай паказаўся чырвоны, затуманены месяц. Палахлівыя водбліскі мітусліва засвяціліся на грабянях шалёных валоў і патухлі... Застаўся толькі шум, магутны, дзіка свядомы, неспакойны, ён жыў і некуды радасна клікаў...

Хазэ-Марыя-Мігуэль-Дыяц адчуў, што ўсё ўсярэдзіне ў яго трымціць і хвалюецца, як мора. Душа прачынаецца ад доўгага сну, праясняецца свядомасць, ажываюць даўно згаслыя жаданні... І раптам ён успомніў тое, што бачыў на беразе некалькі дзён назад... Гэта быў не сон! Як ён мог палічыць гэта сном?! Гэта быў рух, гэта былі стрэлы... Гэта было паўстанне!..

Наляцеў яшчэ шквал, зноў пранесліся бліскучыя пырскі, і зноў з-пад шыпення і плёскату пачуўся ранейшы гук, незнаёмы і пяшчотны. Дыяц кінуўся да кратаў і ў парыве дзіўнага натхнення з усяе сілы скалануў іх. Зноў пасыпаліся вапна і друз, раз'едзеныя салёнымі пырскамі, упала некалькі каменняў, і краты лёгка выйшлі з амбразуры.

А пад акном, у бухце, гайдалася і парыпвала лодка...

V

На сцяне ў гэты час змянілася варта.

— Святы Іосіф... Святая Марыя! — прамармытаў новы вартавы і, накрыўшы галаву капюшонам, схаваўся за выступ сцяны. Па моры, на ўсю шырыню, устаючы і ападаючы, паблісваючы ў цемры грабянямі пены, ляцеў новы шквал. Вецер, здавалася, звар'яцеў, востраў ужо загадзя ўздрыгваў і стагнаў. Са дна, як бледныя здані, лезлі на адхон вялізныя камяні, што доўгія гады праляжалі ў глыбіні.

Шквал наляцеў якраз у тую хвіліну, калі Дыяц скочыў з акна. Яго адразу заліло вадой, аглушыла і збіла з ног... Некалькі секунд ён ляжаў непрытомны, з адным жахам у душы, халодны і няшчасны, а над ім з выццём неслася нешта вялізнае, дзікае, варожае...

Калі грукат крыху сціх, ён расплюшчыў вочы. Па небе несліся цёмныя хмары, без прасветаў, без абрысаў. Больш

адчуваўся, чым відзён быў рух гэтых аграмадзін, якія ўсё гэтак жа нястрымана несліся на захад. А ўдалечыні зноў вырастала нешта нябачнае, але грознае і гуло панура, злавесна, няспынна.

Толькі мураваны форт застаўся нерухомым і спакойным сярод гэтага суцэльнага руху. У цемры можна было распазнаць ствалы гармат, што выступалі з амбразур... З дальняй казармы ў хвіліну адноснага зацішша данесліся гукі вячэрняй малітвы, барабан прабіў апошнюю зару... Там, за сценамі, здавалася, застыў спакой. Агеньчык у яго вежы свяціў роўна, не міргаў.

Дыяц устаў і, як пабіты сабака, пайшоў да гэтага агеньчыка... Не, мора падманлівае і жудаснае. Ён зойдзе ў сваю ціхую келлю, прыставіць краты, ляжа ў сваім кутку на свой сяннік і засне цяжкім, але спакойным сном няволі.

Трэба будзе толькі прыставіць краты так, каб не заўважыў патруль... Яшчэ падумаюць, што ён хацеў уцячы ў гэтую бурную ноч... Не, ён не хоча ўцякаць... На моры смерць...

Ён учапіўся рукамі за карніз, падняўся да акна і спыніўся...

У камеры було пуста і даволі ціха. Роўнае жаўтаватае святло ад ліхтара падала на сцены, на вытаптаную падлогу, на сяннік, што ляжаў у кутку... Над галовамі глыбока ў камені быў выразаны надпіс: «Хуан-Марыя-Хазэ- Мігуэль-Дыяц, інсургент. Няхай жыве свабода!»

І ўсюды па сценах, буйныя і дробныя, глыбокія і ледзь прыкметныя, мільгалі тыя ж надпісы:

«Хуан-Мігуэль-Дыяц... Мігуэль-Дыяц...» І — лічбы...

Спачатку ён памячаў час днямі, тыднямі, потым месяцамі... «Маці божая, ужо два гады...» «Тры гады... Божа, захавай мне розум... Дыяц... Дыяц...»

Дзесяты год азначаны проста лічбай, без выклічнікаў... Далей падлік спыняўся... Мільгала толькі імя, выразанае аслабелай і лянівай рукой... І на ўсё гэта спакойна і роўна падала жаўтаватае святло ад ліхтара...

І раптам Дыяцу ўявілася, што на яго пасцелі ляжыць чалавек і спіць цяжкім сном. Грудзі ўздымаюцца ціха, з тупым спакоем... Гэта ён? Той Дыяц, які зайшоў сюды поўны сіл і любові да жыцця і волі?..

Новы шквал з выццём і грукатам наляцеў на востраў... Дыяц адпусціў рукі і зноў саскочыў на бераг. Шквал пранёсся і пачаў аціхаць... Роўны агеньчык зноў свяціў з акна ў цемру.

## VI

Вартавы на сцяне павярнуўся спіной да ветру і, ашчаперыўшы рукамі вінтоўку, каб яе не вырвала ўраганам, сам сабе чытаў малітвы і прыслухоўваўся да жудаснага грукату мора, шалёнага посвісту ветру. Неба пацямнела яшчэ болей; здавалася, гэта бясформенная цемра паглынула ўжо ўвесь свет, яна ахапіла і хмары, і паветра, і мора. Толькі часам у гэтым шуме, грукаце, плёскаце са страшнай раптоўнасцю азначаліся белыя грабяні, і хваля налятала на востраў, далёка кідаючы пыркі праз нізкія сцены.

Прачытаўшы ўсе малітвы, якія толькі ведаў, вартавы павярнуўся да мора і замёр ад здзіўлення. Па бухце, у адносным зацішшы, ледзь прыкметная ў цемры, рухалася лодка, набліжаючыся да таго месца, дзе, не прыкрытае ад ветру, мора кіпела і шалела ў змроку. Раптам белы парус узвіўся, яго надзьмуў вецер. Лодка скаланулася, узнялася і знікла...

У гэтае імгненне Дыяц зірнуў назад, і яму падалося, што цёмны астравок калыхнуўся і паляцеў у бездань, разам з роўным агеньчыкам, які да гэтага імгнення сачыў за ім сваім мёртвым святлом. Наперадзе былі толькі пекла і бура. Радасць перапоўніла яго застыглую душу. Ён мацней сціснуў руль, нацягнуў парус і крыкнуў штосілы... Гэта быў крык нястрыманай радасці, бязмежнага захаплення, жыцця, якое абудзілася і ўсвядоміла сябе... Ззаду пачуўся прыглушаны стрэл з ружжа, потым удалеч панёсся гул гарматнага стрэлу, разарваны і раскіданы ўраганам. Збоку набягаў шквал, падхопліваў лодку... Яна ўздымалася, уздымалася... здавалася, цэлую вечнасць... Хазэ-Марыя-Мігуэль-Дыяц, насупіўшы бровы, цвёрдым позіркам глядзеў толькі наперад, і тое ж захапленне поўніла яго грудзі... Ён ведаў, што ён свабодны, што ніхто ў цэлым свеце цяпер не можа параўнаць сябе з ім, таму што ўсе хочуць жыцця... А ён... Ён хоча толькі волі.

Лодка застыла на самай вяршыні вала, здрыганулася, ускалыхнулася і пачала апускацца... Са сцяны яе бачылі ў апошні раз... Але яшчэ доўга маленькі форт пасылаў з прамежкамі стрэл за стрэлам у бурнае мора...

## VII

А раніцой сонца зноў узышло ў яснай сіні. Па небе яшчэ бязладна несліся апошнія абрыўкі хмараў; мора сціхала, калыхалася і нібы саромелася свайго начнога разгу-

лу... Сінія цяжкія хвалі ўсё цішэй біліся ў каменне, бліскаючы на сонцы яркімі вясёлымі пырскамі.

Далёкі бераг, пасвяжэлы і абмыты навальніцай, красаваўся ў празрыстым паветры. Усюды смяялася жыццё, што прачнулася пасля бурнай ночы.

Невялікі параход крэйсіраваў уздоўж берага, сцяліў па хвалях даўгі хвост бурага дыму. Жменька іспанцаў сачыла за ім са сцяны форта.

— Напэўна, загінуў,— сказаў адзін.— Гэта было чыстае вар'яцтва... Як вы думаеце, дон Фернанда?

Малады афіцэр павярнуў задумлівы твар да таго, хто гаварыў.

— Так, мабыць, загінуў,— сказаў ён.— А можа, глядзіць на сваю турму з гэтых гор. Ва ўсякім выпадку, мора дало яму некалькі імгненняў волі. А хто ведае, ці не каштуе адно імгненне сапраўднага жыцця цэлых гадоў гібення!..

— Аднак што там? Гляньце...— І афіцэр паказаў на паўднёвы край гарыстага берага. На адной з крайніх скал, занятых лагерам інсургентаў, у сіняй паласе замільгалі кучкамі белыя ўспышкі дыму. Гуку не было чутна, толькі мітуслівыя дымкі з'яўляліся і гаслі, дзіўна ажыўляючы пустэльныя цясніны. З мора ў адказ адрывіста ўдарыў гарматны стрэл, і калі дым увесь лёг на ззяючыя зіхатлівыя іскрыстыя хвалі — усё зноў сціхла. І бераг, і мора маўчалі...

Афіцэры пераглянуліся... Што азначала незразумелае ажыўленне на пазіцыях паўстаўшых тубыльцаў?.. Ці не адказ гэта на пытанне пра лёс уцекача?.. Ці проста выпадковая перастрэлка раптоўнай трывогі?..

Адказу не было...

Зыркія хвалі загадкава смяяліся, набягалі на бераг і звонка разбіваліся аб каменне...

*1900*

# Дзіўная

*Нарыс з 80-х гадоў*

## I

— Ці скора станцыя, ямшчык?

— Не скора яшчэ, да мяцеліцы наўрад ці даехаць,— бач, як закруціла, сівер ідзе.

Ага, відаць, да мяцеліцы не даехаць. Пад вечар бярэцца на мароз. Чутна, як парыпвае пад палазамі снег, зімовы вецер — сівер — гудзе ў цёмным бары, яловыя лапы цягнуцца да вузкай лясной дарогі і самотна гайдаюцца ў змроку ранняга вечара.

Холадна і няўтульна. Кібітка вузкая, пад бакі ціснe, ды яшчэ так недарэчы тырчаць шашкі і рэвальверы ў праважатых. Званочак вядзе нейкую даўгую аднастайную песню, у тон мяцеліцы.

На шчасце — вось і адзінокі станцыйны агеньчык на паляне шумнага бору.

Мае праважатыя, два жандары, бразгаюць сапраўдным арсеналам зброі і атрасаюць снег у гарачай, цёмнай, закуранай хаце. Бедна і непрыветна. Гаспадыня прыладжвае ў свяцільні дымную лучыну.

— Ці няма чаго ў цябе паесці, гаспадыня?

— Нічога няма ў нас...

— А рыбы? Рака тут у вас недалёка.

— Была рыба, ды выдра ўсю пажрала.

— Ну, бульбы...

— Вой, бацюхна! Памерзла бульба ў нас сёлета, як ёсць памерзла.

Няма чаго рабіць; самавар, як ні дзіўна, знайшоўся. Пагрэліся чаем, гаспадыня ў кошыку прынесла хлеба і цыбулі. А мяцеліца на дварэ разгулялася, сыпала дробным снегам у вокны, часам нават агеньчык лучыны міргаў і хістаўся.

— Нельга вам ехаць — начуйце! — гаворыць старая.

— Што ж, заначуем. Вам жа, пане, спяшацца няма ку-

ды таксама. Бачыце — край тут які!.. Ну, а там яшчэ горш — паверце слову,— гаворыць адзін з праважатых.

У хаце ўсё сціхла. Нават гаспадыня склала сваю прасніцу з пражай і ўлеглася, перастаўшы паліць лучыну. Апанаваў змрок і цішыня, якая парушалася толькі парывістымі ўдарамі ветру.

Я не спаў. У галаве, пад шум завірухі, нараджаліся і ляцелі адна за адной цяжкія думкі.

— Не спіцца, відаць, пану? — гаворыць той жа праважаты — «старшой», чалавек даволі сімпатычны, кемлівы, з прыемным, нават як быццам інтэлігентным тварам, ён ведаў сваю справу і таму не быў педантам. У дарозе такія не шукаюць непатрэбных абмежаванняў і фармальнасцей.

— Ага, не спіцца.

Нейкі час маўчым, але я ведаю, што і мой сусед не спіць,— адчуваецца, што і яму не да сну, што і ў яго галаве рояцца нейкія думкі. Другі праважаты, малады «падручны», спіць сном здаровага, але вельмі стомленага чалавека. Часам ён штосьці неразборліва мармыча.

— Дзіўлюся я з вас,—зноў гучыць роўны грудны голас унтэра,— народ малады, людзі высакародныя, адукаваныя, можна сказаць,— а як сваё жыццё праводзіце...

— Як?

— Эх, пане! Няўжо мы не можам разумець!.. Добра разумеем, не ў гэтакім, можа, жыцці былі і не да гэтага змалку прывыклі...

— Ну, гэта вы абы-што гаворыце... Быў час і адвыкнуць...

— Няўжо вам весела? — гаворыць ён тонам сумнення.

— А вам?

Маўчанне. Гаўрылаў (будзем так зваць майго субяседніка), відаць, нешта думае.

— Не, пане, нявесела. Верце слову: іншы раз бывае — проста, здаецца, на свет не глядзеў бы... Чаму, не ведаю,— толькі іншы раз так падступіць — нож востры, і толькі.

— Служба паганая, ці што?

— Служба службай... Канечне, не гульня, ды і начальства, трэба сказаць, строгае, а толькі ўсё ж не ад гэтага...

— Дык чаго ж?

— Хто ведае...

Зноў маўчанне.

— Служба што. Сам сябе паводзь акуратна, толькі і ўсяго. Мне, тым больш, дадому скора. Са здатачных я, тэрмін ужо выходзіць. Начальнік кажа: «Заставайся,

Гаўрылаў, што табе рабіць у вёсцы? Рэпутацыя ў цябе добрая...»

— Застанецеся?

— Не. Яно, праўда, і дома... Ад сялянскай працы адвык!.. Ежа во... Ну і, само сабой, абыходжанне... Грубасць гэта...

— Дык у чым жа справа?

Ён падумаў і потым сказаў:

— Вось я вам, пане, калі не засумуеце, выпадак адзін раскажу... Са мной быў...

— Раскажыце...

## II

Паступіў я на службу ў 1874 годзе, у эскадрон, адразу са здатачных. Служыў добра, можна сказаць, з поўнай стараннасцю, усё болей па нарадах: у парад куды, да тэатра,— самі разумееце. Грамату добра ведаў, ну, і начальства не абмінала. Маёр у нас зямляк мне быў, убачыў ён маё стаpанне, кліча аднойчы да сябе: «Я цябе, Гаўрылаў, у унтэр-афіцэры прадстаўлю... Ты ў камандзіроўках бываў?» — «Не, кажу, ваша высакароддзе».— «Ну, кажа, у наступны раз прызначу цябе ў падручныя, прыглядзішся — справа няхітрая».— «Слухаюся, кажу, ваша высакароддзе, рады старацца».

А ў камандзіроўках я і праўда што не быў ні разу,— з вашым братам, значыць. Яно хоць, скажам, справа няхітрая, а ўсё ж інструкцыі трэба ведаць, ды і кеміць тое-сёе патрэбна. Ну, добра...

Праз тыдзень гэтак кліча мяне днявальны да начальніка і унтэр-афіцэра аднаго таксама. Прыйшлі. «Вам, кажа, у камандзіроўку ехаць. Вось табе,— гаворыць унтэрафіцэру,— падручны. Ён яшчэ не бываў. Глядзіце, не зявайце, зрабіце, хлопцы, усё малайцамі,— паненку вам везці з замка, палітычную, Марозаву. Вось вам інструкцыя, заўтра грошы атрымаеце і з богам!..»

Іваноў, унтэр-афіцэр, старшы са мной ехаў, а я падручным,— вось як у мяне цяпер другі жандар. Старшаму сумка казённая даецца, грошы ён па рукі атрымлівае, паперы; ён распісваецца, падлікі гэтыя вядзе, ну, а радавы ў дапамогу яму: наслаць куды, за рэчамі глядзець, тое, другое.

Ну, добра. Раніцой, ледзь днець пачало,— ад начальніка выйшлі,— гляджу: Іваноў мой ужо выпіць недзе па-

спеў. А чалавек быў, трэба шчыра сказаць, не падхадзяшчы — цяпер разжалавалі... На вачах у начальства — як мае быць унтэр-афіцэру, і нават на іншых паклёп наводзіў, выслугоўваўся. А як толькі з вачэй, то і закруціўся, і першае што — выпіць!

Прыйшлі мы ў замак, як след паперу падалі — чакаем, стаім. Цікава мне — што за паненку давядзецца везці, а везці трэба па маршруце далёка. Па гэтай самай дарозе ехалі, толькі ў павятовы горад яна была прызначана, не ў воласць. Вось мне і цікава першы раз: што, маўляў, за палітычная такая?

Толькі пачакалі мы гэта з гадзіну, пакуль яе рэчы збіралі — хаця і рэчаў з ёй вузельчык маленькі — спаднічка там, ну, тое-сёе,— самі ведаеце. Кніжкі таксама, а больш нічога з ёй не было; небагатых бацькоў, думаю. Толькі выводзяць яе — гляджу: маладая яшчэ, далібог, дзіцём мне падалася. Валасы русявыя, у адну касу сабраныя, шчокі чырвоныя. Ну, потым убачыў я — бледная зусім, белая ўсю дарогу была. І адразу мне яе шкода стала... Вядома, думаю... Начальства, даруйце... дарэмна не пакарае... Значыць, зрабіла штосьці па гэтай, па палітычнай часці... Ну, а ўсё-такі... шкода, так шкода — проста, ну!..

Пачала яна апранацца: паліто, галошы... Рэчы нам яе паказалі — правіла такое: па інструкцыі мы рэчы глядзець павінны. «Грошы, пытаемся, з вамі якія будуць?» Рубель дваццаць капеек грошай аказалася,— старшы сабе ўзяў. «Вас, паненка, гаворыць ён, я абшукаць павінен».

Як яна тут успыхне. Вочы загарэліся, чырвань яшчэ гусцей твар заліла. Губы тонкія, сярдзітыя... Як паглядзела на нас — верыце: збаяўся я і падступіцца не адважуся. Ну, а старшы, вядома, выпіўшы: проста лезе да яе. «Я, кажа, абавязаны; у мяне, кажа, інструкцыя!..»

Як тут яна крыкне,— нават Іваноў і той ад яе адступіўся. Гляджу я на яе — твар пабялеў, ні крывінкі, а вочы пацямнелі, і злосная-злосная... Нагой тупае, гаворыць скоранька,— толькі я, прызнацца, добра і не слухаў, што яна гаварыла... Наглядчык таксама спалохаўся, вады ёй прынёс у шклянцы. «Супакойцеся, просіць яе, калі ласка, кажа, самі сябе пашкадуйце!» Ну, яна і яго не ўважыла. «Варвары вы, кажа, халопы!» І іншыя падобныя дзёрзкія словы гаворыць. Як хочаце: супраць начальства гэта ж нядобра. Бач, думаю, гадзюка... Дваранскі вырадак!

Так мы яе і не абшукалі. Павёў яе наглядчык у другі пакой, ды з наглядчыцай адразу ж і выйшлі. «Нічога, га-

варацць, пры іх няма». А яна пазірае на яго і быццам смяецца яму ў твар, і вочы злыя ўсё. А Івапоў, вядома,— мора па калена,— глядзіць ды ўсё сваё: «Не па закону: у мяне, гаворыць, інструкцыя!..» Але наглядчык увагі не звярнуў. Ясна, раз ён п'яны. П'янаму якая вера!

Паехалі. Па горадзе праязджалі,— яна ўсё ў вокны карэты глядзіць, быццам развітваецца ці знаёмых хоча ўбачыць. А Іваноў узяў ды фіранкі апусціў — вокны і закрыў. Забілася яна ў куток, сцялася ўся і не глядзіць на нас. А я, прызнацца, не вытрымаў: узяў за беражок адну фіранку, быццам сам паглядзець хачу,— і адкрыў так, каб ёй відаць было... Толькі яна і не зірнула — у куточку сярдзітая сядзіць, губы прыкусіла... Да крыві, так я сабе думаў, пакусае.

Паехалі чыгункай. Надвор'е яснае ў той дзень стаяла — увосень гэта было, у верасні месяцы. Сонца свеціць, але вецер свежы, асенні, а яна ў вагоне акно адчыніла, сама высунецца на вецер і сядзіць так. Па інструкцыі яно не паложана, ведаеце, вокны расчыняць, але Іваноў мой як у вагон уваліўся, так і захроп; а я не адважуся ёй сказаць. Потым асмеліўся, падышоў да яе і кажу: «Паненка, кажу, зачыніце акно.— Маўчыць, быццам не ёй гавораць. Пастаяў я тут, пастаяў, а потым зноў кажу: — Прастынеце, паненка,— холадна ж».

Павярнулася яна да мяне і ўпёрлася вачыма, нібыта здзівілася нечаму... Паглядзела ды і кажа: «Кіньце!» І зноў у акно высунулася. Махнуў я рукой, адышоў убок.

Стала яна крыху спакайнейшая. Зачыніць акно, у паліто захутаецца ўся, грэецца. Вецер, кажу, моцны быў, холадна! А потым зноў да акна сядзе, і зноў на ветры ўся,— пасля турмы, відаць, не наглядзіцца. Павесялела нават, пазірае сабе, усміхаецца. І так на яе ў тую пару хораша глядзець было!.. Ці верыце...

Апавядальнік змоўк і задумаўся. Потым, як быццам трохі сумеўшыся, загаварыў далей:

— Вядома, з непрывычкі гэта... Пасля шмат вазіў, прывык. А той раз дзіўна мне здалося: куды, думаю, мы яе вязём, дзіцё гэтакае... І потым, прызнацца вам, пане, вы ўжо не асудзіце: што, думаю, калі б у начальства папрасіць за жонку ўзяць... Я б ужо з яе дурасць гэтую выкурыў. Чалавек я, тым болей, служачы... Канечне, розум малады, дурны... Цяпер я дапяў... Папу тады на споведзі расказаў, а ён: «Вось ад гэтай самай думкі насланнё на цябе і найшло. Таму што яна, відаць, і ў бога не верыць...»

Ад Кастрамы на тройцы ехаць давялося; Іваноў у мяне п'яны-п'яненькі: праспіцца і зноў залівае. Выйшаў з вагона, хістаецца. Ну, думаю, дрэнь справа, хаця б грошы казённыя не пагубляў. Уваліўся ў паштовыя калёсы, лёг і адразу захроп. Села яна побач,— няёмка. Паглядзела на яго — ну, быццам вось на гадзіну якую. Скурчылася так, каб не зачапіць яго як-небудзь — уся ў куточак і прыціснулася, а я на козлы сеў. Паехалі,— вецер сіверны,— я і то прамёрз. Закашляла моцна і хусцінку да вуснаў паднесла, а на ёй, гляджу, кроў. Дык мяне нібы хто ў сэрца кальнуў іголкай. Эх, кажу, паненка,— як можна! Хворыя вы, а ў такую дарогу паехалі, восень, холад!.. Хіба, кажу, можна гэтак!

Ускінула яна на мяне вочы, паглядзела, і быццам зноў усярэдзіне ў яе закіпаць стала.

«Што вы, кажа, дурныя, ці што? Не разумееце, што я не па сваёй волі еду? Добранькі таксама: сам вязе і яшчэ шкадуе!»

«Вы б начальству заявілі,— у бальніцу хоць ляглі б, чым у такі холад ехаць. Дарога ж няблізкая!»

«А куды?» — пытаецца.

А нам, ведаеце, строга забаронена гаварыць злачынцам, куды іх везці загадана. Бачыць яна, што я сумеўся, і адвярнулася. «Не трэба, кажа, гэта я так... Не гаварыце нічога, ды ўжо і самі не лезьце».

Не стрываў я. «Вось куды вам ехаць. Не блізка! — Сцяла яна вусны, бровы насупіла, але нічога не сказала. Пахітаў я галавой...— Вось як,— кажу,— паненка. Маладыя вы, не ведаеце яшчэ, што гэта значыць!»

А прыкра мне было... Раззлаваўся... А яна зноў паглядзела на мяне дый кажа:

«Дарэмна вы так думаеце. Ведаю я добра, што гэта значыць, а ў бальніцу ўсё-такі не лягла. Дзякуй! Лепей ужо калі паміраць, дык на волі, у сваіх. А то, можа, яшчэ і папраўлюся, дык зноў жа на волі, а не ў бальніцы вашай турэмнай. Вы думаеце, кажа, ад ветру я захварэла ці ад прастуды? Дзіва што!» — «Там у вас, пытаюся, што, сваякі ёсць?» Гэта я таму, бо яна мне гаварыла, што ў с в а і х папраўляцца хоча.

«Не,— кажа,— у мяне там ні сваякоў, ні знаёмых. Горад мне чужы, але, мусіць, такія ж, як і я, ссыльныя ёсць, таварышы».— Здзівіўся я — як гэта яна чужых людзей сваімі называе,— няўжо, думаю, яе хто без грошай там паіць-карміць будзе, ды яшчэ незнаёмую?.. Толькі не стаў

яе распытваць, таму што бачу: бровы ўздымае, незадаволеная, навошта я пытаюся.

Добра, думаю... Няхай! Ліха не бачыла. Хлябне гора, будзе ведаць, што такое чужая старана...

Пад вечар хмары насунуліся, вецер падзьмуў халодны,— а там і дождж пайшоў. Гразь і дасюль была, а тут развезла — проста кісель, не дарога. Спіну мне ўсю граззю запырскала, ды і ёй парадкам дасталося. Адным словам сказаць, што надвор'е, на яе няшчасце, пайшло самае дрэннае: дожджыкам проста ў твар сячэ; яно хоць, дапусцім, кібітка крытая і дзяружкай я яе закрыў, але куды там! Цячэ ўсюды; прамерзла, гляджу: уся дрыжыць і вочы заплюшчыла. Па твары кроплі дажджу пацяклі, а шчокі белыя, і не зварухнецца, як без памяці. Спалохаўся я нават. Бачу: справа, выходзіць, дрэнь... Іваноў п'яны — храпе сабе, гора мала... Што тут рабіць, тым больш я першы раз.

У Ярслаў-горад у самы вечар прыехалі. Раскатурхаў я Іванова, на станцыю выйшлі, загадаў я самавар грэць. А з горада з гэтага параходы ходзяць, толькі па інструкцыі нам на параходах вазіць строга забараняецца. Яно хоць нашаму брату выгадней — эканомію загнаць можна, але боязна. На прыстані, ведаеце, паліцэйскія стаяць, а то і наш брат, мясцовы жандар, паклёп навесці заўсёды можа. Вось паненка і гаворыць нам: «Я,— кажа,— далей на паштовых не паеду. Як хочаце, кажа, параходам вязіце». А Іваноў ледзь вочы прадраў з пахмелля — сярдзіты. «Вам пра гэта разважаць не паложана. Куды павязуць, туды і паедзеце!» Нічога яна яму не сказала, а мне:

«Чулі,— гаворыць,— што я сказала: не паеду».

Адазваў я тут Іванова ўбок: «Трэба,— кажу,— на параходзе везці. Вам жа лепей: эканомія застанецца». Ён на гэта пайшоў, толькі папалохаўся. «Тут,— кажа,— палкоўнік, дык каб нічога ніякага. Ідзі спытай,— мне,— кажа,— нездаровіцца нешта». А палкоўнік недалёка жыў. «Хадзем, кажу, разам і паненку з сабой возьмем». Баяўся я: Іваноў, думаю, спаць заваліцца сп'яну, дык каб нічога ніякага. А то — уцячэ яна ці над сабой што зробіць — адказваць давядзецца. Ну, пайшлі мы да палкоўніка. Выйшаў ён да нас. «Што трэба?» — пытаецца. Яна яму і тлумачыць і таксама не надта лагодна. Ёй бы папрасіць пакорна, так і так, маўляў, зрабіце боскую ласку — а яна тут па-свойму: «На якому праву»,— гаворыць, ну і іншае; усе, ведаеце, дзёрзкія словы гаворыць, якія вы, палітыкі, любіце. Ну, самі разумееце, начальству гэта не падабаецца. Началь-

ства любіць ціхмяных. Аднак выслухаў ён яе і нічога — ветліва адказвае: «Не магу,— кажа,— нічога я тут не магу. Па закону... нельга!» Гляджу, паненка мая зноў расчырванелася, вочы — як вугалькі. «Закон!» — гаварыць і засмяялася па-свойму, злосна і моцна. «Так точна,— палкоўнік ёй,— закон!»

Прызнацца, я тут забыўся на асцярожнасць ды і ўставіў сваё: «Праўда, што, вашаскароддзе, закон, але яны, ваша высакароддзе, хворыя». Паглядзеў ён на мяне строга. «Як тваё прозвішча?» — пытаецца. «А вам, паненка, кажа, калі хворыя вы,— у бальніцу ў турэмную, калі ласка!» Адвярнулася яна і пайшла прэч, слова не сказала. Мы за ёй. Не захацела ў бальніцу; ды і то трэба сказаць: ужо калі на месцы не засталася, а тут без грошай, ды на чужой старане, канечне, не даводзіцца.

Ну, што тут зробіш. Іваноў на мяне накінуўся: «Што, маўляў, цяпер будзе; ясна, з-за цябе, дурня, абодва адказваць будзем». Загадаў коней запрагаць і ноч перачакаць не схацеў, так нанач і выязджаць давялося. Падышлі мы да яе: «Калі ласка, кажам, паненка, коні пададзены». А яна на канапу прылягла — толькі сагравацца пачала. Падхапілася, стала перад намі,— выпрасталася ўся,— глядзіць на нас ва ўпор, нават, скажу вам, страшна на яе глядзець стала. «Праклятыя вы»,— кажа і зноў па-свойму загаварыла, незразумела. Быццам бы і па-руску,— а нічога зразумець немагчыма. Толькі сярдзіта ды жаласна: «Ну, цяпер ваша воля, вы мяне замучыць можаце,— што хочаце рабіце. Еду!» А самавар усё на стале стаіць, яна яшчэ і не піла. Мы з Івановым свой чай заварылі, я і ёй наліў. Хлеб у нас белы, я таксама ёй адрэзаў. «Паешце,— кажу,— на дарогу. Нічога, хоць сагрэецеся трохі». Яна галошы абувала, кінула абуваць, павярнулася да мяне, глядзела, глядзела, потым плячыма павяла і кажа:

«Што гэта за чалавек такі! Зусім вы, здаецца, ненармальныя. Буду я, кажа, ваш чай піць!»

Крыўдна мне зрабілася, сказаць не магу: і цяпер успомню, кроў да твару прылівае. Вось вы не грэбуеце з намі хлеб-соль есці. Рубанава везлі,— штаб-афіцэрскі сын, а таксама не грэбаваў. А яна пагрэбавала. Загадала потым на другім стале сабе самавар асобна сагрэць, і ўжо вядома: за чай і за цукар удвая заплаціла. А ўсяго ж і грошай — рубель дваццаць!

III

Апавядальнік змоўк, і на нейкі час у хаце стала ціха, чуваць было толькі роўнае дыханне малодшага жандара ды шыпенне мяцеліцы за акном.

— Вы не спіцё? — папытаўся ў мяне Гаўрылаў.

— Не, гаварыце, калі ласка,— я слухаю.

— ...Шмат я ад яе,— прадаўжаў апавядальнік, памаўчаўшы,— шмат пакуты тады прыняў. Дарогай, ведаеце, ноччу, усё дожджык, непагадзь злая... Праз лес едзеш, лес стогнам стогне. Яе мне і не відаць, таму што ноч цёмная, слата, хоць вока выкалі, а паверыце,— яна ў мяне перад вачыма стаіць, ды так, што вось, быццам удзень, яе бачу: і вочы яе і твар злосны, і як яна змерзла ўся, а сама ўсё глядзіць некуды, нібы ўсе думкі свае пра сябе ў галаве варочае. Як са станцыі паехалі, пачаў я яе кажухом накрываць. «Апраніце, прашу, кажух,— усё ж цяплей будзе». Скінула кажух з сябе. «Ваш, кажа,— вы і апранайце». Кажух, і праўда, мой быў, але здагадаўся я і тлумачу ёй: «Не мой, кажу, казённы, па закону арыштаваным палажана». Ну, апранула...

Толькі і кажух не памог: як развіднелася,— зірнуў я на яе, а яна аж з твару змянілася. Са станцыі зноў паехалі, загадала яна Іванову на козлы сесці. Пабурчаў ён, але не змог аслухацца, тым больш — хмель у яго трохі прайшоў. Я з ёй побач сеў.

Трое сутак мы ехалі і нідзе не начавалі. Па-першае, у інструкцыі сказана: не спыняцца на начлег, а «ў выпадку вялікай стомленасці» — не іначай як у гарадах, дзе ёсць каравулы. Ну, а тут, самі ведаеце, якія гарады!

Прыехалі-такі на месца. Быццам гара ў мяне з плячэй далоў, як горад убачылі. І трэба вам сказаць: у канцы яна амаль што на руках у мяне і ехала. Бачу — ляжыць у возе, непрытомная; падкіне на каляіне калёсы, дык яна галавой у біліну і ўдарыцца. Падняў яе на руку на правую, так і вёз; усё ж лягчэй. Спачатку адштурхнула была мяне: «Прэч, кажа, не дакранайцеся!» А потым нічога. Можа, таму, што без памяці была... Вочы заплюшчаныя, павекі зусім пацямнелі, і твар дабрэйшы стаў, не такі злосны. І нават так было, што засмяецца праз сон і прасвятлее, прыціскаецца да мяне, да цёплага. Відаць, ёй, беднай, добрае ў сне трызнілася. Як да горада пад'язджалі, ачнулася, устала... Дождж перасціх, сонца выглянула,— павесялела... Толькі з губерні яе далей адправілі, у губернскім горадзе

не пакінулі, і нам жа яе далей везці давялося — тамашнія жандары ў раз'ездзе былі. Як ехаць нам,— гляджу: у паліцыю народу набіраецца: паненкі маладыя ды паны студэнты, відаць, са ссыльных... І ўсе, быццам знаёмыя, з ёй гавораць, за руку вітаюцца, распытваюць. Грошай ёй прынеслі, хустку на дарогу пуховую, не абы-якую... Правялі...

Ехала вясёлая, толькі кашляла часта. А на нас і не пазірала.

Прыехалі ў павятовы горад, дзе ёй пражываць назначана; здалі яе пад распіску. Тут яна прозвішча нейкае называе. «Тут, кажа, Разанцаў?» — «Тут»,— адказваюць. Спраўнік прыехаў. «Дзе, кажа, жыць будзеце?» — «Не ведаю, кажа, а пакуль што да Разанцава пайду». Пахітаў ён галавой, а яна сабралася і пайшла. З намі і не развіталася.

## IV

Апавядальнік змоўк і прыслухаўся, ці не сплю я.

— Дык вы яе болей і не бачылі?

— Бачыў, ды лепей бы ўжо і не бачыць...

...Неўзабаве я зноў яе сустрэў. Як прыехалі мы з камандзіроўкі — зараз нас зноў у нарад, і зноў у той жа бок. Студэнта аднаго вазілі, Загражскага. Вясёлы такі, песні добра спяваў і выпіць любіў. Яго яшчэ далей паслалі. Вось паехалі мы цераз той самы горад, дзе яе пакінулі, і стала мне цікава пра яе жыццё даведацца. «Тут, пытаюся, паненка наша?» Тут, гавораць, толькі дзіўная яна нейкая: як прыехала, дык адразу да ссыльнага пайшла, і ніхто яе пасля не бачыў,— у яго і жыве. Хто гаворыць: хворая яна; а то плятуць: быццам яна ў яго палюбоўніца. Вядома, народ вярзе... А мне ўспомнілася, што яна гаварыла: «Памерці мне ў *сваіх* хочацца». І так мне цікава... І не тое што цікава, а, проста сказаць, пацягнула. Схаджу, думаю, пагляджу на яе. Ад мяне яна дрэннага не бачыла, а я на яе злосці не маю. Схаджу...

Пайшоў — добрыя людзі дарогу паказалі; а жыла яна ў канцы горада. Домік маленькі, дзверцы нізенькія. Увайшоў я да ссыльнага гэтага, гляджу: чыста ў яго, пакой светлы, у кутку ложак стаіць і занавескай куток адгароджаны. Кніг багата, на стале, на паліцах... А побач майстэрня малюсенькая, там на лаўцы другая пасцель ляжыць.

Як зайшоў я,— яна на пасцелі сядзела, у хустку заху-

таная і ногі пад сябе падабрала,— шыла штосьці. А ссыльны... Разанцаў па прозвішчы... побач на лаўцы сядзіць, з кніжкі ёй штосьці вычытвае. У акулярах, чалавек, відаць, сур'ёзны. Шые яна, а сама слухае. Стукнуў я дзвярыма, яна, як убачыла, прыўстала, за руку яго схапіла, ды так і замерла. Вочы вялікія, цёмныя і страшныя... ну, усё, як і раней бывала, толькі яшчэ бялейшая тварам здалася. За руку яго моцна сціснула,— ён спалохаўся, да яе кінуўся: «Што, кажа, з вамі? Супакойцеся!» А сам мяне не бачыць. Потым адпусціла яна руку яго,— з пасцелі ўстаць хоча. «Бывайце,— кажа яму,— відаць, ім для мяне і смерці добрай шкода». Тут і ён павярнуўся, убачыў мяне,— як ускочыць на ногі. Думаў я — кінецца... заб'е яшчэ. Чалавек, тым болей, рослы, здаровы.

Яны, ведаеце, падумалі так, што зноў гэта за ёй прыехалі... Толькі бачыць ён — стаю я і сам ні жывы ні мёртвы, ды і адзін. Павярнуўся да яе, узяў за руку. «Супакойцеся. А вам, пытаецца, кавалер, што тут, уласна, трэба?.. Чаго прыйшлі?»

Я растлумачыў, што, маўляў, нічога мне не трэба, а так прыйшоў, сам па сабе. Як вёз, маўляў, паненку, і былі яны нездаровыя, дык праведаць прыйшоў... Ну ён абмяк. А яна ўсё такая ж злосная, кіпіць уся. І за што б, здаецца? Іваноў, вядома, чалавек недалікатны. Дык я ж за яе заступаўся...

Разабраўся ён, у чым справа, засмяяўся да яе: «Ну вось бачыце, кажа, я ж вам казаў». Я так зразумеў, што ў іх была ўжо гаворка пра мяне... Пра дарогу яна, відаць, расказвала.

«Даруйце,— кажу,— калі напалохаў вас... Няўчас што... Дык я і пайду. Бывайце, маўляў, не ўспамінайце ліхам, дабром, відаць, не ўспомніце».

Устаў ён, у твар мне паглядзеў і руку падае.

«Вось што,— кажа,— паедзеце назад, калі час будзе,— заходзьце, калі ласка».— А яна пазірае на нас ды ўсміхаецца па-свойму, нядобра.

«Не разумею я,— кажа,— чаго яму заходзіць? І навошта клічаце?» А ён ёй: «Нічога, нічога! Няхай зойдзе, калі сам зноў захоча... Заходзьце, заходзьце, нічога!»

Не ўсё я, прызнацца, зразумеў, што яны тут яшчэ казалі. Вы ж, паны, мудрона іншы раз між сабой гаворыце... А цікава. Калі б так застацца, паслухаць... але мне няёмка,— яшчэ б чаго не падумалі. Пайшоў.

Ну, толькі завезлі мы пана Загражскага на месца, едзем

пазад. Кліча спраўнік старшага і гаворыць: «Вам тут заставацца аж да распараджэння; тэлеграму атрымаў. Папер вам чакаць па пошце». Ну, мы, вядома, засталіся.

Вось я зноў да іх: дай, думаю, зайду — хоць у гаспадароў пра яе спытаю. Зайшоў. Гаворыць гаспадар дома: «Дрэнна,— кажа,— каб не памерла. Баюся, каб адказваць не давялося,— таму, уласна, што папа клікаць не будуць». Толькі стаім мы, гаворым, а ў гэты самы час Разанцаў выйшаў. Убачыў мяне, павітаўся, ды і кажа: «Зноў прыйшоў? Што ж, зайдзі». Я і зайшоў ціхенька, а ён за мной. Паглядзела яна, ды і пытаецца: «Зноў гэты дзіўны чалавек!.. Вы яго паклікалі, ці што?» — «Не,— кажа,— не клікаў я,— ён сам прыйшоў». Я не выцерпеў:

«Што гэта, кажу, паненка,— за што вы сэрца на мяне носіце? Ці я вораг вам які?»

«Вораг і ёсць,— кажа,— а вы хіба не ведаеце? Канечне, вораг!» — Голас у яе слабы, ціхі, на шчоках чырвань так і гарыць, і такі твар у яе прыемны... здаецца, не наглядзеўся б. Эх, думаю,— не жыліца яна на свеце,— пачаў прабачэння прасіць,— як бы, думаю, не памерла, не дараваўшы. «Даруйце мне,— кажу,— калі вам што нядобрае зрабіў». Вядома, як па-нашаму, па-хрысціянску належыць... А яна зноў, гляджу, аж кіпіць... «Дараваць! Вось яшчэ! Ніколі не дарую, і не думайце, ніколі. Памру вось... але ведайце: не даравала!»

Апавядальнік зноў змоўк і задумаўся. Потым працягваў ціха і засяроджана:

— Зноў у іх паміж сабой гаворка пайшла. Вы вось чалавек адукаваны, па-іхняму разумець павінны; дык я вам скажу, якія словы я запомніў. Словы запалі, і цяпер помню, а сэнсу не ведаю. Ён гаворыць:

«Бачыце: не жандар да вас прыйшоў цяпер... Жандар вас вёз, другога павязе, дык гэта ён усё па інструкцыі. А сюды ж яго хіба інструкцыя прывяла? Вы вось што,— кажа,— пане кавалер, не ведаю, як зваць вас...»

«Сцяпан»,— кажу.

«А па бацьку як?»

«Пятровічам звалі».

«Дык вось, маўляў, Сцяпан Пятровіч. Вы сюды чаму прыйшлі? Па-чалавечы? Праўда?»

«Вядома, па-чалавечы. Гэта, кажу, вы правільна тлумачыце. Калі па інструкцыі, дык нам гэта нават забаронена, каб да вас заходзіць без патрэбы. Начальства даведаецца — не пахваліць».

«Ну, вось бачыце»,— ён ёй гаворыць і за руку яе ўзяў. Яна руку вырвала.

«Нічога,— кажа,— не бачу. Гэта вы бачыце, чаго і няма. А мы з ім вось (гэта значыць, са мной) людзі простыя. Ворагі дык ворагі, і няма чаго тут антымоніі разводзіць. Іхняя справа — глядзі, наша справа — не зявай. Ён, вось бачыце: стаіць, слухае. Шкода, не разумее, а то б у данясенні ўсё напісаў...»

Павярнуўся ён у мой бок, глядзіць на мяне праз акуляры. Вочы ў яго вострыя, а добрыя. «Чуеце? — мне гаворыць.— Што ж вы скажаце?.. Ну, ды не тлумачце нічога: я так лічу, што вам гэта крыўдна».

Яно, канечне... па інструкцыі так паложана, што калі што супраць інтарэсу, то абавязаны я, па прысяжнай пасадзе, на бацьку роднага данесці... Ну, але калі я не затым, значыць, прыйшоў, то праўда, што цяжка мне было, проста за сэрца ўзяло. Павярнуўся я да дзвярэй, але Разанцаў утрымаў.

«Пачакай,— кажа,— Сцяпан Пятровіч,— не ідзі яшчэ». А ёй: «Нядобра гэта... Ну, не даруйце, не мірыцеся. Што пра гэта гаварыць. Ён і сам, можа, не дараваў бы, калі б як след усё зразумеў... Але ж і вораг таксама чалавек бывае... А вы гэтага якраз і не прызнаеце. Сек-тант-ка вы,— кажа,— вось што!»

«Няхай,— яна яму,— а вы раўнадушны чалавек... Вам бы,— кажа,— толькі кніжкі чытаць...»

Як яна яму гэта слова сказала,— ён нават на ногі ўскочыў. Быццам ударыла яго. Яна, бачу, спалохалася нават.

«Раўнадушны? Ну, вы самі ведаеце, што няпраўду сказалі».

«Магчыма,— яна яму адказвае.— А вы мне — праўду?..»

«А я,— гаворыць,— праўду: баярыня вы, Марозава, дый годзе...»

Задумалася яна, руку яму падала; ён руку ўзяў, а яна ў твар яму паглядзела-паглядзела дый кажа: «Так, вы, напэўна, маеце рацыю!» А я стаю, дурань дурнем, пазіраю, а ў самога смокча нешта ля сэрца, так і падступае. Потым павярнулася да мяне, глянула без гневу і руку падала. «Вось, кажа, што я вам скажу: ворагі мы да смерці... Ну, ды бог з вамі, руку вам падаю,— жадаю вам калі-небудзь чалавекам стаць — зусім не па інструкцыі... Стамілася я»,— гаворыць яму.

Я і выйшаў. Разанцаў таксама за мной. Сталі мы на

дварэ, і бачу я: на вачах у яго быццам сляза паблісквае.

«Вось што,— кажа,— Сцяпан Пятровіч. Доўга вы яшчэ тут прабудзеце?»

«Не ведаю,— кажу,— можа, і яшчэ дні тры, да пошты».

«Калі,— кажа,— яшчэ зайсці захочаце, дык нічога, зайдзіце. Вы, здаецца, чалавек, па сваёй справе, нічога...»

«Даруйце,— кажу,— напалохаў...»

«Толькі,— кажа,— вы ўжо лепей гаспадыні спачатку скажыце».

«А што я хачу спытаць,— кажу: — Вы вось пра баярыню гаварылі, пра Марозаву. Яны, значыць, баярскага роду?»

«Баярскага,— кажа,— ці не баярскага, а ўжо такая парода: зламаць яе, кажа, можна... Вы і то ўжо зламалі... Ну, а сагнуць,— сам жа бачыў: не гнуцца такія».

На тым і развіталіся.

## V

...Памерла яна неўзабаве. Як хавалі яе, я і не бачыў — у спраўніка быў. Толькі на другі дзень ссыльнага гэтага сустрэў; падышоў да яго — гляджу: ён аж з твару змяніўся.

Росту ён быў высокага, твар сур'ёзны, але раней ветліва глядзеў, а тут зверам на мяне, як ёсць, зірнуў. Падаў быў руку, а потым раптам руку маю кінуў і адвярнуўся. «Не магу,— кажа,— я цябе бачыць цяпер. Ідзі, братка, богам прашу, ідзі!..» Апусціў ён галаву і пайшоў, а я на фатэру прыйшоў, і так у мяне заскрэбла,— проста дні два нават есці не мог. З таго самага часу нуда і прывязалася да мяне. Бы сурочыў хто.

На другі дзень спраўнік паклікаў нас: «Можаце,— кажа,— цяпер ехаць: прыйшла папера, але позна». Відаць, зноў нам яе везці давялося б, ды ўжо бог яе пашкадаваў: сам прыбраў.

...Толькі што яшчэ са мной пасля здарылася,— не канец жа яшчэ. Назад едучы, прыехалі мы на станцыю адну... Заходзім у пакой, а там на стале самавар стаіць, закуска розная, і старэнькая нейкая сядзіць, гаспадыню чаем частуе. Чысценькая старая, маленькая, ды вясёлая такая, гаваркая. Усё гаспадыні пра свае справы расказвае: «Вось,— кажа,— сабрала я пажыткі, дом, што ў спадчыну дастаўся, прадала і паехала да маёй галубкі. Вось узрадуецца! Ужо і насварыцца, і раззлуецца, ведаю, што раззлу-

еццa,— а ўсё ж радая будзе. Пісала мне, загадала не прыязджаць. Каб нават ні ў якім разе я да яе не ехала. Ну, ды гэта ўсё нічога!»

Тут мяне быццам хто пад левы бок штурхануў. Выйшаў я на кухню. «Што за старая?» — пытаюся ў дзеўкі-служанкі. «А гэта,— кажа,— той самай паненкі, што вы той раз везлі, матуля родная». Тут мяне павяло нават. Бачыць дзеўка, як я з твару змяніўся, пытаецца: «Што, служывы, з табой?»

«Цішэй,— кажу,— чаго крычыш... паненка ж памерла».

Тут яна, дзеўка гэтая,— і дзеўка ж, трэба сказаць, гулянчая была, з праезджымі круціла,— як пляснe рукамі ды як заплача, і з хаты вон. Узяў я шапку, ды і сам выйшаў,— чуў толькі, як старая ў зале з гаспадыняй усё гаворыць, і так мне гэтай старой страшна стала, так страшна, што і выказаць немагчыма. Пайшоў я па дарозе,— пасля ўжо Іваноў мяне дагнаў з возам, я і сеў.

## VI

...Вось які выпадак!.. А спраўнік данёс, відаць, начальству, што я да ссыльных хадзіў, і палкоўнік кастрамскі таксама данёс, як я за яе заступаўся,— адно да аднаго і сабралася. Не хацеў мяне начальнік і ў унтэр-афіцэры прадстаўляць. «Які ты,— кажа,— унтэр-афіцэр,— баба ты! У карцэр бы цябе, дурня!» Толькі мне тады ўсё роўна было і нават не шкада нічога.

І ўсё я пра гэту паненку злосную забыць не мог, ды і цяпер тое ж самае: так і стаіць, бывае, перад вачыма.

*1880*

# Яшка

Жорсткія, васпане, норавы...
Астроўскі

## I

...Нас увялі ў калідор адной з сібірскіх турмаў, доўгі, вузкі і змрочны. Адна з яго сцен ледзь не ўся была занятая высокімі вокнамі, што выходзілі на невялікі квадратны дворык, у якім звычайна гулялі арыштанты. Цяпер, з выпадку нашага прыбыцця, арыштантаў «загналі» ў камеры. Уздоўж другой сцяны на невялікай адлегласці адна ад другой відаць былі дзверы «адзіночак». Дзверы счарнелі ад часу і частых дотыкаў і рэзка вызначаліся цёмнымі чатырохкутнікамі на шэрай, бруднай сцяне. Над дзвярыма віселі дошчачкі з надпісамі: «За крадзёж», «За забойства», «За рабаўніцтва», «За бадзянне», а пасярод кожных дзвярэй відаць была квадратная шчыліна са шкельцам, якое закрывалася звонку драўлянай засланкай. Усе засланкі былі адсунутыя, і з-за шкельца на нас пазіралі цікаўныя, уважлівыя вочы вязняў.

Мы павярнулі раз і другі. Над першымі дзвярыма трэцяга калідора я прачытаў надпіс: «Вар'ят», над наступнымі — тое ж. Над трэцімі надпісу не было, а над чацвёртымі я прачытаў тыя ж словы, хаця надпісу і не трэба было, каб угадаць, хто жыве ў гэтай камеры,— з-за яе дзвярэй чуліся нейкія дзікія, тужлівыя гукі, яны рвалі душу. Чалавек, відаць, хадзіў узад-уперад за сваімі дзвярыма, выкрыкваючы нешта падобнае на яўрэйскую малітву, ці на горкі плач-галашэнне, ці на дзікую танцавальную песню. Калі ён сціхаў, на калідоры наступала цішыня, можна было ўлавіць аднатонныя словы нейкай малітвы, якую невыразным голасам чыталі з першай камеры. Далей відаць былі яшчэ такія ж дзверы, і за імі чулася мернае бразганне ланцугоў. Надпіс быў «За забойства».

Гэта быў «калідор падследчага аддзялення», куды нас пасялілі з-за адсутнасці памяшкання для перасыльных. З той жа прычыны, з-за адсутнасці асобнага памяшкання,

у гэтым калідоры трымалі трох вар'ятаў. Наша камера, без надпісу, знаходзілася паміж камерамі двух вар'ятаў, толькі справа ад адной з іх нас аддзяляла лесвіца, над якой вісела дошка: «Уваход у малы верх».

Пакуль наглядчыкі падбіралі ключы, каб адчыніць нашу камеру, сусед наш па правы бок — трэці вар'ят — не падаваў ніякіх знакаў свайго існавання. Наколькі можна было бачыць у акенца, у яго камеры было цёмна, як у магіле.

— Яшка маўчыць цяпера,— ціха сказаў «старшы наглядчык» малодшаму.

— Не бачыць... Бог з ім! — адказаў той гэтак жа ціха.

Раптам з-за шкельца бліснула пара вачэй, мільганулі кончык носа, вялікія вусы, частка барады. Услед за гэтым дзверы застагналі і захадзілі. Яшка стукаў нагою ў ніжнюю частку дзвярэй так моцна, што жалезныя балты гнуліся і скрыгаталі. Кожны ўдар рэхам аддаваўся пад высокай столлю і паўтараўся ў іншых калідорах. Наглядчыкі скалануліся. «Старшы» — сівы, нізенькі стары з яўрэяў, падобны на старога турэмнага пацука, з маленькімі, злоснымі, калючымі вочкамі, што бліскалі з-пад навіслых броваў,— увесь сцяўся, адступіў да сцяны і кінуў на дзверы позірк, поўны глыбокай нянавісці і злосці.

— Хопіць, Яшка, чаго ты задурыў? — абазваўся калідорны наглядчык, сур'ёзны стары, з доўгімі, апушчанымі долу вусамі, у вялікай папасе.— Чаго не бачыў? Бачыш, арыштантаў прывялі?

Той, каго называлі Яшкам, акінуў нас уважлівым позіркам. І, нібы пераканаўшыся, хоць на нас былі «вольныя» касцюмы, што мы сапраўды арыштанты, перастаў стукаць і нешта прабурчаў за сваімі дзвярыма. Слоў мы не маглі разабраць,— «адзіночка» ўжо прыняла нас у свае халодныя, вільготныя абдымкі. Завала клацнула за намі, наглядчыкавы крокі сціхлі на другім канцы калідора, і жыццё «падследчага аддзялення» зноў увайшло ў сваю звычную каляіну.

Пяць крокаў даўжыні, тры з паловай ушыркі — вось памеры новага нашага жытла. Шыбы ў невялікім, з квадратны аршын, акне разбітыя, і з яго відаць шэрая турэмная сцяна на адлегласці двух сажаняў. Куткі камеры хавалі няпэўны паўзмрок. Карнізы адценены жалобнай паласой шматгадовага пылу, сцены шэрыя, і калі ўважліва прыгледзецца, можна ўбачыць на іх асобныя плямы — след барацьбы якога-небудзь пакутніка з клапамі і тара-

канамі,— барацьбы, можа, шматгадовай, упартай. Я не мог пазбавіцца ад адчування нейкага своеасаблівага непрыемнага паху, якім, як мне здавалася, патыхалі гэтыя сцены. Унізе, ля самай падлогі, у цэглу было ўмуравана тоўстае жалезнае кольца, прызначэнне якога для нас было зразумела: да яго некалі быў прыкляпаны кароткі ланцуг... Два ложкі, крэсла і маленькі столік з'яўляліся раскошай «адзіночкі», якую ёй, магчыма, давялося ўбачыць упершыню. У астатніх камерах, такіх жа, як наша, не было нічога, акрамя кінутага на падлогу сенніка і жывой істоты, якая на ім валялася...

За сцяной пачуўся грукат колаў. Паўз акно праехала чатырохкутная скрынка, якую цягнуў слабенькі замораны конік. Два арыштанты млява пляліся ззаду, шлёпаючы кеньгамі па гразі. Яны спыніліся непадалёк, адчынілі люк і гэтак жа вяла пачалі працаваць... Ядавіты смурод шуганyў у нашы разбітыя вокны і пачаў запаўняць камеру...

Мой таварыш, які лёг быў на сваёй пасцелі, стаў на ногі і сумна агледзеў пакой.

— Ад-нак! — сказаў ён працяжна.

— А-га! — пацвердзіў я.

Больш гаварыць не хацелася, ды і не было патрэбы — мы зразумелі адзін аднаго. На нас пазіралі і за нас гаварылі цёмныя сцены, куткі, затканыя павуцінай, замкнёныя дзверы... У акно ўрываліся хвалі міязмаў, і дзецца не было куды. Колькі нам давядзецца пражыць тут: тыдзень, два?.. Пагана, брыдка! А тут жа, побач, нашы суседзі жывуць не адзін тыдзень і не два. Ды і ў гэтай камеры пасля нас зноў паселіцца жылец на доўгія месяцы, а магчыма, і гады...

А арыштанцікі працягвалі сваю працу,— гэта быў іх штодзённы абавязак. Штодня прыязджалі яны сюды са сваёй смярдзючай скрынкай і сонна чэрпалі гадзіну, другую, то ад'язджаючы, то прыязджаючы — і ўсё паўз шматлікія, дрэнна падагнаныя ці разбітыя вокны.

Мы заткнулі разбітае шкло казённай падушкай. Смурод трохі зменшыўся, ці то мы прыцярпеліся, але адчуванне прыгнечанасці, навеянае нашай бездапаможнасцю, цішынёй, бяздзейнасцю «адзіночкі», з вострага пачало пераходзіць у тупое, хранічнае... Мы пачалі прыслухоўвацца да ціхіх галасоў знешняга жыцця, якія прарываліся праз моцныя дзверы.

Знешнім жыццём для нас было жыццё двара і турэмнага калідора. У акенца ў дзвярах, калі яго забываліся зачы-

ніць засланкай, відаць былі арыштанты, якія таўкліся на квадратным дворыку парамі, ціха, без шуму. Здавалася, шэрыя халаты накладвалі нейкае абавязацельства ціхай саліднасці.

У пэўныя часы па двары праносілася каманда: «Пайшоў за варам!», «Пайшоў за хлебам!», «Абедаць пайшоў!», «Пай-шо-оў, разыдзіся па камерах!». На нейкі час са строгага адзіночнага заключэння выпускалі тых, хто быў пад следствам ці катаржнікаў у ланцугах. Апошнія прагульваліся па калідоры яшчэ больш салідна: ланцугі накладвалі гэта абавязацельства. Пад вечар недзе на трэцім двары чуўся званок: набліжалася «праверка». Штодня а сёмай гадзіне наглядчык ці яго памочнік з каравульным афіцэрам і канвоем салдат абыходзіў усе камеры, пералічваючы вязняў.

Так праходзіў дзень у «падследчым аддзяленні».

...Раз, два, тры, чатыры!..— часам гулка разносіўся моцны стук. Гэта Яшка трывожыў чуйную цішыню калідора. У гэтай цішыні, на фоне бясшумнага, прыгнечанага жыцця, яго ўдары, рэзкія, шалёна-размераныя, непакорлівыя, з'ўляліся нейкім дзіўным, вострым, непрыемным кантрастам. Я ўспомніў, як маленькі «старшы» скурчыўся, пачуўшы гэтыя ўдары. Парушэнне звычайнай цішы гэтага сумнага месца, якое нават мне, чужынцу, здавалася дысанансам, павінна было надта рэзаць вуха «начальству».

Не ведаю, уласна, навошта спатрэбілася мне лічыць тыя ўдары. Раз, два, тры... на шостым грукат узмацняўся; сем, восем, дзевяць...— гэта быў суцэльны гул, потым на адзінаццаці, рэдка на дванаццаці, гук рэзка абрываўся. У гэтае імгненне я пачынаў адчуваць востры боль у правай назе. Мне здавалася, што Яшка пераставаў стукаць менавіта ад такога болю ў назе. Праз некалькі секунд раздавалася яшчэ пяць-шэсць ударaў, і потым на калідоры наступала напружаная цішыня ці panылае Яшкава бурчанне перамяжалася тужлівымі выкрыкамі яўрэя.

Часцей за ўсіх на нашым калідоры даводзілася дзяжурыць старому наглядчыку, які даўно, відаць, звыкся з турмой і яе насельнікамі. Здавалася, на гэтым месцы стары знайшоў тую асаблівую душэўную раўнавагу, якая так аблягчае жыццё і зносіны з людзьмі ва ўсякай прафесіі. Ён меў выгляд чалавека з грунтоўным светапоглядам, быў па-філасофску спакойны і нязменна абыякавы, ніколі не павышаў голасу, не лаяў арыштантаў, не прыціскаў іх без патрэбы. Ён быў наглядчык,— гэта было яго грамадскае

становішча, якое накладвала на яго пэўныя абавязкі. Астатнія былі арыштанты,— гэта зноў жа іхняе грамадскае становішча, якое таксама спалучаецца з абавязкамі. Кожны павінен выконваць свае абавязкі, што значыць: «Паводзь сябе з толкам, высакародна, інакш — не трапляй начальству «на заметку». Такія былі асновы яго філасофіі, і ён здолеў правесці іх у жыццё падведамаснага яму «аддзялення». Галоўнае маральнае правіла: «не трапляй на заметку» — прасякала ўсе дэталі гэтага жыцця. Сам стары Міхеевіч хадзіў і дзейнічаў нетаропка, як добра разлічаная машына. Я ніколі не бачыў, каб ён спрачаўся з арыштантам з «адзіночкі», калі той прасіўся «да ветру», як іншыя наглядчыкі. Ён проста ішоў на стук і адмыкаў дзверы. Затое калі Міхеевіч адмаўляў у якой-небудзь палёгцы, значыць, у яго была рэзонная прычына, якая мела адносіны да таго, што блізка начальніцкае вока; і адмаўляў ён заўсёды рашуча, безапеляцыйна. Калі, бывала, Міхеевіч сядзеў на акне калідора і драмаў, прытым з-пад яго вечна насунутай на самыя бровы папахі тырчалі канцы доўгіх вусоў і ястрабінага носа, які ціха і па-свойску «кляваў» у спакойнай дрымоце, у калідоры падследчых панавала вольнасць і нават пэўная развязнасць, вядома, у дапусцімых для гэтага месца межах. Арыштанты козырам хадзілі з папяросамі ў зубах паўз філосафа-начальніка і відавочна адчувалі немагчымасць з'яўляцца ў «такім выглядзе» ў іншыя гадзіны дня. Гэта рабіла асабліва дарагой гэтую прывілею ў дадзены час. Яны самі пільна глядзелі, каб не трапіць у «такім выглядзе» на вочы каму-небудзь з вышэйшага турэмнага начальства і не падвесці старога Міхеевіча, бо добра разумелі, што падобнае разявацтва не мае «толку», ні «высакароднасці». Нават вар'ятам імпанаваў уплыў Міхеевічавай філасофіі. Калі рулады вар'ята-яўрэя, паглыбленага ў нейкую музычную манію, дасягалі надзвычайнай напружанасці і экспрэсіі, калі, здавалася, з яго горла хутка зусім не зможа вырвацца ніякага гуку, а вушы слухачоў рызыкавалі згубіць элементарную здольнасць успрымаць іх, Міхеевіч спакойна злазіў з акна, падыходзіў да яўрэевых дзвярэй і, бразнуўшы звязкай ключоў, гаварыў роўным, спакойным голасам:

— Гэй, ты, свіное вуха! З-за якой прычыны раскрычаўся?

Пытанне гучала дзелавіта, быццам той, хто пытаў, дапускаў магчымасць існавання нейкай «прычыны», і нават назва «свіное вуха» ўяўлялася бяскрыўдным уласным

імем. Яўрэй змякчаў экспрэсію, паніжаў тон, і наступныя яго рулады выказвалі відавочную гатоўнасць да кампрамісу.

— Нарукаўнікі хочаш? — пытаўся Міхеевіч гэтак жа спакойна, і зноў у пытанні дапускалася магчымасць з боку яўрэя такога незвычайнага жадання.

— Пакрычы яшчэ,— што ж, я і прынясу нарукаўнікі табе... Гэта, брат, можна ў любы час...— пагаджаўся Міхеевіч, і рулады яўрэя апускаліся да звычайнага дыяпазону.

— Навошта зноў шкло зжор, га? Хіба паложана табе казённае шкло трэскаць? Вось бачыш, учора ўставілі, а ты зноў зжор, свіное вуха! — гаварыў Міхеевіч, выкалупваючы з дзвярэй рэшткі шкла, якое яўрэй, сапраўды, меў звычку разбіваць і грызці зубамі.

Суняўшы яўрэя, Міхеевіч зноў накіроўваўся да ўлюбёнага месца на акне, і спіна яго неўзабаве прыліпала да выцертай тлустай плямы вушака, а нос і вусы займалі звычайнае становішча. Яўрэй вёў далей свае рулады, праўда, вяртаўся да нотаў, якія былі больш уласцівыя чалавечаму голасу, ці пачынаў нешта таямніча выстукваць на сцяне, нібы паведамляючы камусьці сэнс толькі што пачутых слоў.

Другі вар'ят, асцяк Цімошка, які быў у першай камеры ля ўвахода ў калідор падследчых, карыстаўся пэўнай прыхільнасцю Міхеевіча. Аднойчы, калі я праходзіў па калідоры, Міхеевіч з яўным задавальненнем паказаў на Цімошкаву камеру:

— Цімошка тут, Цімафей-асцяк... Набожны... Усялякія малітвы ведае. Відаць, і цяпер моліцца...

Я зазірнуў у акенца. Даўгая вузкая камера была яшчэ больш змрочная, чым наша, таму што вуглавая сцяна суседняга будынка закрывала доступ святла. Спачатку я нікога не мог разгледзець сярод гэтых цёмных сцен, але неўзабаве ўбачыў у кутку, пад самым акном, постаць на каленях. Цімошка мерна пагойдваўся, стоячы на каленях перад нейкімі балванчыкамі, што цьмяна чарнеліся ў кутку. На акне ляжала нешта, падобнае на шапку. Мэблі, як і ў іншых «адзіночках», не было, толькі побач з балванчыкамі стаяла «парашка». Асцяк маліўся роўным своеасаблівым дзікім голасам, топам вопытнага чытальніка. Часам ён вымаўляў цэлыя даўгія фразы на нейкай незразумелай, відаць асцяцкай, мове, а часам, не мяняючы ма-

літоўнай інтанацыі, брыдка лаяўся, быццам і гэта было часткай яго культу.

— Трох чалавек задушыў рукамі,— адрэкамендаваў мне яго Міхеевіч.— З сябе нявідны, а сіла ў ём вя-лі-і-кая!

— А што гэта ў кутку ў яго расстаўлена? — запытаў я.

— Ідалы гэта... багі... Я-як жа! Сам робіць! Колькі разоў адбіралі, зараз жа зноў зробіць.

— Чым жа?

— На выдумкі лоўкі, гора з ім! Нож з аконнай бляхі ў яго, аб камень наточаны. А шапку бачылі... на акне ў яго ляжыць? Таксама сам пашыў. Акно ў яго разбітае, чорт яму кошку дзікую і прышлі. Ён яе злавіў, злупіў скуру зубамі,— вось і шапка! Іголка таксама ў яго ёсць, ніткі з сенніка выцягвае... Але затое набожны: малітвы лепей за якога папа ведае. Багі ў яго свае, а малітвы нашы... Моліцца, ага... І паслухмяны таксама... Цімошка, праспявай песеньку!

Цімошка перарваў малітву, узяў у рукі палку і павярнуўся да Міхеевіча.

— З барабанам? — запытаў ён.

У яго дзікім голасе гучала нейкая гумарыстычная нотка. Пераход ад малітвы да жарту даваўся яму, відаць, няцяжка.

— Няўжо ж без барабана, дзівак! — адказаў Міхеевіч.

Цімошка заспяваў бясконцую песню, пастукваючы ў такт палкай. У гэтай песні, з даволі хуткім тэмпам, чулася штосьці своеасаблівае, паныла-дзікае. Мы з таварышам потым стараліся ўспомніць гэты няхітры матыў, але ён не даваўся нашай памяці.

— Без канца ў яго песня гэта,— заўважыў Міхеевіч.— Цяпер будзе спяваць, пакуль не скажу: досыць! Раз гэтак я забыўся спыніць яго,— ён і спявае сабе. Праверка прыйшла, наглядчык і пытае: «Ты што робіш?» — «Песню, кажа, Міхеевіч загадаў спяваць». Праўда, паслухмяны ён!.. А тро-ох чалавек задушыў рукамі. Ногі яму ў вар'яцкім доме адбілі,— хадзіць не можа. Пачынае пакрысе ўставаць, але дрэнна. Відаць, будзь здароў адмалацілі!

— Няўжо ў бальніцы ў вас ногі адбіваюць? Гэта ж...

— Яно гэта не так каб добра, што і казаць. Зноў жа і дарэмна: паслухмяны ён, асцяк гэты. Яму толкам скажы,— ён слухае. Толькі ў вар'яцкім доме гэта мігам: ім што, ім нядоўга, і зусім уходуюць. Гэтаму стукальшчыку скора тое ж будзе,— нейк недружалюбна матнуў Міхеевіч галавой у бок Яшкавых дзвярэй.

2 Зак. 3820

У яго голасе зніклі мяккія, добразычлівыя ноты, з якімі ён звяртаўся да паслухмянага Цімошкі, што душыў людзей рукамі і здзіраў скуру з жывых кошак. Відаць, у Міхеевічавых вачах Яшка быў горшы за асцяка.

Наогул, гэты дзіўны суб'ект быў на нейкім асаблівым, выключным становішчы, і ён цікавіў мяне ўсё больш і больш. У яго грукаце я, нарэшце, пачаў заўважаць нейкую сістэму. Так, аднойчы, калі ён раптам забарабаніў надта моцна, я ўбачыў, што Міхеевіч пачаў неспакойна азірацца, быццам чакаў чыйго-небудзь прыходу. Потым стары дзелавіта звярнуўся да Якава:

— Што ты? Чаго? Нікога ж няма.

Яшка адразу ж сціх. Відаць, ён не проста стукаў у пустату, а адрасаваў гэтыя аглушальныя гукі нечаму слыху. Неўзабаве я пераканаўся, што стукам гэтым ён салютаваў рознаму начальству, пачынаючы са «старэйшага наглядчыка». Чым вышэйшае было начальства, тым, проста кажучы, мацнейшыя былі салюты. Ноччу яны чуліся значна цішэй, быццам Яшка стукаў спрасонак. Прачнецца ён, думалася мне, стукне разы тры-чатыры і зноў, выканаўшы свой абавязак, ляжа спаць. Толькі аднойчы сярод начной цішы Яшкавы ўдары разляглiся, нібы гром кананады: наступнай раніцай мы даведаліся, што ноччу «на малым версе» кержакі ўчынілі немалую бойку,— значыць, з'яўлялася вышэйшае турэмнае начальства.

Удары гэтыя каштавалі Яшку дорага. «Ногі зусім у яго апухлі,— гаварыў мне Міхеевіч,— а ўсё ж не ўгамоніцца».

На трэці дзень нашага зняволення мы запатрабавалі ў начальства, каб нас выпускалі гуляць, і нас загадана было пускаць «пасля праверкі», калі астатнія вязні замыкаюцца ў камеры нанач. Вось гэты час я і вырашыў скарыстаць, каб бліжэй пазнаёміцца з Яшкам.

## II

Званок. «Станавіся на праверку!»

У падследчым аддзяленні ўсё сціхла. Недзе далёка, у трэцім ці чацвёртым калідоры, бразнулі дзверы, пачуўся грукат, быццам перакаты далёкай паводкі. «Праверка» натоўпам увальвалася ў наша аддзяленне. Яшка ўзяўся за сваю справу.

Калі «праверка» абышла нашы камеры і ўзнялася на «малы верх», Міхеевіч расчыніў нашы дзверы. Калідорны арыштант падследчага аддзялення, Меркурый, які выкон-

ваў абавязкі «парашачніка», прыбіраў камеры і бегаў на паслугах у «прывілеяваных» арыштантаў, з'явіўся ў нашу камеру з самаварам. Пакуль «праверка» не пайшла зусім, Міхеевіч прасіў нас для «парадку» не выходзіць у калідор.

Вось «праверка» спускаецца па лесвіцы. Нашы дзверы не зачыненыя, і нам добра чутны не толькі Яшкавы ўдары, але і яго воклічы.

— Беззаконнікі! — крычаў Яшка, калі «праверка» праходзіла паўз яго дзверы.— За што трымаеце, за што мардуеце мяне? Адказвайце, слугі антыхрыставы!

Я ўспомніў надпіс над Яшкавымі дзвярыма. «Няўжо,— мільганула ў мяне ў галаве,— гэта непаразуменне? Няўжо гэты чалавек, запёрты, наглуха забіты ў гэтую жудасную нару, у гэтую магілу, ніякі не вар'ят і ўсведамляе ўвесь жах свайго становішча?..»

— За што гэта Яшку трымаюць у адзіночцы ды яшчэ так строга? — запытаўся я ў Меркурыя.

— Чалавека забіў, катаржнік беглы,— умяшаўся Міхеевіч тонам перакананага чалавека.

— Не-е,— працягнуў Меркурый,— што ты, Міхеевіч! Чаго абы-што гаварыць! Невядома гэта,— звярнуўся ён да мяне.— Звання свайго, прозвішча, напрыклад, ён не адкрывае. Гавораць, што за непрызнанне ўлад быў сасланы. Уцёк, ці што, гэтага дакладна не магу ведаць...

— Над яго дзвярыма напісана, што ён вар'ят?

— Прадстаўляецца,— сказаў Міхеевіч, па-свойму, коратка і сцвярджальна.

— Не-е... зноў жа і гэта!.. хто яго ведае! Можа, і не вар'ят,— сказаў зноў Меркурый неяк мудрона.— Трымаюць яго ў адзіночцы за непрызнанне ўлад, за грубасць. Паліцмесцер ці хто іншы прыйдзе, хоць тут сам губернатар прыходзь,— ён і яму грубасць скажа. Усё сваё: «Беззаконнікі ды слугі антыхрыставы!» Вось праз гэта самае... А то раней ён хадзіў па ўсёй нават турме без перашкод...

— А чаго ён стукае?

— І зноў жа, як сказаць... Уласна для выкрыцця!..

Меркурый пайшоў. Мы заварылі чай і выйшлі «на прагулку» ў калідор. Далёка, недзе ў трэцім калідоры, чуліся аддаленыя крокі «праверкі». Ля Яшкавага акенца відаць былі вусы, частка барады, канец носа. Яшка стаяў нерухома і быццам нечага чакаў.

Раптам дзверы зноў затрэсліся ад моцных удараў.

— Навошта ты гэта, Яшка, стукаеш? Хто цябе чуе? Нікога ж няма! — сказаў я.

— Вунь! — адказваў Яшка сур'ёзна, махнуўшы галавой у напрамку да калідорнага акна, праз якое відаць быў процілеглы фасад чатырохвугольнага будынка і ў ім скразны прасвет высокіх дзвярэй, што вялі на другі двор.

У гэтым прасвеце маячыла ў паўзмроку постаць апошняга салдата «праверкі». Постаць неўзабаве знікла. Яшка палічыў магчымым спыніць грукат і павярнуўся да мяне.

Ён нагнуўся, каб акінуць мяне ўважлівым позіркам са свайго акенца. Мне ўсё не ўдавалася ўбачыць яго твар цалкам. Цяпер на мяне глядзелі шэрыя выразныя вочы, трошкі мутныя, як у вельмі стомленага чалавека. Лоб быў высокі і часам збіраўся ў рэзкія — ці то гнеўныя, ці то журботныя — маршчыны. Яшка быў высокага росту і вельмі моцнага складу. Гадоў, відаць, яму было пад пяцьдзесят.

— Што будзеш за чалавек? — спытаў ён.— Куды цябе гоняць?

Я назваўся і паведаміў, куды мяне гоняць.

— А цябе як завуць? — запытаўся я.

— Быў Якаў... Якавам звалі.

— А па бацьку як? Родам адкуль?

Якаў зірнуў на мяне з нейкай падазронай увагай і, памаўчаўшы, адказаў коратка:

— Забыў [1].

Патроху мы разгаварыліся.

Арыштант, якога трымалі на асаблівых правах, у «вольным адзенні» і г. д., я ўяўляў для Яшкі з'яву не зусім звычайную. Перада мной жа быў звычайны вязень, які гаварыў стрымана, роўна, будзённа.

— Неспакойна табе,— стукаю я гэта. Нічога, прывыкнеш,— гаварыў ён, пасміхаючыся.— Ноччу ж цішэй стукаю я, не моцна. На распіску сюды слуга антыхрыстаў з'яўляецца, дык гэта я яму пастукваю.

— Скажы мне, Якаў, чаму ты стукаеш? — запытаў я.

Якаў ускінуў на мяне свае вялікія вочы, і ў голасе яго, калі ён адказваў, пачулася нейкая «абрадавая» важнасць:

— Стаю за бога, за вялікага гасудара, за хрыстоў закон, за святое хрышчэнне, за ўсю бацькаўшчыну і за ўсіх людзей.

Я трохі здзівіўся, што Якаў, відаць, прыкмеціў.

— Выкрываю начальнікаў,— растлумачыў ён,— начальнікаў няправедных выкрываю. Стукаю.

---

[1] Пазней я даведаўся, што родам ён з Пермскай губерні *(заўв. У. Г. Караленкі)*.

— Якая ж ад гэтага карысць?
— Карысць? Ёсць карысць...
— Якая ж? У чым?
— Ёсць карысць,— паўтарыў ён упарта.— Ты вушамі слухай: стаю за бога, за вялікага гасудара...— і ён цалкам паўтарыў сваю формулу.

Я зразумеў цяпер: Якаў не шукаў ад свайго грукату рэальных, канкрэтных вынікаў для той справы, за якую так няўхільна «стаяў» сярод глухіх сцен і не менш глухіх да яго выкрыцця людзей; ён бачыў «карысць» ужо ў самім факце «стаяння» за бога і за вялікага гасудара, значыць, рабіў так «для душы».

— А за што цябе трымаюць? — запытаў я далей.

— За што? Без-законнікі! — загаварыў Яшка і ўзбуджана заварушыўся за сваімі дзвярыма.— За што трымаюць? Скажы вось: без усялякага злачынства... Няма майго злачынства... Няма майго злачынства ні ў чым. А калі б і было злачынства, дык хіба ім судзіць?.. Бог хай судзіць!

— Чалавека ты забіў,— сказаў Міхеевіч, які ўважліва слухаў нашу гаворку.— Навошта прыкідваешся?

— Няпраўда, няпраўда,— загаварыў Яшка нейкім пакутліва-ўзбуджаным голасам.— Бач, што выдумалі, беззаконнікі! Няпраўда, не вер ім, Валадзімер, не вер слугам антыхрыставым! Няма ніякага майго злачынства. Адрачыся, бач, ад бога, ад вялікага гасудара, тады адпусцім. Дзе ж адрачыся?.. Немагчыма мне. Сам ведаеш: хто ад бога, ад ісціннага права-закону адступіць — мёртвы будзе. Плоцццю ён жыве, а душы ў ім жывой няма...

У гэты час з цёмнага калідора, што пад прамым вуглом прымыкаў да нашага, паказалася маленькая постаць у шэрым паліто з меднымі гузікамі. Я пазнаў «старшага». Сівы турэмны пацук быццам выпаўзаў з нары за здабычай. Стары краўся, ціснучыся ўздоўж сцяны, каб Яшка не мог яго ўбачыць са сваёй каморкі. У руках у яго быў сшытак і аловак. Штовечар ён клаў гэты сшытак на калідорнае акно і ноччу абавязаны быў некалькі разоў напісаць у ім: «Быў а такой гадзіне». У гэтыя гадзіны і чулася ціхае Яшкава пастукванне.

— Адчыні «малы верх»,— шапнуў Міхеевічу «старшы», хуценька прашмыгнуўшы міма Яшкавых дзвярэй.

Міхеевіч пачаў ціха здымаць завалу з дзвярэй, якія вялі на лесвіцу з надпісам: «Уваход на малы верх». На гэтым «версе» знаходзілася спецыяльная калонія зладзеяў.

Пра яе так і гаварылі: «Сёння ў зладзейскай бойка была», «Зладзеі ноччу за картамі патаўкліся». Гэты «верх» нездарма насіў назву «малога». Справа ў тым, што турма была разлічана на колькасць жыхароў ледзь не напалову меншую, чым у ёй было на самай справе. Таму давялося пусціцца на хітрыкі, і губернская архітэктура абы-як прыляпіла да высокіх камер новую столь, якая значна панізіла іх і стала служыць падлогай для «малога верха». Частка высокіх акон, адсечаная гэтымі антрэсолямі, такім чынам апынулася на «малым версе» і павінна была даваць яму святло. Што і казаць, прызначэнне прызначэннем, а зладзейскі «малы верх» уяўляў сабой памяшканне, зусім невыноснае ў гігіенічных адносінах.

— Тут у нас яшчэ туды-сюды,— гаварыў мне Меркурый пра нашы памяшканні.— Тут і добраму, адукаванаму чалавеку пражыць мала-мала можна... А вось у зладзейскай — не дай божа! Смурод, цемра, вільгаць... адным словам — смерць!!.

Каб неяк кампенсаваць адсутнасць паветра і святла, турэмнае начальства дало зладзеям такую-сякую палёгку. Іх, напрыклад, не замыкалі ў камеры і ноччу, бо нават пры сібірскіх поглядах на правілы гігіены ў зладзеяў было немагчыма ставіць на ноч смярдзючыя «парашкі». Такім чынам, пачаўшы задыхацца ў адной камеры, жыхар зладзейскага «малога верха» мог для разнастайнасці адправіцца задыхацца ў другую. Як бы там ні было, за пэўныя невыгоды жылля «малы верх» узнагароджваўся шырокім развіццём супольнасці. Ноччу адтуль чуўся гоман, часам даносіліся адчайныя крыкі. Тады прыходзіла начальства, часам нават ваенны канвой, і «зладзеяў» накрывалі за карцяжом ці п'янствам, як вераб'ёў, што счапіліся ў бойцы — іх хапчукі бяруць рукамі.

Значыць, Міхеевіч пачаў ціха здымаць завалу, і «старцы», распісаўшыся ў сшытку, зноў быў шмаргануў міма Яшкавых дзвярэй, накіроўваючыся на лесвіцу. «Па гарэлку...— шапнуў мне Міхеевіч.— Зладзеі ў карты рэжуцца, гарэлку п'юць... накрые».

Але ў гэты крытычны момант, калі стары турэмны драпежнік пачаў падымацца па лесвіцы, Яшка, які нейкім нюхам улавіў прысутнасць аднаго з «беззаконнікаў», раптам загрымеў сваімі дзвярыма. Стары ўздрыгнуў, быццам апараны. Я выразна ўявіў сабе, як балюча ўдарыла па яго напружаных нервах гэтае нечаканае ўмяшанне. Ён падскочыў на месцы, нібы трапіў у пастку, закруціўся, па-

спрабаваў быў кінуцца наверх, але, змікіціўшы, што справа не выгарэла і зладзеі паспелі ўсё прыхаваць, вярнуўся.

— Зачыні! — зняможана звярнуўся ён да Міхеевіча.— О Яшка, Яшка! — прашыпеў ён, звяртаючыся да дзвярэй.— Здаецца, калі б мог, вось так бы цябе расцёр, праклятага, вось так!..

Ён сціснуў свае кулачкі і пачаў церці іх адзін аб адзін, нібы ўяўляючы, што Яшка знаходзіцца між імі і адчувае на сабе працэс расцірання.

Яшка паказаўся ля сваіх дзвярэй, відаць, задаволены, што ўдар, накіраваны ў імя госпада бога наўдачу, трапіў акурат у цэль.

— Не люба табе, беззаконнік? — грымеў ён наўздагон.— Ці доўга трымаць мяне будзеце, слугі антыхрыставы?..

— Па-с-с-той, пач-чак-кай! — шыпеў «беззаконнік», бо атрымаў па самым балючым месцы і касавурыўся на нас, быццам між нашай прысутнасцю і неабходнасцю для Яшкі «пачакаць» была нейкая незразумелая сувязь.

Сэнс гэтага «пачакай» быў ясны: Яшка быў ва ўладзе гэтага старога турэмнага пацука, адзін, без саюзнікаў, і, тым не менш, ён страшэнна вымучыў таго, ад каго залежаў. А ён яго і вымучыў. Для мяне была відавочнай гэтая дзіўная сувязь, якая існавала між запёртым у адзіночцы Яшкам і «беззаконнікамі», што трымалі яго. Здавалася б, заперці Яшку — і справе канец: яго можна ігнараваць. Але сваім дзікім пратэстам ён паспеў раздражніць іх нервы, напяць да хваравітай успрымальнасці гэтага стуку, ён смяяўся над ворагамі, якія звязалі яго па руках і нагах. Пераможаны фізічна, ён не лічыў, што над ім возьмуць верх, пакуль «бог падтрымлівае яго» ў адзіна магчымай форме барацьбы: «Стукаю вось». У гэтым ён бачыў сваю місію і сваю перамогу.

— І заўсёды так: стукае марна... А ўжо ж, што без карысці, адну шкоду сабе робіць...— гаварыў Міхеевіч, замыкаючы ход на лесвіцу.— Што стукаць? Ну вось, заперлі яго, у карцэры столькі перабываў, нарукаўнікі надзявалі,— усё роўна не сядзіцца. Пачакай,— звярнуўся Міхеевіч да Яшкі,— у вар'яцкі дом завязуць, там нядоўга настукаеш! Там цябе застукаюць лепш, чым Цімошку.

— Хоць куды аддавай, усё адно! Мяне не напалохаеш,— адказваў Яшка.— Я за бога, за вялікага гасудара стаю,— за бога, слугі антыхрыставы, стаю! Чуеш? Думаеце: заперлі, дык ужо я вам падвержаны? Не-е! Стукаю

вось, слава табе, божа, царыца нябесная... падтрымлівае мяне бог! Не падвержаны я антыхрысту.

— Нарукаўнікі табе... звязаць цябе, стукальніка, ды і трымаць гэтак... Не стаў бы стукаць...

Асенні змрок, выпаўзаючы з куткоў старой турмы, усё болей і болей гусцеў у калідорах.

— На малітву пара,— сказаў мне Якаў.— Бывай!

Ён адышоў ад дзвярэй, і калі я зазірнуў у яго акенца, ён ужо «стаяў на малітве». Яго акно было занавешана нейкімі анучамі, праз якія цьмяна прарывалася сутонне асенняга вечара. Яшкава постаць выступала на гэтым прасвеце чорнай плямай. Ён клаў крыжы, прычым нейк сутаргава, рэзка падаваўся тулавам наперад і потым уставаў трохі цішэй. Яго як быццам «торгала».

Мы з таварышам праходжваліся па напаўцёмных калідорах. Падыходзячы да Цімошкавых дзвярэй, мы чулі мернае, нібы над нябожчыкам, мармытанне. З дзвярэй яўрэя разам з дзікімі стогнамі несла страшэнным смуродам. У суседняй з ім камеры катаржнік, змешчаны сюды зноў-такі з-за недахопу месца, рабіў сваю звычайную прагулку, звінеў кайданамі, а наверсе рагаталі і шумелі зладзеі. У астатніх камерах панавала цішыня блізкага сну. Двое бадзяг, якія сядзелі разам, нешта варылі ў печцы. Гэта, відаць, былі аматары «ачага». Цэлы дзень яны шукалі трэскі і ўсякае смецце, якое збіралі на турэмных дварах, на апошнія капейкі куплялі «крупкі», і ўвечары, калі ўсіх замыкалі, яны распальвалі ў сваёй печцы агонь. У гэтыя хвіліны я часам падыходзіў да іх дзвярэй і ціхенька зазіраў, так, каб не парушыць іх мірнай уцехі. Адзін, суровы бадзяга, гадоў за сорак, сядзеў насупраць печкі, абхапіўшы калені рукамі, уважліва сачыў за агнём і за маленькім гаршчочкам, у якім варыліся крупы. Другі падцягваў да печы свой сяннік і клаўся на яго тварам да агню, палажыўшы падбародак на рукі. Гэта быў амаль што хлапчук, з белым, турэмнага колеру тварам і вялікімі выразнымі вачыма. Ён, відаць, марыў. Агеньчык патрэскваў, вада ў гаршчочку шыпела і бурліла, а ў камеры панавала глыбокае маўчанне. Вязні быццам баяліся парушыць музыку імправізаванага ачага турэмнай каморкі... Потым, калі агеньчык патухаў і крупы былі звараны, яны даставалі гаршчок і пабрацку дзялілі мікраскапічную колькасць кашы, якая, відаць, мела для іх хутчэй нейкае сімвалічнае, так сказаць — сакраментальнае значэнне, чым значэнне пажыўнага матэрыялу.

У самай крайняй камеры, якая служыла нібы працягам калідора, жыльцы ўвесь час мяняліся.

Гэта камера не адрознівалася ад іншых нічым, акрамя свайго прызначэння, ды яшчэ хіба тым, што ў яе дзвярах не было акенца, якое, дарэчы, добра замянялі шырокія шчыліны. Зазірнуўшы ў адну з гэтых шчылін, я ўбачыў двух чалавек, якія ляжалі ў двух канцах камеры, без сеннікоў, проста на падлозе. Адзін захінуўся ў халат з галавой і, здавалася, спаў. Другі, заклаўшы рукі за галаву, змрочна глядзеў у прастору. Побач стаяла напаўзгарэлая свечка з лою.

— Анціпка! — раптам загаварыў апошні і, скалануўшыся, быццам ад цяжкай пакутлівай думкі, сеў на зямлі.

Другі не паварушыўся.

— Анціпка, ірад!.. Аддай, чуеш. Думаеш, і праўда ў мяне пяцьдзесят рублёў?.. Каб мне вочы вылезлі, апошнія былі...

Анціпка прыкідваўся, што спіць.

— У-у, подлая душа! — гаворыць арыштант і зняможана кладзецца на сваю цвёрдую пасцель; але раптам ён зноў устае са злосным тварам:

— Чуеш, Анціпка, не жартуй, падлюга! Заб'ю... Ні на што не пагляджу... Сам прападу, але прышыю цябе, каінава насенне.

Анціпка храпе соладка, працяжна, быццам ляжыць на мяккіх пухавіках, а не ў карцэры побач з раззлаваным суседам; але мне чамусьці здаецца, што ён робіць пад сваім халатам нейкія неабходныя падрыхтаванні.

— Кержакі гэта... пабіліся ноччу на малым версе,— тлумачыць мне Міхеевіч,— вось наглядчык у карцэр абодвух і адправіў. Анціп гэты грошы, ці што, у Хведара ўкраў. Два рублі грошай, кажуць, спёр.

— Як жа гэта іх разам замкнулі? Яны ж зноў паб'юцца?

— Не паб'юцца,— адказаў Міхеевіч, хітра ўсміхнуўшыся.— Памятаюць!.. Наш гэтага не церпіць! «Пасадзіць іх, кажа, разам, а паб'ецеся там, курыныя дзеці,— я ўжо вам тады кузькаву матку пакажу. Самі ведаеце...» Ведаюць... Проста сказаць: са свету зжыве. У та-акое месца запрэ... Гэта што? — толькі слава адна, што карцэрам завецца. Вунь зімою карцэр быў, то ўжо можна сказаць. Калі ў ім каторы суткі выседзіць, бывала, дык ужо проста ў бальніцу цягнуць. Дзень паскрыпіць, другі, а там і канцы.

Мне давялося ўбачыць гэты карцэр, ці, правільней, не

ўбачыць, а адчуць яго... Мне будзе вельмі цяжка апісаць тое, што я ўбачыў, і я папрашу толькі паверыць, што я, ва ўсякім выпадку, не перабольшваю.

На квадратным дворыку ў кустах стаяць чатыры мураваныя вежы, старыя, аброслыя мохам, усе нейкія слізкія, быццам запляваныя. Яны ўшчыльную прымыкаюць да ўнутраных кутоў чатырохвугольнага будынка, і ўваход у іх — з калідораў. Праходзячы па нашым калідоры, я ўбачыў дзверы, якія вялі, відаць, у адну з гэтых вежаў, і наш Меркурый сказаў мне, што гэта ход у былы карцэр. Дзверы былі незамкнёныя, і мы зайшлі.

У калідоры за намі было цёмна, у гэтым памяшканні — яшчэ цямней. Аднекуль зверху прабіваўся слабы прамень і расплываўся ў халоднай вільгаці карцэра. Зрабіўшы два крокі, я напароўся на нейкія абломкі. «Куб тут быў раней,— растлумачыў мне Меркурый,— вар гатавалі, вільгаць ад яго засталася,— ліха на яе! Тым больш, печы цяпер няма...» Атмасферу гэтай магілы складала нешта халоднае, застаялае, слізкае і агіднае, яно працінала наскрозь... Зімой яна, відаць, прамярзала наскрозь... «Вось яна — «кузькава матка!» — падумаў я.

Калі я, затуманены, выйшаў з карцэра, турэмны пацук, які выконваў абавязкі «старшага», зноў крадучыся, поўз па калідоры забіраць у наглядчыкаў на ноч ключы ў кантору, і зноў Яшка бясстрашна заяўляў яму, што ён усё яшчэ стаіць за бога і за вялікага гасудара...

«О, Яшка,— думаў я, ідучы на ноч у сваю камеру,— сапраўды бясстрашны ты чалавек, калі бачыў ужо «кузькаву матку» і не збаяўся!..»

III

— Чаму ў Яшкі ў камеры так цёмна і холадна? — запытаў я, заўважыўшы, што ў яго ў камеры цёмна, нібы ў магіле, а з дзвярэй дзьме, як з вуліцы.

— Рамы, паскуднік, выбівае,— адказаў Міхеевіч.— Неспакойны, чорт!.. А цёмна таму, што звонку акно анучамі завешана, ад холаду. Шыбы павыбівае, анучамі завесіць, усё як быццам цяплей... Ну, ці ж не дурань? «Для бога, для вялікага гасудара». Каму якая справа, што ў цябе шыбы няма...

І Міхеевіч зняважліва паціснуў плячыма.

З тым жа пытаннем я звярнуўся да Яшкі.

— Бач ты,— сур'ёзна адказаў ён,— беззаконнікі холадам замарыць мяне хочуць, таму і раму не ўстаўляюць.

— Навошта ж ты яе выбіў?

— Не выбіў я, не!.. Навошта выбіваць?.. Бачу: ідуць да мяне слугі антыхрыставы людна. Не з дабром ідуць — з нарукаўнікамі! Сам ведаеш: жывы чалавек смерці баіцца! Я на акно ад іх... за раму, ведаеш, і ўчапіўся. Пачалі цягнуць, яна і ўпала... Вось!.. Што зробіш. Саграшыў: нарукаўнікаў спалохаўся...

Некалькі слоў пра гэтыя нарукаўнікі.

Ідэя нарукаўнікаў — ідэя мэтазгодная і, калі хочаце, нават гуманная. Каб шалёны ці звар'яцелы суб'ект не мог зрабіць сваімі рукамі шкоду сабе ці іншым, рукі гэтыя павінны быць пазбаўлены свабоды дзеянняў, каб па магчымасці пазбегнуць калецтва. Для гэтай мэты надзяваюцца моцныя скураныя рукавы, якімі рукі прыцягваюцца да тулава. Каб утрымаць іх у гэтым становішчы, рукавы сцягваюцца двума моцнымі рамянямі, якія двума кольцамі ахопліваюць спіну і грудзі. У чыстым выглядзе ідэя нарукаўнікаў мае толькі характар перасцярогі, і калі Міхеевіч пагражае імі, як нейкай карай і помстай, то гэта яшчэ раз пацвярджае сумную ісціну, што грубая рэальнасць псуе ўсялякія ідэі. Хаця трэба прызнацца, што гэтаму псаванню ў значнай меры садзейнічае сама канструкцыя нарукаўнікаў, якая лёгка дапускае магчымасць многіх «перагібаў». Спражкі, напрыклад, якія сцягваюць рамяні, могуць быць зацягнуты ў меру, не больш таго, колькі патрабуе сама ідэя прыцягнуць рукі да рэбраў, але яны таксама могуць быць зацягнуты і мацней, так, што могуць не вытрываць і рэбры [1]. Калі ўзяць пад увагу, што рэдка — правільней ніколі — суб'ект не выказвае імкнення надзець іх добраахвотна і што, значыць, надзяваюць іх сілком, то зразумела, чаму Яшка параўноўваў працэс надзявання нарукаўнікаў са смерцю.

## IV

Арыштанцкае асяроддзе ставілася да Якава даволі раўнадушна. Хаця быў адзін жартаўнік, які прыходзіў ледзь не штодня практыкавацца на зняволеным у «цямніцы» (ця-

[1] Я ўжо не кажу пра наўмысныя пасяганні на саму канструкцыю нарукаўнікаў. Бываюць і такія. Так, напрыклад, часам да іх дадаюць яшчэ рэмень, які прыцягвае шыю ўніз. Гэты нічым не апраўданы дадатак абавязкова прыводзіць да калецтва. Я ведаў здаровага хлопца, у якога пасля пяцігадзіннага знаходжання ў нарукаўніках з гэтым дадаткам кроў лінула горлам і грудзі былі радыкальна сапсаваны *(заўв.У. Г. Караленкі)*.

пер ужываю гэты выраз у літаральным значэнні) сваё цяжкое скамароства.

Гэта быў адзін з тых жартаўнікоў, якіх багата і не ў астрозе. Суб'ект гэты ўзяў на сябе, відаць, нялёгкую спакусу весяліць публіку балбатнёй, у якой было вельмі мала гумару, яшчэ менш весялосці і зусім не было сэнсу. Проста нейкі фантан словаблудства, які падтрымліваўся намаганнямі, вартымі больш вясёлай справы; часам фантан гэты знікаў, потым зноў узлятаў, пакуль, нарэшце, сам жартаўнік не ўпадаў ад гэтага высільвання ў нейкую ярасную ашалеласць. Дарэчы,— добрая душа ў рускага чалавека,— слухачы знаходзілі магчымым узнагароджваць бескарыслівае «старанне» вялым смехам.

Яшка чамусьці лічыў патрэбным выказваць гэтаму скамароху прынцыповыя пярэчанні, граміў слуг антыхрыставых, спасылаўся на аўтарытэт «енерал-губернатара» (які, паводле Яшкавага пераканання, стаяў за яго, хоць чамусьці без асаблівага поспеху), і наогул выкладваўся ўвесь, хоць над гэтым смяяліся самым бессаромным чынам.

— Енерал-губернатар! — грымеў жартаўнік сіплым голасам сапраўднага прапойцы.— Бач, чым здзівіць захацеў!.. Мы і самі ў настранніцкіх пляменніках лічымся... Хо-хо-хо! Не чуў яшчэ, дык слухай, развесь вушы шырэй. А то з енерал-губернатарам выехаў. Ха-ха-ха!

Калі Якаў заўважаў, што пярэчанні «настранніцкага пляменніка» адна толькі лаянка, ён пляваў і адыходзіў далей ад граху. Але «настранніцкі пляменнік», дастаткова разагрэты на агні ўласнай дасціпнасці, пачынаў біць нагой у Яшкавы дзверы, перашкаджаючы Яшку «стаяць на малітве». Да гэтага звычайна далучаўся пранізлівы голас музыкі-яўрэя, які заўсёды спачувальна адлікаўся на моцныя гукі, і атрымоўваўся такі дзікі канцэрт, што Міхеевіч прачынаўся ля свайго вушака і супакойваў раз'юшанага «настранніцкага пляменніка». Той адыходзіў, між іншым, вельмі задаволены сабою. Гледачы таксама разыходзіліся, пазяхаючы і вяла заахвочваючы весельчака: «Малайчына Сакалоў! Па слова ў кішэню не палезе!»

Былі, аднак, пэўныя прыкметы, якія паказвалі, што ў астрозе сярод гэтых аднастайных шэрых халатаў, у брудных камерах, у Яшкі былі калі не саюзнікі, то людзі, якія разумелі подзвіг нястомнага стукання і спачувалі яго «выкрываниям». Аднойчы, праходзячы па калідоры, я ўбачыў ля Яшкавых дзвярэй высокага старога ў арыштанцкім шэрым халаце. У яго былі сівыя валасы і сур'ёзны твар, суро-

васць якога трохі змякчала нейкая асаблівая «спагада». Да Якава ён ставіўся з адкрытай павагай. Яны пра нешта размаўлялі ля акенца, ціха і сур'ёзна.

— Праўду табе кажу,— гаварыў Якаву стары.— Яфрэм выращаны, і Сідар таксама выращаны. Кажуць, у сваю губерню па этапу адпраўляць будуць... А твая, бач, справа...

Канца сказа я не пачуў. Калі я ішоў назад, Якаў, з якім я ўжо быў знаёмы даволі блізка, паказаў на мяне, і стары пакланіўся, але потым зноў прыпаў да акенца. Мне не ўдалося болей убачыць гэтага арыштанта. Відаць, ён заходзіў сюды з якога-небудзь іншага аддзялення.

Аднойчы я даў калідорнаму грошай, папрасіўшы купіць Якаву неабходнае. Той не зразумеў і перадаў грошы яму самому. Пасля гэтага Якаў спыніў мяне, калі я праходзіў па калідоры.

— Чуеш, Валадзімер,— сказаў ён,— дзякуй табе. Міласцінку ты хрыстову зрабіў, даў калідорнаму для мяне... Але бачыш: не бяру я іх. Раней, на волі, грашыў, браў у рукі, а цяпер не бяру! Вось яны на падлозе і валяюцца. А ты хлебную міласцінку зрабі! З цёплых рук хлебная міласцінка дабро робіць! Гэтыя ірады мяне на паўтарачнай порцыі дзержаць. Сам ведаеш, што ў ёй, у паўтарачнай гэтай порцыі... Проста сказаць, што голадам морацъ. Ну, ды не зусім яшчэ бог ад мяне адступіўся,— добрыя людзі падтрымліваюць: учора хтосьці два ярушнічкі [1] спусціў на вяровачцы зверху. Дзякуй, не пакідаюць праваслаўныя хрысціяне.

Як бы там ні было, хоць гэтыя факты сведчаць пра нейкае спачуванне асяроддзя, але ў самыя страшныя хвіліны, калі жывая Яшкава душа ўздрыгвала ад подыху блізкай смерці і прымушала яго сутаргава хапацца за рамы і за халодныя краты турэмнага акенца,— у гэтыя хвіліны душу гэтую, несумненна, павінна было прыгнятаць усведамленне страшэннай, жудаснай адзіноты...

Ці быў Яшка вар'ятам? Безумоўна, не. Праўда, сібірская псіхіятрыя вырашыла гэта пытанне ў станоўчым сэнсе, і Яшка неўзабаве павінен быў адчуць тыя ж спрошчаныя прыёмы лячэння, праз якія прайшоў асцяк Цімошка. Тым не менш, я не сумняваюся, што Яшка быў ніякі не вар'ят, а падзвіжнік.

Так, калі ў наш век ёсць яшчэ падзвіжнікі строга паслядоўныя, няўмольныя да сябе, якія ўсёй сутнасцю сваёй аддаліся ідэі (якая б яна ні была), якія не прымаюць «іда-

[1] Пірог; у жытнюю скарынку наліваюць рошчыну ячнай мукі і ставяць у печ *(заўв. У. Г. Караленкі)*.

ла ахвярнага мяса» і цалкам адвярнуліся ад грэшнага свету, то менавіта такі падзвіжнік сядзеў за моцнымі дзвярыма адной з адзіночак падследчага аддзялення.

— Ці ёсць у цябе сям'я? — запытаў я аднойчы ў Якава.

— Была... — адказаў ён сурова.— Была сям'я ў мяне, была гаспадарка, усё было...

— А цяпер ці жывыя дзеці твае?

— Бог ведае... Як бог беражэ... Не ведаю...

— Сумуеш, напэўна, па сваіх, па сямейніках? Можа, ліст табе напісаць?

— Не, не сумую,— матнуў ён галавой, нібы адбіваючыся ад цяжкіх думак.— Адно толькі хіба: як бы гэта ім устаяць, ад права-закону не адступіцца,— пра гэта журуся найбольш...

Нейкі час ён сурова маўчаў за сваімі дзвярыма.

— На волі душу ўратаваць,— прамовіў ён задуменна,— і няма нічога лепей... Ды цяжка. Асіліць, асіліць свет цябе. Не той час... Цяпер разам жыць, дык бацька з сынам, абняўшыся, загінеце, і маці з дачкою... А душу не ўратаваць. Ох, і тут цяжка, і аднаму... ах, нялёгка. Д'ябал блытае, спакушае... іразы бунтуюць. Холадам, голадам морацьт. «Адрачыся ад бога, ад вялікага гасудара...» Пакутуе душа — ох, цяжка пакутуе!.. Плоць нямоглая бяссільная да смерці.

Тым не менш, лягчэй было б нават Міхеевіча звярнуць з дарогі, на якой ён знайшоў сваю цвёрдую душэўную раўнавагу, чым прымусіць Яшку звярнуць з цярністай сцяжыны, на якой ён сустракаў адну горыч... Здавалася, яго не бярэ ні страх, ні хвала, ні пагроза, ні дабрата.

Неяк у цудоўны, але даволі халодны дзень позняй ужо сібірскай восені Яшка да звычайных сваіх абвінавачванняў у час праверкі дадаў новае:

— Чаму холадам мяне морыце, чаму раму мне, слугі антыхрыставы, не ўстаўляеце?

На другі дзень рама была ўстаўлена. Цяплей і святлей стала ў Яшкавым пакоі, але вечарам ён стукаў гэтак жа зацята. Гэта чорная няўдзячнасць уразіла «яго благароддзе» да глыбіні абуранай душы.

— Падлюга ты, Яшка, сапраўдны падлюга! — сказаў наглядчык з дакорам, спыніўшыся насупраць Яшкавых дзвярэй.— Я табе раму ўставіў, а ты зноў за ранейшае бярэшся.

— Беззаконнік ты! — закрычаў Яшка ў адказ.— Што ты мяне рамай абвязаць хочаш, ці што?.. Душу рамай ку-

піць?.. Не, брэшаш, не абвязаў ты мяне рамай сваёй, яшчэ я табе не падвержаны. Для сябе раму ты ўставіў, не для мяне. Я без рамы за бога стаяў і з рамай таксама пастаю...

І турэмныя дзверы загрымелі бадзёрым частым грукатам.

— Чуў? — гаварыў мне пасля гэтага Яшка з глыбокай пагардай.— Беззаконнік на якую хітрасць пайшоў? Раму, кажа, уставіў,— за раму адступіся ад бога, ад вялікага гасудара!.. Гэтак вось некаторыя ірады з начальнікаў таксама мяне спакушалі!.. Прывялі мяне з партыяй у Цюмень. Наглядчык купіў два абаранкі, падае міласціну дый кажа: «Вось табе хрыстова міласцінка, два баранкі,— толькі ты ўжо мяне слухайся. У мяне каб ціхі быў...» Чуў? — «Міласцінку я, маўляў, вазьму. Яна хрыстовым імем прымаецца... Хоць сам д'ябал дае, і ад таго вазьму... А табе, беззаконніку, я не падвержаны». Не-е! Мяне ліслівасцю не купіш. Слава табе госпадзі, падтрымлівае мяне царыца нябесная. Стукаю вось!..

Што ж гэта за «права-закон», за які Яшка прымаў свае пакуты?

Давялося мне неяк пісаць афіцыйную заяву, для гэтага мяне выклікалі ў турэмную кантору, пасадзілі за стол, далі паперу, пяро і пакінулі складаць маю заяву пад шум звычайных канторскіх заняткаў. У гэты час «прымалі новую партыю». Пісар выклікаў па спісу арыштантаў і апытваў іх званне, гады, судзімасць і гэтак далей. Наглядчык сядзеў побач і няўважліва пазіраў на тых, каго прымаў. Ва ўсім гэтым было мала цікавага для яго благароддзя; для мяне — тым больш, таму я складаў сваю заяву, не звяртаючы ўвагі на тое, што адбывалася.

Але вось манатонная гаворка стала больш ажыўленай. Я ўзняў вочы і ўбачыў наступную карціну.

Перад сталом стаяў чалавек невысокага росту ў шэрым арыштанцкім халаце. Выгляд ён меў самы звычайны. Здавалася, ён быў з дробных мяшчан, з тых, якія зліваюцца ў малых гарадах і прыгарадах з простым сялянскім людам. Выглядаў ён абыякавым, можна было нават сказаць — апатычным, калі б часам па твары яго не прабягала ледзь прыкметная саркастычная ўсмешка, а ў вачах не ўспыхваў агеньчык нейкай свядомай перавагі ці вышэйшасці. Але гэтыя праблiскі былі ледзь прыкметныя; яны прабягалі, на імгненне ажыўляючы нерухомы твар, на які зноў жа вярталася ўсё тая ж вяласць. У пярэднім пакоі тоўпіліся

арыштанты. Відаць, зацікаўленыя ходам апытання, яны высоўваліся адзін з-за аднаго, выцягваючы шыі, і сачылі за гаворкай таварыша з начальствам.

— Ты чаму не гаворыш? — аж кіпеў пісар.— Чаго маўчыш? Ты ж мешчанін з Камышына? Тут жа, у тваім стацейным спісу, напісана ўсё. Во!

Пісар торкнуў пальцам у паперу, якая ляжала перад ім, і паднёс яе пад нос арыштанту. Той зняважліва адвярнуўся, і агеньчык у яго вачах успыхнуў ярчэй.

— І добра, калі напісана,— сказаў ён спакойна.

— Але ты павінен адказваць. Веры якой?

— Ніякай.

Наглядчык рэзка павярнуўся да арыштанта і паглядзеў на яго доўгім уважлівым позіркам. Арыштант вытрымаў гэты позірк з той жа вялай абыякавасцю.

— Як ніякай? Богу верыш?

— Дзе ён, які бог?.. Ты яго бачыў, ці што...

— Як ты пасмеў так адказаць? — накінуўся наглядчык.— Я цябе, сукінага сына, згнаю!.. Мярзотнік ты!

Мешчанін з Камышына злёгку пацінуў плячыма.

— Што ж,— сказаў ён.— Было б за што гнаіць. Я праўду гавару... За тое і суджаны.

— Брэшаш, мярзотнік, напэўна за забойства суджаны. Добрая цаца!

Мешчанін з Камышына зрабіў быў рух, як быццам хацеў запярэчыць, але праз імгненне зноў пацінуў плячыма...

— Там мяркуйце, за што самі ведаеце.

— Якая твая родная мова? — працягвае пісар апытанне па рубрыках.

— Яшчэ чаго? — пытаецца зноў мешчанін зняважліва.— Якая яшчэ родная?.. Не ведаю я...

— Ах ты, падлюга! Не па-нямецку ж ты гаворыш. Па-руску быццам?

— Чуеце самі, як я гавару.

— Чуць-то чуем, але гэтага мала. Зразумей ты, анафема! Трэба ведаць: рускі ты ці чуваш, мардва нейкая? Зразумеў?

— Што разумець?.. Не ведаю,— рашуча адрэзаў мешчанін з Камышына.

Пісар пераканаўся, што з камышынскім мешчанінам нічога не паробіш, і камышынскага мешчаніна адпусцілі. Пры гэтым наглядчык шматзначна паабяцаў.

— Пачакай,— сказаў ён, праводзячы атэіста сваім ту-

рэмным позіркам.— Мы яшчэ з табой, дружа, пагамонім як-небудзь. Можа, разгаворышся.

Ад гэтых слоў мне стала жудасна. Арыштант толькі паціснуў плячыма!..

Калі я дапісаў сваю паперу і выйшаў з канторы, апытанне партыі яшчэ не было закончана, і ў пярэднім пакоі тоўпіліся арыштанты. Яны купкай абступілі камышынскага мешчаніна, які стаяў сярод іх з той жа мінай вялай раўнадушнасці, хоць, відаць, быў героем хвіліны.

— Як жа гэта, дзівак,— гаварыў нейкі рыжаваты філасаф, з тузам на спіне,— далібог, дзівак! Калі ты кажаш, напрыклад: «бога няма», дык што ж ёсць, па-твойму? Га?

— Нічога! — адрэзаў той коратка і ясна.

«Нічога!» Выходзіць, што камышынскі мешчанін, судзімы, асуджаны, закаваны, сасланы, рыхтаваўся прыняць невядомую меру пакут з-за... нічога! Здавалася б, да таго, што характарызуецца гэтым словам «нічога», можна адносіцца толькі абыякава. Між тым камышынскі мешчанін адносіцца да яго са страсцю, ён з'яўляецца падзвіжнікам чыстага адмаўлення, бясстрашна спавядуючы сваё «нічога» перад ворагамі гэтага вучэння.

Яшка напісаў на сваім сцягу іншую формулу: «За бога, за вялікага гасудара!..» Ён быў сектант, прыхільнік старога «права-закону», але калі я, вярнуўшыся з канторы, праходзіў паўз яго дзверы, міжвольная думка ўразіла мяне: як шмат агульнага паміж гэтымі двума падзвіжнікамі! Яшка парваў свае сувязі з радзімай, з сям'ёй, з роднай вёскай. Камышынскі мешчанін зрабіў тое ж самае і нават словам не хоча прызнаць гэтую сувязь, хоць яна ясна азначана на паперы. «Я вам не падвержаны»,— гаворыць Яшка. Камышынскі мешчанін, відаць, не прызнае ўлады, якой ён павінен падпарадкоўвацца. «Няма майго злачынства ні ў чым,— гаворыць Яшка,— а калі б і было злачынства, дык не вам судзіць — богу». «Судзіце, за што вадаеце,— гаворыць камышынскі мешчанін і нават ускосна не жадае прымаць удзел у працэсе гэтага суда. Але ў той час, як камышынскі мешчанін скептычна пытаецца: «Які бог і хто яго бачыў?» — Яшка няўхільна стукае ў дзверы ў імя гасподнее.

Хто ж гэта: непрымірымыя ворагі ці саюзнікі? Ці аднародныя гэта з'явы, ці з'явы розных парадкаў? Што тут больш істотнае: пункты падабенства ці пункты рознагалосся,— агульнае ў абодвух адмаўленне рэальных умоў ці

рэлігійна-сенктанцкія погляды, якія ёсць у Якава і якія адкінуў са свайго жыцця камышынскі мешчанін?

У Якава, відаць, быў станоўчы светапогляд, асновамі якога з'яўляліся «бог і вялікі гасудар». Але гэта была нейкая дзіўная сумесь міфалогіі і рэалізму! Бязбожнікі, якіх няма, накіраваныя міністрамі Фінлянцавымі (міністр фінансаў), якія таксама не існуюць, запаўняюць свет, ловяць душы, патрабуюць адрачэння «ад бога, ад вялікага гасудара». І побач — несумненна рэальныя, самыя рэальныя пакуты, несумненныя ганенні за справу, якую Яшка лічыць справядлівай, свядомая гатоўнасць загінуць і — страшна падумаць — поўная магчымасць такога зыходу... Яшка прадказвае гэта на падставе сваёй фантастычнай тэорыі, а Міхеевіч пацвярджае як несумненную пазітыўную ісціну. «Гэтаму стукальніку тое ж будзе, што і Цімошку, а то і горай...»

Для камышынскага мешчаніна «нічога» азначае адсутнасць усялякай мэты і сэнсу ў жыцці. На думку Якава, усё ў свеце хіліцца да зла. Было ўжо тры «змяненні»... Якія? — Яшка мае пра іх толькі цьмянае ўяўленне.

— Бачыш вось,— адказаў ён на маё пытанне пра гэтыя змяненні.— Чытаў я ў «Зборніку», ды, відаць, забыўся. Першае — Рым адпаў... Раз... Другое — Візантыя быццам... Два. Ну, трэцяе — маскоўскае. Ідзе чацвёртае — горшае за першыя. З шэсцьдзесят першага года пачалося.

— Якое ж?

— Якое? Ты цяперака як пішашся? — нечакана запытаў у мяне Якаў.

Я не ведаў, як я пішуся, але Якаў адказаў за мяне сам:

— Ты цяпер пішашся: былы дзяржаўны селянін. Разумей: былы! Значыць, быў — ды няма. Вось якое змяненне!.. Земскае змяненне пайшло, грамадзянскія ўлады пайшлі. Дзяржаўных адмянілі.

З шэсцьдзесят першага года свет рэзка раскалоўся на дзве часткі: адна — дзяржаўная, другая — грамадзянская, земская. Першую Яшка прызнаваў, другую адмаўляў цалкам, без усялякіх уступак. Над першай ён узвёў васьміканечны крыж і прыстасаваў яго да свайго ісціннага праваЗакону. Другую назваў царствам будучага антыхрыста.

— Што ж, Якаў: пад грамадзянскімі ўладамі цяжэй, ці што?

— Як не цяжэй! Жыць стала няможна. Раней гасудараВы падаткі плацілі, а зараз яшчэ і земскія падаткі накладваюць... на тых, хто ім, значыць, падвержаны.

— Ты падаткаў не плаціш? — запытаўся я, пачынаючы здагадвацца пра бліжэйшыя прычыны Яшкавага зняволення.

— Дзяржаўныя плацім. Спаўна вялікаму гасудару ўносім. А на земскія мы не абавязваліся. Вось беззаконнікі і мардуюць, пад сябе паднявольваюць. Крыжы з цэркваў паздымалі.

— Ну, крыжы на цэрквах ёсць.

— Не сапраўдныя... Сапраўдных няма... І хрышчэнне не сапраўднае — трыма пальцамі... Усё іх работа, іх знак.

— Пастой, Якаў! Як гэта ты разважаеш: і вялікі гасудар у тыя ж цэрквы ходзіць?

— Вялікі гасудар,— адказаў Яшка тонам, які не дапускаў сумнення,— у старым права-законе знаходзіцца... Ну, а цар польскі, князь фінляндскі... той, значыць, у новым...

Аказваецца, што будучыня належыць новым пачаткам. Уступаючы націску гэтых пачаткаў, вялікі гасудар выдаў цыркуляр, у якім напісана: «Быць па тым і быць па сім», што значыць: каго паспеюць слугі антыхрыставы заманіць,— заманьвай. Над тымі ён мае ўладу, на тых падаткі накладвай і душамі валодай. А хто не абавязаўся, хто ў сапраўдным «права-законе» стаіць моцна, таго ніхто не можа прыняволіць.

Новыя пачаткі бяруць сілу ўсё болей і болей. «Беззаконнікі» пайшлі супраць нейкага цыркуляра і сталі пад сваю руку прынявольваць гвалтам. Становіцца ўсё цяжэй... Пускаюць у ход усялякія сродкі.

— На трыццаць на шэсць губерняў пушчана трыццаць шэсць лісіц. Гонарам і падманам усё папаляць... народу загубяць — страх!..

Нідзе няма абароны. Дзяржаўны пачатак з васьміканечным крыжам марнее. Дзяржаўныя ўлады «стаяць дрэнна». Народ паддаецца, апоры не бачыць. «Пішуцца, праўда, цыркуляры, ды што ўжо...» Суды пайшлі грамадзянскія, ціхія...

Ціхія суды з шэсцьдзесят першага года, гэта значыць менавіта з таго часу, як у жыццё пачала ўрывацца публічнасць! Я не стрымаўся і паспрабаваў разбурыць Яшкаву фантасмагорыю, для чаго пачаў тлумачыць асновы новага публічнага судавядзення. Якаў слухаў даволі ўважліва.

— Пастой,— перабіў ён мяне нарэшце.— Думаеш, я не суджаны? Суджаны, як жа! Без усялякага злачынства судовай палатай суджаны. Не прызнаю я іхняга суда... Але, усё ж — судзілі. Вось галоўны суддзя і гаворыць мне: «Не

знойдзена тваёй віны ні ў чым. Расступіся, варта!.. Ад суда-следства апраўданы». Ну, думаю, зараз мяне на волю выпхнуць, зараз выпхнуць... А яны ціхім судом вунь куды выпхнулі!

Я зразумеў: суд публічна апраўдаў Якава, а адміністрацыя яго выслала. Яшка думае, што публічны прыгавор — хітрасць антыхрыстава, што акрамя гэтага прыгавору быў яшчэ другі, ціхі. «Бач, на якія хітрасці ідзе». І ўсё гэта, вядома, мае пэўную мэту: судовая палата, міністры, губернатары, турэмны наглядчык, Міхеевіч... усе яны ў змове, каб аддаць Яшкаву душу антыхрысту...

З прычыны ўсяго гэтага «жыць стала няможна». «Разам бацька з сынам, абняўшыся, загінеце». Грамадскія сувязі парушаны. Даводзіцца душу берагчы па адным, уразброд. Перамога «слугам антыхрыставым» ледзь не забяспечана. Кінуў Яшка сям'ю, кінуў гаспадарку, кінуў усё, чым поўнілася яго працоўнае жыццё земляроба, і цяпер ён адзін ва ўладзе «беззаконнікаў».

— І за што толькі мардуюць? — здзіўляецца Яшка.— Немагчыма мне ад ісцінага права-закону адступіць. Не будзе гэтага, не! Наплюю я ім пад рыла. Вось узяў — прыкалоў, толькі і што. А то... марадь дарма! — Ён быў упэўнены, што калі да гэтага часу яго яшчэ «не прыкалолі», то толькі таму, што жывая Яшкава душа прынясе антыхрысту большую радасць.

Але нават і гэта становішча здавалася Яшку лепшым за тое, што чакае «ўсіх, хто прыняў пячаць антыхрыставу». Новыя парадкі пагражаюць усеагульнай непазбежнай бядой.

— А далей то і горай будзе. Ліха чакаць трэба, дабра нам не бачыць. У «Зборніку» напісана... Зямля на выкуп пойдзе.

— Дык жа і цяпер зямля ідзе на выкуп,— заўважыў я.

— Во-во, і цяпер ідзе,— адказаў Яшка спакойна.— А там і яшчэ горш будзе. У каго дванаццаць тышчаў будзе, той і зямлёй валодаць будзе. А хто і тышчу, другую мае, і тыя без зямлі пагінеце. Праўду я табе кажу. Малады ты яшчэ, пажывеш — успомніш.

— Як жа, Якаў, ці можна думаць, што антыхрыст мацнейшы за бога? Няўжо боская праўда не пераможа крыўды?

Якаў засяродзіўся. Я заўважыў на яго твары сляды вялікай работы розуму. Ён знайшоў недзе там пэўны адказ.

— Ну,— сказаў ён,— не бываць гэтаму. Папрацуюць, ды і загінуць... Праўда!.. — паўтарыў ён праз хвіліну.— Папрацуюць ды і загінуць. А толькі не ўбачыць нам з табой праўды.

V

— Ты, Якаў, не прызнаеш грамадзянскага суда. А дзяржаўны прызнаеш? — дапытваўся я другім разам.

— Прызнаю дзяржаўны.

— Якія ж, па-твойму, дзяржаўныя ўлады? Напрыклад, генерал-губернатар?

— Енерал-губернатар — дзяржаўны... Ад вялікага гасудара. Правільны.

— Значыць, яго рашэнне правільнае?..

— Даўно загадаў адпусціць мяне. Ды вось, бачыш ты...

— Пастой. Ну, дапусцім, тваю справу пачаў бы судзіць генерал-губернатар.

— За што мяне судзіць? Няма за што.

— Пачакай! Ты, вось, кажаш: няма за што, а грамадзянскія ўлады гавораць: ёсць за што. Трэба ж некаму разважыць. Дзяржаўныя ўлады ты прызнаеш? Ну, вось, яны і судзяць, і вырашаюць тваю справу супраць цябе.

— Не могуць яны... Яны павінны правільна...

— Ды ты абдумай як след. Гавораць табе грамадзянскія ўлады: няхай, маўляў, генерал-губернатар разбярэ тваю справу. Ён жа мае права вырашаць, праўда?

— Ну? — сказаў Якаў, чакаючы, што з гэтага выйдзе.

— Ты яму павінен падпарадкавацца, як правільнай дзяржаўнай уладзе?..

— Нн-у-у? — працягнуў Якаў, асцярожна пазбягаючы адказу і яўна зацікаўлены магчымасцю нейкай новай камбінацыі.

— Ну вось, і выходзіць ад яго рашэнне: падпарадкуйся, Якаў, новым парадкам, нясі земскія павіннасці...

Яшка збянтэжыўся.

— Вунь яно! Бач ты... Вось... — шукаў ён адказу.

— Цяпер адказвай мне: падпарадкуешся ты ці не?

— То-яно [1]... Бач ты... Дзе ўжо... Не! — адрэзаў ён нарэшце.— Дзе ж скарыцца. Якое карэнне... Немагчыма мне...

---

[1] То-яно...— у гэтым слове праглядае ўраджэнец Пермскай ці Вяцкай губерні. Яно ўжываецца ў той мясцовасці кожны раз, калі чалавек не ведае, што сказаць, не знаходзіць адпаведных слоў *(заўв. У. Г. Караленкі)*.

І на твары яго з'явіўся выраз непахіснай суровай упартасці.

— Слухай, што я ў цябе спытаю, Валадзімер,— сказаў ён аднойчы.— Ты якога права-закону будзеш? Новага ж, відаць?

Каб праверыць Яшкаву цярпімасць, я рэзка адвергнуў сваю салідарнасць з Яшкавым права-законам і паставіў перад гэтым фанатыкам «старога права-закону» асновы зусім няблізкага яму вучэння. У словах, зразумелых Якаву, я развіў вядомы кодэкс практычнай маралі з асновамі братэрства і роўнасці. Трохі злоўжыўшы яго няведаннем дагматыкі і св. пісання, я абапіраўся на выраз: «па справах іх пазнаеце іх» і на тэксты з Іаана, зусім адкінуўшы абраднасць і ставячы на яе месца «справы», гэта значыць практычнае імкненне да ажыццяўлення формулы любові. Усё гэта я выдаў за сваю рэлігію.

Яшка слухаў напружана, але, на маё здзіўленне, зусім не заўважыў самага істотнага ў маёй веры.

— Што ж? — здзівіў ён мяне.— Гэта і па-нашаму: усё ад Адама.

Я паставіў пытанне больш ясна і абрынуўся са сваёй крытыкай на хрысціянне двума пальцамі.

— Чытаў ты ў пісанні: «Пакланіцеся ў духу і ісціне»?.. А што такое пальцы: дух ці плоць?

Тут Яшка зразумеў.

— Сказана таксама... — паволі загаварыў ён,— пакланіцеся душой і целам...

— А дзе гэта сказана? — запытаў я.

Якаў задумаўся і не адказаў.

— Што ж? Гэта таксама добра... — сказаў ён задуменна,— вядома, кожны па-свойму разумее.

І, уздыхнуўшы, дадаў з дзіўнаю мінаю:

— Кожны па-свойму з глузду з'язджае...

## VI

Праз два тыдні пасля нашага прыбыцця ў астрог, пад вечар,— але яшчэ задоўга да праверкі,— арыштантаў пачалі заганяць у камеры. Калідоры апусцелі, і ў падследчым аддзяленні ўсталявалася цяжкая, насцярожлівая цішыня, па якой мы прывыклі ўжо ўгадваць набліжэнне вышэйшага турэмнага начальства. Неўзабаве грукнулі дзверы далёкага калідора, пачуўся бразгат зброі, крокі шматлікага натоўпу.

Бліжэй і бліжэй. Натоўп валіў у наш калідор. Крокі аддаваліся гулка і сціхлі ля Яшкавых дзвярэй.

Ляснулі завалы, дзверы расчыніліся. Некалькі секунд усё было ціха, потым пачуўся голас старога — «памочніка»:

— Выходзь, Якаў... на волю.

— Брэшаш! — пачуўся ў адказ суровы голас Якава.— Брэшаш, ашукваеш, беззаконнік! Не тыя часы, каб на волю мяне...

Канвойныя кінуліся ў камеру: пачуўся шум барацьбы, нешта грузна павалілася на падлогу.

— Па душу! — ускрыкнуў Якаў прыглушаным голасам, нібы задыхаючыся.— Па душу прыйшлі, госпадзі!.. Смерць, смерць мая! — крычаў ён усё мацней і мацней. У яго голасе, то ледзь чутным, то рэзкім і моцным, прабіваліся глыбокая туга і страх смерці.

Сэрца маё адчайна калацілася... У сувязі з каментарыямі рэаліста Міхеевіча: «У іх гэта хутка!» мной пачала авалодваць Яшкава фантасмагорыя. Яшку вязалі, каб завезці ў вар'яцкі дом, дзе панавалі вядомыя спрошчаныя прыёмы лячэння. Якаў адбіваўся ў апошняй ступені роспачы.

— Валадзімер, Валадзімер! — крыкнуў ён, раптам успомніўшы, што побач, хоць за такімі ж дзвярыма, ёсць чалавек, які, магчыма, здольны зразумець яго становішча.

— Валадзімер, Валадзімер, Валадзімер!..

Фантасмагорыя авалодала мной цалкам. Я забарабаніў у свае дзверы.

— Што такое яшчэ? — пачуўся голас наглядчыкавага памочніка.— Хто гэта стукае?

— Палітычныя стукаюць, ваша благароддзе,— сказаў Міхеевіч.

— Спытай, што трэба?!. Пачакай, я сам спытаю.

Сівы стары ў мундзіры і папасе падышоў да нашых дзвярэй і ўтаропіўся ў мяне сваімі старымі, раўнадушнымі, падслепаватымі вачыма.

— Чаго вы хочаце?

Пытанне мяне азадачыла. Чаго я хацеў? Рэальнае жыццё пазірала на мяне тварам гэтага старога, і я не ведаў, што сказаць гэтай рэчаіснасці. Я сам быў запёрты ў адзіночцы, за трывалымі дзвярыма, і ці мне было заступацца за Яшку? На якой падставе?

— Што тут творыцца? — запытаў я.— Што вы робіце з Якавам?

— Гэта... дазвольце... Якая вам справа? Справа гэта не

ваша... Мы атрымалі прадпісанне ад начальства: адправіць нумар пяць у вар'яцкі дом. Ну, мы і адпраўляем... Ці ўсё гэта можа мець адносіны да вас?

## VII

У аддзяленні падследчых усталявалася цішыня. Звязанага Яшку пранеслі па калідорах, паклалі ў воз і павезлі з турмы.

Ці адступіць Якаў «ад бога, ад вялікага гасудара»? Ці адступіць сібірская псіхіятрыя ад спрошчаных прыёмаў лячэння? Адказ быў ясны... Цяжкія думкі тоўпіліся ў галаве: мяне прыгнятала мёртвая цішыня адзіночкі і калідораў.

Стары Міхеевіч ціха замкнуў дзверы Яшкавай камеры, пастаяў перад ёй, задуменна хітаючы галавой, і потым усеўся на сваё ўлюбёнае месца. Стары турэмны пацук бадзёра прайшоў па калідоры, кідаючы задаволеныя позіркі на апусцелую каморку, з якой ужо не чутно было гучнага Яшкавага грукату. Стары мармытаў нешта і паганенька ўсміхаўся.

Вечарам «праверка» абыходзіла камеры сваім заведзеным парадкам. Усё было ціха.

— Няма ўжо стукальніка,— сказаў яго благароддзе.— Завезлі сёння ў вар'яцкі дом.

Раптам па калідоры пранесліся гулкія ўдары... Яго благароддзе ўздрыгнуў, турэмны пацук упусціў аловак і сшытак, афіцэр неяк нервова павярнуўся ў той бок. Уся «праверка» быццам застыла.

— За што трымаеце мяне, за што мардуеце, беззаконнікі?! — пачуўся раптам казліны голас Цімошкі-асцяка, і агульнае напружанне разрадзілася смехам.

Гэты выбрык быў зусім нечаканы. Казліны галасок асцяка гэтак смешна пераймаў магутныя вокрыкі Якава, усё гэта разам уяўляла такую вартую жалю смешную пародыю, што яго благароддзе зарагатаў. За яго благароддзем зарагатала ўся «праверка». Смяяўся стары памочнік, міргаючы падслепаватымі вочкамі, рагатаў тоўсты афіцэр, трасучыся аграмадным целам, хіхікаў турэмны пацук, усмешка шавяліла даўгія Міхеевічавы вусы, смяяліся ў бараду салдаты, выцягнуўшыся ў струнку і трымаючы ружжы ля нагі...

Наступным днём рушылі ў дарогу і мы.

# Ат-Даван[1]

*З сібірскага жыцця*

## I

— Н-ну! Гэта і дар-рога! — сказаў мой спадарожнік, Міхайла Іванавіч Капыленкаў.— Самая праклятая пуцявіна, горш за якую і быць не можа... Праўду я кажу ці не?

На жаль, Міхайла Іванавіч гаварыў чыстую праўду. Мы ехалі ўніз па Лене. Па ўсёй шырыні яе ў розныя бакі тырчалі велізарныя льдзіны, па-мясцоваму «таросы», якія сярдзітая быстрая рака, ваюючы са страшным сібірскім марозам, шпурляла восенню адна на адну. Але мароз усётакі перамог. Рака застыла, і толькі гіганцкія таросы, цэлы хаос велізарных ільдзін, нагрувашчаных у беспарадку адна на адну, заціснутых унізе ці кінутых абы-як угору, застаўся маўклівым сведкам тытанічнай барацьбы, ды дзе-нідзе яшчэ зеўралі прадаўгаватыя палонкі, якія ніколі не замярзалі і ў якіх ірваліся і кіпелі быстрыя рачныя патокі. Над імі цяжка калыхаліся халодныя клубы пару, быццам у палонках быў сапраўдны вар.

А з абодвух бакоў над гэтым вычварным ледзяным хаосам стаялі маўклівыя велізарныя Ленскія горы. Чэзлыя дрэўцы чапляліся за схілы, шырока распускаючы карэнне, але камень не дае ім росту, і схілы ўсе густа ўсыпаны драўляным гніллём. Бліжэй вы ўбачыце трупы дрэў, зацярушаныя снегам, з вырваным з глебы сутаргава скручаным карэннем. Далей гэтыя падрабязнасці знікаюць, а ля вяршыні гары схіл укрыты ламаччам, нібы густой сеткай. Паваленыя дрэвы здаюцца незлічонымі іголкамі, нібы хвоі ў сасновым лесе, а між імі, яшчэ жывыя, шукаючы шчасця над трупамі продкаў, цягнуцца такія ж прамыя, такія ж тонкія і чэзлыя лістоўніцы. І толькі на роўнай, быццам зрэзанай, вяршыне лес адразу робіцца гусцейшы і цягнец-

[1] Ат-Даван — станцыя на Лене, каля трохсот вёрст вышэй Якуцка.

ца доўгай, цёмнай, жалобнай паласой над белым скатам берага.

І так на дзесяткі, на сотні вёрст!.. Ужо цэлы тыдзень наш вазок няшчаснай кропкай нырае між таросаў, гайдаючыся, нібы лодка ў бурным моры... Цэлы тыдзень я гляджу на кавалак бледнага неба між высокіх берагоў, на белыя схілы з жалобнай паласой, на «падзі» (цясніны), што таямніча выпаўзаюць аднекуль з тунгускіх пустыняў на прастору вялікай ракі, на халодныя туманы, што бясконца цягнуцца, звіваюцца, развіваюцца, тоўпяцца на сціснутых скаламі паваротах і бясшумна ўцягваюцца ў пашчы цяснін, нібы нейкая армія прывідаў распаўзаецца на зімовыя кватэры. Цішыня рве душу. І толькі часам на рацэ цяжкім стогнам вухне трэснуты лёд, зашыпіць, як ядро, аддасца рэхам, як гарматны стрэл, пранясецца некуды далёка назад, у пакінутыя намі пустэльныя завароты Лены, і доўга яшчэ звініць водгуллем і памірае, палохаючы ўяўленне разнастайнымі працяглымі аддаленымі стогнамі.

Мне было сумна. Мой спадарожнік нудзіўся і нерваваўся. Вазок наш часам кідала з боку на бок, і ўжо не раз ён перакульваўся зусім. Пры гэтым, на вялікае нездавальненне Міхайлы Іванавіча, здаралася ўсё так, што мы непазбежна валіліся на яго бок. Гэта было натуральна, але ўсё ж яму было непрыемна. Аднак, здарыся інакш, мне пагражала б сур'ёзная небяспека, тым больш што ў такіх выпадках ён са свайго боку нават не паварушыцца. Толькі крактане, бывала, і дзелавіта скажа ямшчыку:

— Падымай!

Ямшчык, як ні цяжка, падымае, і мы едзем далей.

Мне здавалася, што ўжо цэлы месяц аддзяляе мяне ад Якуцка, з якога мы выехалі ўсяго шэсць дзён назад, і ледзь не цэлае жыццё ад бліжэйшай мэты падарожжа, Іркуцка, да якога засталося больш за дзве тысячы вёрст.

Едзем мы ціха: спачатку нас трымалі дзікія марозныя завірухі, цяпер трымае Міхайла Іванавіч. Дні кароткія, але ночы светлыя, поўня пазірае праз марозную імглу, ды і коні не могуць збіцца з пратаранай «па таросу» вузкай дарогі. Аднак, зрабіўшы станкі два ці тры, мой спадарожнік, купчына друзлы і пухлы, пачынае грунтоўна распранацца перад камінком ці жалезнай печкай, без цырымоніі скідаючы з сябе лішняе і нават не зусім лішняе адзенне.

— Што вы, Міхайла Іванавіч! — спрабую я пратэставаць у такіх выпадках.— Яшчэ б станок можна сёння...

— Куды гэта нам спяшацца? — адказвае Міхайла Іванавіч.— Спаласнуць чайком вантробы ды на бакавую.

Есці, «паласкацца» чаем і спаць — усё гэта Міхайла Іванавіч мог рабіць у памерах сапраўды дзівосных і рабіў усё гэта старанна, з любоўю, нават з глыбокай пашанай.

Аднак, акрамя гэтага, у яго былі яшчэ і іншыя меркаванні.

— Народ тут,— гаварыў ён таямніча,— незвычайна на капейку, братка ты мой, квапны. Самы ліхі народ, таму што золатам разбэшчаны.

— Ну, золата далёка, ды і не чутно тут нічога такога.

— А вось як нас з табой трасянуць, дык і пачуеш, ды позна... Дзівак! — дадаваў ён, беручы ўсё да «сэрца».— Ці ты не ведаеш, што гэта за старонка, га? Гэта табе не Расея! Гара, ды цясніна, ды палонка, ды пустыня... Самае гіблае месца.

Наогул, у Міхайла Іванавіча «тутэйшая старонка» не абуджала нічога, акрамя шчырай грэблівасці і агіды. Усё тут, пачынаючы з панурай прыроды і людзей і канчаючы бяссло̆ўнымі стварэннямі, выклікала яго самую прыдзірлівую крытыку. Ён ведаў толькі адно: тут, калі «пафарціць», можна хутка і добра разжыцца («за дзень чалавекам зробішся»), і таму жыў тут ужо некалькі гадоў, пільна цікуючы свой «выпадак» і настойліва ідучы да вядомай «мяжы», пасля якой меў намер вярнуцца «ў сваю старонку», кудысьці пад Томск. У гэтых адносінах ён напамінаў чалавека, якому за вядомую ўзнагароду прапанавалі прабегчы голым па моцным марозе. Міхайла Іванавіч згадзіўся, і вось цяпер ён бяжыць, вухкаючы і пацёпваючыся, да сваёй мяжы. Толькі б дабегчы, толькі б схапіць, а там... гары ён гарам, увесь гэты гіблы край,— Міхайла Іванавіч не пашкадуе.

Пад гэты час, здаецца, ён ужо значна наблізіўся да мяжы і, магчыма, якраз таму страшэнна нерваваўся: а што, маўляў, калі якраз цяпер хто-небудзь схопленае ў яго і вырве? Міхайла Іванавіч, пра якога я чуў шмат гісторый, якія ў самым яркім святле рэкамендавалі яго прадпрымальнасць, што даходзіла да дзёрзкасці ў пачатку яго тутэйшай кар'еры,— цяпер дрыжаў, як баба, і мне з-за гэтага хочаш не хочаш даводзілася праводзіць з ім сумныя вечары і доўгія ночы на пустэльных станцыях пахмурнай і бязлюднай Лены.

## II

У адзін з такіх марозных вечароў я быў разбуджаны спалоханым воклічам Міхайлы Іванавіча. Аказалася, што мы абодва заснулі ў вазку, і калі прачнуліся, то ўбачылі сябе на лёдзе, пад камяністым берагам, у зусім бязлюднай мясцовасці. Званочкаў не было чутно, вазок стаяў нерухома, коні былі выпражаны, ямшчык знік, і Міхайла Іванавіч праціраў вочы спалохана і здзіўлена.

Неўзабаве, аднак, недаўменне наша рассеялася. Я прыгледзеўся да роўнага камяністага берага, які сцяной ішоў удалечыню і блішчаў пад промнямі поўнага месяца. Непадалёку сцежка знікала ў расколінах скал, а проста над галавой звесіўся высокі крыж якуцкай магілы. Хоць магіла на беразе, нават і зусім пустэльным, не рэдкасць у тым краі, таму што якут стараецца легчы на вечны спакой абавязкова на ўзвышшы, ля вады, у месцах, дзе і далеч і прастор,— але ўсё ж я пазнаў Ат-Даванскую станцыю, якую прыкмеціў яшчэ ў першую сваю паездку. Чырвоны сланец, з дзіўнымі, бы нейкія невядомыя пісьмёны, слаямі, роўны, як штучна складзены абрыў, кволыя лістоўніцы, якуцкая магіла з крыжам і зрубам, і, нарэшце, даўгая заслона белага дыму, якая ціха навісла з берага над ракой,— усё гэта ўспомнілася мне адразу. Тут няма ўезду, бераг уяўляе сабой вертыкальную сцяну, і таму зімой сані пакідаюць на рацэ, а коней прыводзяць вузкай сцежкай проста на лёд. Міхайла Іванавіч неўзабаве таксама супакоіўся, тым больш што на сцежцы ўжо мільгалі ліхтары.

Праз хвіліну мы былі наверсе, на станцыі.

У маленькім станцыйным пакойчыку было цёпла; ад напаленай жалезнай печкі патыхала гарачынёй. Дзве свечкі з лою, размяклыя ад цяпла, асвятлялі абстаноўку паўякуцкай пабудовы, якую прыстасавалі пад станцыю. На сценах генералы і прыгажуні чаргаваліся з аб'явамі паштовага ведамства і патэнтамі ў чорных, заседжаных мухамі рамах. Уся абстаноўка паказвала на тое, што станцыя некага чакала, і мы не мелі падстаў прыпісваць усё гэта сабе.

— Вось, братка ты мой, і цудоўна! — радасна гаварыў Міхайла Іванавіч, беручыся за торбы з усялякім дарожным скарбам.— Цеплыня — гэта любата. Тут ужо шабаш, начуем, і конча. Гэй, хто там?!. Пісар, ці што? Самаварчык нам бы ды вару для пельменяў...

— Ну не, Міхайла Іванавіч,— паспрабаваў я пярэчыць,— яшчэ рана. Даедзем да N., а там можна і начаваць.

— Коней, ваша міласць, няма,— пачуўся ззаду ў мяне дрыготкі, саладжавы і быццам напалоханы голас.

Я азірнуўся. У пакой заходзіў невялікі круглы чалавечак няпэўнага ўзросту, апрануты даволі арыгінальна. Куртаценькі сурдут, штаны ў клетку, пікейная камізэлька, кашуля з манжэтамі і нават старадаўняй плойкай [1], каляровы гальштук з залатымі мухамі на зялёным полі,— усё гэта даволі ўжо палінялае, зляжалае, апранутае быццам на свята, нагадвала пра нейкія даўнія часы. На нагах у чалавека былі цяжкія валёнкі, разам з якімі куртаценькі нямецкі гарнітур выглядаў надта камічна. Але маленькі чалавечак, відаць, не ўсведамляў гэтага кантрасту і выступаў франтавата, нібы прытанцоўваючы, дробнымі крокамі.

Твар незнаёмага, як і ўся яго постаць, быў нейкі шэранькі, таксама як быццам трохі падношаны і зліняны, але для сустрэчы неяк прыгладжаны і пачышчаны. Ва ўсмешцы, у шэрых вачах, у тоне голасу была прэтэнзія на нейкую культурнасць. Маленькі чалавечак як быццам хацеў паказаць, што ён бачыў лепшыя дні, ведае «абыходжанне» і пры іншых акалічнасцях мог бы стаяць з намі на роўнай назе. І разам з тым ён увесь неяк сціскаўся і саромеўся, быццам яго вельмі часта асаджвалі і ён баяўся гэтага ад нас.

— Як жа няма коней? — запярэчыў я, паглядзеўшы ў кнігу, якую паклалі, мабыць, нядаўна на відным месцы.— Дзве тройкі павінны быць на станцыі.

— Так точна,— пакорліва адказаў ён,— павінны знаходзіцца. Толькі, уласна... як бы вам, ваша міласць, растлумачыць...

Ён запнуўся.

— Пашкадуйце мяне, панове прыезджыя, не прасіце,— прамовіў ён раптам жаласлівым і прыніжана-ўмольным голасам.

— Але чаму ж гэта? — здзівіўся я.

— Гэтакія вы,— незадаволена ўклініўся Міхайла Іванавіч, які паспеў ужо зняць з сябе нават штаны.— Чаму ды чаму? Ну, куды вы спяшаецеся? Дзеці ў вас плачуць, ці што?.. Бачыш жа, братка ты мой, чалавек на прамілы бог просіць — значыць, прычына!

— Так точна! — узрадаваўся незнаёмы і звярнуўся да

---

[1] П л о й к а (плоіць) — рабіць на чым-небудзь (на крухмаленай тканіве) роўныя складкі.

Капыленкава з вінаватай усмешкай, абцягваючы крыссе свайго пінжака.— Так точна, як вы мелі ласку заўважыць: няўжо без прычыны буду ўчыняць панам падарожным затрымку? Ніколі!

Апошняе слова ён вымавіў неяк нават ганарліва, пры гэтым выпрастаўся і абцягнуў пінжак.

— Ну, добра,— сказаў я, здаючыся ахвотна, бо разумеў, што не змагу выцягнуць з гэтага цёплага пакоя на траскучы вячэрні мароз майго спадарожніка, які паспеў так хутка распрануцца.— Але ўсё ж растлумачце вашу прычыну, калі гэта не сакрэт...

Вінаватая ўсмешка асвяціла ўвесь твар маленькага чалавечка. Ён убачыў, што ўсё ўладзілася, і хацеў адказаць мне з адкрытай добразычлівасцю, але раптам насцярожыўся. Знадворку, з ракі, заглушаючы трэск жалезнай печкі, чуўся звон.

Дзверы расчыніліся, стараста, паўякут з твару, асцярожна зайшоў у пакой, старанна зачыніў дзверы і сказаў:

— Пошта келе, Васіль Спірыдонавіч...

— А, пошта! — супакоіўся стары.— Ну, бар-антах (ідзі) і каб умомант!.. Зараз і я за табой, даруйце мне, шаноўныя панове...

Ён выйшаў. Станцыя ўся ажыла. Бразгалі дзверы, рыпелі сходкі, ямшчыкі цягалі чамаданы і сумкі, мітуслівы звон троек, якіх адводзілі і перапрагалі, кожны раз залятаў у расчыненыя дзверы, ямшчыкі крычалі адзін на аднаго па-якуцку і лаяліся на чыстым рускім дыялекце, даказваючы гэтым сваё расійскае паходжанне...

## III

Праз некалькі хвілін у пакой не зайшоў, а ўскочыў нейкі чалавек невялікага росту ў вельмі паношаным казённым шынялі, у якуцкім малахаі і абвязаны шалікам. Ён ускочыў так паспешліва, быццам за ім хто гнаўся, і адразу ж накіраваўся да жалезнай печкі.

Скінуўшы шынель, ён застаўся ў нейкім лядашчым трусіным футры, падобным на жаночы каптан, калі ж здзеў і футра, то пад ім аказаўся стары, парваны пад пахамі мундзір паштовага ведамства.

Сапраўды, гэта быў паштальён, і ён так спяшаўся ўцячы ад марозу, які на доўгім перагоне, відаць, добра такі наздзекаваўся з яго. Бедны малады чалавек ірваў з сябе на-

стылае адзенне, нібы там сядзеў цэлы пчаліны рой, і, не зняўшы яшчэ малахая і шаліка, хуценька скінуў з ног валёнкі і паклаў падэшвамі да печкі. Здзець шалік і малахай было цяжэй. Якуты і карымы не носяць бароды і вусоў. Гэта ўвайшло ў эстэтычную звычку, хаця тлумачыцца чыста кліматычнымі ўмовамі: бедалага паштальён, відаць, даражыў гэтымі атрыбутамі, і цяпер рэдзенькая бародка і такія ж вусікі, якімі ён, магчыма, прываблівалў дзе-небудзь у Кірэнску якую-небудзь заезджую нявесту з сям'і заможнага перасяленца,— зрасліся ў адзін лядзяш, які зрабіў адным цэлым яго галаву з малахаем і шалікам. Спатрэбілася нямала часу, пакуль нарэшце прадстаўнік паштовага ведамства, які соваў галаву ледзь не ў самае полымя і крышыў лёд халоднымі пальцамі, з'явіўся перад намі ў сваім натуральным выглядзе: малады, але даволі ацёклы твар, неспакойныя бляклыя вочы, хапатлівая рухавасць ва ўсёй постаці, кароткі і вузкі мундзір, які лопнуў па швах, заечыя панчохі на нагах.

— Чэ! — скалануўся ён.— Тымны берць, мароз улахан (вельмі халодна, вялікі мароз)... Дазвольце чарачку, панове!

— Частуйся! — адказаў Капыленкаў дабрадушна.— Самы ты няшчасны чалавек.

Вочы маладога чалавека зноў неяк спалохана заміргалі. Халодная купцова спагада яшчэ ярчэй напомніла яму дарожны холад, і праглынутая чарка праляцела, як ільдзінка. Таму ён наліў другую і кульпнуў услед за першай. Толькі тады спалоханы выгляд пачаў сыходзіць з твару бедака хлапчыны.

— Праўда,— сказаў ён.— Сабачае жыццё... Ды і маразы ж стаяць, каб на іх...

— Вопратка ў цябе — ой-ёй паганая. Не па тутэйшых месцах.

— Вопратка нічога. А дарэчы... на восем рублёў не надта нафарсіш...

На гэтым велізарным тракце пошта прабягае адзін раз у тыдзень. Зімою трохтысячны прабег яна робіць за дзевятнаццаць дзён, улетку, вядома, даўжэй. Восенню і вясной, калі Лена яшчэ не стала або ўжо кранулася і крыгаход перашкаджае руху лодак, пошту вязуць у перакідных торбах верхам. Цэлы караван наўючаных коней ціснецца тады між ракой і каменнымі гарамі, то агінаючы, па жывот у вадзе, якую-небудзь скалу, то караскаючыся па камяністых сцежках, то мільгаючы на вяршынях ледзь не

пад воблакамі. Цяжка сабе ўявіць занятак, які патрабаваў бы большай трываласці, цвёрдасці духу, цярпення і здароўя... Тры тысячы вёрст! Ямшчыкам таксама цяжка, але ямшчыкі даўно вярнуліся дамоў і адпачываюць, чакаючы выпадковага праезджага, часам нават да наступнай пошты, а паштальён зноў трасецца ў сядле, ці гайдаецца на бурнай хвалі велізарнай ракі, ці карчанее, забіўшыся між скураных баулаў у санях. І гэта пры звычайных паштовых акладах...

Праўда, паштальён вынаходзіць і пабочныя сродкі. У Іркуцку ён запасаецца бочачкай таннай гарэлкі, якую прадае на станках пісарам і ямшчыкам, купіць свежыя календары, возьме на камісію пачак лубачных карцін. Усе мастацкія творы, што так шчодра ўпрыгожваюць сцены станкоў, абавязаны яму сваёй дастаўкай у гэтыя далёкія краіны. Ён павышае эстэтычны ўзровень паўякутаў-станочнікаў, вывешваючы на сценах гравіраваныя партрэты прыгажунь, якія недзе атрымалі прэмію, ён садзейнічае папулярнасці генералаў, ён жа развенчвае іх, замяняючы старых герояў навейшымі... Аднак гэта карысная работа мала аблягчае лёс бедалагі паштальёна, і калі ён у гэтыя дзікія маразы застаецца жывы ў сваёй халоднай апратцы, то прыпісвае гэта, галоўным і выключным чынам, гарэлцы, якой выпівае на кожнай станцыі вялізную колькасць без асаблівай шкоды, тым больш што дастаецца яна яму танна і прыносіць нават нейкі — праўда, нявінны пры гэтых умовах — даход...

Ад паштальёна ж, галоўным чынам, гэты трохтысячны тракт, з яго амаль адзінымі насельнікамі — станочнікамі, даведваецца навіны, што адбываюцца ў далёкім свеце.

Іменна такі падзвіжнік паштовага ведамства стаяў зараз ля жалезнай печкі, сагнуўшы ад холаду ногі, працягнуўшы рукі да полымя і кідаючы прагныя позіркі на нашы пляшкі.

— А гэта ў вас каньяк?.. Каньячку я яшчэ вазьму,— гаварыў ён з нясмелай фамільярнасцю, падбягаў да стала, наліваў, перакульваў і зноў бег да агню з выглядам напалоханага ўнутранымі дрыжыкамі чалавека.

— Чуеш, пошта, давай чайком пазабаўляемся,— прапанаваў Капыленкаў.

— Немагчыма, панове,— спяшаюся. Слухай, хлопец,— дружалюбна звярнуўся ён да пісара, які зайшоў у гэтую хвіліну,— асцерагайся! Едзе ж...

Стары ўздыхнуў.

— Што бог дасць! Чакаем даўно, хоць бы ўжо як-небудзь хутчэй...

— Цяпер хутка. Мне вось толькі як-небудзь змыцца, каб не напароцца. Ды дзе там, не ўцячы — дагоніць! Добра, калі на дарозе дзе-небудзь...

— Табе што?

— Лепей ад граху далей. А чуеш, хлопец, пра скаргі ж даведаўся...

— Ну?

— Глядзі!.. Кажуць, азвярэў, не дай божа!

— А можа, бог літасцівы. Мы не скардзіліся...

— Вы гэта пра каго? — спытаў Капыленкаў.

— Арабін, кур'ер... Цяпер з Верхаянска вяртаецца.

— Так, так, так! Вось чаму ў цябе і коней няма. Зразумеў! А раптам бы мы ў цябе коней апошніх і ўзялі...

— Ваша праўда... Памяркуйце самі: прыедуць яны сюды і раптам я ім аб'яўлю: коней няма! Што ж гэта... Тады ж ім тут начаваць...

Капыленкаў зарагатаў.

— Ну, ён цябе, братка, за ноч з'есць і з пінжаком.

Паштальён таксама засмяяўся, неяк парывіста закінуўшы галаву. Усміхнуўся і стары, але больш з ветлівасці. Вочы яго былі задуменныя і заклапочаныя.

— Бог ведае, бог ведае... Мінулы раз заступілася царыца нябесная... Скацінай усё-такі назваў.

— Зрабіў гонар?

— Так. Гэта што ж... Вядома, па ранейшым часе, будучы ў чыне калежскага сакратара, мог пакрыўдзіцца... Ну, між іншым, у цяперашнім нікчэмным становішчы абавязаны цярпець... Вы самаварчык мелі ласку загадаць? — спахапіўся ён раптам.— Ах, божа мой, што ж я... Зараз будзе гатова,— два самавары ў нас. Калі ў выпадку прыедзе, і яму пададзім... Зараз...

## IV

Праз некалькі хвілін не старая яшчэ і даволі прыгожая жанчына, убачыўшы якую паштальён зноў закінуў галаву і засмяяўся сваім сутаргавым смехам, а пісар стаў нейкі асабліва сур'ёзны, прынесла невялікі самаварчык і пачала расстаўляць посуд. Мы запрасілі на чай старога і паштальёна. Апошні адмовіўся і гэтак жа хутка, як раней здымаў з сябе, пачаў нацягваць сваю не зусім яшчэ сухую вопратку. Пісар таксама спрабаваў быў адмовіцца з пры-

стойнасці, але потым, на паўторнае запрашэнне, згадзіўся, вельмі задаволены.

— З вялікай прыемнасцю састаўлю кампанію,— сказаў ён і потым, зашпіліўшы пінжак на ўсе гузікі і ўзяўшыся рукой за спінку крэсла, пакланіўся і сказаў: — У такім выпадку лічу за гонар рэкамендавацца: Круглікаў, Васіль Спірыдонаў, былы калежскі сакратар... Прыемна пазнаёміцца...

— Значыць, служылі? — спытаў Капыленкаў.

— Так точна, па камісарыяцкай часці, па флоце.

Паштальён апрануўся, сунуў нам усім на развітанне руку, яшчэ раз сказаў: «А гэта спірт у вас? А я яшчэ спірту!» — каўтануў і паспешліва выбег на мароз. Я апрануўся і выйшаў за ім.

Трэба было падысці да абрыву ля магілы з нахіленым крыжам, каб унізе ўбачыць пошту.

Рака, загрувашчаная белымі таросамі, злёгку іскрылася пад срабрыстым і сумным святлом месяца, які стаяў над гарамі. З таго берага, аддаленага вярсты на чатыры, клаўся густы няпэўны цень, удалечыні цьмяна віднеліся берагавыя сопкі, укрытыя лесам, яны адыходзілі ўсё далей і далей, разам з плаўнымі паваротамі Лены... Было жудасна і сумна ад выгляду гэтай велізарнай ледзяной пустыні.

Пошта — тры тройкі — рушыла, званочкі неяк разам, няўлад і шумна, быццам падбадзёрваючы адзін аднаго, загаварылі пад маімі нагамі. Тры чорныя плямы, нібы фантастычныя шматсастаўныя жывёліны, варухнуліся па снезе, замільгалі між таросаў, рабіліся ўсё меншымі і меншымі. Іх даўно ўжо не было відаць, а ў марозным, нібы шкляным паветры ўсё стаяў такі ж чысты звон... Кожны званочак гаварыў па-свойму: адлегласць змяншала сілу, але не чысціню гуку. Потым усё раптоўна знікла, толькі таросы іскрыліся фантастычным хаосам, ды сопкі ціха спалі ў цяні, і нейкія невыразныя здані паўзлі над далёкімі берагамі.

Амаль усё насельніцтва станка праводзіла пошту... На бедным Ат-Даване, які прытуліўся пад каменнымі гарамі, гэты пралёт рэдкай пошты — сапраўдная падзея.

Але станок чакаў і знемагаў ад чакання яшчэ другой падзеі.

Калі пошта знікла і звон заціх, міма мяне прайшоў гурт ямшчыкоў, яны, размаўляючы па-якуцку, ціха падымаліся з ракі. Мне цяжка было разабраць гэту ціхую гаворку, аднак я зразумеў, што гавораць яны не пра таго,

хто паехаў, а пра некага, хто павінен прыехаць зверху. Пры гэтым імя «Арабын-таёна» разы са два даляцела да майго вуха.

Я застаўся яшчэ на беразе, захоплены сумнымі чарамі. Паветра было нерухомае, поўнае нейкай насцярожанай крыштальнай яснасці, яго не трывожыў ніводзін гук, але яно як быццам застыла ў палахлівым чаканні. Варта зноў трэснуць ільдзіне, і марозная ноч уся здрыганецца, загудзе, застогне. Сарвецца камень з-пад маёй нагі — і зноў надоўга напоўніць чуйную цішыню сухімі і рэзкімі адгалоскамі...

Мароз рабіўся больш моцным. Будынак станцыі, палову якога складала юрта і толькі палову рускі зруб, ззяў агнямі. З коміна над юртай цэлы венік іскраў паспешліва матляўся ў паветры, а белы густы дым спачатку ўздымаўся ўгору, потым адгінаўся ў бок ракі і цягнуўся далёка, да самай яе сярэдзіны... Устаўленыя ў вокны льдзіны, здавалася, гарэлі самі, пераліваючыся рознакаляровымі адценнямі полымя...

Я яшчэ раз агледзеў наваколле, напоўненае незразумелым сумам, і пайшоў у хату.

## V

У ямшчыцкай вялікі камінок, добра злеплены з гліны, зеўраў, нібы разяўленая вогненная пашча казачнай пачвары. Агонь з імклівай сілай ірваўся ў комін, быццам цэлая рака полымя струменіла ўгору. Нахіленыя сцены юрты то цесна саступаліся, азораныя барвовымі водбліскамі, то прападалі ў цемры; тады юрта нагадвала велізарную пячору з цёмным скляпеннем. Група вогненных постацей, нібы толькі што адлітых з яшчэ незастылага металу, паўкругам тулілася ля камінка. Пасярод, утаропіўшыся ў агонь задуменнымі вачыма і абапёршыся падбародкам на рукі, сядзеў малады станочнік з рэзкімі іншародніцкімі рысамі, прадстаўнік гэтага дзіўнага насельніцтва сярэдняй Лены, якое напалову аб'якуцела. З горла яго ліліся, мяшаючыся з шыпеннем і трэскам полымя, дзіўныя — то працяжныя, то істэрычна-сутаргавыя — гукі. Гэта была якуцкая песня-імправізацыя,— песня, у якой толькі звыклае вуха можа ўлавіць прыкметы своеасаблівай гармоніі. «Божа мой,— падумаў я мімаволі,— як толькі не выказваецца чалавечае пачуццё!..» Але наколькі прыгажосць усё-такі ў самім пачуцці, то ёсць свая доля прыгажосці і ў гэтым дзікім гар-

танным, сутаргавым выцці, якое падобна ці то па плач, ці то на шум ветру ў дзікай цясніне!.. Дастаткова было зірнуць на бронзавыя твары ат-даванскіх станочнікаў, каб пераканацца, што ў бруднай і непрыветнай юрце пануе незвычайнае душэўнае ажыўленне.

Малады станочнік спяваў, астатнія слухалі, зрэдку падахвочваючы спевака рэзкімі, міжвольнымі кароткімі воклічамі. У нас ёсць свае песні, запісаныя, пакладзеныя на ноты, у якіх больш складанае пачуццё выкрышталізавалася ў пастаянную форму. Дзікая тайга, камяністыя сцежкі над Ленай, пануры і сіратлівы Ат-Даван — маюць свае песні. Яны не запісаны, не выпрацаваныя, не гарманічныя і даволі грубыя, але затое кожная з іх нараджаецца па першым прызыве, адгукаецца, як Эолава арфа, сваёй незавершанай і неакругленай гармоніяй на кожны павеў горнага ветру, на кожны рух суровай прыроды, на кожнае трапятанне беднага на ўражанні жыцця... Спявак-станочнік спяваў пра тое, што мароз пабольшаў, што Лена страляе, што коні забіліся пад скалы, што ў камінку гарыць яркі агонь, што яны, чарговыя ямшчыкі, сабраліся ўдзесяцёх, што шасцёрка коней стаіць ля канавязі, што Ат-Даван чакае Арабын-таёна, што з поўначы, з боку вялікага горада, насоўваецца навальніца і Ат-Даван дрыжыць і трапеча...

Песенная якуцкая мова адрозніваецца ад паўсядзённай прыкладна гэтак жа, як наша славянская ад цяперашняй гутарковай. Песенная мова нарадзілася дзесьці далёка, у невядомых глыбінях Сярэдняй Азіі, адкуль вялікае змяшэнне народаў кінула мізэрны асколак нейкага племя на далёкі паўночны ўсход. На поўначы ён захаваў яркія вобразы і фарбы далёкага поўдня... Поўнач жа, палахлівае марознае паветра, у якім трэск ільдзіны вырастае ў гарматны стрэл, а падзенне маленькага каменьчыка грыміць, як абвал,— дала песні палахлівую схільнасць да страшэнных гіпербал, да гіганцкіх перабольшванняў. Вось чаму, трэба думаць, якуцкі Іванка, бедны сіраціна Эр-Сагатох у сваіх горкіх вандроўках натыкаецца раз-пораз на казачных волатаў, самы меншы з якіх мае лыткі ў абхват старой лістоўніцы, а вочы яго важаць па пяць фунтаў.

Я стаў у цяні, незаўважаны, і слухаў станочнікаву песню пра Арабын-таёна... Арабын, Арабын!.. Я недзе чуў гэта прозвішча. Пасля значнага намагання я адкінуў ад сябе казачную постаць, і з-за яе ў маёй памяці ўзнікла другая. У Іркуцку, у знаёмым доме, я некалькі разоў сустракаў — праўда, мімаходзь — казацкага харунжага з гэ-

тым прозвішчам. Чалавек гэты нічым не вылучаўся, быў маўклівы, трохі нават сарамлівы той асаблівай сарамлівасцю, якой памечаны хваравіта-самалюбівыя людзі. Тады я ледзь заўважыў яго, але потым чуў, што ён нечым звярнуў на сябе ўвагу тагачаснага генерал-губернатара і яго скарыстоўваюць для «асобных даручэнняў». Няўжо гэта ён? Няўжо гэта пра яго я чую цяпер усю дарогу — пра яго, чыё імя ледзь можна было адрозніць у іркуцкім натоўпе? Ён ужо трэці раз пралятае па Лене ў якасці кур'ера, і кожны раз пагалоскі пра яго доўга не сціхаюць на пустыннай рацэ. На станцыях ён паводзіў сябе як чалавек, на асабістыя намаганні якога ўскладзена ўсмірэнне бунтоўнага краю. Урываўся, як буран, бушаваў, наводзіў панічны жах, пагражаў пісталетам і... усюды забываўся плаціць кур'ерскія прагоны. Відаць, дзякуючы гэтым прыёмам ён выконваў даручэнні ў тэрмін, які здзіўляў звычайных людзей, і начальства адзначала яго яшчэ болей. «Кур'ер» стала мянушкай і амаль што пастаяннай прафесіяй Арабіна. Сціплы і сарамлівы ў Іркуцку, ён рабіўся зусім іншым, як толькі выязджаў з горада. Быць шчыра перакананым, што ўсялякая ўлада мацней за ўсялякі закон, і цэлымі тыднямі адчуваць сябе адзіным прадстаўніком улады на велізарных прасторах, не сустракаючы нідзе ні намёку на супраціўленне,— ад гэтага можа закружыцца галава і мацнейшая за галаву казацкага харунжага.

І яна сапраўды кружылася. У час апошняга праезду ён ужо скакаў праз рэдкія гарады (Кірэнск, Верхаленск і Алекму), стоячы ў павозцы і размахваючы над галавой чырвоным сцягам. У гэтым было штосьці фантастычнае: дзве тройкі імчалі, як птушкі, са смяротным жахам у вачах, ямшчык быў падобны на мерцвяка, што застыў на козлах з лейцамі ў руках; сядок стаяў, бліскаў вачыма і размахваў сцягам... Мясцовыя ўлады ківалі галовамі, людзі разбягаліся. У гэты праезд Арабін адзначыў свой шлях такой колькасцю загнаных коней, крыкаў і скаргаў, якія прарваліся, нарэшце, наверх, што паштовае начальства палічыла за неабходнае ўмяшацца. Забягаючы наперад, скажу толькі, што з-за Арабіна пасварыліся два ведамствы, што непасрэднае кур'ерава начальства вымушана было ўсё-такі адмовіцца ад яго паслуг, але, атрымаўшы выдатныя рэкамендацыі, ён перайшоў на службу яшчэ далей на ўсход і там, на Амуры, застрэліў, нарэшце, напавал станцыйнага наглядчыка. Тады пра Арабіна-таёна загаварылі нават у Расіі, і толькі тады даведаліся, што судзіць, па сут-

насці, няма каго, таму што славуты кур'ер быў ужо... зусім вар'ятам.

Такі працяг гісторыі пра грознага і няшчаснага Арабын-таёна, якога чакалі ў гэтую ноч на далёкім Ат-Даване. Вось пра каго рыпала і выла ў ямшчыцкай юрце сумная якуцкая песня.

## VI

У станцыйным пакоі Міхайла Іванавіч у адным споднім сядзеў за сталом. Круглікаў уладкаваўся насупраць у позе нашмат вальнейшай, чым раней. Па наіўным ажыўленні, якое ззяла ў прастадушна-драпежных вачах майго спадарожніка, я адразу ўбачыў, што яму ўдалося ўжо завязаць адну з тых размоў, да якіх ён быў вельмі ахвочы. Гэта былі размовы чыста біяграфічнага і часткова абдзіралавачнага характару: хто, дзе і якім чынам змог нажыць грошы. Усе падрабязнасці гэтых спажывецкіх драм мелі для яго нейкую асаблівую, прыцягальную спакусу. Круглікаў паведамляў гэтыя падрабязнасці ахвотна, з аб'ектыўным спакоем чалавека, які глядзіць на ўсё гэта збоку, вачыма назіральніка.

— Дык, кажаш, прагарэў? — пытаўся Міхайла Іванавіч, нахіляючыся цераз стол.

— Дашчэнту, паночку! — адказаў Круглікаў і падзьмуў на сподачак з чаем.— Зусім, так што, з дазволу вашага сказаць, у кашулі адной застаўся, ды і тая чужая.

— Ах ты, братка мой, які чалавек прапаў!

— Прапаў? Ну, навошта ж! Як жа гэткаму чалавеку прапасці! Па тутэйшых месцах, я кажу, ды гэткай галаве...

— Так, так, шэльма сапраўдная. Кажаш, паправіўся?

— Ды яшчэ як!

— Ну, цікава!.. За што ж ён узяўся?

Круглікаў паставіў сподачак і загнуў палец:

— На-першае,— ажаніўся ён другі раз на ўдаве з капітальцам. Капітал, дапусцім, мізэрны...

— Чакай! Кажаш: ажаніўся! А першая што, памерла ці як?

— Жывенькая! Гэта нічога не значыць.

— Ай-ай-ай!.. Ну-н-ну? Што ты, братка, мямліш, гавары далей!

— Ну і пачаў паціхеньку спірцікам гандляваць на капальнях.

— Спір-там?.. Ну не, цяпер, брат, на спірце далёка не

заедзеш. Цяпер, брат, на спіртовай справе турму сабе заробіш, а багаты не станеш. Не ранейшыя часы...

— Э не, дазвольце, паночку, гэта вы дарэмна! Спірт само сабой, а калі пры гэтым пшанічка!..[1]

— Ну, гэта так! Калі кемліваму чалавеку...

— Гэты кемлівы. Шырэй-далей, шырэй-далей, і ўзышоў на капейку сапраўдную.

Міхайла Іванавіч ляпнуў сябе рукой па калене:

— Ах ты, братка мой! Вось галава дык галава... Пі яшчэ! — прапанаваў ён гасцінна, калі пан Круглікаў паставіў пустую шклянку на сподачак у знак таго, што ён задаволены, але вып'е яшчэ, калі яго папросяць (перакуліць шклянку і пакласці на яе агрызак цукру — азначала б адмовіцца канчаткова).— Пі! А што да пасады — не сумнявайся. Прызначу — будзеш задаволены. Я, братка, люблю гаваркіх людзей. Толькі ўжо ты скажы мне па праўдзе-ісціне: горкую бярэш?

Пан Круглікаў паглядзеў яму проста ў вочы ясным позіркам і адказаў:

— П'ю... П'яніцам або, сказаць, прапойцам сябе не называю, а п'ю... Але спытайце: чаму п'ю? — таму, што знаходжуся ў горы пасля ранейшага дабрабыту. Вось і Іван Аляксандравіч — папэўна маеце ласку ведаць, капальні ў яго багацейшыя былі,— гаворыць, бывала: «Навошта, Круглікаў, п'еш? Табе б, пры тваім розуме, зусім бы ў рот не браць... Почырк маеш цудоўны, экіпіраваны добра, сябе паводзіш акуратна... Ты б якое месца мог займаць, калі б не браў віна!» Дык вось не, сэрца не дазваляе... «Іван Аляксандравіч»,— кажу яму...

Пан Круглікаў захваляваўся. Відаць, ён забыўся, перад кім і з якой нагоды ён выварочваў душу, і, ударыўшы сябе ў грудзі, працягваў:

— «Іван Аляксандравіч, дабрадзей, не судзі! Божа мой! Ды я смалу,— разумееш ты? — с-малу б гарачую піў, калі б мог іншы раз сабе палёгку знайсці,— забыццё горычы!» Смалу-у!.. Божа мой, божа! За што ты душу маю ў гэтую гіблую старонку закінуў?.. Хлеба пуд — чатыры з паловай, ялавічына — восем рублёў! Ні спакою, ні харчу...

— Гэта праўда,— падтрымаў Міхайла Іванавіч,— харчы тут дарагія, нічога не скажаш.

---

[1] Залаты пясок. «Гандляваць пшанічкай» — тайна скупляць золата ў рабочых капальні *(заўв. У. Г. Караленкі).*

— Эх, не, не тое! —раптам са смуткам загаварыў маленькі пісар, і гэты смутак глыбокай шчымлівай нотай прарваўся ў яго голасе, прамільгнуў на твары, перайшоў усю трохі камічную яго постаць.— Не тое... Сэрца кіпіць у мяне, роздум находзіць...

— Задумваешся? — перабіў Міхайла Іванавіч з нейкай нясмелай спагадай.

— Бывае! — панура прызнаўся Круглікаў.

— Ах, братка! Ты як-небудзь, гэта самае... кінь... Самая гэта дрэнная справа. У мяне, брат, змоладу таксама было; ледзьве бацька-нябожчык выбіў. Пасля жаніцьбы і то яшчэ, бывала, не-не ды і зашчыміць... На свет не глядзеў бы ад думак гэтых... Апошняя справа!

— Куды горай! Паверыце: іншы раз ноччу прачнешся, апамятаешся: «А дзе гэта ты народжаны, Васіль Спірыдонаў, дзе ты маладосць сваю правёў?.. А цяпер дзе жыццё валочыш?..» Маразіна трашчыць за сцяной ці завея вые... да акна, а ў акне — сляпая льдзіна... Адыдзешся і зараз да шафы. Наліваю, п'ю...

— Лягчэй?

— У галаву ўдарыць,— ну, і замарочыць трохі... Затуманіць, таму што — настойка ў мяне... Гарэлка настоена мацнейшая... А палёгкі не бачу.

— Вось яно! І праўда, што лепей кінуць... Займіся справай, яна, брат, таксама па галаве ўдарыць, не горш за настойку... А скажы ты мне: за што цябе сюды запёрлі?

Гэта пытанне, прапанаванае з такою грубай раптоўнасцю, прайшло яшчэ раз па ўсёй постаці пана Круглікава, і яшчэ раз яна пераўтварылася, губляючы ў маіх вачах ранейшае адценне камізму. Здавалася, нейкая іскра прабіваецца з-пад даўно патухлага, але яшчэ не астылага папялішча.

Ён неяк скалануўся, унурыўся, і голас, калі ён спытаў дазволу наліць сабе чарку, стаў больш глухі.

— Дазволіце?

— Частуйся!

Ён наліў, праверыў чарку на святло, быццам шукаючы там адказу на пакутлівае пытанне, выпіў яе залпам і сказаў:

— За каханне.

Міхайла Іванавіч разявіў рот ад здзіўлення. Я павінен сказаць, што заява пана Круглікава, выказаная так коратка і рашуча, была такая нечаканая, што прымусіла і

мяне зірнуць на яго са здзіўленнем. Круглікаў, здавалася, і сам разумеў, што сваімі словамі выклікаў значную сенсацыю.

— Ды гавары ты, братка, толкам! — сказаў, нарэшце, Міхайла Іванавіч з прыкрасцю.

— Што ж, я праўду кажу,— адказаў Круглікаў,— таму што, уласна, з-за кахання да адной дзяўчыны, у начальніка свайго, стацкага саветніка Латкіна, двойчы з пісталета страляў.

Гэта было ўжо занадта.

Міхайла Іванавіч акамянеў і глядзеў на свайго субяседніка нейкімі пустымі, мутнымі вачыма. Ён быў падобны на падарожніка, які, пагутарыўшы гадзіны дзве з вельмі прыемным, хоць і выпадковым спадарожнікам, і зусім зачараваны яго выдатнымі якасцямі, раптам даведваецца, што перад ім не хто іншы, як celebrissime[1] Рынальда-Рынальдзіні[2].

— З пісталета? — працягнуў ён разгублена.— Як жа гэта так? Ды ці тое ты гаворыш: ■ пісталета?

— Так точна. Пісталет сапраўдны.

— Страляў?

— Два разы.

— Ды гэта ж, братка ты мой, такая справа... такая... самая, сказаць табе, палітычная...

— Што тут паробіш! Судзіце мяне, як ведаеце... Каханне.

— Ды вы раскажыце, Васіль Спірыдонавіч, як гэта ўся гісторыя выйшла...— звярнуўся я да пана Круглікава.

— Ага,— падтрымаў маю просьбу і Капыленкаў,— што ж, браце, раскажы, раскажы,— нічога! Што ўжо тут... Дзіўна!

## VII

Пан Круглікаў выпіў апошні глыток чаю, перакуліў шклянку, паклаў на яе донца кавалачак цукру і адсунуў ад сябе. Пасля гэтай падрыхтоўкі наліў сабе чарку і зноў паглядзеў на святло. Я шкадаваў у гэтую хвіліну, што я не жывапісец і не магу перадаць складаных пачуццяў, якія паказваў арыгінальны твар ат-даванскага станцыйнага пісара, цьмяна асветлены нагарэлымі свечкамі. Круг-

---

[1] Слаўны *(лац.)*.

[2] Легендарны разбойнік, герой аднайменнага прыгодніцкага рамана нямецкага пісьменніка Вульпіуса (1762—1827).

лае аблічча, попельныя, акуратна прычасаныя валасы з з нейкім кокам наперадзе, пастрыжаныя катлеткамі бакенбарды і голены падбародак. У шэрых вачах, якія ўважліва разглядалі чарку на святло, можна было прачытаць і задавальненне і фанабэрыю расказчыка, які зацікавіў слухачоў, і шчырую горыч зламанага жыцця і балючых успамінаў.

Ён, адкінуўшы галаву, павольна, з асалодай, выпіў чарку каньяку, паставіў яе на стол, выцер губы патрапанай фуляравай [1] хусцінкай і загаварыў далей:

— Мая біяграфія жыцця, шаноўныя панове, вельмі сумная... Далікатны чалавек можа разумець усё канчаткова, а іншыя смяюцца... Між іншым, гэта ўсё роўна...

Ён горка ўсміхнуўся, усё яшчэ трохі пазіруючы, і потым спытаў:

— Ці не здаралася каму-небудзь з вас, шаноўныя панове, бываць у Кранштаце?

— Гэта дзе? — спытаў Капыленкаў.

— Паблізу Пецярбурга, гадзіны дзве параходнай язды, партовы горад.

— Я бываў,— сарвалася ў мяне.

— Бывалі? У самым Кранштаце?

Круглікаў жыва павярнуўся да мяне, і вочы яго бліснулі ажыўленнем.

— Ага, бываў і нават жыў некалькі месяцаў.

— Цудоўны горад! Порт, крэпасць, цвярдыня, панове, аплот, акно ў Еўропу... Дзівосны горад, куток Санкт-Пецярбурга!

— Ага, горад харошы.

— Ах, як можна, як можна! Гэтакага другога горада... ды дзе вы знойдзеце? Што вы. А ці праўда, што цяпер, гаварыў мне неяк праезджы афіцэр, на Кацярынінскай вуліцы чыгунны брук пакладзены?

— Праўда.

— Прыгажосць, панэўна!.. А прыстані, Купецкая сценка, форт Павел, форт Канстанцін...

Ён захапіўся. Мая думка таксама неяк імгненна перанеслася з панылай Лепы ў Кранштат, дзе я яшчэ студэнтам правёў некалькі радасных месяцаў... Мяне, як і Круглікава, ахапілі ўспаміны: зліваючыся з неўскай,

---

[1] **Фуляр** — лёгкая і вельмі мяккая шаўковая тканіна *(заўв. перакладчыка)*.

плёскалася марская хваля, свістаў параход, даўгая дамба гула пад капытамі рамізніцкіх коней, якія адвозілі публіку з толькі прышвартованага парахода, мітусіліся кацеры, баркасы, дымілі параходы. Белыя ялікі са стройнымі ўзмахамі вёслаў, грузныя браняносцы, шпіц нямецкай кірхі, вуліцы, перарэзаныя каналамі докаў, дзе сярод будынкаў, быццам кіты, што невядома як трапілі ў сярэдзіну горада, стаяць велізарныя марскія грамады з тоўстымі мачтамі, камяніцы, бульвары, казармы, шыр і раскоша сталіцы... І зноў — лес мачтаў у сінім небе, купецкая гавань, спусцістая каса і шум марскога прыбою... Сіняя далеч, іскрыстыя грабяні хваляў і грузныя фарты, якія ідуць далёка ў мора... Воблакі, белакрылыя чайкі, лёгкі кацер са строма нахіленым парусам, цяжкая чухонская лайба, якая з рыпеннем і стогнам рэжа хвалю, і там, далёка за маяком Талбухіна, дымок парахода, што адплывае ў сінюю заходнюю далеч... у Еўропу!..

Ілюзію парушыў новы выстрал замерзлай ракі. Відаць, мароз браўся на ноч не маленькі. Гук быў такі моцны, што, хоць трохі і прыцішаны, добра пачуўся праз сцены станцыйнай хаціны. Здавалася, гэта са страшнаю хуткасцю ляціць над ракою і стогне нейкая велізарная птушка... Стогн набліжаецца, расце, праносіцца міма і разам з аслабелымі ўзмахамі гіганцкіх крылаў заціхае ўдалечыні.

Капыленкаў нервова ўздрыгнуў і потым, як гэта часта бывае з перапалоху, накінуўся на Круглікава.

— Ну, дык што ж,— сказаў ён нецярпліва,— родам ты, ці што, з гэтага самага горада? Пачаў, дык гавары ўжо толкам, не мямлі!

— Ага, родам,— адрэзаў Круглікаў з гордасцю.— На Сайдашнай вуліцы і свет убачыў. Сайдашную маеце ласку ведаць? У бацькі майго на гэтай вуліцы ўласны дом знаходзіўся, можа, стаіць яшчэ і цяпер. А бацька мой, трэба сказаць, хоць быў і з ластавых [1], але месца меў даходнае і, вядомая справа, сыну таксама даў добры ход. Адукацыяй не вельмі захапляўся, абмяжоўваўся пачаткам граматы і почыркам, але, паколькі я і сам быў малады чалавек акуратны, па службе старанны і ў начальства ўсё ж на вачах з прычыны бацькі, то і стаяў я, магу сказаць, на лепшай лініі. Так, на пачатку лёсу майго можна было ча-

[1] Ластавы — чыноўнік, які збірае падаткі з купецкіх суднаў.

кацъ не таго, чым я зараз спасцігнуты. Ясная раніца і сумны захад...

— Не паракай! — павучальна вымавіў Капыленкаў.

— Ну, дык вось... сказаў я вам, шаноўныя мае панове, што ў бацькі быў уласны дом на Сайдашнай вуліцы. А на гэтай жа вуліцы, насупраць, некалькі гэтак наўкос, жыў таварыш майго бацькі, таксама з ластавых, і, маючы выслугу, займаў месца яшчэ больш даходнае...

— А якое? — не вытрымаў Міхайла Іванавіч.

— У порце, дзе рамантуюць і будуюць марскога флоту судны. Аклады тады ішлі не вельмі каб сказаць вялікія, але пабочны даход па тым часе выпадаў добры,— проста было! Можаце меркаваць па тым, што са службы рэдкі дзень ішлі не абматаўшыся...

— Гэта што ж такое, наконт чаго?..— недаўменна спытаў Капыленкаў, для якога, як знаўцы ў галіне самых разнастайных даходаў, гэта форма была незразумелая.

— Гэта, бачыце, у чым заключаецца. Судна марскога флоту не тое што вашы паўзкі [1]. Вонкавы выгляд само сабой, мацаванні там, ванты, рангоўт і іншае, але яшчэ ўнутраная аздоба патрабуе матэрыялу дарагога і тонкага. Шыкоўнасць, бляск і нават, можна сказаць, камфорт... Ну, дык вось, на складах тканін гэтых, ліёнскага аксаміту, агліцкіх розных шаўкоў... горы... Цяпер уявіце: трэба яму ісці з працы дамоў; здзявае ён сурдут, бярэ кавалак шоўку, абгорне вакол корпуса, зноў адзяваецца і ідзе. Прыйшоў дамоў, разматае яго жонка, бы катушку якую,— вось і набытак!..

— Гэта рэч!.. Толькі як жа іх там не мацаюць, на выхадзе?

— Як можна! Рабочых, вядома, абшукваюць ля варот, а з панамі і абыходжанне іншае, на даверлівым пачатку.

— Нічога, можна справу рабіць... Толькі разумна. Калі на прагнага чалавека, які не ведае меры,— умомант прападзеш. Усё ж такі — казна!

— Калі ласка, працягвайце,— у сваю чаргу перабіў я, бачачы, што цяпер захапляецца ўжо Капыленкаў.

— Так, вядома, справа не ў гэтым. А што проста было, гэта праўда. Проста, проста, а толькі што адукацыі было ў нашым асяроддзі мала, а дзікасці багата... З-за гэтага я і крыж цяпер нясу. Бачыце, была ў гэтага бацькавага

---

[1] Паўзак — рачное мелкаводнае судна *(заўв. перакладчыка)*.

таварыша дачка, на два гады за мяне маладзейшая, васемнаццаты год, прыгажуня! І разумніца... Бацька яе надта любіў, і нават студэнт да яе хадзіў — навучаннем займаўся. Сама напрасілася,— ну, а бацька любімаму дзіцяці не пярэчыў. Падвярнуўся студэнт, чалавек разумны, вучоны і цану ўзяў недарагую,— вучы!

— Дарэмна,— сказаў, між іншым, Капыленкаў.— Дурата! Жаночаму полу гэта і не патрэбна...

— Ну, панове, а я быў той дзеўчыне, Раісе Паўлаўне, нарачоны жаніх. Бацькі нашы прыяцелі былі, мы лічыце, што і выраслі разам, і задумалі бацькі між сабой, каб абавязкова мяне на ёй ажаніць. І мы, са свайго боку, мелі адно да аднаго пачуццёвы інтэрас. Спачатку, ведаеце, дружба, гуляем, бывала, разам, а потым ужо і сур'ёзна. Ад бацькоў перашкоды не бачылі і пастаянна адзін з адным сустракаліся.

— Грэх выйшаў? — забег наперад Міхайла Іванавіч.

— Ніякага граху! — адрэзаў Круглікаў холадна.— І ў думках не было — абое дзеці нявінныя. Рая да чытання была ахвотніца, дык вось за гэтым і бавілі час. Спачатку Гаўкі там, рыцары розныя, Францыль Венецыян,— сентыментальныя гісторыі!.. Глупства, вядома, а падабалася: маркграфіня, напрыклад, брандэнбургская, прынцэса баварская, і пры ўсім гэтым люты сераскір... Усё такое-гэтакае... Высокія персоны і ўсё наконт кахання і вернасці практыкуюцца і перажываюць прыгоды... Вядома, галовы маладыя! У мяне ўсё-такі служба, а яна ўправіцца з хатнімі справамі, як хвіліна вольная — зараз у пакоі сваім з нагамі на канапу, у хусцінку загорнецца і чытае. Пад вечар — я з працы вярнуся — гуляць ідзём, пад ручку. У Кранштаце якое гулянне: на крапасны вал, на Купецкую сценку, бывала, сходзім, на мора глядзім... Яна мне і расказвае, што за дзень прачытала. Гаворыць, гаворыць, потым і задумаецца.

— Вось, Васечка,— кажа,— якія на свеце былі каханкі... Вось бы нам з табой гэтак жа... Ці можаш ты ў выпрабаванні, напрыклад, вернасць захаваць?.. А калі б раптам да мяне які-небудзь злы сераскір прысватаўся?

Ну, я, вядома, са свайго боку:

— Ясна, магу, ды толькі ж нам,— кажу,— не патрэбна гэта, калі нас хоць заўтра па бацькоўскаму загаду ў саборы абвянчаюць.

Смяюся, вядома, таму што кожны дзень у канцылярыю хаджу, панянце ў свеце маю, а яна — дзіцё.

— Бачыш,— кажа,— вунь ля маяка ветразь бяжыць?
— Бачу, брыг з-за мяжы ідзе.
— А што,— кажа,— можа, на гэтым караблі пірат едзе: кінецца раптам, горад спаліць, табе кап'ём грудзі праб'е, мяне ў палон...
Задрыжыць сама, спалохаецца, прыціскаецца да мяне. Ну, я яе зноў супакою:
— Што ты, бог з табой! Гэта брыг ідзе галандскі ці там агліцкі, з бавоўнай. Ці мала іх, эглічаў гэтых, і зараз на вуліцах ходзіць. Вядома, буяняць іншы раз, дык жа і ва ўчастак нядоўга...
— Ага,—гаворыць і Рая,— наша жыццё зусім іншае... Вось і студэнт, Дзмітрый Арэставіч, таксама ўсё смяецца... А мне,— кажа,— нешта сумна...— І ўздыхне.
Ну, надышоў час ужо і пра вяселле думаць. Пачалі бацькі пра пасаг гаварыць. Вось аднойчы мой бацька і кажа: «Жаніць — дык жаніць, няма чаго адкладваць! Я,— кажа,— свайму даю шэсць тысяч, ты колькі?»
— І я,— Раін бацька адказвае,— столькі ж, разам будзе дванаццаць — куды ім болей?
— Не,— мой зноў кажа,— не так! Сам падумай: мой Вася можа з часам у чыны ўзысці, а твая дачка якая ёсць, такая і застанецца, толькі што старэць будзе. Табе б, папраўдзе, і дзесяць тысяч даць не крыўдна...
Слова за слова — заспрачаліся. Той чалавек гарачы, а ўжо майго бацьку быццам муха ўкусіла: стаіць на сваім, і толькі. Дзяўбе адно, не спускае ні капейкі. Ну, той, зразумела, зазлаваў...
— Калі так,— кажа,— калі ты свайго шчанюка над маёй Раічкай на цэлыя чатыры тысячы ўзняў, дык не трэба нічога. За генерала дачку аддам, не твайму шчанюку пара!
— Найшла, значыць, каса на камень,— засмяяўся Капыленкаў.
Круглікаў зірнуў на яго з нейкім здзіўленнем, быццам не пачуў, і працягваў:
— Ох-хо-хо! Так вось з драбязы і пачалося. Трэба вам сказаць, што начальнік наш, сапраўды, на Раю пачаў ласым вокам пазіраць. Ён хоць, скажам, не поўны генерал быў, але мы ў праўленні яго заўсёды вашым правасхадзіцельствам клікалі. Сам загадаў: «Для чужых я,— кажа,— можа, менш чым палкоўнік, а для сваіх падначаленых я бог і цар!»
— А што ты думаеш?.. І праўда! — зноў уставіў Ка-

пыленкаў.— Да бога высока, да цара далёка, а ён цябе тут заўсёды возьме... Гэта ён правільна!

— У гадах ён быў немаладых, бяздзетны ўдавец, і заўважце, колькі ні сватаў роўных сабе,— ніхто за яго не аддаваў: выгляд меў самы нецікавы... Ну, і палажыў ён вока на маю Раічку. Канечне, яна і не ведала, тым больш што я ўжо лічыўся жаніхом. Сабой — справа даўняя — быў прыгожы, росту хоць невялікага, але тварам прыемны, вусікі там, валасы заўсёды напамаджаны і фарсануць любіў... Ды і бацька ж яе спачатку ўсё-такі шкадаваў адзіную дачку. А тут як забрала яго за жывое, стаў дубка, захроп і зараз мне, як шост, ад дому адмаўляе, а генералу надзею падаў... О-ох! І пачала ў нас на Сайдашнай вуліцы генеральская карэта праязджацца.

Вочы Круглікава сталі вільготныя, іскра з-пад попелу свяцілася ясней. На жаль, ён адразу ж заліў яе новай чаркай гарэлкі. Рука з чаркай дрыжала, гарэлка плёскалася і капала на пікейную камізэльку.

— А там і часцей! Пешшу пачаў ужо заходзіць і падарункі насіць. А я ўжо і на парог сунуцца не асмелюся: раптам я туды, а генерал там сядзіць... Перажываю страх... Вось аднойчы іду з працы міма аднаго дома, дзе студэнт гэты, настаўнік, кватараваў,— жыў ён у флігелі, кніжку пісаў ды чучалы рабіў. Толькі, гляджу, сядзіць на ганачку, піпку ссе. І цяпер, кажуць, у чынах ужо вялікіх па сваёй лініі, а ўсё піпкі гэтай з рота не выпускае... Дзіўны, ведама, народ — вучоныя людзі...

Круглікаў усміхнуўся ціхай усмешкай, устаў, пашукаў у нейкай шкатулцы і вынес старую кнігу.

— Вось,— сказаў ён,— паглядзіце...

Я зірнуў, і на мяне павеяла далёкім мінулым. Кніга была выдання 60-х гадоў, паўспецыяльнага зместу па прыродазнаўству. Яна цалкам належала таму грамадскаму настрою, калі маладое ў нас вывучэнне прыроды горда выступала на заваёву свету. Свет застаўся незаваяваны, але з-пад свежай хвалі, якая пракацілася, узышло ўсё-такі шмат парасткаў. Між іншым, рух гэты даў нам нямала слаўных імёнаў. Адно з іх,— хоць, магчыма, і не з першых радоў,— стаяла на вокладцы.

— Яны, Дзмітрый Арэставіч, склалі,— сказаў Круглікаў, старанна загортваючы кнігу ў нейкі паштовы бланк. Відаць, ён бярог яе з гордасцю, як адзін з самых сваіх дарагіх успамінаў пра незваротнае мінулае.

— Ага, дык іду міма яго, чую, кліча: «Гэй вы, пане Венецыян, хадзіце сюды!»

Падышоў я: бачу, што мяне гукае... Жартаўнік быў.

— Што вам трэба?

— Вы што,— кажа,— маркграфіню брандэрбургскую ці зусім кінулі? Пакутуе.— Агледзеў мяне гэтак з галавы да ног...— І то,— кажа,— хіба аб гэтакім храбрым рыцары не пакутаваць...

Бачу я, што гэта насмешка, а ўсё-такі чалавек ён быў душы самай добрай. Рая таксама спачатку яго вельмі баялася, таму што ўсё болей смешкамі ды зрывам, а потым вельмі хваліла. Я не пакрыўдзіўся і кажу яму:

— Што мне рабіць, Дзмітрый Арэставіч, навучыце!

— А вы,— кажа,— не ведаеце?

— Не ведаю.

— Ну, дык і я таксама не ведаю... А ўсё-такі павінен вам перадаць, што Раіса Паўлаўна чакае вас у сябе сёння на змярканні. Бацькі не будзе, люты сераскір таксама ў Тамбоў паехаў. Бывайце!

— Дзмітрый Арэставіч, што мне рабіць? Парайце!

— Ну не,— кажа,— я вам у гэтай справе не дарадца. Я вось гаварыў Раісе Паўлаўне, каб яна выкінула за акно ўсіх сераскіраў ды дарэчы і Венецыяна аднаго туды ж... Не слухае; а вам што і раіць...

Сумна мне тады, прызнацца, зрабілася. «Чаго, думаю, яму на самай справе з мяне смяяцца? Чым я горшы за іншых жаніхоў, толькі што нешчаслівы: нявеста мая начальніку спадабалася. Дык зноў гэта віна не мая». Ну, потым успомніў, што ісці вечарам з Раяй пабачыцца, і павесялеў.

Вечарам прыйшоў да яе... Кінулася мне Раіса Паўлаўна на шыю і заплакала. Паглядзеў я на яе і не пазнаў. І тая — і не тая. Пабялела, змарнела, вочы вялікія, глядзіць зусім інакш. А прыгажосць... неапісальная! Ёкнула маё сэрца. Не мая гэта Раінька, іншая дзяўчына нейкая. А абдымае: «Вася,— кажа,— мі...лы, жа...даны,— кажа,— прыйшоў,— кажа,— не за...быў, не... кі...»

Раптоўны прыліў слёз падступіў да вачэй Круглікава, горла яго сціснулі спазмы. Ён устаў, падышоў да сцяны і прастаяў некалькі хвілін тварам да нейкай паштовай аб'явы.

Зірнуўшы на Міхайла Іванавіча, я з вялікім здзіўленнем заўважыў, што рыхлыя рысы гэтага не вельмі сен-

тыментальнага чалавека таксама неяк размяклі, распусціліся, вочы часта міргалі.

— Што ж гэта,— прамовіў ён расчулена,— такая далікатная гісторыя!.. Ану ты, бедалага, чабурахні шкляначку. Нічога, брат, што рабіць! Жыццё наша, братка, нядоля...

Круглікаў сарамліва падышоў, наліў, выпіў і выцер твар фулярам.

— Даруйце, шаноўныя панове,— не магу... Апошні раз я тады Раічку сваю абдымаў. З таго часу ўжо яна для мяне Раіса Паўлаўна, рукой не дастаць... успамін і святыня... Недастойны...

— Ну, ну,— абараняўся Капыленкаў ад новага прылівy пачуццяў,— ты ўжо, братка, як-небудзь гэта самае, як-небудзь дагаворвай далей. Што ўжо тут...

— Ну, праседзелі мы вечар гэты. Раіса Паўлаўна павесялела трохі.

— Хопіць,— кажа,— мы што, на самай справе, каго хаваем? Нічога! Трымайся, Васенька! Відаць, і наш час надышоў. Ці памятаеш,— кажа,— нашу размову на вале? Вось яно па-мойму і выйшла; люты сераскір — гэта ж,— кажа,— сам Латкін і ёсць.

І засмяялася, а за ёю я... Часта гэта ў нас бывала; яна, як сонейка з-за хмары, прасвятлее,— ну, і я на яе гледзячы...

— Ну,— кажа,— Васенька, мацуйся; пакажам, якое можа быць наша каханне; ты толькі не здавайся, а я ўжо не здамся. Пачакай, што я нядаўна купіла...

Дастае з камоды пісталецік. Так, невялічкая штучка,— ну, ды ўсё ж такі зброя агнястрэльная, не жарты. У мяне нават у пятках запякло... Вось пад канец вечара я гэту штучку ў яе са стала ўзяў ды ціхенька ў паліто, у бакавую кішэню, і схаваў... Схаваў, ды так і забыўся, і яна не спахапілася... Сам назаўтра іду да бацькі. Сядзеў ён у сябе, чарцяжы рабіў, судна яны новае будавалі... Убачыў мяне, павярнуўся, у вочы не глядзіць... Э-эх! адчуваў жа, што сына губіць, з-за гонару свайго... Ды, відаць, лёс такі!..

— Што,— кажа,— трэба? — Я ў ногі кінуўся. Куды там! І слухаць не хоча. Устаў я тады і кажу:

— Ну, калі так, то я знаходжуся ў сталых маіх гадах. Ажанюся без пасагу.

А бацька ў мяне, трэба сказаць, спакойны быў. Шыя была ў нябожчыка кароткая, і дактары гаварылі, што ад хваляванпя крыві яму можа прыйсці раптоўны канец. Та-

му крычаць там ці сварыцца моцна яны не любілі. Толькі, бывала, твар наліецца, а голас і не здрыганецца.

— Вось,— кажа,— што: дурань ты, Васька, праўда, дурань! Гаворыш, а не зробіш... А я скажу, дык будзе пазмойму. Памятай гэта: пры тваіх сталых гадах я цябе адлуплю як сідараву казу...

— Не можа быць,— кажу,— я чыноўнік.

— Не верыш? Добра.

Расчыніў акно, кіўнуў пальцам... Жылі ў нас у двары, у флігелі, два браты — бамбардзіры адстаўныя, здаравушчыя, падлюгі, вусы ў кожнага па аршыну, морды чырвоныя... Шавецкай справай займаліся; дзе зашыць, дзе падносак падкінуць, а дзе і новую пару пашыць, а больш наконт п'янства. Зайшлі ў пакой, сталі ля вушакоў, толькі вусамі водзяць, як тараканы: ці не перападзе? Бацька падносіць па чарцы.

— Вось,— кажа,— вам, панове бамбардзіры, шнапсу на першы раз. Добра паглядзіце вось на гэтага малайца. Ці можаце вы яго маёй бацькоўскай рукой адлупцаваць?..

Паглядзеў тут малодшы бамбардзір на старэйшага, а той адказвае:

— Бацькоўскай рукой заўсягды можна — закон дазваляе.

— Ну, майце на ўвазе. Як сігнал выкіну — зараз вы,— кажа,— яго на буксір, кладзі ў дрэйф, грузі з кармавой часці!.. Ну, ідзіце ўсе трое!

Прыходжу пасля таго на службу, а там гавораць: начальнік клікаў. Заходжу. Сядзіць у крэсле адзін у кабінеце, скоса на мяне пазірае, пальцамі па стале гэтак барабаніць, маўчыць. Потым павярнуўся, пазваў да сябе бліжэй, зноў на мяне глядзіць.

— Вы,— кажа,— што гэта... Марыце?

— Што вы,— кажу,— ваша правасхадзіцельства, здаецца, з усёй стараннасцю служу і нікольні не мару. Ці ж можна?

— Не,— кажа,— я не правасхадзіцельства зусім... Не саромейцеся, малады чалавек. Цяпер гэта,— кажа,— у модзе. Такі час, што начальства — не начальства! Вы, здаецца, маеце намер ажаніцца?

— Гэта,— кажу,— ваша правасхадзіцельства, у маім узросце і прытым з дазволу начальства справа законная.

— Так, так... А каго маеце на ўвазе?

Сумеўся я. Паківаў ён пальцам і кажа:

— Вось бачыш, Круглікаў, сумленне ў цябе супраць

начальства не чыстае,— сумеўся... Ну, кінь, забудзь пра гэту дзяўчыну думаць, адсячы,— кажа,— намеры ўсялякія,— лепшы за цябе жаніх знойдзецца. Ідзі!

Выйшаў я з кабінета, слёзы ў мяне так і цякуць. У канцылярыі і то дзівяцца. Напэўна, кажуць, ведамасці пераблытаў. А якія ўжо тут ведамасці,— свет мне нямілы: тут — начальнік, дамоў прыйдзеш — бамбардзіры выбягаюць з флігеля, на бацькава акно глядзяць, ці ёсць сігнал... Проста няма куды падацца, і што мне рабіць, не ведаю, таму што выйсця не бачу. Пакутую... Бацька ўжо сам пачаў заўважаць, і бамбардзірам забараніў мяне трывожыць. Выскачылі яны раз за сігналам, дык я ўвесь задрыжаў, упаў на зямлю, з рота пена пайшла. Ну, бацька бачыць, што пашкодзіў мяне тыранствам, загадаў пакінуць, думаць пачаў, стаў больш асцярожны. А гонар усё-такі застаўся... Царства нябеснае! Пакуль жывы быў, не пакідаў мяне. Пісаў тры разы ў год і грошы сюды пасылаў. Перад смерцю ліст прыслаў: «Ці даруеш, сын мой, што я цябе няшчасным зрабіў?..» Бог даруе, вядома... А мне вось... мне ніхто не дараваў...

— Ну? — перапыніў зноў Капыленкаў цяжкае, хоць і нядоўгае маўчанне, і Круглікаў працягваў расказваць:

— Вораг мой бачыць, што я аслабеў, тут і задумаў насесці. Праз тыдзень гэтак, ці трошкі болей, клічуць мяне да начальніка. Сустракае сур'ёзна.

— Апранайся! Памятай,— кажа,— Круглікаў, што мне патрэбны падначаленыя, якія б з усёй адданасцю... А хто,— кажа,— не адданы, такіх цярпець няможна...

— Вядомая справа! — адобрыў гэтую сентэнцыю Капыленкаў. Круглікаў зноў прапусціў гэтую заўвагу міма вушэй і працягваў:

— Ну, селі мы... селі і паехалі... А куды менавіта паехалі, дык гэтага я, шаноўныя панове, і падумаць не мог... На Сайдашную вуліцу, да Раісы Паўлаўны...

— Чаго? — міжволі вырвалася ў мяне.

Круглікаў паглядзеў па мяне позіркам, у якім былі застарэлы сум і гонар.

— Сватам,— адказаў ён з выклікам.

— Бог ведае, што гэта вы расказваеце нам, Васіль Спірыдонавіч!

— Не, не бог ведае што, а шчырую праўду... Таму што, ці бачыце... Раіса Паўлаўна пажадала. «Калі,— кажа,— вы сцвярджаеце, што ён ад мяне адступіўся, то прысылайце яго за свата...»

— Ну, і дзеўка ж... Ах, адчайная! — зноў не вытрываў Капыленкаў.

— І вы пайшлі? — запытаў я з міжвольным дакорам.

— Дык жа павёз...— сарамліва адказаў апавядальнік і потым з раптоўнай рэзкасцю павярнуўся да Капыленкава: — А вы, ваша міласць, нічога не разумееце! Заўвагі робіце, а паняцця пачуццяў не маеце.

— Надта мне трэба яшчэ і разумець цябе,— адбіў нечаканую атаку разгублены купец.

— Ну, і м-м-маўчы-це,— адрэзаў Круглікаў з нейкім рыпеннем у голасе і зноў павярнуўся да мяне.

— Так, ваша міласць... Як маеце ласку справядліва казаць, я і паехаў... Па-е-хаў... Пасля таксама везлі мяне, каб аб'явіць прыгавор... называецца публічная кара, на плошчы.... А было мне ўсё-такі лягчэй. Верце мне, лягчэй было... А ўсё-такі паехаў... Людзі бачылі, як мы абодва на Сайдашнай вуліцы выходзілі з карэты. Генерал былі змрочныя, а ўжо я і з твару змяніўся... Так!.. І ўсё ж паехаў, васпане! Мяркуйце пра гэта, як ваша паняцце дазваляе, а я паехаў... Што рабіць!.. Толькі заходзім мы ў пярэдні пакой, а насустрач якраз Дзмітрый Арэставіч, студэнт. Убачыў нас, спыніўся, паглядзеў на мяне і кажа: «Ну, так і ведаў. Нішто сабе, няма чаго сказаць, прынц венецыянскі... І люты сераскір побач»,— гэта пра генерала.

Круглікаў уздыхнуў і ўсміхнуўся.

— Рэзкі чалавек быў, бясстрашнай пароды. Генерал дык нават пазелянеў і кажа яму: «Я вам, малады чалавек, не сераскір! Не сераскір, а гасудара майго стацкі саветнік! Прашу не забываць». Дзмітрый Арэставіч павялі гэтак плячом і кажуць: «Ну, там які б ні быў, а што дарэмна клапоцiцеся, гэта праўда». І выйшаў, а генерал павярнуўся да мяне: «Памятай,— кажа,— ніколі я табе гэтага не забуду, ні-ко-лі...» Вось, шаноўныя панове, якая праўда на свеце.. Студэнт нагрубіў, а Круглікаў адказвай!..

Аднак між тым прайшлі мы гасціную, заходзім да Раісы Паўлаўны... Сядзіць мая Рая, генеральская нявеста, вочы наплаканыя, вялікія, проста так у мяне і ўтаропілася... Апусціў я вочы... Няўжо, думаю, гэта яна, мая Раінька? Не, не яна, быццам на гары стаіць, на якой-небудзь высокай-высокай... Ну, стаў я ля парога, а генерал да ручкі падышоў. «Вось,— кажа,— вы, каралеўна мая, сумняваліся, а ён і прыехаў!..»

Прыўстала яна, абаперлася рукамі на столік, глядзіць на мяне, быццам пазнаць не можа. Генерал таксама павяр-

нуўся, глядзяць абое, а я... стаю ў Раіным пакоі... ля парога.

«Васенька...» — хацела, відаць, сказаць штосьці, потым адкінулася на канапу і засмяялася...

— А што,— кажа,— можаце вы яго ў лакеі да сябе ўзяць? — Генерал і ўзрадаваўся: «Магу,— кажа,— калі вы, мая каралеўна, пажадаеце...»

— Што ж,— кажа,— бярыце, толькі жалаваннем,— кажа,— не крыўдзіце...

У пана Круглікава раптам сціснула горла. Ён апусціў галаву, хаваючы ад нас твар, і ў пакоі застыла маўчанне. Нават Капыленкаў толькі пазіраў на пісара шырока раскрытымі, быццам здзіўленымі вачыма, не адважваючыся парушыць цішыню, напоўненую такім цяжкім разуменнем глыбокага чалавечага прыніжэння...

Нарэшце Круглікаў перавёў дух і паглядзеў на мяне свінцовым, цьмяным позіркам.

— Вось тут,— сказаў ён раздзельна,— вось у гэту самую хвіліну, у мяне, ваша міласць, і ўступіла. Быццам я ад сну ачнуўся. Гляджу: пакой знаёмы, быццам толькі што мы ў ім з Раічкай вечарам сядзелі. На канапе сядзіць яна сама, твар схавала, перад ёй генерал цярэбіцца, а побач столік расчынены... І ўспомнілася мне раптам, як я адтуль пісталецік дастаў... Ды ён жа, думаю, і цяпер у паліто ў мяне ў кішэні ляжыць... Павярнуўся ціхенечка, выйшаў у пярэднюю. Пісталецік у бакавой кішэні ляжыць, быццам чакае. Дастаў я яго і, памятаю, нават засмяяўся.

Пайшоў зноў назад, спяшаюся, як бы, думаю, генерал тварам да дзвярэй не павярнуўся... Калі б ён павярнуўся, здаецца, нічога б гэтага не было. Але не, Раіса Паўлаўна плачуць, твар закрылі, генерал рукі ад твару адымае. Зайшоў я, Раіса Паўлаўна адняла руку, зірнула ды так і абмерла. А я... ступіў два крокі... толькі б, думаю, не павярнуўся... І раз-раз у яго... ззаду...

— Забіў? — з жахам прыўстаў Капыленкаў.

— Не, не забіў,— з палёгкай, нібы ўвесь расказ ляжаў на ім вялікім цяжарам, прамовіў Круглікаў.— На вялікай да мяне літасці божай выстралы аказаліся слабыя і прытым у мяккія часткі... Упаў ён, вядома, закрычаў, завалтузіўся, запішчаў... Раіса кінулася да яго, потым бачыць, што ён жывы, толькі паранены, і адышла. Хацела да мяне падысці... «Васенька,— кажа,— бедны... Што ты нарабіў?..» — потым ад мяне... кінулася ў крэсла і заплакала.

— Божа мой,— гаворыць,— ззаду... падкраўся... якая

пізасць... Ідзіце,— гаворыць,— абодва, пакіньце мяне...— І ўсё мацней ды мацней і плача і смяецца... Істэрыка! А тут і людзі набеглі. Ну, далей ужо вядома што: арыштавалі.

— Ну, вып'ем! — сказаў Капыленкаў.— Усё, ці што? Вельмі ж страшна. Ах, братка ты мой! І адчайныя ж вы, ой адчайныя!.. Як гэта вы можаце толькі...

— Суджаны старым судом, без патурання. Можа, цяпер бы... пакуты б мае пад увагу ўзялі, што я быў чалавек змучаны... А тады ўсялякая віна была вінаватая. Выслалі. Бацька за год пастарэў на дзесяць гадоў, змізарнеў, здароўем падупаў, месца страціў, а я вось тут прападаю.

— А Раіса Паўлаўна?

Пан Круглікаў устаў, зайшоў у сваю каморку, зняў са сцяны нейкі партрэт у мудрагелістай рамцы, старанна выразанай нейкім умелым пасяленцам, і прынёс яго нам. На партрэце, які ўжо значна выцвіў ад часу, я ўбачыў групу: прыгожая маладая жанчына, мужчына з рэзкімі, характэрнымі рысамі твару, з разумным позіркам шэрых вачэй, у акулярах, і двое дзяцей.

— Няўжо гэта?..

— Яны,— сказаў Круглікаў пачціва.— Раіса Паўлаўна. А гэта іх муж, Дзмітрый Арэставіч. Не забываюць. Пад Новы год чакаю ліста. І партрэт гэты прыслалі па нізкай маёй просьбе, ды і... грашыма калі... тое ж самае...

Ён гаварыў пачціва, як быццам гэта была не тая Раічка, з якой ён некалі чытаў пра каралевен Рэнцывенаў і Францыляў Венецыянскіх. Толькі калі ён паказваў на старэйшую дзяўчынку, тоненькую, светлавалосую, з вялікімі летуценнымі вачыма, голас яго зноў злёгку задрыжаў.

— Падобная... дзве кроплі вады Раіса Паўлаўна дзяўчынкай.

Ён хуценька ўзяў партрэт, да якога пацягнуўся быў зацікаўлены Капыленкаў, занёс у свой пакой і доўга стаяў там ля сцяны, як раней перад паштовай аб'явай.

Уся постаць у куртатым пінжачку нервова ўздрыгвала...

## VIII

Пасля гэтага ніякая ўжо гаворка не клеілася. Вартаўнік прынёс у печку дроў, у ямшчыцкай юрце велізарны камінок таксама ўвесь заставілі дровамі, таму што агонь

раскладваецца на ўсю ноч. Полымя разгарэлася і траншчала. У прыадчыненыя дзверы відаць былі ямшчыкі, што ляжалі на лаўках вакол камінка.

Ат-Даван супакоіўся на ноч.

Пан Круглікаў адвёў нам суседні пакой, дзе Капыленкаў адразу ж заснуў. Станцыйны пакой застаўся незаняты.

— Для Арабіна? — запытаў я.

— Так,— неяк асабліва панура адказаў Круглікаў.

Жанчына, што прыслужвала нам, відаць, даўно спала; таму пан Круглікаў уходжваўся сам: ён накідаў у самавар дробнага лёду, кінуў вугалёў і паставіў яго, на ўсякі выпадак, ля камінка. Потым пачаў прыбіраць са стала, прычым не забыўся, ставячы пляшкі, выпіць яшчэ чарку нейкага пітва. Ён рабіўся ўсё больш змрочны, але, здавалася, сон зусім не меў над ім улады.

Нарэшце на Ат-Даване ўсё сціхла. Толькі часам на двары трашчаў мароз ды ў цёмных пакоях, па якіх прабягалі цяпер толькі трапяткія чырванаватыя водбліскі полымя, чуліся глухія крокі і шлёпанне валёнак, а часам звінела чарка і булькала вадкасць. Пан Круглікаў, якога развярэдзілі ўспаміны і, відаць, не давалі заснуць, сумна соваўся па станцыі, уздыхаў, маліўся ці бурчаў нешта сам сабе.

Я заснуў...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Калі я ачнуўся, была ўсё яшчэ глухая ноч, але ўвесь Ат-Даван зноў жыў, ззяў і рухаўся. З двара даносіўся звон, ляпалі дзверы, бегалі ямшчыкі, фыркалі і стукалі капытамі па снезе коні, якіх, спяшаючыся, вялі пад сценамі, трывожна звінелі дугі са званочкамі, і ўсё гэта нейкай тлумнай хваляй імкнулася са станцыі да ракі.

У суседнім пакоі пан Круглікаў, не спяшаючыся, запальваў свечкі; серная запалка спачатку ўспыхнула сінявата мёртвым святлом, потым раптам загарэлася і асвяціла пакой.

Пан Круглікаў паднёс яе да свяцільні, запаліў свечку і павярнуўся. Перад ім стаяла новая постаць: чалавек у аленевым футры з капюшонам, зацярушаны снегам. З-пад аленевага мяшка пазіралі чорныя вочы, трохі скошаныя, як у карыма, відаць быў белы твар, тонкі нос і доўгія, чорныя, апушчаныя ўніз вусы. Па гэтых рысах я пазнаў Арабына-таёна, якога з ціхім страхам і пакорлівасцю чакаў Ат-Даван ужо некалькі дзён. І разам з тым гэта быў мой

знаёмы, казацкі харунжы, непрыкметны і сарамлівы ў Іркуцку.

Відаць, пачатак абяцаў, што ўсё пройдзе добра. Арабіна, відавочна, вельмі стаміла, магчыма, дарога, а магчыма, роля грознага Арабын-таёна... Здавалася, ён хоча проста адпачыць, напіцца чаю, прылегчы... Цяпер ён стаяў, апусціўшы плечы, з сонным тварам, чакаючы святла. Толькі часам у мутных вачах загаралася нецярпенне... Затое з панам Круглікавым адбылася рэзкая перамена: ён зусім не быў падобны на таго маленькага, мізэрнага і смешнага чалавечка, які яшчэ ўчора прыніжана прасіў пашкадаваць яго і не патрабаваць коней. Цяпер ён быў пануры, сур'ёзны і стрыманы. Рухі яго былі няспешныя і поўныя нейкай рашучасці. Ён нават як быццам вырас. Відаць, учарашні расказ, вялікая колькасць гарэлкі, дух якой яшчэ толькі пачаў выходзіць з яго галавы, разгарачанай старымі трывожнымі ўспамінамі, і ноч без сну,— усё гэта не прайшло для пана Круглікава дарма.

— Чорт пабяры! — сказаў Арабін нецярпліва.— Варушыся там!

— Пакорна прашу цішэй, тут прыезджыя,— спакойна адказаў Круглікаў.

Арабін здымаў сваю шапку, і калі зняў яе, то ў яго чорных вачах бліснула нешта падобнае на здзіўленне. Аднак ён усё яшчэ, відаць, стараўся стрымацца.

— Самавар! — буркнуў ён, кідаючы футра і сядаючы да стала.

— Гатоў.

— Коней!

— Калі ласка, прагоны.

Галава Арабіна, нізка астрыжаная, з тонкімі вушамі, якія тырчалі, як у мангола, павярнулася трывожна і жвава. У вачах мільганула нешта больш рэзкае, чым простае здзіўленне. Ён устаў і сказаў зноў:

— Коней, хутка!

— Прагоны, калі ласка,— з нейкім дзіўным спакоем адрэзаў пан Круглікаў.

Ля мяне нешта заварушылася. Капыленкаў прачнуўся і, седзячы на ложку, стараўся ціхенька нацягнуць на сябе што-небудзь з адзення з такім выглядам, быццам на станцыі пачынаўся пажар ці варожае нашэсце. Шыя яго была выцягнута, прастадушна-хітрыя вочы блішчалі ў цемры ад страху і цікаўнасці.

— Н-ну, нешта будзе,— нахіліўшыся раптам да мяне,

прашаптаў ён,— ліха якое!.. І адчайны гэты Круглікаў... Запомні, братка ты мой, мы з табой нічога не бачылі,— у сведкі яшчэ трапіш...

Толькі цяпер, пасля гэтых слоў, я поўнасцю зразумеў стан рэчаў... Патрабаваць у пана Арабіна, вядомага і грознага Арабын-таёна, прагоны, ды яшчэ такім рашучым тонам, ды яшчэ як умову падачы коней,— гэта была з боку няшчаснага Ат-Давана, што прытуліўся пад дзікімі гарамі, нечуваная дзёрзкасць. Арабін ускочыў, сярдзіта рвануў на сябе торбу, выхапіў нейкую паперку і парывіста шпурнуў яе Круглікаву. Па ўсім было відаць, што ён, стомлены і здарожаны, хоча ўтрымацца ў прыстойных межах, што яму цяжка і непрыемна выконваць ролю грознага Арабын-таёна ў гэты позні час, на цёплым і асветленым Ат-Даване. Але ён не хацеў плаціць прагоны, тым больш што гэтая ціхая, пакорлівая Лена мае адну асаблівасць: калі пан Арабін заплаціць на Ат-Даване — то яго аўтарытэт адразу ўпадзе, і ўжо ўсюды, на ўсіх трох тысячах вёрст, ямшчыкі ад станка да станка разнясуць вестку, што улахан Арабын-таён[1] здаўся і плаціць... І ўсюды ўжо з яго таксама будуць патрабаваць прагоны. Ён, відаць, спадзяваўся яшчэ, што Круглікаў забыўся, хто ён такі, і папера яму напомніць. Але выйшла яшчэ горш.

Круглікаў, усё гэтак жа не спяшаючыся, разгарнуў паперу, прачытаў яе ўважліва, доўга пераводзіў вочы ад радка да радка і потым сказаў:

— Тут вось сказана: «На чацвёрку коней за ўстаноўленыя прагоны». А вы бераце шасцёрку пад дзве падводы і не хочаце плаціць прагонаў. Незаконна...

Голас яго гучаў усё гэтак жа спакойна, але ён як бычцам разнёсся па ўсім Ат-Даване. Шум, якім поўніўся станок, сціх, ямшчыкі з нясмелай цікаўнасцю тоўпіліся ля дзвярэй, што вялі з ямшчыцкай у пакоі. Капыленкаў затаіў дух.

Арабін страпянуўся, абвёў станок гарачымі вачыма, выпрастаўся, стукнуў кулаком па стале, і па твары яго прабегла нешта злавеснае.

— Маўчаць! — крыкнуў ён.— Гэта што... бунт?

— Ніякага бунту, а па закону. Па загаду яго імператарскай вялікасці. Што, на самай справе, да якой пары...

Круглікаў не паспеў закончыць. Моцны ўдар зваліў яго з ног... Арабін кінуўся быў да непрытомнага...

---

[1] Вялікі начальнік Арабін.

Я ўскочыў у пакой і спыніўся. Арабін стаяў насупраць мяне, здзіўлены маім нечаканым з'яўленнем. Гэта, відаць, выратавала і Круглікава, і самога Арабіна ад далейшага ходу яго шаленства. Бледны твар яго торгаўся, у вачах бегала нешта неспакойнае і хваравітае. Здавалася, казацкі харунжы, які на Лене забыўся, што ён усяго толькі казацкі харунжы, і сам ужо адвык уяўляць сябе кім-небудзь іншым, як Арабын-таёнам, магутным і грозным, з галавой вышэй за прыленскія сопкі. І раптам маё з'яўленне перанесла яго ў Іркуцк, у нізкі пакой, дзе галава харунжага далёка не даставала да столі і не ўздымалася вышэй дзесяткаў іншых, самых звычайных галоў.

Аднак Ат-Даван не заўважыў ні гэтай разгубленасці, ні гэтага душэўнага руху. Ён бачыў толькі ўдар, бачыў, што пісар ляжаў на падлозе. Дзверы з ямской зачыніліся, на двары зноў усчалася беганіна. З нашага пакоя чулася прытворнае храпенне Міхаіла Іванавіча...

Відаць, бунт у Ат-Даване спыніўся, і Арабын-таён застаўся для Ат-Давана такім жа магутным і грозным, як у песні.

Праз некалькі імгненняў Круглікаў устаў з падлогі, і мае вочы адразу сустрэліся з яго вачыма. Я мімаволі адвярнуўся. У позірку Круглікава было нешта такое вартае жалю, што ў мяне сцялася сэрца,— так глядзяць толькі ў нас на Русі!.. Ён устаў, адышоў да сцяны і, прытуліўшыся плячом, закрыў твар рукамі. Постаць зноў была ўчарашняя, толькі яшчэ больш няшчасная, прыніжаная і вартая жалю.

Жанчына паспешліва ўнесла самавар, скоса кінуўшы на гаспадара быстры спагадлівы позірк... Арабін, цяжка дыхаючы, сеў за самавар...

— Я вам пакажу бунтаваць! — бурчаў ён. Далей разабраць было цяжка. Чуваць было, аднак, нейкае ўпамінанне пра «сведкаў», якім пан Арабін раіў адправіцца к чорту, пра гонар мундзіра і яшчэ нешта падобнае.

## IX

Між тым у паўзмроку нашага пакоя Міхайла Іванавіч Капыленкаў таропка заканчваў свой туалет. Праз некалькі мінут ён, ужо апрануты, паказаўся ў дзвярах, зашпільваючыся, кашляючы і стараючыся паказаць на твары прыветную ўсмешку. Арабін зірнуў на гэта нечаканае з'яўленне з сярдзітым недаўменнем. Відаць, ён не мог адразу зра-

зумець, што трэба незнаёмаму, які ўсміхаўся, падскокваў на хаду і кланяўся, аднак прыязныя ўсмешкі і паклоны азадачылі яго і папярэджвалі ўспышкі яшчэ жывой ярасці. Рукі яго трохі дрыжалі, падносячы сподачак з гарачым чаем, ён скоса і нядобразычліва сачыў за манеўрамі Капыленкава.

— Што вам трэба? — раптам спытаў ён рэзка, ставячы сподачак на стол.

Капыленкаў уздрыгнуў, але адразу прыняў ранейшую міну падлаватай прыязнасці.

— Уласна, нічога. Шанаванне выказаць... Не мелі ласкі пазнаць мяне, відаць... У Леў Сцяпанавіча, у горнага спраўніка, калі ласка ваша будзе ўспомніць, мелі размову і нават... справа адна адбывалася...

— А-а!.. Ну, так,— сказаў Арабін, зноў беручыся за чай.— Цяпер памятаю.

— Менавіта,— узрадаваўся Капыленкаў.— А магу патурбаваць пытаннем: па якому даручэнню маеце ласку?..

— Не ваша справа!

— Гэта справядліва,— пакорліва пагадзіўся Міхайла Іванавіч.— Можа, нешта сакрэтнае...

Бедалага не мог зразумець, што сам напамін пра Іркуцк, пра горнага спраўніка, пра ўсе гэтыя будзённыя справы не мог быць прыемным Арабін-таёну, які ўсё яшчэ знаходзіўся ў эпічным, казачным свеце.

— Справядліва,— у роздуме яшчэ раз паўтарыў Капыленкаў і, каб утрымаць пазіцыю, дадаў: — Злавацца мелі ласку тут трохі... Яно і сапраўды, што ў тутэйшых мясцінах анёл і той раззлуецца. Праўда.

Ён зірнуў у бок Круглікава і ўздыхнуў:

— Неадукаванасць!

Аднак і гэта не дапамагло. Арабін не звярнуў на яго ўвагі, дапіў шклянку, дастаў кніжку, нешта запісаў у ёй, потым паспешліва апрануўся, ірвануўся да дзвярэй, але спыніўся, зірнуў, ці няма ў дзвярах каго з ямшчыкоў, і, быццам абдумаўшы штосьці, раптам рэзкім рухам шпурнуў грошы. Дзве паперкі мільганулі ў паветры, срэбра са звонам пакацілася на падлогу. Арабін знік за дзвярыма, і праз хвіліну на рацэ пад абрывам шалёна загаласілі званочкі.

Усё гэта было зроблена так нечакана і хутка, што ўсе мы, трое маўклівых сведкаў гэтай сцэны, не адразу ўцямілі, што гэта значыць. Як заўсёды ў грашовых пытаннях, першы, аднак, здагадаўся Капыленкаў.

— Заплаціў! — прамовіў ён з пайвялікшым здзіўленнем.— Чуеш ты, Круглікаў? Гэта ж, глядзі, прагоны. Ах ты, братка мой!.. Вось дык гісторыя!

З ямшчыкоў ніхто не бачыў гэтай уступкі з боку грознага Арабын-таёна.

X

Позняй раніцай наступнага дня мы з Капыленкавым зноў садзіліся ў свой вазок. Мароз не паменшаў. З-за гор, што сінелі ў марозным тумане за ракой, бледнымі слупамі прарываліся промні нізкага зімовага сонца. Коні біліся, і ямшчыкі з цяжкасцю ўтрымлівалі азяблую тройку.

На Ат-Даване было сумна, шэра і ціха. Круглікаў, прыбіты нягодай, што абрынулася на яго ўчора, прыгнечаны і прыніжаны, правёў нас да вазка, уздрыгваючы ад холаду, пахмелля і тугі. Ён з нейкай ліслівасцю падсаджваў Капыленкава, захінаў яго ногі кашмой, накрываў полагам.

— Міхаіл Іванавіч,— прамовіў ён нясмела,— будзьце ласкавы, не забудзьце наконт месца. Цяпер ужо мне тут не служыць! Самі бачылі, які грэх выйшаў...

— Добра, добра, братка! — неяк неахвотна адказаў Капыленкаў. У гэту хвіліну ямшчыкі, што трымалі коней, адскочылі ўбакі, тройка рванула з месца, і мы панесліся па ледзяной дарозе. Абрывісты бераг бег назад, туманныя сопкі, на якія я глядзеў учора,— таямнічыя і фантастычныя пад месячным ззяннем,— насоўваліся на нас цяпер хмурыя і халодныя.

— Ну што ж, Міхайла Іванавіч,— запытаў я, калі тройка пабегла роўна,— знойдзеце вы яму месца?

— Не,— адказаў Капыленкаў раўнадушна.

— Але чаму ж?

— Шкодны чалавек, самы небяспечны, т-такі!.. Вы вось падумайце пра яго ўчынкі. Ну, захацеў ён тады, у Кранштаце ў гэтым, начальніка ўважыць — і ўваж! Адмовіўся б начыста ад нявесты і быў бы ўвесь свой век шчаслівы. Ці мала іх, нявестаў гэтых. Ад адной адступіўся — другую ўзяў, толькі і ўсяго. А яго б за гэта чалавекам зрабілі. Не, ён, вось паглядзіце, як уважыў... з пісталета! Ты, братка, мяркуй па-людску: ну, каму гэта можа быць прыемна? І што гэта за наводзіны такія?.. Сёння ён вас гэтак уважыў, а заўтра мяне.

— Дык жа гэта даўно было. Цяпер ён не той.

— Не, не скажы! Чуў жа, як ён учора з Арабіным размаўляў?

— Я чуў: патрабаваў прагоны,— гэта яго абавязак.

Капыленкаў з прыкрасцю павярнуўся да мяне:

— Вось жа разумны ты чалавек, а простага не разумееш. Прагоны!.. Хіба ён яму аднаму не плаціў? Ён, можа, колькі тысячаў вёрст ехаў, нідзе не плаціў. Дык на вось, яму аднаму падавай, добрая цаца!

— Абавязаны плаціць.

— Абавязаны! Хто яго абавязаў, ці не вы з Круглікавым са сваім?

— Закон, Міхайла Іванавіч.

— За-а-кон... Вось і ён учора заладзіў закон. Ды ці ведае ён яшчэ якое гэта слова: «закон»?

— Якое?

— А такое: ты яго раз скажы, дзесяць разоў пры сабе патрымай, пакуль не спытаюць. А то, бач ты, разышоўся: «Закон, па закону!..» Дубіна ты, а не закон табе! Знайшлася мне шышка — начальніку законы ўказваць...

Бачачы, што Міхайла Іванавіч пачынае злавацца звыш усялякай меры, і баючыся, каб канчаткова не сапсаваць справы, я паспрабаваў зайсці, у інтарэсах Круглікава, з другога боку.

— Аднак успомніце, Міхайла Іванавіч, вы ж яму абяцалі.

— Ці мала што абяцаў... Шкода стала, таму і абяцаў...

— Падымай! — крыкнуў раптам Міхайла Іванавіч, таму што вазок, слізгануўшы з нахіленай крыгі, зноў перакуліўся, і зноў Міхайла Іванавіч апынуўся пада мной.

Давялося выйсці. Відаць, у гэтым месцы рака з марозам змагалася асабліва моцна: вялізныя белыя халодныя крыгі абступілі нас, закрываючы рачную перспектыву. Толькі па баках дзікія і страшныя ў сваёй велічы горы рэзка выступілі з туману, ды ўдалечыні, над хаатычным нагрувашчаннем таросаў, віўся ледзь прыкметны белы струмень дыму...

Гэта, напэўна, і быў Ат-Даван.

*1892*

# МАРУСІНА ЗАІМКА

*Нарысы з жыцця ў далёкай старане*

## I. КУТОК

Мы ехалі верхам па даліне Амгі. Коні ціхай «хлыпню»[1] беглі па каляінах якуцкай дарогі.

Гэтыя дарогі зусім не падобныя на рускія, што, раз'езджаныя калёсамі, «абрусам» сцелюцца між зялёных палос. Тут дарогі пратоптваюць толькі капыты верхавых коней. Дзве глыбокія баразны, раздзеленыя мяжой з высокай травой, ідуць усярэдзіне. Яны аднолькава глыбокія і азпачаюцца выразнымі лініямі пыльнага дна. Калі едуць двое — яны плятуцца побач пад лянівую гаворку пра наслежныя здарэнні, пра касавіцу ці прыезд начальства. Трое ў рад едуць ужо нячаста, чацвёра выстрайваюцца дзвюма парамі, адна за адной. Таму некалькі пар бакавых сцяжынак намячаюцца ўсё слабей і слабей, губляючыся ледзь прыкметнымі лініямі ў буйнай траве.

Трава той год была цудоўная. Якут, які ехаў пам насустрач за паваротам, віднеўся толькі сваёй востраканечнай шапкай, прыўзнятымі рукамі каптана, і часам над зялёнай сцяной толькі ўскідвалася галава яго каня. Ён разміяуўся з намі, абмяняўшыся звычайным прывітаннем, і неўзабаве зусім прапаў сярод хваляў зялёнага мора...

Сонца вісела над далёкай горнай градой. І ўлетку яно стаіць у гэтых мясцінах невысока, але свеціць сваімі касымі промнямі ледзь не цэлыя суткі, узыходзячы і заходзячы амаль у адным месцы. Зямля разаграецца павольна, але настаянна і не паспявае значна ахаладаць за кароткую ноч з яе перадраніішнім туманам, і ў поўдзень паўночнае лета дыхае гарачынёй і зззяе сваёй асаблівай прыгажосцю, ціхай і сумнай...

Далёкія горы, ахутаныя сіняй імглой, мроіліся і, здавалася, плавіліся ў знямозе. Лёгкі вецер шавяліў густыя травы, у якіх гарэлі рознакаляровыя ірысы, кашка і яшчэ

[1] Хлынь — самая ціхая рысь *(заўв. перакладчыка)*.

нейкія незлічоныя жоўтыя і белыя галоўкі. Нашым коням варта было павярнуць галовы, каб схапіць, нават не нагінаючыся, пук сакавітай травы з узмежку,— і яны беглі далей, памахваючы заціснутымі ў губах шыкоўнымі букетамі. Дзе-нідзе раптам адкрываліся невялічкія азерцы, нібы лапікі сіняга неба, што ўпалі на зямлю і атулены цяпер смарагдавай зелянінай... І ад усёй гэтай ціхай прыгажосці рабілася яшчэ больш сумна на сэрцы. Здавалася, сама пустыня ў задуменнай млявасці свайго кароткага лета тужыць па нечым далёкім і невыразным.

Мы мінулі невялікую купку юртаў, што размясціліся на ўзгорку над возерам, і зялёны луг зноў прыняў нас у свае маўклівыя абдымкі. Горы другога берага ўжо не тумаліся, а праразаліся пашчамі камяністых яроў, якія шчаціліліся востраканечнымі вяршынямі лістоўніц. Злева ўсё бліжэй падступалі ўзгоркі, раздзеленыя вузкімі лугавінкамі, і цясніны, па якіх бруіліся ціхія рэчкі амгінскага басейна. Па гэтых рэчках хадзілі «вольно, нехранимы» табуны кабыліц, што належалі якуцкім «багатырам» радовічам, якія паспелі і тут, на ўлонні амаль нечапанай прыроды, захапіць лепшыя кавалкі божай зямлі.

Часам у цяснінах глуха чуўся тупат конскіх капытоў, і табун, адзічэлы і ўпасвены на сакавітых травах, выскокваў на лугавіну, прываблены ржаннем нашых коней. Кабыліцы, натапырыўшы вушы і ахарошваючыся, выказвалі яўную цікаўнасць, але важак-жарабок, выцягнуўшы, як раззлаваны гусак, сваю даўгую шыю і ледзь не распусціўшы па траве пышную грыву,— рабіў шырокі круг ля статка, палохаючы легкадумных прыгажунь і заганяючы іх назад. Кабылы баяліся аслухацца і рабілі выгляд, што яны самі вельмі напалоханы, але зноў знікалі за рэчкай, у глыбіні цяснін,— і тады вартавы жарабок выбягаў адтуль назад і, трасучы галавой і сцелючы грыву, грозна падбягаў да нас, пільна і дапытліва цікуючы нашы намеры. Нашы коні ўздрыгвалі ад нецярплівага жадання завязаць дружалюбныя ці варожыя адносіны з падобнымі сабе, і тады нам часта даводзілася звяртацца да нагаек. Жарабок, правёўшы невядомых гасцей з паўвярсты, весела вяртаўся да свайго гарэма, а нашы коні панура апускалі галовы і лянівай хлынню беглі па багатых пустынных лугах. Рабілася яшчэ болей сумна, ціхая і маўклівая прыгажосць пустыні гняла яшчэ болей, маўчанне яе яшчэ больш насычалася нейкімі няпэўнымі, як туман, жаданнямі і вобразамі. Вока трывожна шукала чагосьці ва ўсмешлівай далі. Але насу-

страч трапляўся толькі лянівы дымок юрты над возерам ці якуцкая магіла — невялікі зруб накшталт хаціны з высокім крыжам,— закалыханая густым шэптам дрэў, загадкава пазірала з ўзгорка над вадой...

— Гляньце,— раптам сказаў мой таварыш, стрымліваючы повад разагрэтага каня.

Мы даўно ехалі па вузкай сцежцы, дзве-тры каляіны якой ледзь-ледзь узразалі зялёную цаліну багатага лугу. Недзе мы збіліся, відаць, з праезджай дарогі, але мала клапаціліся пра гэта, таму што падказкай нам лёгка маглі служыць горы таго берага. Цяпер насустрач нам вырастаў малады ярка-зялёны лясок, над вершалінамі якога ўжо знікалі мелавыя скалы. Наша сцяжынка ўраз прывяла нас на ўчастак, з двух бакоў абнесены нечым накшталт плота, які не так часта сустрэнеш у гэтых краях, і неўзабаве перад намі на зялёнай сцяне лесу засінеў дымок.

Мы аглядваліся са здзіўленнем: узаранае поле хоць і нячастая, але звычайная з'ява ў гэтых улусах, але агародаў якуты зусім яшчэ не ведаюць. Праўда, праязджаючы па наслегах [1], мы дзе-нідзе сустракалі лапікі зямлі, якія былі старанна абнесены высокім плотам ці тынам і напаміналі могілкі ці старыя язычніцкія мольбішчы, адгароджаныя ад чужых вачэй. Але гэта былі толькі наслежныя агароды. Адзін з губернатараў, лагодны немец, вялікі знаўца і аматар агародніцтва, найстражэйшымі цыркулярамі прадпісаў, каб па ўсіх наслегах былі заведзены агароды. Якуты дакладна выканалі волю начальства — адвялі па лапіне зямлі і абнеслі яе моцным частаколам, пакінуўшы толькі ўваход, што замыкаўся на замок, ключ ад якога ўручаўся выбарнай асобе. Далей, аднак, справа не пайшла. Губернатара даўно ўжо няма, але да гэтага часу старанна агароджаныя пустыя ўчасткі сведчаць пра яго апеку. Сляды межаў і градак даўно зніклі пад незвычайна буйнымі зараснікамі блёкату і чартапалоху, схаваных ад лугавога ветру...

Цяпер перад намі ляжаў сапраўдны, добра апрацаваны агарод. Высокія градкі ўжо зеляпелі бульбоўнікам і кучаравымі мяцёлкамі морквы. Бледна-зялёная капусная расада радамі тырчала ў неглыбокіх ямках, яшчэ цёмных ад шчодрай паліўкі. Па калках завіваўся гарох, у невялікім зрубе прымітыўнага парніка ўтульна зелянелі парасткі

[1] Наслег — якуцкая вёска, аул *(заўв. перакладчыка).*

агуркоў, якія, відаць, старанна аберагаліся ад ранішніх кароткіх, але адчувальных замаразкаў. Непадалёку хвалявалася ніўка азіміны, якая ўжо каласілася.

Але што больш за ўсё здзівіла нас — гэта невялікая хацінка, якая стаяла пасярод гэтага чароўнага кутка. Гэта была не юрта з нахільнымі сценамі і не сібірскі «свіран» з прамым зрубам і пляскатым земляным дахам, а сапраўдная маларуская хатка з саламянай страхой і старанна абмазанымі сценамі. Толькі вокнамі, часткова са слюды, часткова з асколкаў шкла, устаўленымі ва ўзорыстую бераснянную рамку, адрознівалася гэтае жытло ад якой-небудзь чарнігаўскай ці палтаўскай «хатынкі». Уражаны нечаканасцю, позірк міжвольна шукаў кола з сям'ёй бусла на страсе і высокага «жураўля» крыніцы. Але замест буслоў над палянай з пранізлівым крыкам маладога жарабяці насіліся паўночныя арлы, а ў крыніцы, відаць, не было патрэбы: у некалькіх дзесятках сажняў за хацінай ляжала невялікае азярцо, у якім адбівалася бязвоблачнае неба. На сярэдзіне яго, быццам чорныя камякі, параскіданыя нечай рукой, драмала чародка качак, бесклапотна ўткнуўшы галовы пад крылле...

Качкі былі дзікія, лес быў сібірскі, з лістоўніц, чужы і гэтай хаціне, з яе саламянай страхой, і гэтым градкам...

Мой таварыш, прыроджаны ўкраінец, прыўзняўся на страмёнах, і твар яго нават трохі пачырванеў пад загарам. Ён глядзеў вакол, але нікога і нічога не было відаць. Вецер ціха варушыў салому на страсе, ледзь чутна шапацела трава, і толькі жаласлівы крык арляняці ці каршуна рэзка парушаў цішыню. Здавалася, зараз вось-вось здрыганецца нешта і ўся гэтая ілюзія маларасійскага хутарка на далёкай поўначы расплывецца, як дымнае мроіва...

— Гэй, а хто тут у бога віруе? — крыкнуў мой спадарожнік на роднай мове, на якой, дарэчы, не гаварыў пры мне яшчэ ні разу.

Нешта зашамацела пад тынам, блізка ад нас.

— Ой, лышанька! — сказаў як быццам спалоханы жаночы голас, і хударлявы малады твар з чорнымі вачыма раптам узняўся над заплотам [1]. Твар быў смуглявы, галава завязана па-маларуску «кічкаю» [2], вочы хуткія, жвавыя і трохі дзікаватыя, глядзелі з выразам цікаўнасці і страху. Было зразумела, што жанчына, якую знянацку заспела

---

[1] Заплот — суцэльная агароджа з дошак ці бярвенняў.

[2] Кічка — даўні галаўны ўбор замужняй жанчыны *(заўв. перакладчыка)*.

з'яўленне незнаёмых людзей, наўмысна прытаілася пад плотам у надзеі схавацца ад няпрошаных гасцей.

— Здаравенькі былі,— весела сказаў мой таварыш.

Незнаёмая кіўнула, і ў яе выразных вачах цікаўнасць яўна пераважыла страх. Яна прыўстала над заплотам і нахілілася, азіраючы нас хуткім бліскучым позіркам, ад галоў да капытоў нашых коней... Відаць, гэты агляд не прасвятліў ёй нічога: яе трывога не павялічылася і не рассеялася, а цікаўнасць засталася незадаволенай. Але ў яе чорных вачах усё-такі праглядвала непрыхільнасць. Відаць, смуглянка спадзявалася, што мы спытаем, як выехаць на праезджую дарогу, і рушым далей.

Але мы не спяшаліся ды і былі вельмі зацікаўлены.

— Чыя гэта хатка? — спытаў мой таварыш.

— А вам нашто? — адказала незнаёмая пытаннем і неахвотна дадала: — Ну, Сцяпанава, та мая.

«Што ж вам яшчэ трэба і чаму вы не едзеце?» — як быццам гаварыў яе непрыветны позірк.

Але Сцяпанава імя зацікавіла нас яшчэ болей. Мы ўжо не раз чулі пра гэтага пасяленца, чулі таксама, што ў яго цудоўная гаспадарка і прыгожая гаспадыня. Пра гэта расказваў, між іншым, у адзін з сваіх прыездаў у слабаду засядацель Федасееў, чалавек дабрадушны, вясёлы і даволі разбэшчаны. Ён лічыўся, між іншым, вялікім донжуанам. Аднак на гуллівы жарт паштовага наглядчыка на гэты раз ён злёгку пачырванеў, неяк заклапочана ўзняў бровы і пакруціў галавой.

— Ну, не, бацюхна, памыліліся,— сказаў ён сур'ёзна.— У іх там на возеры сапраўдная... сапраўдная... як гэта, панове, гаворыцца па-кніжнаму?..

— Ідылія? — падказаў нехта з нас.

— Ага, яна! Ды і Сцяпан гэты малайчына. Трапіў сюды за бадзяжніцтва, а відаць, вухарэз. Калі што — галавы, падлюга, не пашкадуе... І прытым лічыць сябе «ў законе»...

— Мядзведзь іх у тайзе абвянчаў, ці што? — не сунімаўся наглядчык.

— Чорт іх ведае... Па бадзяжніцтву, кажа, вянчаныя... Абрад быццам таксама нейкі...

— А вы так проста і адступіліся? — сказаў наглядчык насмешліва. Федасееў зморшчыў бровы, пачырванеў і ніякавата паціснуў плячыма.

У пустынных мясцінах удзельная вага чалавека, асабліва чалавека, які хоць чым-небудзь вылучаецца,— наогул вялікая, і імя Сцяпана «з возера» ці з «Дальняй заімкі»

вымаўлялася ў слабадзе з адценнем значнасці і павагі. «Мы Сцяпана добра ведаем»,— выхваляючыся, гаварылі пасяленцы, а якуты весела ківалі галовамі: «Істэбан білем» (Сцяпана ведаем)... Зусім зразумела, што цяпер, калі мы выпадкова трапілі да гэтага чалавека, нам не хацелася ехаць, не пазнаёміўшыся з гаспадаром...

— А дзе ж сам Сцяпан? — спытаў я, азіраючыся і шукаючы прычыну застацца.

— Няма Сцяпана. У слабаду паехаў,— адказала маладая жанчына неяк паспешліва.— Не хутка і вернецца...

І яе чорныя вочы ўпіліся ў мой вярблюджы каптан з разводамі, якія носяць на капальнях. Здавалася, чалавек у такім каптане якраз і не мог разлічваць на яе прыхільнасць.

— Ну, едзьце з богам,— закончыла яна бесцырымонна.— Няма Сцяпана і няма. Дзе ж мне яго ўзяць... А вам тут заставацца няможна.

Мы з таварышам пераглянуліся, і ён ужо крануў быў каня, як раптам на возеры, на другім беразе, грымнуў стрэл. Узвіўся белы дымок, качкі, хутчэй здзіўленыя, чым напалоханыя, цяжка ўздымаліся над вадой, узмахваючы серпападобным крыллем, якое з цяжкасцю трымала грузныя целы. Арляняты заржалі дзіка і злосна; па возеры, ажыўляючы сонную паверхню, заблішчалі кругі, і трывожная мітусня на хвіліну напоўніла ўвесь гэты ціхі куток.

Але толькі на хвіліну. Кругі разышліся, вада разгладзілася, чарада качак схавалася за ляснымі вяршалінамі... Толькі на самай сярэдзіне нерухома ляжалі дзве забітыя птушкі, а ад берага адчальваў невялікі плыт. Стралок таропка адпіхваўся шастом, час ад часу прыкрываючы вочы рукою і гледзячы з-пад далоні ў наш бок.

— Эге!.. Хутка ж Сцяпан вярнуўся са слабады,— засмяяўся мой таварыш. Але маладая жанчына, ніколькі не разгубіўшыся, паціснула плячыма і паглядзела на нас адкрыта варожым позіркам.

Між тым стралок, падабраўшы качак, прычаліў да берага, саскочыў з плыта і паспешліва накіраваўся да нас, пераскочыўшы цераз агароджу і пераступаючы цераз градкі. Падышоўшы на некалькі крокаў, ён аддаў жанчыне ружжо і кінуў на зямлю качак.

— Калі ласка, панове,— сказаў ён, ветліва здымаючы шапку.— Злазьце з коней.

— Ды нам тут аб'явілі, што вас дома няма,— сказаў мой спадарожнік, усміхаючыся. Сцяпан паглядзеў на жан-

чыну хуткім і гнеўным позіркам, але яна сустрэла гэты позірк бесклапотна і з выклікам.

— Зноў ты, Маруся, за старое... Дурніца,— груба сказаў Сцяпан.— Ну, стаў чайнік, хутчэй.. Птушку вазьмі! Калі ласка, панове! Мы добрым людзям рады...

Жанчына хуценька нагнулася, узяла птушак, а потым яшчэ раз зірнула на нас сваімі дзікімі вачыма. Відаць, нейкае адценне ў Сцяпанавых словах ці голасе прымусіла яе задумацца, і толькі мой каптан па-ранейшаму абуджаў яе сумненне. Пад канец гэтага другога агляду яна ўсё-такі ўсміхнулася, ускінула на плечы ружжо, і яе гнуткі стан замільгаў між градак. Босыя загарэлыя ногі, што відненіся з-пад кароткай спадніцы, звыкла і спрытна ступалі па глыбокіх і вузкіх агародных межах.

— Прабачце, панове! Дзікая яна ў мяне,— сказаў Сцяпан з адценнем задаволенасці, заўважыўшы, што мы любуемся яго Марусяй.— Яна, бачыце, думала, што вы — з капальняў.

— А калі б з капальняў? Дык што ж?

— Запрашалі тут мяне... у іхнюю партыю,— адказаў ён, пазіраючы некуды ўбок.— Дайце я вашых коней прывяжу. Калі ласка, вось сюды.

І ён пайшоў наперадзе, ведучы коней за повад. Гэта быў чалавек высокага росту, з шырокімі плячыма і стройным тонкім станам. У яго былі светла-блакітныя вочы, светла-русыя валасы і амаль зусім белыя вусы, нечаканыя на загарэлым чырвоным твары. Яго можна было назваць прыгожым, калі б не гэты быццам нечым завешаны цьмяны позірк і не гэтыя занадта светлыя вусы на цёмным твары. Вусны ў яго былі поўныя, з нейкай дзіўнай складкай,— грубаватая, яна псавала даволі прыемнае агульнае ўражанне. Ва ўсёй постаці адчувалася нешта быццам надламанае, не зусім нармальнае, хоць і моцнае. Родам ён, як аказалася пасля, быў з Дона.

## II. «БАДЗЯЖНЫ ШЛЮБ»

Праз паўгадзіны мы ляжалі на сакавітай траве непадалёк ад хацінкі. На зямлі патрэсквала вогнішча, і ў жалезным катле закіпала вада.

Вакол пустыня зноў зажыла сваім жыццём. Арляняты і каршуны заліваліся сваім свістам і ржаннем, звонкім і непрыемным, па галінках лістоўніц хадзіў вялы шолах, і качкі, забыўшыся ці нават не ведаючы пра нядаўнюю тры-

вогу, зноў чорнымі камякамі ляжалі на гладкай азёрнай вадзе.

Маруся, здавалася, гатова была прымірыцца з намі. Яна заступіла на ролю гаспадыні, паставіла чайнік і села ля Сцяпана, чакаючы, пакуль закіпіць вада. Пры гэтым яна з яўнай цікаўнасцю бліскала спадылба на нас. Але мой таварыш, у сваю чаргу акінуўшы яе ўважлівым позіркам, сказаў:

— А вы, зямлячка, здаецца, з-пад Чарнігава? Ці з Палтаўшчыны?

Маладая жанчына ўся здрыганулася, як ад раптоўнага ўдару. Па твары яе прабегла рэзкая сутарга, яна з нянавісцю зірнула на неасцярожнага дапытчыка і рэзка ўскочыла. Пры гэтым яна незнарок штурханула чайнік і, не звяртаючы ўвагі на тое, што вада лілася на вуголле, знікла ў дзвярах хаты.

Сцяпан нахмурыўся і, паправіўшы чайнік, сказаў:

— Цяпер ужо не падыдзе... І чай піць не будзе... Дарэмна спыталі...

І, паварушыўшы вуголле, задуменна дадаў:

— Вось так заўсёды. Цяпер я ўжо і не пытаюся... Плача... Ці б'ецца аб зямлю... Пена з рота, як ненармальная. Так і сам не ведаю — адкуль яна...

Ён замоўк. Постаць маладой жанчыны мільганула ля хаціны і прапала на другім канцы агарода. Праз нейкі час адтуль данёсся матыў якойсьці песні. Маруся спявала сама сабе, быццам забыўшы на нашу прысутнасць. Песня то журчала, як верацяно ціхім вечарам, то раптам плакала водгалассем нейкага вострага болю... Так мне, прынамсі, здавалася ў тую хвіліну.

— Мар'я! — крыкнуў быў Сцяпан.— Ну, ідзі, чаго ты! Што ты на самай справе: не з'елі ж цябе...

Жанчына не адказала, але песня змоўкла. Усім нам стала трывожна і няўтульна.

— Эх... трохі недарэчы спыталі,— сказаў зноў Сцяпан.— Можа, абышлося б. Яна ж у мяне забаўная... Іншы раз разыдзецца, песні заспявае...

— А калі вы з ёй сустрэліся? — спытаў я, каб падтрымаць гаворку.— І калі вам не непрыемна, раскажыце, як гэта вы вянчаліся бадзяжным шлюбам?

— Значыць, чулі? — спытаў Сцяпан, страпянуўшыся.— Не, што ж... У мяне гэтага няма... Хаця што! Тут край такі: нікому ніякай справы! Я нават лісты з дому атрымліваў...

На яго твары з'явіліся прыкметы ажыўлення. Відаць, успаміны, на якія навяло яго маё пытанне, не былі яму непрыемныя. Ён толькі азірнуўся ў Марусін бок і сказаў, трохі панізіўшы голас:

— Калі вам расказаць, напрыклад, усю гісторыю, як мы з ёй сышліся, то гэта вельмі цікава... А справа, калі гаварыць па парадку, пачынаецца з катаргі. Значыць, ранняй вясной выбеглі мы з таварышам з N-скіх руднікоў. Снег толькі прайшоў... Рэчкі яшчэ шумелі. Ну, спачатку хаваліся паблізу, у тайзе, як звяры. У галадзе, у халадзе. Гаравалі. Потым выбіліся-такі на дарогу, да Чыты падыходзіць пачалі, месяцы праз паўтара ўжо. Дождж, памятаю, ішоў усю ноч... А перастане дождж — туман... Так на гарах і вісіць. Ну, справа для бадзягі прывычная. Ідзём, пацепваемся. Дождж, маўляў, вымачыць, вецер высушыць. Напляваць! Трэці тут яшчэ да нас прыкамандзіраваўся, бадзяга таксама... Іванам назваўся. Толькі вёрст гэтак, можа, за дзесяць ад горада, раптам з туману двое на нас: «Стой, што за людзі?» Потым паглядзелі і кажуць: «Не, не тыя. Таксама варнакі, але нам на гэты раз непатрэбныя. Чорт з вамі». І пабеглі далей. Апамяталіся мы, перахрысціліся... «А гэта ж, браткі,— гаворыць нам таварыш,— трывога! З замка хто-небудзь уцёк. Трэба нам з дарогі падацца ўбок».— «Давайце,— я кажу,— лепш пойдзем за імі. Гэтыя не зачапілі, а на другіх напорамся, хай бог беражэ...» Ну, і пайшлі мы ў той самы бок, куды гэтыя двое пабеглі...

А гэтай ноччу сапраўды Маруся яшчэ з адной сяброўкай — з астрога ўцяклі. Рэдкасць гэта, вядома, што жанчыны ўцякаюць, але тут, праўда, дапамога ім была... У Чыту прыйшлі яны ў партыі. Самі ведаеце, як жанчыне ў нашым быце...

— Ага, подласць вялікая! — панура сказаў мой таварыш.

— Катарга верхаводзіць,— растлумачыў Сцяпан.— Прадаюць баб, як скаціну, у карты на майдане прайграюць, з насцелі ў пасцель здаюць. Ну, а яна да ўсяго — адчайная, непакорлівая. І цяпер след ёсць: нажыкам адзін парнуў. Як там ужо было, бог яе ведае, толькі злюбілася з адным... Той зух быў таксама, у крыўду ўжо не даваў. Разам і ў Забайкалле прыйшлі. Яму на пасяленне, ёй — на катаргу, толькі ён так вырашыў, што ім не разлучацца. Ну, яны дзве — з сяброўкай — у лазарэт зляглі, быццам хворыя, а ён білет узяў і ўжо ля турмы шастае... Згаварыліся. А лазарэт, з выпадку перабудовы, быў за агароджай...

У Дашы таксама сябар быў, на выседцы, і таксама з ёй уцякаць надумаўся. Вось аднойчы гэтая Даша і кажа наглядчыку: «Прынясі гарнец віна».— «Рады,— кажа,— прынесці, ды без старшага нельга». А старшы... сказаць вам...

Ён запнуўся, злёгку пачырванеў, кінуў позірк у той бок, дзе мільгала над градкамі Марусіна постаць... Яна палола, і да нас зноў далятала журчанне яе ціхай песні. Сцяпан нейкі час маўчаў, напароўшыся ў апавяданні на нечаканую перашкоду. Мы не адважваліся падганяць яго.

— Ну! — сказаў ён нарэшце, матнуўшы галавой.— Што ўжо тут казаць, самі разумееце: катарга — не свой брат. Дык ужо... што было, чаго не было... толькі ў той вечар пайшоў у іх у камеры дым каромыслам: абкруцілі, зачаравалі, дашчэнту ўпаілі і старшага, і наглядчыка, і фершала. Старшы, казалі, дык і не ачухаўся... Самі ведаеце, што баба з нашым братам можа зрабіць... А тут пра галовы быў клопат... Прытым — зелля соннага ў віно падсыпалі...

Ён спыніўся і потым працягваў ужо вальней:

— А на дварэ дождж... Так і лупіць, сячэ, ручаі пабеглі. Мы гэта надвор'е праклінаем у полі, а ім яно якраз падыходзіць. Цёмна. Дождж па даху барабаніць, вартавы ў будку схаваўся ды, відаць, і задрамаў. Вокны без кратаў. Выкінулі яны на двор свае хатулі, паглядзелі: ніхто не ўбачыў. Палезлі і самі... Ішлі ўсю ноч. На золку выйшлі да ракі, куды ім было сказана, глядзяць, а там — нікога!

Сябры, значыць, далі маху! Сышліся пад вечар у прытончыку, ды, можа, успомнілі, што цяпер у лазарэце робіцца. Ну, з гора і кульнулі. Вядома, слабасць. Там яшчэ пляшачку... Ап'янелі ды так, падумайце, і праспалі ноч!.. На світанні прахапіліся: у горадзе ўжо трывога, выйсці нельга!

Так жанчыны і згубіліся. Гэтым чакаць нельга, тым нельга выйсці. Перайшлі яны раку, пайшлі тайгой на ласць божую. А мы таксама далей ад граху — сышлі з дарогі, ідзём ляснымі сцежкамі. Пачалі зноў на дарогу выбірацца, толькі трэці таварыш адстаў: леташнія ягады ўсё шукаў пад кустамі. Даганяе ён нас і кажа: «Паслухайце, браткі, што я скажу вам: тут вось дзве жанчыны ў тайзе сядзяць і плачуць».— «Што ты, бог з табой, якія тут жанчыны?» — «Не ведаю,— кажа,— толькі спадніцы на іх шэрыя, арыштанцкія». Здзівіліся мы, а тут глядзім: выйшлі яны на сцежку і спыніліся. Спалохаліся, вядома. Ну,

але ўсё-такі мы пайшлі, яны за намі. І падысці баяцца, і адстаць страшна!..

Мы ідзём, смяёмся сабе. Выбіліся на прасёлак. Дождж перасціх, ад нас на сонейку пара валіць. Сустрэлі сібірака, піпкі закурылі, потым злезлі ў яр і селі. Яны падышлі, спыняцца ім ужо няёмка, ідуць міма, апусціўшы вочы.

— Добры дзень,— кажам,— прыгажуні.

— Добры дзень.

— Хто вы такія будзеце?

— Пасёлкі [1]... Ідзём у такую і такую воласць.

І сапраўды называюць воласць, якая наперадзе. Навучаныя. Ну, аднак, я пытаюся далей: «Дзе ж вы судзіліся?» — «У Ірбіце».— «А за што?!» — «За бадзянне. Ад мужыкоў збеглі».— «Ну, ужо гэта,— кажу,— даруйце, няправільна. Калі б вы ў Ірбіце судзіліся за бадзянне, то трэба вам не на высяленне, а на катаргу. У Камышлове — іншая справа». Слова за слова, збіліся яны, заплакалі. «Не крыўдзіце вы,— кажуць,— нас, паны!» — «Мы крыўдзіць ніколі не згодныя. Самі пакрыўджаныя, але толькі мы разумеем, што трывога была з-за вас. Як жа цяпер: хочаце з намі ісці?» — «Нам,— кажуць,— з вамі разам ніяк нельга... Ідзіце вы наперад, мы ўжо як-небудзь, калі не хочаце нас крыўдзіць, за вамі. Таму што мы не якія-небудзь, і могуць нас нашы сябры дагнаць...»

Пайшлі мы. Ідзём наперадзе ўтрох, я і кажу: «Вось што, панове. Калі здарыцца нам гэтых жанчын узяць сабе — што рабіць: іх дзве, нас трое». Вось Іван, які пазней далучыўся, і кажа: «Бярыце сабе, хлопцы, мне не трэба. Мне і аднаму цяжка, і гады не тыя. Не цікаўлюся я. Яны разам ішлі, вы таксама разам, от і добра. А я, можа, адстану хутка». Справядлівы быў бадзяга, нічога не скажаш. «Ну гэта,— кажам,— правільна. Без сваркі. Цяпер нам двоім разбірацца».— «Ты,— кажу,— таварыш, як хочаш?» — «Ты пра што?» — «Якую ўзяў бы?» — « А ты?» — «Пра мяне гаворка наперадзе. Гавары сам».— «Ну, я,— кажа,— тую, што вышэйшая». Вось дык асечка. Мне, прызнацца, Мар'я адразу ў вочы кінулася...

Пайшлі. Яны за намі. Вядома, справа жаночая. Нам і пра іх клапаціцца трэба. Запас скончыўся. У вёскі, на заімкі заходзім, пад вокнамі міласціну просім, кандакі [2] зацягваем. Здабываем і на сябе, і на іх. Чай пачнём ва-

---

[1] **П а с ё л к і** — ссыльныя жанчыны *(заўв. перакладчыка).*

[2] **К а н д а к і** — песня ў імя багародзіцы *(заўв. перакладчыка).*

рыць — разам сыдземся. Начавацъ — яны ўжо дзе-небудзь схаваюцца... Ішлі такім чынам тыдзень. Пачалі да Сяленгі падыходзіць. Перавалілі ў адным месцы цераз гару. Бачым: на беразе людзі сядзяць, дым у іх; відаць, што бадзягі, плыт вяжуць, чалавек шэсць. Вось Іван падазваў жанчын і кажа: «Неразумна вы гэтак робіце: сябры вашы, можа, папаліся, можа, запілі, след згубілі. Цяпер, калі ў арцель нічые ўвойдзеце, можа грэх выйсці з-за вас. Хочаце з гэтымі людзьмі далей ісці — гаварыце». Яны, вядома, бачаць, што гэта праўда. Са старымі сябрамі справа рассохлася... Прытым абцерліся мы. Калі пажартуем, калі пасмяёмся. Бачаць, што мы з імі па-добраму, не п'яніцы, не буяны. Кажуць: згодныя.

Так мы да гэтай арцелі і прысталі. Тыя нам радыя: рака бурная, плысці цяжка.

— А наконт жанчын як жа? — спытаў мой таварыш.

— Што жанчыны? — адказаў Сцяпан.— Прыйшлі мы да іх ужо не чужыя... Прытым жа арцель.

— Ну, у турмах таксама арцелі,— сказаў той скептычна.— Ведаем мы арцелі вашы!

— Ведаеце, ды, відаць, не ўсё,— трохі пакрыўдзіўся Сцяпан.— Вядома, у тайзе, з вока на вока... Тут іншы падлюга з-за бродняў [1] таварыша не пашкадуе. Ну, а што датычыць арцелі, ды калі ёсць старыя... Вы вось паслухайце далей. Тут, можна сказаць, справа ў нас яшчэ мудрэйшая выйшла, немаведама як і расхлёбваць давялося б... А абышлося ўсё добра.

— Зварганілі мы немаленькі плыт, — апавядальнік зноў павярнуўся да мяне,— паплылі ўніз на рацэ. А рака дзікая, імклівая. Берагі — камень, ды лес, ды парогі. Плывём на волю божую дзень, і другі, і трэці. Ага, на трэці дзень пад вечар прычалілі да берага, самі ў лагчыне агонь расклалі, бабы нашы ў ягады пайшлі. Бачым, зверху плыве нешта. Спачатку быццам бярвенца падалося, потым бліжэй ды бліжэй несамавіты плыт. На плыце двое, вёсламі махаюць, ляціць плыт, як птушка, і проста да нас.

— Добры дзень,— кажуць.

— Добры дзень.

— Можна да вашага агню прысесці?

— Сядайце, калі вы добрыя людзі.

— Мы,— кажуць,— вашага поля ягады. Гонімся за вамі колькі, ледзьве дагналі.

[1] **Бродні** — сібірскі абутак з высокімі халявамі, якія падвязваюцца над шчыкалаткамі і пад каленьмі.

— Што ж вам трэба? Мы вас не ведаем.

— Можа, хто і пазнае... Ці ўсе вы тут сабраліся?

— Не ўсе: дзве жанчыны ў ягады пайшлі.

— Ну, пачакаем. Прыйдуць яны — мы сваё скажам.

Пасядзелі, пагаварылі пра рознае. Пра справу ні слова. А тут глядзім: ідуць і нашы жанчыны з лесу. Толькі пачалі да берага падыходзіць, гляджу я: стала мая Мар'я як укопаная. Твар бялейшы за кашулю. Дар'я паглядзела, толькі рукамі ўспляснула.

— Ну, вось,— кажуць госці,— спытайце цяпер у гэтых жанчын,— ці ведаюць яны нас? Можа, адракуцца.

Прызнацца, абарвалася ў мяне сэрца: калі, думаю, зараз аддаць мне яе другому, лепей не жыць...

Дар'я смялейшая — выйшла наперад і кажа:

— Не адракаюся. Вы з намі ў партыі ішлі, з турмы вызвалялі. Нашто згубілі?

— Мы згубілі, іншыя знайшлі. Чыя знаходка? — гаворыць адзін, вышэйшы.— Вас тут сямёра, нас двое... Якая будзе ваша праўда? Паглядзім мы, а адступацца не згодныя.

Я кажу: «Мы, браткі, таксама не адступімся. Хай будзе што будзе». Ну, старыя нас развялі і кажуць: «Вось што. Вы, хлопцы, да нас нядаўна далучыліся, а тых і зусім не ведаем. Але ў нас арцель, і трэба рашаць сумленна. Ці згодныя? А не згодныя — арцель адступіцца. Разбірайцеся, як ведаеце...»

Мы, няма чаго рабіць, згадзіліся, тыя таксама. Пачалі старыя меркаваць. Іван з імі. Тыя кажуць: «Мы з імі ў партыі былі. На майдане купілі, грошы аддалі, з турмы вызвалялі». Мы зноў сваё. «Праўда, панове, так. А навошта вы іх згубілі? Мы з імі, можа, тысячу вёрст прайшлі не на казённых харчах, як вы. Па паўсутак пад вокнамі клянчылі. Сябе не шкадавалі. Два разы ледзь у астрог не трапілі, а ўжо ім без нас пэўна што катаргі не мінуць».

Старыя паслухалі нас, потым пагаманілі між сабой і кажуць:

— Ці ўсе вы, хлопцы, з гэтымі жанчынамі на пасяленні жыць згаджаецеся, ці дарогай ісці, а потым кінуць?

Мы, вядома, гаворым: згодны жыць.

— Ну, дык мы, маўляў, вось як памеркавалі. Майдан цяпер успамінаць не трэба. Гэта справа турэмная, на волі гэты закон не дзейнічае. З турмы вы іх вызвалялі, а потым зноў след згубілі па сваёй слабасці. Зноў гэта ні да чога. Ні на які бок не цягне. Спытаем цяпер у саміх жанчын.

— Здагадаліся ўсё-ткі! — усміхнуўся мой таварыш.

— Гэта, вядома... правільна,— сказаў Сцяпан.

Ну, паклікалі жанчын. Даша заплакала.

— Калі ж бы вы,— кажа,— след не згубілі. Мы колькі часу ішлі з імі, яны нас не крыўдзілі....

А Мар'я выйшла наперад і пакланілася ў пояс.

— Ты мне,— кажа,— у турме за мужа быў. Купіў ты мяне, ды гэта ўсё роўна. Калі б іншаму я дасталася, рукі б на сябе налажыла. Значыць, па ахвоце да цябе пайшла... За каханне тваё, за павагу ў ногі табе кланяюся... Ну, а цяпер,— кажа,— паслухай, што я табе скажу: калі я ўжо з турмы выйшла, то болей па руках хадзіць не буду... Прапіў ты мяне ў тую ноч, як мы ў кустах вас чакалі, і другі раз прап'еш. Калі б старыя вырашылі табе аддаць, толькі б мяне і бачылі...

Той толькі вочы апусціў, слова не сказаў. Бачаць, што справа іх не выгарала. Адзін і кажа: «Я цяпер у сваю воласць пайду», а другі: «Мне ісці няма куды. Адна дарога — бадзяжная. Ну, толькі нам цяпер разам ісці нядобра. Бывайце, панове». Узялі кацялкі, усю сваю амуніцыю, пайшлі назад. Адышлі ўверх па рацэ вёрст з пяць, свой агонь расклалі.

Доўга я ноччу не спаў, на іх агеньчык глядзеў. Цёмнай ноччу агонь здаецца блізенька. Думаю: на сэрцы ў яго нядобра. Калі чалавек адчайны, то, можа, агонь у яго гарыць, а ён берагам крадзецца... Ну, аднак, нічога. Раніцай — яшчэ гор з-за туману не відаць — мы ўжо плыт свой спусцілі...

Ён змоўк.

— Ну, а як жа вы сюды разам трапілі?

— Гэта ўжо проста. Зімавалі ў сібірака ў работніках. На другую вясну зноў пайшлі. Давёў я яе да Пермскай губерні. У Камышлова арыштаваліся, назваліся па адно імя... За бадзянне судзяць у катаргу, а паколькі месцы неrapоўнены — у Якуцкую вобласць. У партыі ўжо разам ішлі — усё роўна муж і жонка...

## III. АРАТЫ ЦІМОХА

Доўгі летні дзень усё яшчэ гарэў сваім спакойным святлом, толькі ў паветры адчувалася наступленне прахалоды. Гарачыня разам з бляскам і яркасцю фарбаў спадала непрыкметна.

Сцяпан прапанаваў паляванне на гусей. Мой таварыш

згадзіўся. Я адмовіўся і пайшоў ад няма чаго рабіць прайсціся па лесе. У лесе было ціха і спакойна, стаяў шэры паўзмрок ствалоў, і толькі ўверсе яшчэ гулялі промні, свяцілася неба і хадзіў лёгкі шолах. Я прысеў пад лістоўніцай, каб закурыць папяросу, і, пакуль нада мной, адганяючы буйных лясных камароў, ціха віўся дымок, мяне зусім непрыкметна ахапіла тая раптоўная і туманная дрымота, якая бывае вынікам стомленасці на свежым паветры.

Мяне разбудзілі нечыя хуткія крокі. Між ствалоў мільгала постаць Мар'і; у руках у яе была хусцінка з загорнутым у ёй гаршком і хлебам. Відаць, яна несла некаму вячэру.

Каму? Значыць, насельніцтва гэтага кутка не абмяжоўваецца Сцяпанам і Марусяй... Ёсць нехта трэці. І на самай справе, цяжка было ўявіць, што ўвесь гэты куточак апрацаваны рукамі толькі двух чалавек. Для гэтага трэба было шмат упартай працы і нават творчасці. Я ўспомніў, якімі пустымі і абыякавымі вачыма Сцяпан глядзеў на свае ўладанні... Наўрад ці ён адыгрываў у гэтай творчасці галоўную ролю. На ўсім тут ляжала Марусіна пячаць, пячаць яе асобы і яе радзімы. Але ўсё-такі гэтага было недастаткова. Патрэбна была яшчэ чыясьці ўпартая сіла, чыесьці дужыя рукі...

Постаць жанчыны знікла між ствалоў. Я выкурыў яшчэ папяросу і пайшоў у тым жа напрамку, зацікавіўшыся гэтым невядомым трэцім насельнікам хутара.

Неўзабаве перада мной мільганула лясная высечка. Ворыва густа чарнела тлустымі баразнамі, і трава астраўкамі зелянела толькі ля вялікіх, яшчэ не выкарчаваных пнёў. За вялікім кустом, непадалёк ад мяне, тлела вогнішча, на якім стаяў чайнік. Маруся сядзела напаўпавароту да мяне. У гэтую хвіліну яна распусціла на галаве хустку і папраўляла пад ёй валасы. Скончыўшы, яна пачала есці. З ёй быў яшчэ хтосьці, але за кустом мне яго не было відаць.

Адзін мой знаёмы, які лічыў, што ведае жанчын, зрабіў жартаўлівую заўвагу, што каханне сялянкі лёгка распазнаць па тым, з кім яна ахвотней есць. Гэтая заўвага раптам мільганула ў мяне ў галаве, калі я ўбачыў спакойны Марусін твар. З намі яна была дзікая і непрыступная; цяпер у яе позе, ва ўсіх яе рухах праглядала інтымнасць і поўная свабода.

Маё становішча міжвольнага сышчыка здалося мне не

зусім зручным, і таму, адступіўшы некалькі крокаў па мяккім імху, я выйшаў на палянку ў такім месцы, дзе мяне адразу маглі заўважыць.

Мае падазрэнні рассеяліся адразу ж, як толькі, наблізіўшыся, я разгледзеў Марусінага субяседніка.

Гэта быў чалавек, якому, нават пры вялікай фантазіі, цяжка было навязаць ролю саперніка ўдалога Сцяпана. У той час як на апошнім усё было чыстае і можа нават франтаватае,— работнік увесь аброс гразёю: пыл на твары і шыі размяк ад поту, рукаво бруднай кашулі было разадранае, пацёртая і завэдзганая аблавушка з аленевай скуры бесклапотна сядзела на яго галаве з пыльнымі валасамі, якія былі падрэзаны на лбе і спадалі на плечы, што надавала яму нейкі архаічны выгляд. Такімі малююць старажытных славян. Узрост яго вызначыць было б цяжка: сорак, сорак пяць, пяцьдзесят, а магчыма, і значна менш: гэта быў адзін з тых каржакаватых людзей, нібы пакрытых карою, праз якую не праб'ецца ні бляск маладосці, ні цьмяная старасць. Вочы выцвілі, выліналі ад сонца і непагадзі, яны слаба выдзяляліся на шэрым твары, і толькі прыгледзеўшыся, можна было заўважыць у іх іскру дабрачай хітрынкі.

Дрэнныя якуцкія тарбазкі [1] ён здзеў на час адпачынку, і велізарныя ступакі яго неяк няскладна тырчалі з-пад сініх дабавых [2] штаноў.

— Хлеб-соль! — сказаў я і пакланіўся.

Ён глядзеў на мяне некалькі секунд, не адказваючы, і потым сказаў:

— Калі ласка, просім хлеб з намі есці...

— Можна прысесці?

— Сядай, месца не праседзіш.

Маруся не звярнула на мяне ніякай увагі. Незнаёмы зачэрпнуў некалькі разоў лыжкай з гаршка і, разгледзеўшы мяне з дзелавой цікаўнасцю, спытаў:

— З якіх месц будзеце? Расейскія?

Я назваў сваю губерню.

— Гэта што ж — пад Кіевам?

— Ага.

— За светам,— прамовіў ён і, адклаўшы лыжку, перахрысціўся.— Дзякуй, гаспадыня.

— А вы адкуль?

---

[1] Тарбазкі — мяккія алепевыя боты *(заўв. перакладчыка)*.
[2] Даб — танная кітайская тканіна *(заўв. перакладчыка)*.

— Мы? Мы калуцкія.
— А тут даўно?
— Тут... Ды ўжо, як табе сказаць, гадоў дзесяткі паўтара будзе.
— Даўно! — вырвалася ў мяне міжволі.
— А мне дык быццам і нядаўна. Пажывеш сам гадоў з пятак, а там і не заўважыш... Абвяшчалі, скажам, маніфесты. Мне хоць зараз ідзі куды хочаш, хоць у Іркуцкую... Ды куды пойдзеш? Далёка!
Мне зноў успомніўся Сцяпан, які ўцёк з катаргі, прайшоў з Марусяй усю Сібір, і я з міжвольным страхам паглядзеў на гэтага чалавека, які напамінаў абымшэлы пень, выкінуты хваляй на непрыветную водмель.
Ён дастаў з кішэні капшук і пінку, потым узяў з папялішча гарачы вугаль, які, здавалася, зусім не пёк яму руку...
— Куды пойдзеш? — сказаў ён, выпускаючы дым з рота, і мне стала яшчэ страшней ад безнадзейнасці, якая згубіла нават сваю горыч.— Не, брат, трапіў сюды, тут і костачкі складзеш...
Ён паглядзеў на мяне з-за клубоў дыму, і нейкая думка залягла дзесьці ў невядомай глыбіні яго шэрых вачэй.
— Гэтакі ж вось Ермалаеў быў, калі мы з ім у далёкім улусе сустрэліся. Малады... Я, кажа, тут не зажывуся... Не зажыўся: цяпер ужо барада сівая...
І ён зноў паглядзеў на мяне.
— Вы гэта пра якога Ермалаева гаворыце? Пра Пятра Іванавіча? — спытаў я.
— Ну, ну, знаёмыя, відаць?
— Сустракаліся.
Ён абапёрся спіной на пень і прыняў позу чалавека, які цешыўся з адпачынку.
— Так... жылі мы з ім,— сказаў ён, успамінаючы нешта.— Душэўны чалавек. Ну! Дзівак... А не гаварыў ён пра мяне?
— Не, не гаварыў...
— Пра Цімоху?.. Як мы з ім ва улусе зямлю пачалі араць?
— Не, не гаварыў. А вы раскажыце самі.
— Расказаць табе?.. Бадай, яшчэ не паверыш...
— Раскажы,— раптам ціха і сарамліва папрасіла Маруся...
— Любіць,— сказаў Цімафей, усміхнуўшыся ў Марусін бок.— Усё адно — казку ёй расказвай...

Ён зацягнуўся махоркай, паглядзеў угору, дзе ціха гайдаліся вяршыні лістоўніц і плылі белыя аблокі, і сказаў:

— Так... і праўда, што казка. Мо ў нашай вёсцы таксама не паверац, якія народы ёсць у белага цара. Значыць... прыгналі мяне ў наслег, у самы далёкі па акрузе. А Пётра Іваныч там ужо. Сядзіць... у юртачцы маленькай ды кніжку чытае.

У вачах апавядальніка мільгануў ледзь прыкметны кплівы агеньчык.

— Ну, я, вядома, рускаму чалавеку рады: «Добры дзень, кажу, ваша благароддзе». Потым бачу: аблічча панскае. «Якое, кажа, я благароддзе. Такі ж, кажа, жыган, як і вы».— Ну гэта, кажу, дзякую на добрым слове. А як вас велічаць? — «Пётра, кажа, Іваныч. А вас?» — А я, кажу, Цімафей, проста сказаць, Цімоха, справа мая мужыцкая.— «Не, кажа, нядобра гэтак...» Дзівак!.. Так і пайшло ў нас: я яму — Пётра Іванавіч... А ён мне: Цімафей Авяр'янавіч!.. А генералаў сын... Ну, добра. Напаіў мяне чаем, потым сеў на ароне [1], глядзіць на мяне. Я на яго гляджу... «Што ж, кажа, цяпер мы з табой, Цімафей Авяр'янавіч, рабіць будзем?» — Не ведаю, кажу, Пётра Іванавіч. Каб конь, ды саха, ды насенне,— зямлю б аралі, што ж яшчэ! Ды, бач, няма нічога. Калом яе не ўскалупаеш, пяском не засееш.— «Гэта яшчэ, кажа, нічога. Пра каня і гаворкі няма, саху, пэўна, таксама — хоць далёка — дастанем. Ды я зроду не araў».— Гэта, кажу, нічога. Ты не ўмееш, я ўмею. Уродзіць бог, абодва сытыя будзем. Зямлі, бач, багата, зямля, я паглядзеў, добрая.

У гэты час здалёк данёсся гук выстралу.

— Пастрэльвае твой... гаспадар,— сказаў Цімоха з гумарам, звярнуўшыся да Марусі. Мне падалося, што па твары маладой жанчыны прайшоў нейкі цень.

— Ну,— працягваў Цімафей,— купіў ён каня, за сашніком ды за лемяхам за дзвесце вёрст злётаў. Зрабіў я саху, выбралі месца пад лесам. Тут лес добры, салодкі... Ля сасны, брат, адразу табе скажу, ніколі не ары, таму — сасновая іголка едкая. А лісцвень шмат саладзейшы... Паехаў мой Пётра Іваныч па насенне да скапцоў, а тут якраз і шарахні дождажык ды ц-ё-ёплы. Снег умомант з'ела, пайшла з зямлі трава. Так і лезе, быццам на дражджах. Ну, думаю: калі так, то, відаць, чакаць няма чаго. Памаліўся

---

[1] **А р о н — лаўка ля нахіленай сцяны юрты** *(заўв. перакладчыка).*

ды на досвітку выехаў з сошкай... Налей ты мне, гаспадыня, яшчэ кубачак.

Мар'я наліла ў кубак густога духмянага чаю, падала Цімафею і адразу ж утаропілася ў яго сваімі дзіўнымі чорнымі вачыма. Цімафей выліў чай на сподачак і паставіў на траву, побач з сабой.

— Папацеў я гэты дзень парадкам,— працягваў ён,— зямліца зроду не араная, конь якуцкі дзікі, не надта па ім наарэш: ледзь зазяваўся, ён ужо наровіць матануць у лес, ды і з сахой. Вядома: якія гаспадары, такая і жывёла. Ну, аднак, абламаў я яго: рукі лейцамі ледзь з плячэй не выцягнуў, а ўсё-такі да вечара з чвэрць дзесяціны ўспароў. Паглядзеў на ворыва,— сэрца ў грудзях зарадавалася: значыць, пасобіў бог у пустыні пашаньку ўзараць. Ляжыць палоска на ўзлобку — аксаміт... Аднак пара прыйшла і канчаць. Справа суботняя: у нашай вёсцы, напэўна, ужо і вячэрню звоняць. І вось што, братка ты мой, цуд, дый годзе: толькі я гэта падумаў, чую — і праўда звоняць. Раз, другі, трэці... гэтак вось з-за лесу даносіць,— звон, каб я здаровы быў. Зняў я шапку, лоб перахрысціць, ды раптам і ўспомніў: сіла святая з намі. Ды тут жа і царквы вёрст, лічы, на пяцьсот, няма!..

З Марусіных грудзей вылецеў доўгі ўздых.

— Ну, кончыў усё-такі, прыехаў дамоў. А жытло наша, табе сказаць — юртачка, недалёка была за пералескам, з вярсту не болей ад ворыва. Пад'язджаю,— а ля маёй юрты два высокія якуты сядзяць. Коней да дрэва прывязалі, самі на бервяне гутараць, чакаюць. Раней таксама тут усё круціліся. Я, значыць, ару, а яны, вушастыя, вакол рыскаюць ды глядзяць. Ну, мне быццам і нічога: не на разбой выехаў, на ворыва. Глядзі, каму ахвота. Пад'ехаў, усё як трэба, вітаюцца, я таксама. Клічуць на муняк (сход) да таёншы. Сказаць вам па парадку, дык была ў нашым улусе за начальніка баба, па-іхняму таёнша, удава радовіча багатыра. Ну, язва! Усё, значыць, што мы ні робім, ёй вядома. Я баразну закончыў, другую вяду, а ёй ужо ўсё расказалі. І, значыць, кліча мяне да сябе. Добра, мне што: кліча, трэба ісці. Раніцой, свята ж, кашулю чыстую надзеў, іду да яе, таму што ўсё-такі, як бы там ні было, начальніца лічыцца. Прыходжу. Вакол юрты коней прывязана багата. Сама на двары сядзіць... Пакланіўся я, стаў убаку: што, маўляў, будзе. Забалбаталі яны па-свойму, нічога, няхай на іх ліха, не зразумееш. Потым гукае мяне бліжэй.

— Ты,— кажа,— нюча (рускі), што гэта рабіць задумаў?

— Ну, маўляў, вядома што: зямлю ару. Значыць, я ёй кажу па-свойму, па-руску, а стары якут перакладае.

— Не мажы,— кажа,— ты гэтага рабіць. Мы,— кажа,— хоць пра гэта чулі, але, аднак, у нашых краях не дазволім.

— Як жа,— я кажу,— не дазволіце? Калі нам зямля адведзена, то, значыць, я ёй гаспадар, глядзець мне на яе, ці што?

— Зямлю,— кажа,— мы табе адвялі для божай справы: касі, што бог сам на ёй уродзіць, а псаваць не мажы.

Вось і падумайце, якое іхняе разуменне! Ну, аднак, бачу, стаяць вакол радовічы, чакаюць, што іхняй бабе рускі чалавек можа ад сябе адказваць.

— Гэта,— я кажу,— вы вельмі няправільна тлумачыце, таму што бог наказаў працаваць.

— Працуй,— кажа.— Мы таксама,— кажа,— без працы не жывём. Калі ўжо так, то згодны мы табе даць карову і другую з бычком, значыць, для разводу. Касі сена, кармі жывёлу, спажывай малако і ялавічыну. Толькі граху,— кажа,— у нас гэтага не заводзь.

— Які грэх? — кажу.

— Як жа,— кажа,— не грэх? Бог,— кажа,— наканаваў так, што на табе, напрыклад, зверху скура, а пад ёю кроў. Так?

— Так, маўляў, гэта правільна.

— Калі табе скуру зняць ды ў нутро пакласці, а вантробы, напрыклад, вывярнуць наверх, ты што скажаш?

— Гэтага,— кажу,— вы нада мной, рускім чалавекам, не можаце ніяк...

— А ты,— кажа,— што над зямлёю робіш? Вы,— кажа,— рускія людзі, хітрыя — бога не баіцёся... бог, значыць, зрабіў так, што трава расце наверсе, чорная зямля ўнізе і карэнні ў зямлі. А вы,— кажа,— божую справу навыварат зрабілі: карэнне ўгору, траву закопваеце. Зямля схварэе, травы радзіць нам не будзе, як жыць тады? — Вось бачыш ты, куды павярнула! Гавары ты з імі, з паганцамі. Калі б я грамату ведаў... Пасля ўжо мне свяшчэннік сказаў: «Ты б, кажа, ім ад пісання: у поце твару свайго здабывай хлеб. А адкуль хлебу быць, калі зямлю не араць». Бач: на ўсё слова ёсць, ды не заўсёды яго ўспомніш... Так вось і я, на той выпадак нічога не мог насуперак сказаць, збіла мяне ведзьма словамі. «Мне, кажу, з вамі і гаварыць не трэба: таму вы не тыя словы выказваеце... У вас свой

клімат, значыць, якуцкі, у мяне клімат рускі. Я ад свайго клімату не адстану, і Пётра Іванавіч таксама». Прызнацца, трохі зазлаваў я ў той час, бо прыкра. Сэрца загарэлася, галоўнае, што адказаць не магу. Патузаў сяго-таго як след, дарма што багата іх было. «Вось, кажу, падлюгі вы, погань лясная! Колькі вас ні ёсць, выходзь!» Вядома, народ не хлебны: малако, ды мяса, ды рыба тухлая. А ў нас з Пётрам Іванавічам хлеб усё-такі не пераводзіўся. Хлебнаму чалавеку — дзесяць на адну руку...

— Ну, і што ж?

— Ну, параскідаў, пайшоў. Думаю — жыццё палажу, а ад свайго, значыць, клімату не адступлюся. Толькі б Пётра Іваныч хутчэй вярнуўся. Прыйшоў дамоў, каня напаіў-накарміў, богу на сонейка памаліўся, спаць лёг раней, сякеру ля сябе на ўсякі выпадак паклаў... Ну, праўду скажу: ноч амаль усю не спаў: толькі задрамаў,— падасца што-небудзь... быццам крадзецца нехта... Адзін жа — вакол лес дрымучы... прытым яшчэ, як усё-такі акрываўіў я аднаго, другога, дык як бы, думаю, з гэтага выпадку граху не зрабілі... Канцы таксама схаваць нядоўга. Прыедзе мой Пётра Іваныч, дзе, маўляў, Цімафей свет Авяр'янавіч мой... А Цімохі — агу! — і след прастыў.

Ён спыніўся, каб адпіць чаю. Відаць было, што ўласнае апавяданне разварушыла Цімоху. Вочы яго загарэліся, твар стаў больш далікатны і разумны... У кожнага з нас ёсць свой слаўны перыяд у жыцці, і цяпер Цімафей разгортваў перад намі сваю гераічную паэму.

Мой позірк выпадкова ўпаў на Марусю. Яна як быццам застыла ўся ў хваляванні і чаканні.

— Ледзь сонейка дачакаўся,— працягваў Цімафей.— Ну, абаднела, выкацілася сонейка, устаў я, памаліўся, каня напаіў у возеры, запрог. Выязджаю з-за лесу, да палоскі сваёй... Што гэта за дзіва: ворыва майго, браткі, як не бывала.

З Марусіных грудзей вырваўся працяжны ўздых, амаль стогн... Яе твар выказваў незвычайнае, амаль пакутніцкае спачуванне, і мне міжволі ўспомнілася... Дэздэмона, якая слухала расказы Атэла пра яго прыгоды сярод варвараў. Цімафей, з нечаканым для мяне інстынктам апавядальніка, спыніўся, пакалупаў у пінцы і прадаўжаў, зацягнуўшыся:

— З намі сіла святая! Дзе ж палоска мая? Заблудзіў, ці што? Ды не: мясціна знаёмая і прыкол стаіць... А ворыва майго няма, і на ўзлобку трава аказваецца зялёная... Не

інакш, думаю, чары. Нашаманілі, праклятая парода. Таму — шаманы ў іх, сам ведаеш, наскудныя жывуць, сіла ў д'яблаў вялікая. Навешае вупраж сваю, агонь у юрце патушыць, як ударыць у бубен, пойдзе вар'яцець ды гукаць, тут да яго нечысць гэтая з-за лесу злятаецца.

— Маты божая! — прастагнала Маруся.

Цімафей, задаволены, паглядзеў на яе, і яго шэрыя вочы яшчэ больш заіскрыліся...

— Перахрысціўся я, пад'язджаю ўсё-такі бліжэй... Што ж ты думаеш: яна, значыць, цётка гэта, ноччу з нядзелі на панядзелак народ з усяго наслегу збіла... Я сплю, нічога не думаю, а яны, паганцы, да золку над маёй палоскай завіхаюцца: усе баразны як ёсць, рукамі назад перавярнулі: травой, разумееш ты, угору, карэннямі ўніз. Здалёк як ёсць лугавіна. Прытаптаная толькі.

Маруся засмяялася. Смех яе быў рэзкі, звонкі, перарывісты і непрыемна хваравіты. Некалькі разоў яна неяк дзіўна ўсхліпнула, стараючыся ўтрымацца, і, гледзячы на нервовую сутаргу яе твару, я зразумеў, што ўсё пержытае нялёгка далося гэтай маладжавай прыгажуні. Цімафей зірнуў на яе з нейкай паблажлівай увагай. Яна ўся пачырванела, ускочыла і, сабраўшы посуд, хутка пайшла ў лес. Яе стройная постаць наспешліва, быццам уцякаючы, мільганула між стваловў. Цімафей правёў яе ўважлівым позіркам і сказаў:

— Э-эх, Мар'я, Мар'я! Пайшла цяпер... зашыецца кудынебудзь, у самую глухмень.

— Чаму? — спытаў я.

— Што ты! Нельга смяяцца ёй. Як засмяецца, то потым плакаць. Аб зямлю іншы раз б'ецца... Ці сурочыў хто, бог яе ведае.

Я не мог разабраць, ці то спачуванне чулася ў яго тоне, шкадаванне ці абыякавая пагарда да суроканай бабы. І сам ён здаваўся мне невыразным і дзіўным, хоць ад яго няхітрага расказу пра палоску, узараную ўдзень і над якой усю ноч завіхаліся цёмныя дзікунскія постаці, на мяне дыхнула чымсьці былінным... Што гэта за чалавек, думаў я міжволі: герой своеасаблівага эпасу, які свядома адстойвае вышэйшую культуру сярод ніжэйшай, ці аўтамат-араты, гатовы пры ўсіх умовах узяцца за сваю простую справу?

Некалькі хвілін я варочаў у галаве гэтае пытанне, але адказу неяк не знаходзіў. Толькі лёгкі працяглы і быццам металічны тайговы шолах гаварыў аб нечым, нешта абя-

цаў, але замест адказу навяваў забыццё і ціхую дрымоту. І Цімохава асоба была для мяне без усялякага азначэння...

— Цімафей,— звярнуўся я да яго пасля маўчання.— Што ж, пасля гэтага вы кінулі гаспадарыць?

— Дзе кінуць. Хіба можна, каб кінуць... Узаралі зноў, забаранавалі, я і ружжом пагражаў. Ну, усё-такі перамаглі, праклятая сіла. Галоўная справа,— засядацеля купілі. Перавялі нас з Пётрам Іванавічам у другі улус, бліжэй да горада. Тут яшчэ так-сяк, жылі гады два...

У вачах яго зноў засвяціўся насмешлівы агеньчык, і ён сказаў пасля кароткага маўчання:

— Потым разышліся. Не выйшла, бач ты, у нас нічога. Я яму, значыць, кажу: — Ты, выходзіць, Пётра Іванавіч, гаспадар, я работнік. Пакладзі жалаванне.— А ён кажа: «Я на гэта не згодны. Мы, кажа, будзем таварышы, усё папалам».

— Ну, і што ж? — спытаў я з цікавасцю.

— Ды што: кажу — не выйшла.

Ён паглядзеў перад сабой і загаварыў адрывіста, як быццам гісторыя яго адносін да Ермалаева не пакінула ў ім цэльнага і асэнсаванага ўражання...

— Аддаў Івану цёлку... шасці месяцаў. Я кажу: — Ты гэта, Пётра Іванавіч, нашто цёлку аддаў? — «Ды ў яго ж, кажа, няма, а ў нас тры».— Добра,— я кажу.— Няхай у нас тры. Мы гадавалі... Ён сабе хай нажыве! — Злуецца! «Ты... кажа... мужык, значыць, хрысьянін. Павінен, кажа, разумець».— Ну,— я кажу,— ты, Пётра Іванавіч, вучоны чалавек, а я цёлку аддаваць не згодзен...— Пайшоў ад яго... Да князя ў работнікі наняўся...

— А за што вы сюды трапілі? — спытаў я, бачачы, што гэтая тэма, відаць, вычарпана.

— Мы? — Ён зірнуў на мяне з адценнем недаўмення, як чалавек, якому цяжка перавесці ўвагу на новы прадмет гаворкі.— Мы, значыць, па сваёй справе, па хрысьянскай. Галоўная прычына з-за зямлі. Ну, і зноў, бач ты, сварка. Яны, значыць, так: грамада, значыць, гэтак. Губернатар выязджаў.— Вы,— кажа,— тэрміны прапусцілі...— Мы кажам: «Зямля гэта наша, дзядыаралі, каго хочаш спытай... Навошта нам тэрміны?» Нічога не прымае, ніякіх, значыць, рэзонаў...

— Жонка, дзеці засталіся ў вас на радзіме?

— Вось бачыш ты. Жонка, значыць, памерла ў мяне першым дзіцем. Дачку бабуля ўзяла. Грамада, значыць, і

кажа: «Ты, Цімоха, чалавек, выходзіць, вольны». Ну, яно і гэта самае... і сышлося вось.

Ён, відаць, не хацеў удавацца ў дэталі, хаця і без расказу справа была зразумелая. Грамада, бяссільная перад фармальным правам, вырашыла звярнуцца да «сваіх сродкаў». Цімафей быў выканаўцам... Чырвоны певень, замах на казённыя межавыя знакі, магчыма, удар калом «пры выкананні абавязкаў», магчыма, выстрал з цёмнага саду ў асветленае акно...

— Вы, значыць, трапілі сюды з-за грамады,— сказаў я.

— Во-во... выходзіць, што з-за грамады... Бачыш ты вось.

— А грамада вам не памагае ў ссылцы?

Ён паглядзеў на мяне з недаўменнем.

— Грамада? Ды, я думаю, нашы і не ведаюць, дзе мая галованька.

— Ды хіба вы лістоў не пісалі?

— Я, брат, непісьменны. У Расеі пісаў мне адзін чалавек, ды, відаць, не так што-небудзь. Не патрапіў... А адсюль і ліст, мусіць, не дойдзе. Што ты! За светам, братка мой. Гналі, гналі — вой, бог ты мой!.. Якія лісты! Гэта, гадоў з пяць, чалавек тут сустрэўся, ад нашай вёскі недалёкі. «Перадайце, кажа, Цімафею, дачку яго замуж выдалі!..» Праўда ці не... Я, брат, і не ведаю. Можа, дарма.

Ён сядзеў побач са мной, завязваючы абутак, і гаварыў надзіва раўнадушна... Я глядзеў на яго збоку, і мне здавалася, што яго выцвілыя ад спёкі і непагадзі шэрыя вочы злёгку пацямнелі. Нейкі час мы абодва маўчалі. Ці ён думаў пра далёкую радзіму, пра дачку, якая невядома за каго выйшла замуж, пра грамаду, якая не ведае, дзе цяпер «слабодны чалавек» Цімоха, што пацярпеў за агульную справу. Магчыма, цяпер ніхто, нават родная дачка, не ўспамінае пра яго ў роднай вёсцы, дзе такія ж Цімохі ў гэтую самую хвіліну таксама ходзяць за сваімі сошкамі па сваіх палосках. І хто-небудзь арэ Цімохаву палоску, якая даўно ўжо ўраўнялася ў грамады, як выроўніваецца круг на вадзе ад кінутага каменя... Быў Цімоха, і няма Цімохі... Хіба толькі ў старой маці часам зашчыміць сэрца і сляза пакоціцца з вачэй. І то наўрад: старая, напэўна, на цвінтары...

— Во,— сказаў ён, памаўчаўшы.— Грашым, грашым... А ці багата зямлі і трэба? Усяго, братка, тры аршыны.

Я зразумеў, што для Цімохі не было суцяшэння і ва ўсведамленні, што ён пацярпеў за агульную справу: гра-

мада заставалася грамадой, зямля зямлёй, грэх грахом, яго лёс ні ў якой сувязі ні з якімі вялікімі справамі не быў...

І зноў невыразны ляспы звон засланіў для мяне больш-менш пэўныя ўражанні.

— Так і жывяце ўсё? — спытаў я праз колькі хвілін.

— Так вось і жыву чужынцам у работніках.

— Няўжо нельга было за столькі часу наладзіць сваю гаспадарку?

Ён пачухаў галаву.

— Яно, скажам, гэта самае... Проста сказаць табе... можна... І ажаніўся б. Ды, бач ты, слабасць маю. Грошай няма, то і нічога. А з грашыма гора...

Ён вінавата ўсміхнуўся.

— Чацвёрты год у Мар'і жыву. Хлеб ем, што трэба яна купіць... Не пакрыўдзіць... Не баба — золата! — дадаў ён, раптам ажыўляючыся.— Дарма што суročаная... Каб гэту бабу ды ў іншыя рукі...

— А Сцяпан?

— Што Сцяпан! Вунь, чуеш, пастрэльвае. Гэта па ім. Птушку табе ўлёт саб'е, на возеры падпільнуе, пакуль дзве-тры ў рад выплывуць,— адной кулькай і зніжа... Праўда!

Ён засмяяўся, як дарослы чалавек, што расказвае пра свавольствы дзіцяці.

— Вухарэз, што і казаць. За гэту хватку і сюды трапіў. З катаргі ўцёк, шасцёра буратаў напалі,— сам ад іх адбіўся, вось ён які. Воін. Ці ж яму зямля, братка, у галаве? Яму б з Абрашкам з Ахметзянавым змовіцца, яны б дроў паламалі, нашумелі б да мора, да акіяна... Або калі б на капальні... На капальнях, кажа, я ў адзін дзень чалавекам стану, усё ваша дабро прадам і выкуплю... І праўда,— даўно б яму на капальнях ці ў астрозе быць, калі б не Мар'я.

Ён памаўчаў і праз некаторы час дадаў цішэй:

— Вянчацца хочуць... Усё яна, Мар'я, прыдумляе. Яны, дапусцім, быццам як павенчаныя.

Крывая зняважлівая ўхмылка мільганула на яго твары, і ён працягваў:

— Вакол ракітавага кусціка, відаць... Ну, ёй гэтага, бачыш ты, недастаткова, жадае ў папа.

— Дак жа ён бадзяга!

— Во-во: няпомнячы, імя-звання не гаворыць. Яна тое ж самае. Ну, дык жа... не Расея. Ведаеш сам, які тут край. Глядзі, за бычка і перавянчае які-небудзь.

Ён асуджальна ўздыхнуў і паківаў галавой.

— А ўсё Мар'я... Не хочацца абы-як, хочацца па-добраму... Ну, ды нічога, я ёй кажу, у вас не выйдзе... Хоць вянчайся, хоць не вянчайся, толку ўсё роўна ніякага!.. Чуеш, зноў выстраліў...

— А вы, Цімафей, не любіце Сцяпана,— сказаў я.

Ён як быццам не зразумеў.

— Што мне яго любіць? Не краса дзеўчына... Па мне, што хочаш... Хоць з чатырох канцоў заімку запалі...

І, абуўшыся, ён устаў.

— Нутра сапраўды няма... чалавек ненатуральны. Працаваць возьмецца, то і глядзі, каня скалечыць. Здаровы, чорт. Варочае, як мядзведзь. Потым кіне, стоміцца... Ра-бот-нік!

Ён панізіў голас і сказаў:

— Гэта Абрашка-татарын прыязджаў. Яна яго вілкамі з хаты... А потым паехаў я на балота мох браць, гляджу: ужо яны ўдвух, Сцяпашка з татарынам, па стэпе ўюцца, гуляюць... Коней мяняць хочуць. А ў Абрашкі і конь, я думаю, крадзены.

Праз некалькі хвілін ён ужо хадзіў за сахой, старанна налягаючы на ручку.

— Ну, ну, не бойся,— заахвочваў ён каня,— вылазь, мілая, грабіся... Н-не, брэшаш,— пярэчыў ён камусьці, з сілай налягаючы на саху, калі які-небудзь моцны, не гнілы яшчэ корань імкнуўся выкінуць жалеза з баразны. Дайшоўшы зноў да мяне, ён раптам увесь зазззяў радаснай усмешкай.

— Пшанічку на той год пасеем. Глядзі, якую пшанічку выгане...

Ён увесь змяніўся. Відаць, у гэтай ідэі патанулі для яго ўсе горкія ўспаміны і трывогі, якія я разварушыў сваімі пытаннямі... І зноў ён пайшоў ад мяне сваёй баразной, ласкава пакрыкваючы на каня... Скрыпела саха, чуўся трэск карэнняў, якія рвала жалеза, і стыхійны гоман лесу прымешваўся да маіх думак пра Цімоху, падказваючы нейкія свае незразумелыя словы.

Ля выхаду з лесу, на самай паляне, позірк мой затрымала дзіўная маладая лістоўніца. Некалькі гадоў назад дрэўца, відаць, перанесла нейкі гвалт: магчыма, нейкі вораг паклаў свае лічынкі ў стрыжань — і рост дрэва скрывіўся: яно выгнулася дугой, згорбілася. Але потым, пасля некалькіх гадоў барацьбы, тонкі ствол зноў выпраставўся, і далейшы рост ішоў ужо бездакорна ў ранейшым напрамку: унізе ападалі сухія галінкі і сукі, а ўверсе, над

загібам, буйна і прыгожа разраслася густая зялёная карона.

І мне здалося, што я зразумеў ціхую драму гэтага кутка. Такім жа імкненнем паламанай жаночай душы трымаецца ўвесь гэты маленькі свет: яно вее над гэтай напаўмаларускай хацінкай, над гэтымі чэзлымі градкамі, над маладзенькай бярозкай, якая ціха калыша галінкамі над самай страхой (бярозы растуць тут рэдка — і яе, відаць, перасадзіла сюды Маруся). Ім жыве вечны работнік Цімоха, і яно стрымлівае шалёнае Сцяпанава маладзецтва.

## IV. БЕЛАЯ НОЧ

Матава-белая, свежая ноч ляжала над лугамі, возерам і соннай хацінкай, калі я раптам прачнуўся на сене.

— Вы не спіце? — спытаў у мяне таварыш.

— Нядаўна прачнуўся.

— Нічога не чулі?

— Не, а што?

— Мне падалося, быццам хто плакаў. Відаць, гаспадыня.

— Можа, вам здалося?

— Наўрад. Гэты Сцяпан, відаць, зух. Як па-вашаму?

— Вы з ім былі даўжэй, чым я. Я толькі і чуў яго апавяданне.

— Бадзяжная ідылія,— сказаў ён саркастычна.— Вы ўжо, канечне, запісалі... Хацеў бы я ведаць, ці ёсць тут хоць слова праўды!

— Чаму?

— Ну, ды я ведаю: у вас яны ўсе «іскру праяўляюць». Вось і гэты таксама з іскрай, напэўна.

Ён прыўстаў і паглядзеў на Цімоху, які ляжаў побач, забіўшыся тварам у сена, хроп і ўздрыгваў, нібы ў агоніі. Відаць, гэтае храпенне не давала спаць майму таварышу і, здаецца, разбудзіла і мяне. Павінен прызнацца, што і ў позе Цімохі, і ў яго волатаўскім храпенні мне таксама бачылася ў гэтую хвіліну нейкая свядомая, самазадаволеная нахабнасць, як быццам насмешка над нашай нервовай далікатнасцю.

У тоне майго таварыша я ўлавіў знаёмую ноту. Бязлюдны край і пастаяннае абмежаванае акружэнне, без сваяцкіх і жывых інтарэсаў, развіваюць асаблівы, хваравіты настрой. Разнастайнасць чалавечай асобы разгорт-

ваецца толькі насустрач разнастайпасці асяроддзя; без гэтага яна застойваецца і бля́кне. У такім настроі барадаўка на шчацэ пастаяннага таварыша, знаёмы тон яго голасу, надта добра вядомыя меркаванні выклікаюць глухую нядобразычлівасць, нават злосць. Прыпадкі глыбокай іпахондрыі — спецыфічная хвароба бязлюдных месц,— і мы, па ўзаемнай дамоўленасці, стараліся не трывожыць адзін аднаго ў такія хвіліны.

Таму, не гаворачы ні слова на саркастычныя заўвагі таварыша, які звычайна ставіўся да людзей вельмі дабрадушна і паблажліва, я злез з сена і накіраваўся да коней. Яны хадзілі ў загародцы і раз-пораз паварочваліся да вады, над якой, выціснутая ранішнім халадком, віселa смуга туману. Качкі зноў сядзелі кучкамі на сярэдзіне возера. Часам яны парамі прыляталі з дальняй рэчкі і, ляснуўшыся ля таго берага, працягвалі тут свае начныя містэрыі...

Я пусціў коней да вады. Яны зайшлі ў возера па круп і прагна пілі, часам пырскаючы вадой, нібы свядома цешыліся яе мноствам. Часам яны падымалі храпы і ў цішы белай ночы пачыналі да нечага прыслухоўвацца. Я таксама міжвольна прыслухаўся. З-пад ціхага шолаху тайгі ледзь чутна прабіваўся нейкі працяжны далёкі звон... Па меры таго як чуйнае вуха лавіла яго, ён набываў усё больш пэўныя, хоць і падманлівыя формы: то быццам мерна звінеў знаёмы з дзяцінства звон у родным горадзе, то гудзеў фабрычны свісток, які я чуў са сваёй студэнцкай кватэры ў Пецярбургу... А за імі ішоў цэлы шэраг такіх жа прывідаў-гукаў, якія дзіўна трывожылі душу нейкім шчымлівым успамінам.

Хацінка ціха спала, тайга спакойна варушылася і ўздыхала. І раптам нейкае жудаснае па сваёй канкрэтнасці адчуванне — несвядомы вывад з учарашніх уражанняў — паўстала ў маёй свядомасці... Што чуецца жыхарам гэтага кутка ў галасах пустэльнай ночы ці калі завые зімовая мяцеліца? Якія здані шле ім гэтая чуйная, быццам насцярожаная пустэльная цішыня? Куды яна кліча іх, да чаго вабіць, што абяцае? Ці ўдасца Марусі ўтрымаць завязь жыцця гэтага пасёлка, ці праўда на баку лаканічнага Цімохі з яго песімістычнымі прадказаннямі: усё гэта несапраўднае, зламанай душы ўжо не выпрастацца і чуйная варожасць пустыні пераможа яе намаганні?..

У хаціне рыпнулі дзверы. На парозе паказаўся Сцяпан. Ён пастаяў некалькі секунд, паглядзеў на неба, по-

тым лянiва пайшоў у лес, захапiўшы з сабой аброць. Праз некалькi хвiлiн пачуўся гулкi тупат, i Сцяпан выехаў з лесу на буланым жарабку. Конь бег неяк капрызна i весела; пад'ехаўшы да берага возера, Сцяпан саскочыў на бягу, i напаiўшы каня, прывязаў яго да загарадзi. Калi потым ён зноў падышоў да берага, вочы яго былi цьмяныя, як быццам нечым засланыя. Ён спынiўся i стаяў над вадой моўчкi i нерухома. Вiдаць, яго таксама захапiлi таемныя галасы пустэльнай ночы. Праз хвiлiну ён уздрыгнуў, быццам ад холаду...

— Халаднавата! — сказаў я, каб прыцягнуць яго ўвагу.

Ён азiрнуўся, але як быццам нават не адразу заўважыў мяне. Потым гэтак жа машынальна падышоў i сеў побач са мной на бервяне. Мне падаўся ён дзiўным, як быццам нават хворым. Учора ў iм было ажыўленне чалавека, якi пацягнуўся насустрач новаму знаёмству. Цяпер ён пакорлiва, бяздумна аддаваўся нейкаму ўнутранаму настрою...

Па лясных вяршалiнах пайшоў гул ад перадранiшняга ветру... Дрэвы спачатку загаварылi глыбокiм хорам, потым гул рассыпаўся на асобныя галасы, пашаптаўся i пачаў сцiхаць.

Сцяпан павярнуўся ў бок лесу, як толькi што на мой голас.

— Вецер, — сказаў ён з тым жа малаасэнсаваным выразам на твары i нечакана паглядзеў на мяне позiркам, поўным глыбокага смутку.

— Сiлы не стае, — сказаў ён з прылiвам раптоўнай шчырасцi. — Паверце, нiякай магчымасцi маёй...

— Што ж такое, Сцяпан? — запытаў я з мiжвольным спачуваннем.

— Выйдзеш на возера... усё гэтая тайга шумiць... Вакол пуста... Ды яшчэ во гэтыя праклятыя.

З нечаканым шалам ён схапiў камяк сухой гразi i кiнуў у туман над возерам. Там, быццам праз матавае шкло, вiдаць былi няясныя, павялiчаныя птушыныя контуры. Калi камяк пляснуўся сярод iх, грузныя ценi трохi заварушылiся ў туманным мроiве...

Аднак рэзкi ўзмах i плёскат на возеры, вiдаць, трохi дапамаглi яму ачомацца. Ён зноў сеў i апусцiў галаву на рукi.

— Цяжка тут жыць, пане...

— Ну што ж, Сцяпан. Вам бы на капальнi,

— Маруся не ідзе.

— Ну, вы б на зіму ішлі, а летам зноў сюды... Зараблялі б там, і гаспадарцы падмога. А тут Маруся з Цімафеем управяцца.

Ён павярнуўся да мяне і доўга пазіраў у вочы, быццам штосьці выпытваў.

— Не, пане... Гэта нельга... Гэта ўжо значыць... кончана...

Потым, памаўчаўшы, ён спытаў:

— А Цімафея вы адкуль ведаеце?

— Учора быў у яго на расчыстцы.

— І Мар'я там была?

— Была.

— Ну-ну! Вы не глядзіце на яго, на Цімафея. Хлопец не просты...

І зноў да мяне павярнуліся светлыя вочы на яшчэ больш пацямнелым твары. У іх цяпер выразна праступала нянавісць. Я падумаў, што гэта тая ж знаёмая нам хвароба пустэльных мясцін і абмежаванага людскога кола... Толькі варожыя чары пустыні вельмі глыбока спустошылі буйную і моцную душу. У гэтую хвіліну з трох жыхароў заімкі да Сцяпанавага настрою я адчуў найбольшую блізкасць і сімпатыю.

Зноў рыпнулі дзверы, паказалася Маруся. Потым няўклюдная Цімохава постаць спаўзла па драбінах з сена. Маруся пачала даіць кароў, Цімоха запрог каня і прывёз на агарод вялізную бочку вады для паліўкі. Замыкалі каровы і цяляты, на заімцы пачынаўся дзень... Неба над горнымі вяршынямі слаба афарбоўвалася, але мы былі яшчэ ў даўгім цяні, які накрываў усю раўніну... Акрамя таго, па небе развесілася тонкая рухомая смуга туману...

Гадзіны праз паўтары мы выехалі з заімкі ўтрох. Сцяпан ехаў з намі. Ля яго сядла віселі вялікія скураныя торбы — відаць, шлях яго быў няблізкі. Твар яго быў зноў спакойны, нават вясёлы.

Даехаўшы да праезджай дарогі, ён паказаў нам наш напрамак, а сам павярнуў да ракі. Праз некаторы час мы ўбачылі на другім яе беразе невялікую цёмную кропку, якая ўздымалася па мелавых уступах стромага берага.

— Чаго гэта яго панесла за Нелькан? — задумліва спытаў мой таварыш.

— А вы ведаеце, што ён паехаў туды?

— Ага. Кажа — да папа. Хлусіць, напэўна. Якія ў яго

справы з папамі? Праўду сказаць, нешта падазронае ва ўсёй гэтай ідыліі.

— Думаю, што вы памыляецеся,— сказаў я, не ўступаючы, аднак, у спрэчку. Мне ўспомніліся словы Цімафея пра Марусіна жаданне. У тым баку, куды цяпер ехаў Сцяпан, ляжалі далёкія якуцкія улусы, а потым — тунгуская пустыня, дзе няма ні цэркваў, ні прыходаў у нашым разуменні. Дзе-нідзе толькі, у тайзе, стаяць наглуха забітыя каплічкі, якія адкрываюцца ў рэдкія прыезды святароў-нікаў. Гэтыя бадзяжныя пастары пастаянна аб'язджаюць свой статак, рассеяны па неаглядпай прасторы, вянчаючы мужоў і жонак, у якіх даўно бегаюць дзеці, хрысцячы падлеткаў і адпяваючы нябожчыкаў, косці якіх даўно сатлелі ў зямлі. Аддаленасць ад епархіі і пастаянныя, узаконеныя звычаем адступленні ад кананічных правіл робяць іх асабліва пакладзістымі да розных фармальных перашкод, і я падумаў, што, відаць, Сцяпан накіроўваецца да такога папа, які прывандраваў, магчыма, да мяжы свайго велізарнага прыхода, каб задаволіць запаветнае Марусіна жаданне.

Цёмная кропка на горнай сцяжынцы хутка знікла... Нашы коні зноў беглі каляінамі якуцкай дарогі, зрываючы сакавітую траву з лугавымі кветкамі...

## V. ВАЙНА

Я нічога не даведаўся пра Сцяпанавы перагаворы з папом.

Сцяпан і Мар'я былі два разы ў слабадзе і спыняліся ў нас як знаёмыя. Сцяпан на людзях ажыўляўся, Маруся была па-ранейшаму маўклівая і негаваркая. Год быў няўдалы, хлеб пабіла раннімі замаразкамі, але ў Марусі ўсё ўрадзіла добра. Яе агуркі, якія яна саліла нейкім асаблівым спосабам, добра ведалі нават у горадзе, і здаралася — за імі прыязджалі нарачныя казакі за паўтараста вёрст. Гэтаму не трэба дзівіцца: у гэтых далёкіх, рэдка населеных месцах адлегласці зусім не палохаюць. Адзін амерыканскі падарожнік па Сібіры са здзіўленнем расказваў у сваёй кнізе, як аднойчы ля Калымска яго дагнаў казак, якога паслаў губернатар, каб начціва ўручыць яму партсігар і круг марожанага мяса, забытыя ім на станцыі ў Якуцку. А ад Якуцка да Калымска больш за паўтары тысячы вёрст!

Хаця, у асноўным, Маруся збывала свае прадукты паляку-гандляру, які спяшаўся даставіць іх на капальні. Справы свае яна вяла спакойна, дзелавіта і цвёрда.

— Крэмень-баба! — гаварыў пра яе гандляр, прычым у тоне яго чулася прыхільнасць да прыгожай смуглянкі і павага да добрай гаспадыні.

Сцяпан без асаблівых спраў бадзяўся па слабадзе, заходзіў да татар і прыцэньваўся да коней, рабіў выгляд, што хоча памяняць свайго буланка. Іншы раз ён вяртаўся позна і трошкі нападпітку, але не п'яны. Наогул, я прыглядаўся да сваіх гасцей і пытаўся ў сябе здзіўлена: няўжо тое, што белай ноччу мільганула перада мной на далёкім возеры,— толькі мая фантазія?..

Між тым непрыкметна надыходзіла восень. Ужо са жніўня ранішнія марозы моцна сціскалі зямлю. Да паўдня яна ледзь паспявала адтаць пад касымі сонечнымі праменямі, а ўжо на змярканні яе зноў пачынала падмарожваць. Паветра было чыстае і празрыстае, гукі несліся выразна, ясна, далёка, конскія капыты звонка стукалі па голай, але ўжо скаванай зямлі...

У адзін з такіх дзён Марусіны і Сцяпанавы калёсы зноў спыніліся ля нашых варот. Дзень быў халодны і ясны, акрамя таго, была субота, і на вуліцы відаць былі купкі татар. Насупраць нашага двара, на прызбе, сядзеў мой сусед, татарын Абрашка, той самы, якога Маруся прагнала ад сябе вілкамі. Ён быў нападпітку і даволі з'едліва гукнуў Сцяпана, калі той пачаў здымаць жэрдкі нашых варот. У татарскай фразе мне пачулася таксама Марусіна імя.

Маладая жанчына захавала зняважлівае маўчанне. Па яе твару можна было падумаць, што яна нават нічога не чула. Але Сцяпанаў твар раптам успыхнуў, белявыя вусы і бровы выявіліся рэзка і непрыемна. Ён нічога не адказаў і пачаў заводзіць каня ў загарадку.

Абрашка гучна засмяяўся. Суседзі, што сядзелі побач, яго падтрымалі.

Абрам Ахметзянаў быў чалавек па-свойму надзвычайны. Як і сам ён, так і жонка яго Гарыфа, якую, дарэчы, у слабадзе звалі Мар'яй, зусім не былі падобныя на манголаў. У яго быў круглы твар, вельмі смуглы, праўда, але з мяккімі правільнымі рысамі, і вялікія, ласкавыя, добрыя вочы... Яна ж уяўляла сабой тыповую рускую прыгажуню, трохі распаўнелую, з бойкім і, што называецца, «адчайным» позіркам. Абрашка кахаў яе да шаленства,

але пра яе гаварылі, што яна часцяком здраджвала яму. Аднойчы ноччу, нечакана вярнуўшыся дамоў, ён чамусьці страляў ля сваёй юрты. На другі дзень гаварылі, што футравая шапка нейкага Абдула Сабітуліна была прастрэлена шротам і што толькі густа вышытая цюбецейка ўратавала яго лысую галаву. Сабітулін быў багаты стары... Нейкі час ён баяўся хадзіць міма Абрамавай хаты, а аднойчы апошні, нечакана сустрэўшыся з ім на вуліцы, кінуўся на яго, як кошка. Старога Абдула ледзь вырвалі з рук раз'юшанага Абрашкі. Але я бачыў Абрама і Мар'ю на трэці дзень пасля стрэлу: яна трымала сябе з такім жа ўсведамленнем сваёй п'янкой, пажадлівай прыгажосці, а ён глядзеў на яе такім жа пакорліва закаханым позіркам.

Ён меў рэпутацыю самага адчайнага галаварэза і спрытнейшага злодзея. Я доўга не хацеў верыць гэтаму. Ён быў нашым бліжэйшым суседам і нярэдка аказваў мне і маім таварышам суседскія паслугі. Прытым у вачах яго свяцілася такая прастадушная дабрыня, што я не мог прымірыцца з чуткамі пра яго подзвігі. Толькі аднойчы, пасля нейкага новага двухсэнсоўнага здарэння з Мар'яй, ён піў некалькі дзён і пад вечар, узбуджаны і дзікі, прыйшоў да мяне.

Нейкі час ён сядзеў на лаўцы, глуха стагнаў, хістаўся і пазіраў перад сабой мутнымі вачыма. Потым утаропіўся ў мяне і, нібы пазнаючы, дзе знаходзіцца, сказаў:

— А! Вось гэта я ў каго! Так. Слухай, рускі, што я табе буду гаварыць.

— Гавары, Абрам, што табе трэба?

— Ад'язджаеце ўвечар... прыязджаеце ноччу. Дом кідаеце пуста...

— Дык што ж?

— Узялі ў вас што-небудзь татары?

— Не...

— Гарэлкі пастаў... Адну пляшку. Выпі, брат, з Абрашкам!..

— Не, Абрам,— адказаў я як мог спакойна.— Гарэлкі я не пастаўлю.

— Чаму не паставіш?

— Ты сам ведаеш: мы да вас гарэлку піць не ходзім. Чаю, калі хочаш, завару, а адкупляцца ад вас мы не будзем.

Абрамавы вочы нібы сталі свядомымі.

— Што ты! Браце! — сказаў ён неяк горача.— Няўжо,

крый бог, я па гэта. Абрам Ахметзянаў не каплюжнік[1]... П'яны толькі Абрашка. Сэрца загарэлася... гарэлкі трэба... шмат гарэлкі трэба. А Мар'я, браце, не дае...

Апошнюю фразу ён прамовіў нейкім жаласлівым шэптам. Потым нечакана ўстаў, падышоў да мяне, паклаў руку мне на плячо і, моцна сціснуўшы яго, наблізіў да мяне свой гарачы твар. Вочы яго былі такія ж добрыя, толькі сталі як быццам большыя і ў іх гарэла амаль захапленне...

— Што вы за людзі? — сказаў ён.— Я не ведаю, што вы за людзі... А я вось які чалавек... Ах, бр-раце!.. Калі б не Мар'я... даўно б я сабе катаргу зарабіў!

Я быў здзіўлены глыбінёй і непасрэднасцю гэтых слоў. Тут была і туга па рызыцы, і глыбокая некранутая ўпэўненасць, што якія б там ні былі людзі і погляды, усё-такі найбольш варты той, хто смела носіцца па самых стромкіх жыццёвых кручах... А спатыкніся... адразу трапіш на катаргу.

Толькі ў гэту хвіліну я па-сапраўднаму зразумеў Ахметзянава з усёй яго «нявіннай», тут я не знайду іншага слова, злачыннасцю... З гэтымі поглядамі Абрам вырас і зжыўся. Ён адчувае ў сабе сілы для буйной ролі ў роднай сферы, а між тым даводзіцца траціць іх на дробныя подзвігі баранты[2] і крадзяжу, у той час як яго імя магло грымець нараўне з імёнамі Нікіфарава і Чаркеса — добра вядомых у тыя гады па Лене спіртанбсаў і выкрадальнікаў золата... Я зразумеў таксама, чаму Цімоха ставіў Сцяпанава імя побач з Абрашкам... У жыцці абодвух «бабы» адыгрывалі амаль аднолькавую ролю, і, як гэта часта бывае, Абрам Ахметзянаў ненавідзеў Сцяпана за тое самае, за што, відаць, ненавідзеў і сябе...

У гэты самы дзень Сцяпан усё-такі зайшоў да Ахметзянава, які займаўся карчмарствам. Пайшоў ён туды, калі Мар'і не было, але яна раней вярнулася ад гандляра. На яе твары я заўважыў нейкую нервовую трывогу. Яна чакала, трывожна прыслухоўвалася і раптам уздрыгнула, калі з двара да нас данёсся глухі змешаны шум.

Я выйшаў на двор і ўбачыў Сцяпана. Незвычайна ўзбуджаны, ён шпарка ішоў ад Абрамавай хаты. Відаць, ён толькі што вытрымаў бойку з кучай татар, якія выскаляліся і смяяліся ўслед.

---

[1] Каплюжнік — скнара, крыхабор, карыслівы чалавек.
[2] Баранта — набег з мэтай грабяжу, угону жывёлы.

Дайшоўшы да сярэдзіны вуліцы, ён павярнуўся і пагразіў кулаком.

— Пасмяецеся вы ў мяне, пачакайце! — мармытаў ён, ужо зайшоўшы ў наш двор і не звяртаючы ўвагі на мяне.

Не заходзячы ў хату, ён вывеў каня, які яшчэ не паспеў адпачыць, і пачаў запрагаць яго ў калёсы.

— Куды вы так спяшаецеся, Сцяпан? — запытаў я.

— Трэба дамоў... Толькі вось каб снег не заспеў.— Ён вачыма паказаў на неба.

Я таксама паглядзеў угору. Ледзь пераваліўшы праз ланцуг спусцістых узгоркаў на паўночным захадзе, да нас паўзло цяжкое свінцовае воблака. Яно было аграмаднае і нечаканае сваёй адзінотай на халодным і ясным небе. Рэзка акрэсленае ўгары, нібы спіна велізарнай жывёліны, яно спусціла ўнізе некалькі цёмных адросткаў, якія ціха, злавесна варушыліся, апускаючыся ўсё ніжэй, быццам нейкая пачвара перабірала гіганцкімі шчупальцамі. Але што было яшчэ больш дзіўна, воблака, уздрыгваючы, быццам губляючы сілы ў сваім палёце, паўзло зусім нізка над зямлёй і гатова было ўпасці на слабаду ўсёй сваёй грузнай масай...

Слабаджане ўжо звярнулі на яго ўвагу. У юртах ляпалі дзверы, людзі з цікаўнасцю і трывогай выбягалі на вуліцу. Між іншым, абарыгены глядзелі на неба даволі спакойна, але татары, і асабліва кіргізы, хваляваліся, гучна і трывожна перагаворваліся. Прыдуркаваты кіргіз, які жыў непадалёку, прыцэліўся з ружжа і стрэліў...

Воблака, уздрыгваючы і нібы з напружаннем, раскінулася ўжо над крайнімі юртамі слабодкі. Вакол усё пацямнела і паблякла. Усе прыціхлі, калі над нашымі галовамі, ціха хвалюючыся і варушачыся імглістымі адросткамі, прапаўзла цёмна-свінцовая, з апалавымі прасветамі туманная пачвара, гатовая, здавалася, зачапіцца за стрэхі аціхлай слабодкі... Праз некалькі хвілін яна пранеслася над ракой. Шчыльныя абрысы хмары закрылі скалы і лясы горнага берага... Калі хмара знікла за грэбенем — на ўступах, нібы намаляваныя гіганцкім пэндзлем, бялелі густыя палосы снегу...

Я ачнуўся быццам пасля дзіўнага сну... Над слабодкай зноў іскрыліся апошнія промні скупога асенняга сонца... Людзі яшчэ хваляваліся, гучна абмяркоўваючы значэнне дзіўнай праявы. У дзвярах нашай хаты стаяла Маруся з памярцвелым, спалоханым тварам... Мне зноў падалося, што яна пастарэла і змянілася... Убачыўшы, што Сцяпан

запрог каня, яна хуценька сабрала свае хатулі і, не развітваючыся, не гледзячы на мяне, быццам саромелася паказаць свой твар, выйшла з хаты і села на воз.

Я паспрабаваў быў спыніць іх. Мой таварыш на нейкі час выехаў, у юрце было даволі прасторна, а я адчуваў сябе адзінокім, але Сцяпан адмовіўся наадрэз.

— Не, пане! — сказаў ён, выводзячы каня.— Цяпер пачнуцца мяцеліцы, пара цёмная... А я, дарэчы, з татарамі тут распляваўся...

Ён выцяў каня і, праехаўшы па шырокай вуліцы, спусціўся з лугу. Там мне яшчэ нейкі час быў відзён воз з дзвюма цёмнымі постацямі, якія пастулова патаналі ў сутонні...

А пара сапраўды пачыналася цёмная. Восень крута паварочвала на зіму; штогод у гэты сезон паміж зімой і восенню ў тых месцах дзьме жорсткі вецер. Бурныя ночы напаўняюцца холадам і моракам. Тайга бесперастанна крычыць; у лугах шалёна носяцца слупы снежнага калючага пылу, то пакрываючы, то зноў агаляючы мёрзлую зямлю.

І разам з цемрай, з бурамі і завеямі ў слабадзе і ваколіцах пасялілася трывога.

Амаль палову насельніцтва слабодкі складалі татары, якія глядзелі на гэты сезон са свайго асаблівага пункту гледжання. Мёрзлая зямля не прымае слядоў, а сыпкі снег, што пераносіцца ветрам з месца на месца,— тым болей... Таму часта, выходзячы ноччу са сваёй юрты, я чуў падазроны рух і ціхія зборы на татарскіх дварах... Іржалі коні, скрыпелі палазы, мільгалі ў цемры верхавыя... А раніцой усе даведваліся пра ўзламаны свіран «у якутах» ці пра абрабленне якога-небудзь якуцкага багацея.

Якуты стараліся абараняцца, часам помсціць. Адзін мой прыяцель, паўякут Сяргей, які знаёміў мяне на першым часе з асаблівасцямі мясцовага жыцця, так характарызаваў узаемныя адносіны слабады і яе ваколіц у гэты цёмны час:

— Вайна! Татар у джакут крадзі, джакут у татар крадзі... узад-уперад.

Але, па сутнасці, поўнай узаемнасці ў гэтых адносінах не было. Якуты — народ мірны і ціхі: яны стараліся толькі абараняцца. Праўда — варта было татарскаму каню забегчы ва улус, далей ад слабады, і ён адразу ж трапляў у якуцкі кацёл на агульнае баляванне. Але ў астатнім якуты абмяжоўваліся абаронай, амаль заўсёды няўме-

лай і баязліва-наіўнай. Іх адзінокія раскіданыя юрты перажывалі ўвесь жах безабароннага чакання. Іншы раз праязджаючы ноччу па наслежных дарогах, раптам можна было пачуць адчайныя крыкі, быццам дзесьці рэжуць адразу некалькі чалавек. Гэта насельніцтва юрты, у якой дзве ці тры сям'і сышліся на доўгую халодную зіму, папярэджвала невядомага падарожніка, які ехаў міма па цёмнай дарозе, пра тое, што яны не спяць і гатовыя абараняцца. Толькі гэтыя пагрозы хутчэй нагадвалі пярэпалах ці нават просьбы. Часам за імі ішлі бязладныя, такія ж палахлівыя стрэлы ў паветра. Усё гэта, вядома, было толькі на руку хітрым і смелым татарам, якія чакалі, пакуль якуты настраляюцца і накрычацца, і тады ціха і лёгка ішлі на здабычу.

А восень усё злавалася, снег усё насіўся ў цемры, вецер стукаў у нашы маленькія вокны, і наўкол нашай юрты начамі ўсё чуваць быў ціхі рух то ў адным, то ў другім татарскім двары. Мой верны Цэрбер, якога я ад адзіноты браў да сябе ў юрту, раз-пораз настраўляў вушы і гыркаў асаблівым голасам — як прыродныя якуцкія сабакі гыркаюць толькі на татар ці пасяленцаў...

Я адчуваў сябе, у сваёй юрце наводшыбе, у своеасаблівым становішчы, быццам на астраўку, вакол якога ў імглістым туманным моры кіпела бурлівая дзейнасць піратаў. Часам я здагадваўся, хто з маіх добрых суседзяў выязджае «ў якуты» на промысел ці ў лес за здабычай, якую трэба прыхаваць... Часам ува мне закіпала глухое абурэнне...

Аднойчы ў слабаду, пастукваючы перад сабой кіёчкамі, зайшлі засыпаныя снегам сляпыя стары і старая. Гэта былі няшчасныя, бяздомныя старыя, якія хадзілі да багатых якутаў і зараблялі сабе на хлеб, мелючы збожжа на ручных млынах, на якіх, відаць, малолі яшчэ адысеевы рабыні. Такі млынок ёсць у кожнай якуцкай юрце. На стойцы, у палову чалавечага росту, нерухома ўмацаваны невялікі жарон. Яшчэ адзін свабодна ходзіць над ім на жалезным стрыжні і цэўцы. Даўгая палка адным канцом умацавана над столлю, другім можна круціць верхні камень. Чалавек варочае жорны, жменяй засыпаючы зярняты ў дзірку. Камені ціха і сумна шоргаюць, мука паволі, амаль непрыкметна сыплецца на стол вакол жорнаў. За змалочаны пуд плацяць ад пятнаццаці да дваццаці капеек.

Гэтай працай старыя доўга збіралі грошы і нарэшце

купілі сабе на зіму і на старасць цёплыя футры і коўдры ў выглядзе мяшкоў. Гэта было для іх сапраўднае багацце, пра якое яны доўга марылі. Я бачыў, як летам яны выносілі свой скарб і вытрасалі з яго пыл. Расклаўшы футры і коўдры на зямлі, стары левай рукой намацваў месца, а правай біў гнуткім дубцом. Па інстынкту сляпога ён рэдка памыляўся, але ўсё-такі часам удар трапляў па руцэ... Потым ён перасоўваў руку і біў побач... Гэтую ж работу старыя рабілі ў іншых, калі не было памолу.

Цяпер яны, азяблыя і няшчасныя, ішлі па вуліцы. Слёзы цяклі з невідушчых вачэй старой і замярзалі на твары. Стары ішоў з нейкай гаротнай урачыстасцю і, пастукваючы кійком па мёрзлай зямлі, уздымаў твар высока, быццам пазіраючы ў неба сляпымі вачыма. Аказалася, што яны ішлі «складаць паперу». Гэтай ноччу са свірна якута, у якога старыя зімавалі, укралі іхні скарб, які каштаваў некалькіх гадоў цяжкай працы...

Выходзілі слабаджане, выходзілі татары, глядзелі на гэту пару і слухалі расказ, які пераходзіў з вуснаў у вусны. Абрам таксама стаяў ля сваіх варот і глядзеў на старых добрымі ласкавымі вачыма.

— Добры дзень,— аклікнуў ён мяне,— чаму міма ідзеш, не гаворыш?

Я павярнуўся і падышоў да яго ўпрытык.

— Слухай, Абрам,— сказаў я,— ці добра гэтак?

Ён паглядзеў неяк убок і адказаў звычайным ласкавым голасам:

— Браце! Не я ж гэта зрабіў.

І потым, паглядзеўшы ўслед старым, ён дадаў задумення:

— Відаць, паклалі сваё дабро з гаспадаровым разам...

— Ці не аддасцё цяпер? — усміхнуўся я з'едліва.

Абрам не сказаў нічога. Але праз некалькі дзён ён выпадкова сустрэўся мне на вуліцы. Побач з ім ішоў незнаёмы татарын, даўгі, бы жэрдка, і худы, як шкілет. Параўняўшыся са мной, Абрам пад уплывам нейкай раптоўнай думкі ступіў убок і апынуўся перада мной.

— Слухай, цяпер я табе буду гаварыць,— сказаў ён.— Вось гэтага татарына прыгналі ў наслег. Жонка памерла па дарозе... чацвёра дзяцей... нішто няма... голадам сядзелі, паліць няма чым...

— Праўда! — глуха сказаў высокі татарын і матнуў галавой. Але мне не патрэбна было яго пацвярджэнне:

голад і застыглы адчай пазіралі з яго запалых вачэй, а цёмны твар аддаваў смяротнай абыякавасцю.

— Прасіў, кланяўся на сходзе... Нарэшце прынёс дзяцей ва ўправу і кінуў, як шчанят: рабіце што хочаце. Хоць, кажа, кіньце ў ваду...

— Сама сюды гуляў,— растлумачыў татарын.

— Зразумеў ты маё слова? — спытаў Абрам, гледзячы на мяне гарачымі, бліскучымі вачыма. Я зразумеў, што гэта адказ на мой папрок за старых і што ў слабадзе прыбавіўся яшчэ адзін прадпрыемлівы чалавек.

Але гэта было, як я сказаў, праз некалькі дзён. У той вечар я вяртаўся дамоў увесь яшчэ пад уражаннем сляпога гора абкрадзеных старых. Ноч спускалася непагодлівая і бурная. Вакол юрты ўсё гудзела, над дахам адчайна біўся хвост іскраў і дыму, якія вецер нецярпліва выхопліваў з коміна і слаў па зямлі. На другім двары, куды я пайшоў, каб даць каню сена, мой Шэры біўся, як шалёны. Спачатку і ад мяне ён кінуўся спалохана, але потым падышоў, храпучы і ўздрыгваючы, і паклаў мне галаву на плячо. Ён стрыг вушамі і спалохана прыслухоўваўся да працяжнага крыку тайгі, што налятаў з цёмных узгоркаў і цяснін.

А наўкол шалела і хутка імчалася з узгоркаў за раку нейкая хвалістая каламуць... Слабада прытаілася пад завірухай, як паогул прывыкла прытойвацца пад усялякай нягодай. Часам толькі сярод белай завеі раптам мільгаў сноп іскраў з коміна ці ў прарэху мяцеліцы адкрывалася і зноў знікала нясмелае светлае акенца...

У гэтую хвіліну я пачынаў разумець настрой нашых вёсак, якія то пакорліва зносяць непрыхаваную нахабнасць любога малайца, без боязі і сумлення, то грамадой, якая занадта доўга цярпела ў пакорлівым страху, устрайваюць зверскі самасуд... Палова слабодкі трымае ў такім страху не толькі другую, большую, палову, а і ўсю ваколіцу. І вось цяпер, у гэтую мяцеліцу, то ў той, то ў другой юрце баязліва рыпяць дзверы,— гаспадары асцярожна вызіраюць,— што гэта стукае ля свірна, грабежнік ці непагадзь? А недзе плачуць двое абяздоленых старых, і на многа вёрст навокал чуюцца недарэчныя крыкі і не менш недарэчныя стрэлы напалоханых людзей... І я стаю тут сярод завеі... Я не плывец у гэтым моры, майго месца няма ў гэтай барацьбе; я тут і кроку не ўмею ступіць. І здавалася мне, што нідзе, ва ўсім гэтым, абнятым мяцеліцай, безабаронным свеце няма нікога, хто стаў бы смела і адкрыта

за сваё права... Тыя, здавалася мне, хто хацеў бы што-небудзь зрабіць,— няўмелыя, бяссільныя, маладушныя. А тыя, хто можа,— не хочуць... Кожны дрыжыць толькі за сябе, і няма нікога, хто б зразумеў, што яго справа — частка агульнай справы...

З гэтымі думкамі я вярнуўся ў сваю юрту, але не паспеў яшчэ распрануцца, як мой сабака неспакойна забрахаў і кінуўся да акна. Чыясьці рука змяла з шыбы наліплы снег, і ў акне паказаўся вусаты твар аднаго з маіх суседзяў, ссыльнага паляка Казлоўскага.

— Спіце сабе! — сказаў ён жартам.— А конь дзе?

Я хуценька апрануўся і выбег на двор. Першай была думка, што каня майго ўкралі. Але гэта было не так. Напалоханы мяцеліцай і нязвыклай адзінотай, ён пераскочыў цераз высокую загарадку і пабег у луг. Казлоўскаму сказаў пра гэта Абрам, які бачыў, як конь пранёсся міма яго двара. Абодва яны былі ўпэўненыя, што ён пабег за раку ў якуцкія наслегі. У спакойны час гэта было не вельмі небяспечна, але цяпер якуты маглі палічыць каня татарскім... Давялося адразу ж ехаць на пошукі. Казлоўскі даў мне свайго каня, а на другім сам вызваўся ехаць са мной...

Гэта быў селянін, замешаны ў паўстанні, які адбыў катаргу. Пасля катаргі многія з яго таварышаў вярнуліся на радзіму, а ён, трапіўшы сюды, на край свету, адчуў, як і Цімоха, што гэта вельмі далёка і што яму ўжо няма вяртання. Ён ажаніўся на слабаджанцы-паўякутцы, яго дзяўчынкі гаварылі толькі па-якуцку, а сам ён араў зямлю, прадаваў хлеб, зімой ездзіў як рамізнік і глядзеў на жыццё разумнымі, трохі насмешлівымі вачыма. Яму многае здавалася смешным у мінулым і цяперашнім, а між іншым, і тое, што ён, Казлоўскі, калісьці хацеў выратаваць сваю айчыну, і што ён жыве ў гэтай смешнай краіне з пяцідзесяціградуснымі маразамі, і што яго ўласная жонка паўякутка, і што дзеці яго ляпечуць на чужой для яго мове. Да нас ён адчуваў нейкую паблажлівую павагу, любіў моўчкі слухаць нашы спрэчкі, але пры гэтым пад яго велізарнымі вусамі заўсёды блукала мяккая насмешка...

— Папомніце маё слова,— сказаў ён мне, калі мы рушылі ў дарогу,— гэтай ноччу татары зноў збіраюцца на здабычу... Плачуць якуцкія свірны.

— Чаму?

— Абрашка ладзіць сані і два верхавыя кані на двары.

А вы яшчэ скажыце — дзякуй богу: калі б Абрам спаў, Шэрага б вашага не ўбачыў... У які толькі бок паедуць?..

Дарога наша падбегла да ракі і прыціснулася да берагавых скал. Мясціна была панурая і цесная, справа стромкі бераг закрыў нас ад мяцеліцы. Аддалены гул чуўся толькі на далёкіх вяршынях, а тут было ціха і цёпла. Затое цемра ляжала так густа, што я ледзьве бачыў наперадзе майго белага сабаку. Коні асцярожна ступалі па друзу...

Раптам Казлоўскі нахіліўся і за повад спыніў майго каня.

— Цішэй,— сказаў ён.— Чуеце?

Я прыслухаўся, і мне падалося, што з другога берага ракі, якая тут была вельмі вузкая, рэхам даносілася да нас асцярожнае пастукванне капытоў.

— Вось праклятыя! — сказаў ён з адценнем задавальнення ў голасе.— Узяліся за розум!

— Што гэта значыць? — запытаў я.

— Якуцкая варта. Прачула, відаць, якуццё, што татары збіраюцца... чакаюць гасцей... Эх!.. Вось толькі непрыемна: каб нас за татар не прынялі. Напэўна, здуру грымне каторы з ружжа... Гэй, дагор! — крыкнуў ён паякуцку.— Ці не трапляўся вам шэры конь?

Крокі на тым баку сціхлі, але, калі мы пад'ехалі да броду, па цёмнай рацэ пачуўся плёскат і азначыліся нейкія цені. Праз некалькі хвілін да нас наблізіўся коннік, ведучы за аброць шэрага каня. Калі ён пад'ехаў блізка, я са здзіўленнем пазнаў Сцяпана.

— Як вы тут апынуліся? — запытаў я з міжвольнай радасцю.

— Ды так... справа тут... у якутаў,— адказаў ён няпэўна.— Гляджу: конь знаёмы перапраўляецца. Злавіў ужо на тым беразе... думаю: трэба пачакаць тропкі, можа, спахопіцеся, прыедзеце... А гэта хто з вамі? — запытаўся ён, нахіляючыся ў сядле і ўзіраючыся ў майго спадарожніка.

— Святой, ды не той,— адказаў мазур сваім вясёлым голасам.— Паехаў вось з імі, думаю: можа, бог дасць, і мой конік знойдзецца.

— Таксама прапаў? Калі? — запытаў Сцяпан.

— Ды ўжо гады са два... Уцёк з пакосу ды яшчэ, падлюга, пасяленца на сабе панёс. Конь — бог з ім. Баюся, як бы за пасяленца не адказваць.

Мне падалося, што жарт Казлоўскага трохі зачапіў

Сцяпана, і, каб спыніць гаворку, я падзякаваў за паслугу і спытаў:

— А вам не па дарозе ў слабаду? Пераначавалі б у мяне.

— Не,— адказаў Сцяпан.— Я тут... да прыяцеля...

— Абрашка таксама да прыяцеля наладзіўся,— насмешліва кінуў Казлоўскі, калі мы рушылі назад. Сцяпан, ужо ад'ехаўшы на нейкую адлегласць, спыніўся быў, як быццам запытаць ці сказаць штосьці, але потым ударыў каня і з'ехаў з берага.

— Шанцуе людзям! — сказаў Казлоўскі, весела ўхмыляючыся.— У іншых крадуць, вам вяртаюць. Адзін злодзей убачыў, як конь уцёк, другі злавіў...

— Ну, Сцяпан не злодзей,— сказаў я.

— Зразумела... А як вы думаеце: каго ён тут чакае? У Абрашкі з раніцы конь на прывязі, у Абясава, у Сайфулы, у Ахмета... Чорт іх усіх пабі. Давайце хутчэй выязджаць з вузкага месца, як бы не сустрэцца.

— Але ж Сцяпан з татарамі пасварыўся...

— Ну, мужык з бабай таксама цэлы дзень сварыліся. А, глядзіш, да ночы і памірацца...

Заўвагі Казлоўскага ўразілі мяне самым непрыемным чынам. Мне імпанавала ўпэўненасць, з якой ён, быццам па разгорнутай кнізе, чытаў усё гэтай цёмнай ноччу... І сапраўды, яго прадказанне апраўдалася. Выехаўшы з-за апошняй берагавой скалы ў луг, мы нечакана наскочылі на цёмных коннікаў. Яны спачатку спыніліся, нібы ў нерашучасці.

— Што, знайшоў свайго Шэрага? — сказаў адзін з іх, і па голасу я пазнаў Абрама.— Хутка ж! Я думаў, да раніцы праездзіш.

Потым, калі яны ад'ехалі некалькі сажняў, ён павярнуў каня, дагнаў нас і сказаў сваім ласкавым, прыемным голасам:

— Вось што, хлопец... Мы ж суседзі... Не гаварыце нікому, што нас тут бачылі...

— Якая нам патрэба,— змрочна адказаў Казлоўскі, не спыняючыся.

Астатнюю дарогу мы ехалі моўчкі. Мне быў непрыемны гэты міжвольны, ледзь не сяброўскі нейтралітэт, які выпадаў на нашу долю... Магчыма, Казлоўскі думаў тое ж.

## VI. СЦЯПАН

Прачнуўшыся на наступны дзень, я спачатку палічыў усю гэтую начную паездку проста сном. Толькі кінутае абы-як на падлозе сядло і вопратка, якая не паспела высахнуць, пераканалі мяне ў рэальнасці маёй маленькай прыгоды...

Нягледзячы на тое, што ўсе вокны былі занесены снегам, я адчуваў, што дзень быў святлейшы, чым учора. Ля дзвярэй брахаў сабака, і калі, хуценька абуўшы валёнкі, я ўпусціў яго, ён радасна падбег да пасцелі і, паклаўшы на край халодную пысу, пазіраў на мяне з ласкавай годнасцю, нібы напамінаючы, што і ён шукаў са мной каня, які, у знак пакарання прывязаны да слупа, цяпер іржаў на двары...

Настрой у мяне быў бадзёры, радасны. Аднак неўзабаве пад гэтым настроем я адчуў прысутнасць маленькай гадзюкі, яна шавялілася і шыпела, напамінаючы пра штосьці ядавітае і сумнае...

«Ага! Гэта пра нашага Сцяпана!» — успомніў я раптам...

«Няўжо Казлоўскі мае рацыю? — падумаў я з пачуццём вострага жалю.— Няўжо Сцяпан зрабіў мне паслугу таму, што чакаў татар? Нарэшце не вытрымаў гоману сваёй тайгі, празаічнай ласкі сваёй Марусі і роўнай абыякавасці Цімохі?.. Зноў захацелася прасторы і ўражанняў? Нічога дзіўнага. Нават мая лёгкая прыгода асвяжыла і абнавіла мой настрой, які ўжо застаяўся ад тугі і адзіноты...

Што ж цяпер будзе рабіць Маруся? Як пойдзе яе жыццё? Бурныя сцэны ці пакорлівыя слёзы?.. Прымірэнне і паслушэнства ці разрыў? Няўжо ціхая заімка на далёкім возеры стане складам крадзеных рэчаў і перадатачным пунктам канакрадства? Пойдзе пасля гэтага Цімоха ці будзе рабіць сваё, не ўмешваючыся ў гаспадарскія справы? І ці скора наляцяць на заімку ўлады з Якуцка і для Мар'і са Сцяпанам зноў пойдуць этапы, турмы, новыя ўцёкі? А на заімцы стане пуста і Марусіны градкі зарастуць, як губернатарскія агароды?..»

У маіх сенцах пачуўся тупат, у дзверы хлынуў струмень свежага паветра, і ў юрту зайшоў Казлоўскі. Ён быў падобны на гнома: невялікага росту, з вялікай галавой; бялявая барада была не вельмі даўгая, але тоўстыя пушыстыя і заледзянелыя вусы віселі, як дзве лейчыны.

Шаравата-блакітныя вочы блішчалі незвычайнай дабрынёй і жывым, мяккім гумарам.

— Ну, уставайце,— сказаў ён, усміхаючыся.— Давайце чаю. Навіны раскажу.

— Што такое?

— Што робіцца ў слабадзе — страх! — гаварыў ён, атрасаючы на падлогу белыя камякі свежага снегу.

І, зноў весела бліснуўшы вачыма, сказаў:

— Пабачыце: татары цяпер скажуць, што канечне гэта вы зрабілі! А я з вамі, памятайце, не быў!..

Потым ён расказаў навіну, якая скаланула слабаду, як гром. Аказалася, што гэтай ноччу татары зрабілі адзін з надта смелых набегаў на юрту заможнага якута, якраз там, куды мы ўчора ездзілі. Даволі часта якуты загадзя ведалі пра зборы татар, але татары ледзь не заўсёды скіроўвалі іх увагу ў другі бок. На гэты раз, аднак, смельчакі былі гатовы да сустрэчы праціўнікаў. Калі, пакінуўшы коней у пэўным месцы, яны пачалі падыходзіць да свірна, насустрач ім раздаўся дружны агонь з ружжаў, а другі атрад якутаў у той час кінуўся да татарскіх коней. І рвануўшыся назад, татары паспелі адбіць двух коней, а два, прытым лепшыя, сталі ваеннай здабычай пераможцаў. Папераменна сядаючы на коней, якія засталіся, чацвёра татар на золку з ганьбай прыцягнуліся ў слабаду...

Сярод тых, хто пацярпеў, быў і Абрам Ахметзянаў. Буланага коніка, якім ён ганарыўся як лепшым бегуном у слабадзе, цяпер у двары не было.

Слабада кішэла, як мурашнік. Раз-пораз ляпалі дзверы ў сценах юртаў, суседзі і суседкі бегалі з двара ў двор, то там, то тут татары сварыліся адзін з адным. Татарскае насельніцтва слабады было самае разнастайнае. Тут былі і кіргізы, і ачынскія татары з азіяцкага стэпу, і даўнія пасяленцы Іркуцкай губерні. Усіх іх прывёў сюды, вырваўшы з больш ці менш мірнага асяроддзя суайчыннікаў, не заглушаны культурай запал да баранты. Тут іх аб'ядналі рэлігія і нястача,— але і ў іх асяроддзі былі няроўнасць, варожасць і сваркі. Цяпер, пры паражэнні, дэмаралізацыя асяроддзя адчулася з асаблівай сілай: татары, падазраючы ў здрадзе, папракалі адзін аднаго. Яны не маглі дапусціць, што баязлівыя і нездагадлівыя якуты могуць правесці такую кампанію па сваёй ініцыятыве.

— А ведаеце што,— задумліва сказаў мне Казлоўскі, калі мы пілі чай.— Вы пакуль нікому не кажыце пра Сцяпана.

— Чаму?.. Ці не думаеце вы, што пачнецца следства?
— Я-кое следства! А ўсё-такі памаўчыце.
І ён дадаў, усміхаючыся:
— Яго святому я павінен паставіць свечку... Здаецца, учора я пакрыўдзіў яго дарма.
— Дык вы думаеце, што гэта ён... дапамагаў якутам?..
— Ага! А па-вашаму, якуццё самі б так распарадзіліся? Ніколі! Тут у іх быў нехта за генерала!.. Ну, цяпер пойдзе пацеха!
Сапраўды, з гэтага часу якуты перамяніліся, нібы хто ўдыхнуў нечаканую мужнасць у сэрцы гэтых нясмелых і запалоханых людзей. Абрам Ахметзянаў з таварышамі выязджаў ноччу на месца сваёй няўдачы. Спыніўшыся воддаль, яны крычалі і пагражалі, патрабуючы, каб ім вярнулі коней; але якуты толькі запрашалі іх падысці бліжэй, а наступнай ноччу, як стала вядома ў слабадзе,— арганізавалі засаду ля броду. Праўда, удалы Абрашка ўжо не адважыўся выехаць туды другі раз, і пагрозы татар засталіся пустыя...
За першай няўдачай пайшлі іншыя. Два разы якуты лавілі зладзеяў на месцы і, звязаных, завозілі ў горад, суправаджаючы іх, на ўсякі выпадак, цэлымі атрадамі. Такімі ж атрадамі заяўляліся яны іншы раз у слабаду, прадаючы ў «праўленні» ясныя паказанні і доказы. Праязджаючы па вуліцах міма татарскіх дамоў, якуты дзёрзка пасмейваліся, трымаліся насмешліва і горда.
Цяпер татары ўжо баяліся адлучацца ва улусы нават удзень, а асобныя татарскія сем'і, якія жылі сярод якутаў, пакідалі месцы пасялення і сцягваліся да слабады. Якуты перасталі памагаць ім грашыма, што рабілі раней. Пры гэтым, вядома, цярпелі і мірныя татары, да якіх якуты таксама ставіліся падазрона, баючыся іх сувязі з суайчыннікамі.
Якраз у гэты час Абрам і спыніў мяне, паказаўшы на няшчаснага татарына, які кінуў сваіх галодных дзяцей...
Барацьба, па ўсім, абвастралася. Раней татары кралі, але забойстваў не было. Цяпер яны ўжо ішлі на ўсё, і пры перастрэлках бывалі параненыя з таго і гэтага боку. Быў і яшчэ адзін ускосны вынік наслежнай вайны: кражы ў самой слабадзе сталі часцейшымі.
Аднойчы Казлоўскі прыйшоў да нас заклапочаны і сказаў, усміхаючыся і чухаючы галаву:
— Ці нельга, панове, як-небудзь... утрымаць гэтага вашага прыяцеля?

— Што такое? Якога прыяцеля?

— Ды якуцкага генерала. Гэта ж гора: раней, калі татары ездзілі ў якуты,— у нас кралі, але ўсё-такі жыць было можна. А цяпер жа — з'ядуць падчыстую. Гэтай ноччу ўзламалі два свірны.

Адзін са свірнаў належаў наглядчыку паштовай станцыі. Гэта была бедная станцыя, канечны пункт паштовай дарогі, якая не ішла далей слабады і куды пошта прыходзіла раз у два тыдні. Але наглядчык меў усё-такі чын і ў пэўных урачыстых выпадках чапляў нават шпагу. Да недатыкальнасці паштовай карэспандэнцыі ён адносіўся даволі своеасабліва і лічыў сябе ў поўным праве прысланыя каму-небудзь з пасяленцаў (часцей за ўсё скапцам) залатыя замяняць на тую ж колькасць крэдытак. Але пра ўзлом свайго свірна ён, вядома, зараз жа паслаў самыя энергічныя скаргі ў абласны горад.

Між тым Сцяпанава імя, хоць ні мы, ні Казлоўскі нічога не гаварылі пра яго, было ва ўсіх на языках. У слабадзе пра гэта спачатку гаварылі шэптам, бы здагадваліся, потым з упэўненасцю. Цяпер нават дзеці на вуліцах гулялі ў вайну, прытым адзін бок прадстаўляў татар, другі якутаў пад Сцяпанавым кіраўніцтвам... А ва улусах у доўгія вечары ля печак ужо складвалася сентыментальная доўгая аланхо, быліна пра белавокага рускага...

Мы, вядома, таксама з вялікай цікавасцю ставіліся і да эпізодаў гэтай небывалай барацьбы, і да новай ролі нашага знаёмага. Мой з'едлівы таварыш хоць і тлумачыў усю справу асабістай варожасцю Сцяпана з Абрашкам, але ўсё-такі перамяніў пра яго сваю думку.

— Як бы там ні было, а малайчына! Запальвае іскру, здаровую іскру запальвае...

— Так, чым толькі гэта скончыцца? — заклапочана дадаваў Казлоўскі.— На сходзе вырашылі на ноч ставіць вялікую варту. Давядзецца і вам, панове, з-за прыяцеля памерзнуць...

У канцы лістапада, у ясны зімовы дзень, у слабаду заявіліся госці. Раніцай, вяртаючыся з паездкі ў горад, прыехаў тунгускі поп. Неўзабаве пасля гэтага ля нашых варот спыніліся санкі, у якіх сядзелі Маруся і Цімоха. Іх суправаджалі тры верхавыя якуты,— магчыма, выпадкова, але ўсім гэта падалося нечым накшталт ганаровага эскорту, якім наслег забяспечыў жонку свайго абаронцы. Маруся была апранута па-святочнаму, і ў яе твары я заўважыў штосьці незвычайнае.

А пад вечар таго ж дня па дарозе з горада зноў пачуўся званочак. Дзень быў не паштовы: значыць, ехала начальства. Чаго? Гэта пытанне ў слабадзе заўсёды выклікала пэўную трывогу. Прыродныя слабаджане чакалі якой-небудзь новай раскладкі, татары на некалькіх санях пацягнуліся чагосьці ў лес, верхавы якут паскакаў па старасту... Праз паўгадзіны ўся слабада была гатова да прыёму начальства.

Прыехаў засядацель Федасееў і адразу пасля прыезду запрасіў нас да сябе ва ўезджую хату. Перадаўшы нам некалькі лістоў, ён папрасіў усіх іншых прысутных выйсці і сам замкнуў за імі дзверы. Падышоўшы потым да стала, ён расшпіліў форменны сурдут, быццам яму было душна, і пачаў натоптваць піпку. Здавалася, ён быў у нейкай нерашучасці.

Гэта быў мясцовы ўраджэнец з казакаў, чалавек сярэдніх гадоў, добры служака, які цудоўна ведаў мясцовыя ўмовы. З асабістых рысаў мы ведалі яго слабасць да выпіўкі — са слабады яго часам везлі, паклаўшы ў павозку ледзь не непрытомнага,— і да кніжных слоў, якія ён калекцыяніраваў з прагнасцю аматара і ўстаўляў, праўда, не заўсёды там, дзе трэба, у сваю гаворку. Чалавек ён быў, наогул, добры, і ўсе яго любілі. З намі ён быў не ў блізкіх, але ўсё ж у прыяцельскіх адносінах.

Натаптаўшы піпку і прыкурыўшы яе ад свечкі, якая гарэла на стале, ён нейкі час старанна зацягваўся і нарэшце сказаў:

— У мяне да вас, панове, справа, так сказаць... партыкулярная. Я буду з вамі гаварыць проста: вы знаёмыя з гэтым пасяленцам з бадзяг, Сцяпанам?

— З Дальняй заімкі? Ага, знаёмыя.

— Так!.. Калі ласка, не падумайце чаго-небудзь такога... Ён, здаецца, у вас спыняецца, прыязджаючы ў слабаду?

— Ага, часта.

Засядацель пасмактаў сваю піпку, быццам зараз гэта для яго было самай важнай справай, і сказаў:

— Дзіўны чалавек!

— Чым жа?

— Ды як жа, божа мой: умешваецца не ў свае справы, распараджаецца тут у наслегах, як начальства, заварыў кашу...

Ён устаў з крэсла, відаць, у дрэнным настроі, і, неспа-

койна прайшоўшы па пакоі, сказаў ужо яўна незадаволена:

— Божа мой, што ж гэта такое. Раней быў самы спакойны улус,— цяпер тыдня не праходзіць без здарэнняў. Там страляюць, там чалавека паранілі, там татарына злавілі, валакуць у горад. Толькі і чуеш: дзе здарэнне? На ўчастку Федасеева. Гняздо нейкае.

Я пачынаў разумець настрой засядацеля. Кожная прафесія мае свой спецыфічны пункт погляду. Сямён Аляксеевіч Федасееў не мог не ведаць, што кожны год навакольныя наслегі былі арэнай той жа барацьбы. Але раней адзін бок адносіўся да яе пасіўна. Узламалі свіран, укралі каня, зарэзалі карову, паступае скарга, вінаватых не знаходзяць... Справа аддаецца на волю бога, нават не дайшоўшы да горада; у кожны свой прыезд у слабаду ён заканчваў некалькі такіх спраў простым подпісам пад загадзя складзенымі пастановамі аб спыненні спраў «з-за невыяўлення вінаватых». Гэта і значыла, што на яго ўчастку ўсё было спакойна. Цяпер кожная справа набывала звонкую пагалоску, дастаўляліся злоўленыя на месцы злачынства, адбываліся перастрэлкі; чуткі пра незвычайнае абвастрэнне барацьбы наслегаў з татарамі прыцягвалі ўвагу. Пранікнуўшы ў гэту сутнасць справы, я міжвольна ўсміхнуўся.

— Дазвольце,— сказаў я,— але ж Сцяпан не крадзе і не рабуе, а абараняе і нейкім чынам садзейнічае выяўленню вінаватых.

Сямён Аляксеевіч сеў і паглядзеў на мяне ва ўпор.

— Ну, вось-вось. Гэта самае... Гэта вось і ёсць, так сказаць... цэнтр... менавіта: цэнтр пытання... Скажыце, калі ласка: бадзяга, без імені, звычайны, даруйце, варнак... Адкуль у яго раптам гэтыя... гэтыя...

— Ідэі,— падказаў я, здагадваючыся, куды хіліцца яго думка.

— Ідэі ідэямі, але як гэта яшчэ...

— Рыцарскія.

— Ну, вось-вось,— сказаў ён з палёгкай, і твар яго трохі прасвятлеў...— Вось у горадзе — даруйце, я ўжо буду гаварыць адкрыта...— і разважаюць: з простага варнака робіцца раптам гэтакі, ведаеце, незвычайны, як яго... Рынальда Рынальдзіні свайго роду. Як? Чаму? Адкуль? Кніг ён не чытае... Рознымі гэтымі ідэямі не займаецца... Відаць, тут дзейнічае (ён коса зірнуў на нас) п а б о ч н ы ў п л ы ў...

— Дадайце, Сямён Аляксеевіч, «шкодны»,— сказаў я, усміхаючыся.

Ён папярхнуўся дымам сваёй піпкі.

— Гэтак я, вядома, не кажу... Гэта вельмі высакародна... Нават, можна сказаць, аль... аль... труістычна... Ну, так!.. Але пагадзіцеся самі...

І, стукнуўшы сябе некалькі разоў цыбуком па патыліцы, ён сказаў вельмі ажыўлена:

— Вось дзе ў нас гэтая абарона сядзіць, вось! Толькі і глядзі, з Іркуцка запытанне прыскача на кур'ерскіх... Хто засядацель на ўчастку? Як мог дапусціць такія рэчы!.. А, д'ябал! А я ў параўнанні з іншымі толькі тым і вінаваты, што ў мяне тут... разумееце... абаронца прыгнечаных аб'явіўся...

Яго адчай быў такі шчыры і камічны, што абодва мы з таварышам не маглі ўтрымацца ад адкрытай усмешкі.

Заўважыўшы гэта, Федасееў сам усміхнуўся:

— Ну, добра, напове! Усё гэта верна і справядліва! Вельмі справядліва! Да нек плюс ультра [1]! Прызнаюся вам шчыра: сам у горадзе казаў, што буду дурнем... А ўсё-такі вось у Петрычэнкі свіран зламалі...

— Ну, гэта бяда яшчэ не самая страшная... Чаму гэта, Сямён Аляксеевіч, вам Петрычэнкаў свіран даражэй за сялянскія ці якуцкія?

— Зломяць яшчэ ваш, потым возьмуцца за астатнія. Ды калі падумаць так, па-людску... дык жа больш ім і рабіць нечага.

— Ну, дапусцім,— работнікі яны добрыя.

— А што рабіць? — паныла сказаў засядацель, пачынаючы натоптваць другую пінку.— Абласное праўленне завалена іх просьбамі, каб адвялі зямлю... Просьбы зусім законныя...

— Чаму ж іх не задавальняюць?

— Адкуль? Вы ж ведаеце, што ў слабаджан у саміх зямлі няшмат. Ледзь удалося схіліць сялян уступіць па тры чвэрці дзесяціны накосу... Што такое тры чвэрці дзесяціны?

Ён закурыў і загаварыў зусім іншым тонам, проста і ўжо сапраўды зусім партыкулярна:

— Па закону нельга сяліць ссыльных больш чым на адну трэць проці мясцовага насельніцтва. А іх тут цяпер ледзь не столькі, колькі слабаджан. Дзе ж узяць зямлі?

---

[1] Nec plus ultra *(лац.)* — да апошняй ступені.

— Вось пра гэта ў горадзе і трэба было падумаць.

— Э, бацюхна, думалі! Нават пісалі шмат, бо гэта ж не ад нас. «Для зручнасці нагляду — пасяліць у адным месцы пры слабадзе...» Вось вам і зручнасць нагляду.

— Паўтараць... дабівацца.

— Паўтаралі колькі разоў!.. (Ён махнуў рукой з выглядам поўнай безнадзейнасці.) А цяпер я вам шчыра скажу: усіх захопленых якутамі татар мы выпусцілі.

— Што? А, здаецца, доказы поўныя.

— Турма яшчэ паўнейшая. Нядаўна прыслалі партыю спіртаносаў з атрада Нікіфарава. Гэтыя малайцы ў Алекмінскай тайзе далі сапраўдны бой казакам з капальні. Гэта важней за якуцкія свірны. А ў астрозе яблыку недзе ўпасці... Эх, панове, панове!.. Трэба судзіць па-людску. Мы ўсе так заблыталіся... Калі б прыехаў зараз які-небудзь рэвізор з таго ж Іркуцка: мы тут у «парушэннях», як у павуціне... А калі б разабрацца як след, па-людску...

Развіталіся мы зусім па-сяброўску. Мы растлумачылі засядацелю, што наш уплыў у гэтым выпадку наўрад ці можна браць пад увагу...

— А збіў жа ён вас, прызнайцеся,— сказаў па дарозе мой таварыш, які маўчаў амаль увесь час нашай размовы.

— Прызнаю ахвотна,— адказаў я.— Сапраўды, другая палова нашай гаворкі зрабіла на мяне моцнае ўражанне.

— І галоўнае, чым збіў,— працягваў мой прыяцель,— вы гаварылі тое, што павінен быў гаварыць ён, а ён — тое, што, па сутнасці, павінны былі сказаць вы...

І гэта было справядліва. Кароткая размова з засядацелем зноў адкінула мой настрой у вобласць таго нейтралітэту, які па нейкаму інстынкту прызнала за намі самое асяроддзе... Але што рабіць? Жывому чалавеку цяжка абмежавацца роллю сведкі, калі жыццё вакол кіпіць барацьбой... Друк? Карэспандэнцыі? Асвятленне агульных умоў? Доўга, далёка, няправільна!..

Далей мы абодва ішлі моўчкі. Па баках ціха пераліваліся агні ледзяных акон... Слабодка звычайным парадкам канчала свой просты дзень, не задаючыся ні думкамі, ні пытаннямі... Яна жыла як магла, і нам выпала роля пасіўных сведкаў гэтага жыцця. І ніколі яшчэ гэтая роля не здавалася мне такой цяжкой...

На вуліцы нас спыніў Казлоўскі, які чакаў ля сваіх варот, каб даведацца пра вынікі нашых перагавораў з засядацелем... Разумны паляк уважліва выслухаў наш расказ і сказаў пераканана:

— А што вы думаеце: далібог, праўда! Што трэба гэтаму Сцяпану, на самай справе? Якое шыла ў ім сядзіць, што ён такую кашу заварыў? Не паверу я, што гэта ён з-за якутаў.

Я расказаў тое, што ведаў сам. Успомніў Дальнюю заімку, хваравіты Сцяпанаў прыступ ноччу над возерам, яго скаргі на пустату жыцця, яго парыванні на капальні, ад якіх яго ўтрымлівала ўпартае супраціўленне Марусі...

— Мудрона ўсё гэта,— задумліва сказаў Казлоўскі і дадаў рашуча: — Ну, папомніце маё слова, доўга гэта ўсё роўна не працягнецца... А я быў у вас: там цяпер поп у гасцях... Што яны свяціць збіраюцца?

Я здагадваўся, пра што ішлі перагаворы з бадзяжным свяшчэннікам, і мы ў нейкай нерашучасці спыніліся непадалёк ад нашай асветленай юрты, каб не перашкаджаць перагаворам, якія вырашалі Марусін лёс. Вечар быў марозны, але бязветраны і ціхі, і мы думалі яшчэ раз прагуляцца па вуліцы ці нават зайсці на нейкі час да Казлоўскага, як раптам дзверы нашай юрты расчыніліся і з яе выйшаў Цімоха. Яго прысадзістая постаць, у кажуху і нязменнай аблавушцы, уся аблітая халодным месячным святлом, здалася мне нейкай асабліва ўстойлівай, каржакаватай і моцнай. Калі ён параўняўся з намі, у марозным паветры адчуўся вінны пах.

— Куды гэта вы, Цімафей? — запытаў я.

— Ды што, браткі... Сам не ведаю: запрагаць, ці што... Ужо ж усё відно: ні д'ябла не выйдзе. Не бываць, відаць, пляшываму кучаравым.

— Пра што гэта вы гаворыце?

— Ды ўсё пра тое. Яна, вядома, хоча, каб па-добраму, як, словам сказаць, у людзей. А яму б, гультаю, гуляць... Нельга яму без Абрашкі.

— Дык яны ж з Абрамам цяпер на нажах?

— Во-во і я кажу... Не шэрсцю, дык воўнай... Усю татарскую сілу ўзняў. Чужых, бач ты, свірнаў шкода... Свой, кажу, ці ўберажэш, Сцяпанка... Сказана: ненатуральны чалавек... Шаляніца!

Потым, нахіліўшыся да нас, ён дадаў цішэй:

— Усё, лічыце, гатова было. Бычка ды двух цялушак ужо я да якутаў завёў на станцыю. Папу, значыць, міма ехаць,— узяў бы. Ды грошай пятнаццаць рублёў. Усё прызапасіла Мар'я... Аж нічога.

— Чаму?

— Ды вось, гэта самае: бойкі надта. Цяпер пра яго не

тое што... у горадзе гаворка ідзе. Павянчай гэтакага хахаля,— будзеш па свяце... Таксама ж не дзве галавы, хоць і ў папа гэтага...

У гэты час дзверы юрты расчыніліся зноў, і на парозе з'явілася высокая постаць, уся ў футры і з посахам у руцэ. Гэта быў свяшчэннік. У знаёмых я ўжо раз бачыў гэтую характэрную постаць, усю прасякнутую каларытам халоднай і дзікай пустыні. Родам з далёкай Камчаткі, сапраўдны падзвіжнік сваёй цяжкай місіі, ён развучыўся нават гаварыць поўнымі сказамі і гаварыў коратка, аднаслоўна, але па-свойму пэўна і моцна. Ніколі я не бачыў чалавека, які б мог так піць, і прытым без усялякіх вынікаў. Субяседнікі валіліся адзін за адным, а ён працягваў, усё такі ж моцны і маўклівы. Толькі чорныя вочы яго трохі разгараліся, а твар бялеў. На многае ён глядзеў занадта спрошчана, але мне здавалася, што пад гэтай грубай абалонкай б'ецца някепскае сэрца...

Заўважыўшы на дварэ нашу групу, ён падышоў блізка і сказаў грубавата-прастадушна, адсякаючы словы:

— Плача. Дурная. Шкода. Баба добрая.

— Баба як ёсць... Хоць у Расею вазьмі,— адгукнуўся Цімоха.

— Мог бы, абвянчаў бы. Не венчаныя. Пабажылася. Веру. За грэх не лічу. Імёны ты, госпадзі, ведай. А мне пятнаццаць рублёў — грошы...

— Як не грошы! — пераканана падтрымаў зноў Цімоха.— У гэтых месцах дзе возьмеш?

— Дык у чым жа справа, бацюшка? — спытаў я.

— Нельга... Чалавека бачу. Не той чалавек.

— Правільна! — пацвердзіў Цімоха.

— І ёй не такога б. Шкода. Але, нельга.

Ён сунуў нам сваю вялізную руку і пайшоў да варот, кідаючы на белы снег гіганцкі чорны цень.

— Ха-а-рошы бацька,— сказаў Цімафей з нейкай асабліваю цеплынёй у голасе...

Ён пайшоў да коней, а мы зайшлі ў сваю юрту. Тут яшчэ ярка гарэў агонь, на стале відаць былі пустыя пляшкі і рэшткі пачастунку. Маруся ляжала за перагародкай, схаваўшы твар у падушку...

Прайшло хвілін дваццаць. За перагародкай узмацніліся глухія стрыманыя стогны... Мы пачыналі ўжо баяцца якога-небудзь хваравітага прыпадку, але ў гэты час, на нашу палёгку, зайшоў Цімоха і сказаў неяк проста і рашуча:

— Ну, гаспадынька! У мяне коні гатовы. Паехалі, ці што.

У яго грубым голасе я пачуў нязвычна мяккую пяшчотную ноту.

— Куды ж гэта вы на ноч гледзячы? — сказаў мой таварыш.— Ды і небяспечна, глядзіце.

— Чаго гэта? — спытаў Цімафей.— Гэта ты пра татар? Эге! Што ім ад нас трэба. Не-е! Нас не зачэпяць. А ў выпадку чаго ў мяне дубіна. Ну, хопіць табе, гаспадыня! Уставай! Дамоў трэба.

За перагародкай нейкі час яшчэ стаяла маўчанне, потым Маруся неяк нечакана паднялася, і яе постаць з'явілася ў цёмным чатырохкутніку дзвярэй. Яе святочнае адзенне было трохі пакамечана, твар змяніла пакутлівая сутарга і, як мне падалося,— глыбокі, пакутлівы сорам... Цімафей дапамог ёй апрануцца. Яна канфузліва пакланілася нам, і яны выйшлі...

Назаўтра раніцой мы з Казлоўскім стаялі ля варот, гаварылі пра падзеі мінулага дня... Дзень быў параўнаўча мяккі, градусаў пятнаццаць, што для той стараны адпавядае нашай адлізе, і на вуліцы было шмат народу...

Раптам ля сярэдзіны доўгай слабадской вуліцы мы заўважылі нейкае ажыўленне. Брахалі сабакі, выбягалі людзі, чародка татарскіх дзяцей ляцела за коннікам, які спакойным крокам ехаў па самай сярэдзіне вуліцы.

— А гэта ж, глядзіце, Сцяпан,— сказаў Казлоўскі.

Я спачатку не паверыў, але слабаджанін Сяргей, які стаяў побач і меў чыста рысіную дальназоркасць, упэўнена пацвердзіў думку паляка.

— Ну, смелы, шэльма,— сказаў з адабрэннем Казлоўскі.— Едзе сабе белым днём, быццам нічога-ніякага. П'яны, напэўна... Вось будзе штука, калі ўбачыць Абрашка.

Абрашка ў гэты час сек дровы. Зацікаўлены шумам, ён раўнадушна выйшаў за вароты, прыгледзеўся і раптам з усіх ног кінуўся ў дом. Праз хвіліну дзверы расчыніліся. Мне падалося, што там мільганула дула стрэльбы, але адразу ж дзверы зачыніліся зноў. Не прайшло і хвіліны, як з юрты выйшла прыгожая Абрашкава жонка, а за ёй пакорна ішоў сам Абрам з пустымі рукамі.

Натоўп за Сцяпанам рос. Сцяпан ехаў не спяшаючыся, конь ірваўся і танцаваў пад ім, палохаючыся шуму і мітусні, але Сцяпан стрымліваў яго і, здавалася, не звяртаў

увагі на ўсё, што адбывалася кругом. Мне здалося, што ён сапраўды трохі п'яны. Я заўважыў, што ў натоўпе больш за ўсё татар. Слабаджане і якуты, наадварот, хаваліся ў юрты. Сцяпан яшчэ раз перажываў лёс героя, якога ў цяжкую хвіліну пакідаюць тыя людзі, якія больш за ўсё ім захапляліся. Сяргей у замяшанні пачухаўся...

— Пайсці, ці што,— сказаў ён, азіраючыся, але наша прысутнасць і цікаўнасць перамаглі, і ён застаўся.

Сцяпан адразу заўважыў Абрашку і яго жонку, якія ішлі яму насустрач. Я нават падумаў, успомніўшы пры гэтым Цімоху, што ўся гэта Сцяпанава бравада мела галоўным чынам наўме Абрашкаву юрту і вароты, міма якіх яму даводзілася ехаць. Заўважыўшы свайго праціўніка, Сцяпан першова тузануў повад, але потым на ягоным твары мільганула лёгкае замяшанне і нібы разгубленасць. Ён, відаць, чакаў нечага больш бурнага.

Між тым прыгожая татарка плаўнай хадою поўнай жанчыны ішла проста на каня — і Сцяпану давялося спыніцца. Натоўп таксама спыніўся, але было відаць, што гэта — натоўп цікаўных. Раптам пасля двух ці трох Мар'іных слоў, якія яна сказала па-татарску, сярод людзей пачуўся дружны смех.

— Што яна сказала? — запытаў я.

— Нічога,— адказаў Сяргей, таксама ўсміхаючыся.— Яна кажа: «Здароў, Сцяпан...», больш нішто не сказаў...

— А ён хіба разумее па-татарску?

— Турма сядзеў з імі... Ведае.

Натоўп зноў зарагатаў.

— Што такое? — запытаў я зноў.

— Нічога,— адказаў мой перакладчык.— Канфузіў вельмі... Ты, кажа, якуцкай вера...

— А цяпер што?

Ён слухаў і перакладаў мне, пакуль Сцяпан ціха пракладваў сабе дарогу праз натоўп, а Мар'я, трымаючыся воддаль, працягвала сваю здзеклівую гаворку.

Праз нейкі час да яе далучыўся Абрам. Ён гаварыў горача і ўсё павышаў голас.

— Га! Чо! — выгукаў Сяргей пры кожнай новай фразе.— Надта канфузіў.

— Ды што ж такое? — пытаў я нецярпліва.

— Ты, кажа, з намі хлеб еў.

— Ты, кажа, з намі спаў разам.

— Ты, кажа, нам лічыўся за брата.

— Ты, кажа, за джакут заступіў, за нас не заступіў...

— Табе, кажа, джакут лепшы за татарына стаў...

— Ты, кажа, навучыў паганых якутаў украсці майго буланага...

Я са здзіўленнем слухаў пераклад гэтай гаворкі, у якой, па сутнасці, не было нічога, акрамя пераказу сапраўдных фактаў. Усё, што тут гаварылася, была праўда, усё гэта было добра вядома і нам, і Сцяпану, і ўсёй слабадзе. І я не мог зразумець, чаму гэты натоўп святкаваў перамогу над чалавекам, якому варта было толькі ўзняць галаву і сказаць некалькі слоў. Я так і чакаў, што Сцяпан спыніць каня і крыкне:

— Так, я зрабіў усё гэта і зноў зраблю... Сабакі!..

Але Сцяпан нічога не гаварыў. Наадварот, ён апусціў вочы, якія яшчэ нядаўна дзёрзка шукалі небяспекі і кідалі вызаў; ён густа пачырванеў, прытым рэзка выступілі светлыя вусы і бровы, і, відаць, усю сваю ўвагу засяродзіў на муштуку каня, быццам ехаў над безданню. Конь часам, відаць, прасіўся, уздымаў сваю прыгожую галаву і, выскаліўшы зубы і пырскаючы пенай, трос ёю над галовамі татаранят, што шнырылі перад ім.

Мар'я ўпэўнена ішла трохі збоку і наперадзе, з нейкай пранікнёнай страснасцю ўсё нешта выкрыквала... Такая ж страснасць і такая ж дзіўная ўпэўненасць у сваёй праваце чулася ў Абрамавым тоне. Яго прыгожыя вочы гарэлі і, здавалася, сыпалі іскрамі, а голас звінеў і заражаў глыбокім, шчырым абурэннем.

Галасы мужа і жонкі рабіліся ўсё больш узбуджанымі, смех натоўпу — смялейшы. Баючыся, што ў выпадку затрымкі ўсё можа скончыцца якой-небудзь катастрофай, я, упэўнены, што Сцяпан едзе да нас, перабег цераз невялікую пляцоўку і адчыніў свае вароты з намерам заступіцца за яго і спыніць натоўп.

І сапраўды, ён пачаў быў ужо паварочваць на вугал агароджы, але раптам адбылося нешта зусім нечаканае. Прыгажуня татарка, якая заўсёды трымала сябе з такой салідпай годнасцю, раптам выступіла наперад і перад усімі зрабіла ў Сцяпанаў бок бессаромны жэст...

Натоўп дзіка зарагатаў.

На наш погляд, такі ўчынак зняважыў бы толькі жанчыну, але я заўважыў, што простыя людзі прымаюць гэта наадварот, як самую цяжкую абразу сваёй асобы. І сапраўды, Сцяпан уздрыгнуў, конь яго, здавалася, зараз кінецца на татарку. Але ён утрымаў яго, узняўшы на дыбы. Натоўп шарахнуўся, расчысціўшы дарогу, і праз хвіліну

Сцяпан знік за ваколіцай у хмары снежнага пылу, пад грукат і цюгаканне радаснага натоўпу.

Уга! Гэта была поўная маральная перамога аднаго боку і паражэнне другога. Перамога ўпэўненага ў сабе і цэласнага ў сваёй прастадушнай непасрэднасці ліхадзейства над няўпэўненай і сарамлівай дабрачыннасцю.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Тыдні праз два мы з таварышам надумалі з'ездзіць на Дальнюю заімку. Абодвум хацелася пабачыць Сцяпана і, прама ці ўскосна, выказаць яму сваё спачуванне.

Выехаўшы задоўга да світання, мы толькі пад вечар пад'ехалі да Дальняй заімкі.

Цяпер цяжка было пазнаць гэту мясцовасць. Усё наўкол было замецена снегам, тайга стаяла ўся белая, за ёй, пры месячным святле ледзь пабліскваючы пазалотай, узвышаліся скалы, возера ляжала пад снегам, і толькі ля берага ўзвышаліся мёрзлыя акрайкі палонкі.

Маларуская хатка стаяла пустая, з белымі абледзянелымі вокнамі. За ёй відаць была невялікая юрта з нахільнымі сценамі, падобная на гурбу снегу. Улетку я не звярнуў на яе ўвагі. Цяпер у яе вокнах пераліваўся агонь, а з коміна, мяняючыся адценнямі, высока і прама ўздымаўся белы слуп дыму.

Усё было белае, бледнае і празрыстае. Злосны сабачы брэх сустрэў нас яшчэ здаля, і насустрач нам выйшаў, рыпнуўшы дзвярыма, Цімоха. У руках у яго была вялізная дубіна. Відаць, ён спадзяваўся на яе больш, чым на стрэльбу.

Маруся нас сустрэла з маркотнай ветлівасцю, усё-такі саромеючыся чагосьці і адварочваючы твар. Сцяпана не было...

У юрце яго адсутнасць была нават неяк непрыкметная. Усё было цеснавата, але ўтульна, па ўсім, Маруся з работнікам жыла ў згодзе... Яны нічога яшчэ не ведалі пра здарэнне ў слабадзе. Сцяпан дамоў не заяўляўся. Відаць, яго жыццё пачало аддзяляцца ад жыцця Дальняй заімкі...

Давялося ўсё-такі расказаць Марусі пра прычыну нашага наведвання.

— Ну, цяпер пойдзе яшчэ горай,— сказаў Цімоха.

На шытво, з якім сядзела Маруся, капнула сляза...

Яна зашывала Цімохаву кашулю...

Яшчэ тыдні праз два мы даведаліся, што Сцяпан пайшоў на капальні.

## VII. ЗАКЛЮЧЭННЕ

Прайшло гады паўтара. У самым пачатку восені прыехаў засядацель Федасееў. Аддаўшы нам лісты і газеты, ён папрасіў нас прысесці і сказаў:

— Ага, дарэчы. Якое непрыемнае здарэнне. . . . .

— Што такое?

— На Дальняй заімцы... Нейкі там Цімафей у іх... Работнік, ці што, чорт яго ведае...

— Так, работнік.

— Паранены ці параніў сябе неасцярожна. Наогул, таямнічая гісторыя. Вы нічога не чулі?

— Не, не чулі. Цяжка паранены?

— Не, лёгка. Папраўляецца ўжо. Я ад людзей даведаўся, яны самі тояцца. Што, Сцяпана ў вас не было?

— Не, ён даўно на капальні.

— Прыходзіў не так даўно па пашпарт... Але, паводле нашых звестак, ён зноў адтуль пайшоў тыдні за два да здарэння...

І нечакана, пераходзячы на «партыкулярны» тон, ён сказаў:

— Між намі сказаць,— я ўпэўнены, што гэта яго работа.

І, хітра засмяяўшыся, дадаў:

— Вось яно — жаночае сэрца! Памятаеце, я сам распінаўся: каханне... як гэта яшчэ... ідылія, вернасць. І работнік жа, заўважце, абразіна страшэнная... Сапраўдны... Ну, як гэта?.. Ква... Ква...

— Квазімода...

— Ну, вось-вось. Я ж зараз адтуль. Узяў паказанні.

— І што ж?

— Сам,— кажа,— ненаўмысна, са стрэльбай забаўляўся... Але рана такая, што гэтага ніяк дапусціць нельга... Разумееце?

— А турма ў вас перапоўненая?

— Як селядцоў у бочцы,— сказаў ён, махнуўшы рукой.— Да таго ж... Толькі ўжо гэта, калі ласка, зусім партыкулярна, між намі!

Ён азірнуўся на зачыненыя дзверы і дадаў:

— Давялося б, напэўна, і другую справу ўздымаць... А шкода бацюшку, бацюшка ж працяк...

— Няўжо бадзяжны шлюб? — запытаў я.

— А вы чаму здагадаліся?

— Я ведаў пра іх намер павянчацца. Значыць, усё-такі Сцяпану ўдалося гэта наладзіць?

— Як Сцяпану?

— А то каму ж?

— Ну, хто там уладжваў, я не ведаю. А толькі абвянчаўся ўсё ж ён, работнік гэты... На каго, падумайце, прамяняла! Той усё-такі быў сапраўды маладзец!

Мне ўспомнілася прарочая Сцяпанава варожасць і яго водгук пра хітрасць работніка. А між тым я і цяпер быў упэўнены, што роля Цімохі была, як заўсёды, пасіўная: напэўна, Маруся проста ажаніла яго на сабе... Зламаная, скамечаная нейкай бурай, яна імкнулася сцвярдзіць у сабе жанчыну і гаспадыню. Ёй патрэбна была яе гаспадарка, увесь гэты куток. Для гаспадаркі патрэбен гаспадар. Усё гэта — толькі знешняя абалонка, у якую, як смоўж, хавалася хворая жаночая душа...

Хаця хто ведае? Часам мне ўспаміналася, як мы былі на заімцы, успамінаўся расказ Цімафея, гарачыя Марусіны вочы і амаль пакутніцкая цікаўнасць яе да гэтага расказу. І мне прыходзіла ў галаву, што, магчыма, у жанчыне, якая імкнулася аднавіць у сабе сялянку, гэты Цімоха, які так поўна захаваў у сабе ўсе асаблівасці аратага,— мог закрануць і іншыя сардэчныя струны...

Усё гэта, аднак, здалося мне вельмі туманным і складаным, каб дзяліцца сваімі меркаваннямі з засядацелем Федасеевым.

Нядаўна я атрымаў з той староны доўгі ліст. Мая знаёмая падрабязна адказвала на мае пытанні пра мясціны і людзей.

«...Пра Сцяпана мне цяжка было даведацца што-небудзь. Пра яго ўсе неяк забыліся. Мар'я ж (па мужу Захарава) жыве на Дальняй заімцы. Гэтае месца карыстаецца поўнай вядомасцю, і начальства ахвотна селіць там рускіх, на якіх можна разлічваць як на земляробаў. Напэўна, гэта пачатак значнага пасёлка. У Мар'і два сыны, адзін — падлетак, добры работнік. Абодва гавораць па-маларуску лепш, чым па-руску. Цімафей таксама цудоўны работнік, але, па агульнай думцы, сапраўдная гаспадыня — Мар'я. Між іншым, яна выказвае яму знешнія знакі ўвагі. Часам ён напіваецца і пад п'яную руку калашмаціць яе. Яна ахвотна расказвае пра гэта, як быццам ганарыцца пабоямі «свейго мужыка», ці, як яна называе, «чоловіка»...

У Марусіным смеху нічога асаблівага не прыкметна. Яна, відаць, чалавек зусім нармальны».

«Выпрасталася»,— падумаў я, прачытаўшы гэтыя радкі. Мне зноў успомнілася маладая скалечаная лістоўніца... Нават гэтыя пабоі... Відаць, Мар'я думае, што — калі б не было ўсяго таго, што вырвала яе з роднага асяроддзя,— які-небудзь «чоловік Тыміш» дзе-небудзь у сваёй губерні гэтак жа напіваўся б, гэтак жа куражыўся, гэтак жа біў бы яе ў роднай вёсцы... На тое ён «чоловік», свой, родны, «законны».

У кожнага сваё паняцце пра шчасце...

У часы майго юнацтва адзін таварыш расказаў мне наступную гісторыю. Неяк, страціўшы ўрокі, ён дайшоў да крайняй беднасці і не еў амаль два дні. Тут яму прапанавалі працу. Ён вяла ішоў па вуліцах на запрашэнне і думаў, што наўрад ці пад сілу яму будзе выканаць заказ. Вось калі б задатак!.. Хоць рубель... менавіта рубель!.. І раптам у яго ўяўленні незвычайна ярка ўзнікла жоўценькая паперка. З гэтым заманлівым вобразам у галаве ён слухаў тлумачэнне заказчыка. У заключэнне той сам прапанаваў задатак і працягнуў... дзесяць рублёў. Студэнт вяла паглядзеў на паперку. Гэта было не тое, што яму трэба.

— Рубель...— сказаў ён з тупой прагнасцю ў голасе.

— Але дазвольце...

— Рубель, рубель, рубель,— паўтараў ён настойліва. Заказчык пацікнуў плячыма, студэнт атрымаў жаданае. І ў гэтую хвіліну ён быў шчаслівы...

Маруся таксама адваявала ў лёса свой рубель і — значыць, таксама шчаслівая.

Звесткі гэтыя прынеслі мне пачуццё нейкага задавальнення: гераічныя намаганні маладой надламанай істоты не прапалі марна. Але калі я цяпер гляджу на некалькі пажоўклых аркушаў, на якіх я тады коратка накідаў Сцяпанава апавяданне,— сэрца ў мяне сціскаецца мімавольным спачуваннем. І праз дабрабыт Дальняй заімкі хочацца зазірнуць у невядомы лёс неспакойнага, незадаволенага чалавека, які, магчыма, даўно ўжо загінуў...

*1899*

# Мароз

## I

Мы ехалі па беразе Лены на поўдзень, а зіма даганяла нас з поўначы. Аднак магло здацца, што яна ідзе нам насустрач, спускаючыся зверху, па цячэнні ракі.

У верасні пад Якуцкам было яшчэ даволі цёпла, на рацэ ані крыгі. На адной з блізкіх станцый нас нават спакусіла цудоўная месячная ноч, і каб не начаваць у душнай станочнікавай юрце, якая толькі што была памазана звонку (на зіму) яшчэ цёплым гноем,— ляглі на беразе, паслаўшы пасцелі ў лодках і накрыўшыся аленевымі скурамі. Ноччу, аднак, мне здалося, што нехта прыпякае мне полымем правую шчаку. Я прачнуўся і ўбачыў, што месячная ноч пабялела яшчэ больш. Усё кругом было ў шэрані, шэрань укрыла маю падушку, і гэта яе дотык здаваўся мне такім гарачым. Майму таварышу, які спаў у адной лодцы са мною,— снілася, відаць, тое ж самае. Месяц свяціў яму ў твар, і я бачыў пакутлівыя грымасы, якія праходзілі па ім. Сон яго быў моцны і, відаць, цяжкі. У гэты час, прыўзняўшы футры і скуры, у суседняй лодцы ўстаў другі мой спадарожнік. Усё было белае і пушыстае ад шэрані, і ўвесь ён здаваўся белым прывідам, які раптоўна ўзнік з халоднага бляску шэрані і месячнага святла.

— Брр...— сказаў ён.— Мароз, браткі...

Лодка пад ім калыхнулася, і ад руху яе на вадзе пачуўся звон, нібы ад разбітага шкла. Гэта ў мясцінках, закрытых ад хуткай плыні, утвараліся першыя «забярагі», яшчэ тонкія, са слядамі доўгіх крышталічных іголак, якія ламаліся і звінелі, нібы тонкі крышталь... Рака, адчуўшы першы ўдар марозу, быццам пацяжэла, а скалы ўздоўж яе горных берагоў, наадварот, сталі лягчэйшыя, нібы павятраныя. Пакрытыя шэранню, яны ішлі ў няясную, азораную далеч, іскрыстыя, быццам прывіды...

Гэта было першае слова марозу ў пачатку доўгага шляху... Слова вясёлае, бадзёрае, ледзь не жартаўлівае.

Па меры таго як мы паволі і затрымкамі рухаліся далей на поўдзень — зіма набірала сілу. Цэлыя затокі стаялі ўжо, накрытыя плеўкай цёмнага некранута-чыстага лёду, і камень, кінуты з берага, доўга каціўся, слізгаў па гладкай паверхні і выклікаў дзіўны, пераліўны звон, які чым далей, тым болей узмацняўся і адзываўся рэхам горных цяснін. Далей лёд, зачапіўшыся за краі ракі, працягваў сваю барацьбу, заберагі пашыраліся, і кожны крок у гэтай барацьбе памячаўся лініяй паламаных ільдзінак, якія паказвалі, што тут нядаўна была жывая плынь і што яна зноў адступіла на сажань-другую ад сярэдзіны...

Дзе-нідзе на берагах ляжаў ужо снег, рэзка адцяняючы цёмны цяжкі рачны струмень. Яшчэ далей — да гэтай барацьбы далучаліся горныя рэчкі. Паступова набухаючы ад вытокаў, яны ўзломвалі свой лёд у вусцях, скідалі яго ў Лену, загрувашчвалі жывую плынь, ускладняючы яе ўласную барацьбу з марозам... Ломаныя лініі на рацэ падымаліся ўсё вышэй: крыгі, выкінутыя плынню на краі забарагаў, рабіліся ўсё таўсцейшыя. Гэта былі ўжо сапраўдныя валы, і час ад часу нам было відаць, як сярод гэтых валоў пачынаўся трывожны рух. Гэта рака злосна шпурляла на нерухомыя ледзяныя ўмацаванні, што скоўвалі яе, крыгі, прабівала прабоіны, крышыла лёд на друз, на іголкі, на снег, а потым зноў бяссільна адступала, і праз нейкі час аказвалася, што белая лінія заломаў прайшла яшчэ далей, паласа лёду стала шырэйшая, рэчышча звузілася...

Чым далей, гэтая барацьба набывала большую ўпартасць і размах. Рака шпурляла ўжо не толькі крыгі, а велізарныя камлюгі так званага таросу, і яны грувасціліся адна на адну ў дзікім беспарадку. Карціна выглядала ўсё больш бязрадаснай. Ля берагоў торосы ўжо застылі бязладнымі масамі, а на сярэдзіне ўсё яшчэ варочаліся цяжкімі, груваcткімі валамі, хаваючы амаль замёрзлае рэчышча, як адзічэлы натоўп закрывае месца пакарання смерцю... Уся прырода, здавалася, поўнілася страхам і разам з тым урачыстым чаканнем. Бязлюдныя цясніны горных берагоў пакорліва паўтаралі сухі грукат ледзяных палёў і цяжкае кректанне зняможанай ракі.

Праз нейкі час цёмны струмень таксама пабялеў усярэдзіне. На ім ціха варочаліся, таўкліся, шаргацелі і густа плылі белыя крыгі ледаходу, які ўжо быў гатовы зусім заціснуць сцішаную і знясіленую плынь.

## II

Аднойчы з невялікай берагавой скалы сярод гэтых павольных ледзяных мас мы ўбачылі нейкі чорны прадмет, які выразна выдзяляўся на бела-жоўтым фоне. У пустынных месцах усё прыцягвае ўвагу, і ў нашым маленькім караване пайшлі гаворкі і здагадкі.

— Варона,— сказаў нехта.

— Мядзведзь,— запярэчыў другі ямшчык.

Думкі падзяліліся. Чорная кропка адным здавалася не большай за варону, іншым — не меншай за мядзведзя: аддаленая аднастайнасць гэтых неспакойных мас, якія ляніва праплывалі між гор,— зусім мяняла перспектыву.

— Адкуль узяцца мядзведзю пасярод ракі? — спытаў я ў ямшчыка, які гаварыў пра мядзведзя.

— З таго берага. Тры гады назад мядзведзіца вунь з таго вострава пераправілася з трыма медзведзянятамі.

— Сёлета таксама звер з таго берага ідзе на наш. Відаць, зіма будзе лютая...

— Мароз гоніць,— дадаў трэці.

Увесь наш караван спыніўся ля скалы, чакаючы набліжэння прадмета, які ўсіх так зацікавіў. Белая ледзяная каша між тым паволі набліжалася да нас, і было відно, што чорная кропка на ёй мяняе месца, нібы сапраўды перапраўляецца па крыгах да нашага берага.

— А гэта ж, браткі, казуля,— сказаў нарэшце адзін з ямшчыкоў.

— Дзве,— дадаў другі, прыгледзеўшыся.

Сапраўды, гэта былі горныя козы, і, сапраўды, іх было дзве. Цяпер нам ужо выразна былі відаць іх цёмныя грацыёзныя сілуэты сярод сапраўднага ледзянога пекла. Адна была большая, другая меншая. Можа, гэта былі маці і дачка. Вакол іх біліся, таўкліся, круціліся і крышыліся крыгі; пры гэтым сутыкненні ў прамежках нешта кіпела і пырскала пенай, а далікатныя стварэнні, настуніўшыся, стаялі на досыць вялікай крызе, сабраўшы ў адно месца свае тоненькія ножкі...

— Ну, нешта будзе! — сказаў малады ямшчык з глыбокай цікавасцю.

Аграмадная крыга, якая плыла наперадзе той, на якой стаялі козы, як быццам пачала замаруджваць ход і разварочвацца, затармазіўшы ход задніх. Гэта стварыла вакол жывёл цэлае пекла разбурэння і плёскату. Крыгі станавіліся рубам, лезлі адна на адну і крышыліся з гучным, як

выстралы, грукатам. Часам між імі разыходзілася і сыходзілася цёмная глыбіня. На нейкае імгненне дзве маленькія цёмныя плямы зусім былі прапалі ў гэтым хаосе, але потым мы зноў убачылі іх на другой крызе. Сабраўшы свае тонкія ножкі, козы стаялі на другой ледзяной пляцоўцы, гатовыя да новага скачка. Гэта паўтаралася некалькі разоў, і кожны скачок з разлічанай паслядоўнасцю набліжаў іх да нашага берага і аддаляў ад процілеглага.

Ужо можна было прасачыць план разумнай жывёліны. Непадалёк ад нас канец мыса вострым краем уразаўся ў раку, і крыгі, разагнаныя плынню, разбіваліся тут з асаблівай сілай. Затое больш аддаленыя, якія пазбеглі ўдару, падхопліваліся адбітымі хвалямі і несліся да другога берага ракі. Старэйшая з дзвюх коз, якая, відаць, кіравала пераправай, з кожным скачком набліжалася да мыса, які аж грымеў ад напору льду... Бачыла яна нас ці не — але нашу прысутнасць яна яўна не прымала пад увагу. Мы таксама нерухома стаялі на тым самым мысе, і нават вялікі вастравухі і злы станочны сабака, які прыцягнуўся за намі, відаць, быў зусім бескарысліва зацікаўлены вынікам гэтых смелых і трагічна-небяспечных эвалюцый... Зусім недалёка ад берага, у нейкім дзесятку сажняў ад цэлай купкі людзей, коз усё гэтак жа займала сутыкненні крыг і скачкі. Калі крыга, на якой яны стаялі, ціха круцячыся, падышла да небяспечнага месца,— у нас перахапіла дыханне... Імгненне... Сухі хаос абломкаў, якія раптам узняліся ўгору і папаўзлі на абледзянелыя краі мыса,— і два чорныя цені лёгка, як кінуты камень, махнулі на бераг паўзверх гэтага хаосу.

Яны былі ўжо на беразе. Але на другім баку касы былі цёмныя палоскі вады, а праход загароджвала купка людзей. Аднак разумнае стварэнне не задумалася ні на хвіліну. Я заўважыў позірк яго круглых вачэй, што глядзелі з нейкім нечаканым даверам, і потым яна панеслася сама і скіравала малодшую да нас. Станочны сабака, вялікі капллаты Палкан, вінавата адступіў убок, калі старэйшая каза, загароджваючы малодшую, прабегла паўз яго, ледзь не дакрануўшыся бокам да яго кудлатай поўсці. Сабака толькі падціснуў хвост і задумена адбег, нібы азадачаны ўласнай велікадушнасцю і баючыся, што мы зразумеем яе ў не выгадным для Палкана сэнсе. Але мы адобрылі яго стрыманасць і радасна глядзелі ўгору, дзе два стройныя целы, выцягваючыся ў лінію, мільгалі ў паветры над вяршынямі скалаў...

## III

Гэту станцыю разам з намі праязджаў Іван Радзівонавіч Сакольскі, наш выпадковы спадарожнік, начальнік разведачнай партыі з капальняў. Некалі нейкая бура занесла яго ў далёкую Сібір, і ён, уцягнуўшыся ў багатае на ўражанні жыццё разведчыка на капальнях, ужо не імкнуўся вырвацца адсюль. Гэта быў чалавек аграмадны, з абветраным тварам, сівой грывай валасоў і застыглымі рысамі, якія надзейна хавалі яго душу. Яго пачуцці, здавалася, таіліся пад грубымі рысамі твару, як плынь ракі пад крыгамі. У яго санях (на станцыю я ехаў разам з ім) ляжала ружжо ў футарале з ласінай скуры, і хоць ён стаяў побач і варта было яму толькі працягнуць руку, каб дастаць ружжо,— ён не зрабіў гэтага. Яго цвёрдыя шэрыя вочы ўвесь час сачылі за казулямі, і мне першы раз на працягу нашага — хоць і нядоўгага — знаёмства падалося, што ў гэтых шэрых вачах прамільгнула нешта не зусім халоднае і не зусім загрубелае.

Калі гэты маленькі эпізод закончыўся, мы ўсе селі зноў, і наш караван рушыў далей, расцягнуўшыся пад камяністым берагам. Настрой ва ўсіх у нас быў вясёлы, і ўсе мы абмяркоўвалі смелы подзвіг жывёлін, якія змаглі захаваць такі спакой сярод стольніх небяспек.

— Дарэчы,— сказаў я, усміхаючыся,— тое-сёе трэба аднесці і на наш рахунак. Можна падумаць, што мароз абуджае добрыя пачуцці.

— З чаго вы гэта ўзялі? — запытаў Сакольскі сур'ёзна.

— З зусім незвычайных паводзін Палкана, а таксама, прабачце супастаўленне,— вашых уласных: ваша ружжо засталося ў футарале.

— Ага,— адказаў Сакольскі.— Гэта праўда. Бедныя стварэнні на нашых вачах прайшлі праз столькі небяспек, і, я думаю, нават Палкану было сорамна скончыць усё гэта простым забойствам на беразе... Ці заўважылі вы, як старэйшая самааддана закрыла малодшую ад сабакі?.. Ці кожны чалавек зробіць гэта ў такіх абставінах?

— Кожная маці, я думаю...— сказаў я, усміхнуўшыся.— Наогул, мне здаецца, на вас гэты маленькі эпізод зрабіў вялікае ўражанне.

На твары Сакольскага адбівалася ўнутранае хваляванне, вочы глядзелі мякка і сумна...

— Ага,— задуменна адказаў ён.— Гэта напомніла мне адну гісторыю і аднаго чалавека... Вось вы сказалі пра

ўздзеянне марозу і пра добрыя пачуцці. Не, мароз — гэта смерць. А ці думалі вы, што ў чалавека можа замерзнуць, напрыклад... сумленне?

— І нават увесь чалавек можа ператварыцца ў ледзяную глыбу, перастане быць чалавекам,— адказаў я, зноў усміхнуўшыся. Настрой майго спадарожніка здаваўся мне ўсё больш загадкавым.

— Не,— адказаў ён з тым жа дзіўным мяккім сумам.— Не, значна раней. Я раскажу вам, калі хочаце... Дарэчы, і было гэта ледзь не тут. Я еду цяпер з вамі, і мне здаецца, што... я перажываю пачатак майго апавядання, а вы паедзеце далей і сустрэнеце яго працяг...

## IV

— Гэта было ў 18... нейкім годзе. Тады я толькі атрымаў месца і ехаў з таварышам на капальні. Восень, як і сёлета, пазнілася, зіма марудзіла, і мы ехалі вельмі павольна. Прыкладна тут вось мы таксама сустрэлі першы крыгаход. Далей лёд усё мацней скоўваў раку, плынь рабілася ўсё вузейшай, потым яе пачалі перакрываць заторы. Паглядзіце самі, што гэта такое... У адным месцы густа збіваюцца аграмадныя крыгі і перагароджваюць плынь. Рака нагрувашчвае іх усё болей, ломіць лёд, стварае парогі, раве, злуецца... На цэлыя вёрсты наўкол стаіць гул і грукат... Потым лёд зноў прарвецца і сплыве ўніз, а на сярэдзіне ракі застаюцца толькі палонкі, над якімі вісіць густая марозная пара.

Я ехаў з таварышам — палякам са ссыльных. Ён удзельнічаў у вядомым паўстанні на кругабайкальскай чыгунцы і быў паранены. Уціхамірвалі іх тады жорстка, і ў яго на ўсё жыццё засталіся на руках і нагах сляды жалеза: іх па марозе вялі ў кайданах без падкайданнікаў... Таму ён вельмі баяўся холаду... І, наогул, істота гэта была кволая, слабая,— у чым і душа трымалася, як кажуць... Але тэмперамент у гэтым маленькім целе быў проста зайздросны. І, наогул, увесь ён быў створаны з дзіўных супярэчнасцей. Прозвішча яго было Ігнатовіч.

Сакольскі задумаўся, і нейкі час мы ехалі моўчкі. Маўчанне гэта доўжылася, і я хацеў ужо напомніць майму спадарожніку пра працяг расказу, як раптам ён зноў павярнуўся да мяне:

— Баюся, што я не здолею вам перадаць, што гэта бы-

ла за натура... Ідэаліст і рамантык, выхаваны на Красінскім, Славацкім і Міцкевічу. Нам, рускім, заўсёды быў чужы гэты настрой, гэтыя... як бы сказаць... экстатычныя перабольшанні, ці што. Ёсць у Міцкевіча адзін верш: нехта, нейкае неабдымнае Я галавой узнялося ў надзорныя вышыні... Вакол галавы вянец з сонцаў, рукі ён паклаў на зоры, і іх хоры, як клавішы, выконваюць створаную ім сусветную сімфонію... Нешта ў гэтым плане. Я заўсёды быў халодны да такіх вобразаў і з нейкім здзіўленнем слухаў, як мой таварыш (мы жылі з ім у Якуцку каля года) дэкламаваў іх з незвычайным пафасам і захапленнем. Не разумеючы сам ні прыгажосці гэтых карцін, ні гэтага настрою — я ўсё ж павінен быў прызнаць, што яны ў адказ могуць абуджаць нейкія адгалоскі: мой маленькі таварыш, здавалася, вырастаў, голас яго пачынаў звінець, вочы гарэлі, і... калі не вобразы, якія мне ўсё-такі здаваліся ненатуральна перабольшанымі і дзіўнымі,— то гукі яго голасу хвалявалі нават мяне.

Я думаю, што гэта можна назваць рамантызмам... Нейкае перабольшанае ўяўленне пра чалавека, пра яго «боскі пачатак», пра яго тытанічнае значэнне. Але ў гэтым настроі майго таварыша не было цэласнасці. Здаецца, ужо ў час самога паўстання, за якое ён і трапіў у Сібір, чалавечая прырода павярнулася да яго сваімі не самымі прывабнымі і ва ўсякім выпадку далёка не лепшымі бакамі... Потым было нешта і з жанчынай. Калі яна ўяўляецца ў надзорнай вышыні, сатканай з промняў,— то, вядома, другі бок жаночай натуры ўспрымаецца з асаблівай хваравітасцю... Як бы то там ні было, на яго часам находзілі такія палосы мізантропіі. Тады ён рабіўся проста невыносны, асабліва ў сумесным жыцці. У яго паглядзе, пранізлівым і халодным, адчувалася нешта зняважлівае — да вас, да незнаёмага прахожага, да самога сябе. У гэтыя перыяды ён рабіўся матэрыялістам і цынікам, гаварыў грубасці, і... я тады стараўся надоўга пайсці куды-небудзь, калі можна было, на некалькі дзён... Таварыш жа мой з асаблівай клапатлівасцю пачынаў даглядаць жывёлу...

Любоў да жывёлы была таксама характэрнай рысай гэтага дзіўнага чалавека. Бывалі цэлыя перыяды, калі наша сціплае жытло ператваралася ў лякарню. Цэлы тыдзень ён аддаў змёрзлай вароне і вярнуў ёй жыццё, а хворага каня вадзіў на прагулку па два разы на дзень, не зважаючы на насмешкі. І цікава: чым больш ён злаваўся на людзей, тым больш пяшчоты аддаваў жывёле. У рэшце рэшт, песі-

міст і цынік (у такія перыяды) у адносінах да «цара прыроды» — ён расхвальваў яе меншыя стварэнні. Ён не толькі бачыў у іх розум, памяць, кемлівасць, сумленне, але нават лічыў гэтыя бакі інтэлекту выключна іх прыналежнасцю, не ўласцівай чалавеку. Пры гэтым ён рабіўся такі невыносна дасціпны і ядавіты, і часам, калі мне не было куды дзецца ў перыяды яго мізантропіі, я знемагаў ад яго парадоксаў і на самай справе пачынаў адчуваць сябе ніжэй за ўсякую скаціну, у той час, як нейкі сабака, якому нейкі гультай перабіў паленам спіну, здаваўся мне ледзь не свядомым пакутнікам і філосафам. Між іншым, калі гэтыя прыступы праходзілі, ён зноў ажываў, зноў лунаў у нябёсах і дэкламаваў «сусветныя сімфоніі». У той час ён быў на капальні некім накшталт наглядчыка матэрыяльнага склада... У практычных пытаннях я заўсёды меў перавагу. Я знайшоў яму гэтую пасаду і ўгаварыў прыняць яе. Ён пасіўна паслухаўся, і мы адправіліся ў дарогу, як толькі атрымалі аванс. Справы нашы былі не надта каб бліскучыя.

Ехалі мы ўсё-такі трохі хутчэй за вас, нягледзячы на тое, што вопратка ў нас была няважнецкая, мы нёяк не паспелі яшчэ добра змерзнуць да самай Алекмы і нават далей. Маразы былі добрыя, але змерзнеш і пагрэешся, а на наступны дзень выязджаеш як нічога-ніякага.

За Алекмай рака ўжо стала, былі толькі палонкі... Аднойчы, праязджаючы паўз адну з іх, мы ўбачылі дзвюх качак. Ямшчык паказаў іх нам пугай. Цяжка мне цяпер перадаць вам гэта сапраўды вартае жалю відовішча. Качкі былі з адсталых. Таварышы іх даўно паляцелі, а яны, хворыя ці зняможаныя, засталіся паміраць на гэтай халоднай рацэ. Пакуль плынь была яшчэ вольная хоць на сярэдзіне — яны плавалі, так-сяк ратуючыся ад крыгаходу; прастора вады ўсё звужалася, потым засталіся толькі гэтыя палонкі. Калі і яны замерзнуць, качкі немінуча загінуць. Цяпер яны ўдзвюх кідаліся па вузкай палонцы, ахутаныя халоднай парай, а на іх пазіралі такія ж змрочныя і абыякава халодныя горы.

Я памятаю, што ямшчык смяяўся, выскаляючы свае белыя зубы.... Мне стала жудасна і холадна, і я захутаўся ў футра, быццам пада мной была гэта цёмная халодная глыбіня. Але мой таварыш адразу расхваляваўся і загарэўся.

— Стой! — закрычаў ён ямшчыку.— Няўжо вы можаце праехаць міма? — звярнуўся ён да мяне з горыччу і, не

чакаючы, пакуль ямшчык спыніць коней, выскачыў з саней і потым, слізгаючыся і падаючы на таросах, кінуўся да палонкі.

Ямшчык смяяўся, як ненармальны, і я таксама не мог стрымаць усмешкі, гледзячы, як мой таварыш, нахіліўшыся над вузкай, прадаўгаватай палонкай, стараўся злавіць качак. Птушкі, вядома, кінуліся ад яго. Тады мой маленькі спадарожнік перабег на ніжні канец палонкі, правільна разлічыўшы, што качак цяпер панясе плынню да яго, асабліва калі, зацікаўлены гэтым эпізодам, я таксама выйшаў на лёд і пагнаў іх уніз... Ныраць яны баяліся, таму што плынь заносіла іх пад лёд. Адна з гэтых птушак узнялася была ў паветра, але другая, знясіленая, а можа, падстрэленая калі-небудзь, лётаць не магла, яна толькі ўзмахнула крыллем і засталася. Тады і першая, зрабіўшы круг над халоднымі крыгамі, вярнулася да сваёй сяброўкі.

Я не магу вам апісаць уражання, якое зрабіла гэта праява велікадушнасці з маім сябрам. Ён стаяў на лёдзе, сочачы за палётам птушкі, якая мільгала на фоне панылых гор, пасярэбраных снегам, і калі яна самааддана пляснулася за некалькі крокаў ад нас на ваду, з яўным намерам раздзяліць агульную небяспеку,— у яго на вачах паказаліся слёзы... Потым ён рашуча заявіў, што мы можам, калі хочам, ехаць далей, а ён застанецца тут, пакуль не зловіць абедзвюх качак.

Я ведаў, што ён абавязкова зробіць гэтак, і мы пачалі своеасаблівае паляванне, у якое, нарэшце, уключыўся і ямшчык. У выніку адна птушка, менавіта тая, што спрабавала паляцець— патанула. Яна нырнула з маіх рук, і плынь панесла яе пад лёд... Другая трапіла ў рукі ямшчыка. Ігнатовіч вымак, з рукавоў яго футра лілася вада.

Гэта было вельмі сур'ёзна, таму што да станцыі было яшчэ няблізка. Я захутаў яго ў што мог, але на станку мы ледзь адцерлі яго адмарожаныя пальцы і цэлыя суткі пасля гэтага не гаварылі адзін з адным. Качку гэтую мы павезлі далей, і хоць я прымаў удзел у яе выратаванні і пад канец захапіўся гэтым дабрачынным спортам,— але ўсё-такі разумеў, што гэта сентыментальна і неразумна, тым больш што ўсюды наш трэці пасажыр выклікаў, па-мойму, справядлівыя насмешкі станочнікаў. Ігнатовіч адчуваў мой настрой і злаваўся.

У рэшце рэшт, качка ўсё-такі здохла, і мы яе кінулі на дарозе, а самі паехалі далей. Некалькі дзён ішоў густы пушысты снег, які ўкрыў на тры чвэрці аршына і лёд і зям-

лю. Ён ляжаў усюды на дрэвах і часам падаў з іх камякамі, дробным пылам рассыпаючыся ў светлым паветры.

Потым ударыў мароз у трыццаць, трыццаць пяць, сорак градусаў. Потым на адной станцыі мы ўжо бачылі замерзлую ў тэрмометры ртуць, і нам сказалі, што так яна стаіць некалькі дзён.

Птушкі замаруджвалі палёт, сутаргава ўзмахвалі крылем і падалі на зямлю, мядзведзі мерзлі ў бярлогах і выходзілі худыя, напалоханыя і злыя... Паляўнічыя на вавёрак з-за гэтых раззлаваных мядзведзяў спынілі свой промысел.

Мы таксама пачалі мерзнуць. Вы ж ведаеце, што гэта такое: не хапае дыхання, мірганеш вачыма — між вейкамі тонкія льдзінкі, холад забіраецца пад вопратку, потым у мускулы, у косці, як кажуць, да мозгу касцей,— і кажуць нездарма... Вас калоцяць дрыжыкі, нейкія ўнутраныя, вострыя, непрыемныя, яны ўжо самі сабой нібы прыніжаюць вас. Прыедзеш на станцыю,— пад поўнач ледзь пачнеш адаграваццa, а раніцой адпраўляешся ў дарогу і адчуваеш, што нечага табе не хапае, што пачынаеш мерзнуць раней, чым учора, і прыедзеш на начлег яшчэ больш замёрзлы... Настрой псуецца, уражанні паступова бляknуць, людзі робяцца паганымі. Сам сабе робішся нялюбым... У рэшце рэшт захутваешся як мага шчыльней, сядаеш зручней і дбаеш толькі пра адно: як мага меней рухаў, як мага меней думак... Арганізм інстынктыўна пазбягае ўсялякай траты... Сядзіш, пакрысе стынеш і з нейкім страхам чакаеш, калі скончацца гэтыя жудасныя сарака-пяцідзесяцівёрставыя перагоны.

Нарэшце мы пачалі набліжацца да Віціма. З N-скай станцыі выехалі мы светлай, прыгожай, снежнай раніцай. Уся прырода як быццам застыгла, памерла пад сваім халодным, але надзіва шыкоўным убраннем. Сярод дня сонца свяціла ярка, і яго касыя промні былі густыя і жоўтыя... Яны прабіваліся праз гушчар бору, дзе-нідзе гулялі па ствалах, на галінках, выхопліваючы іх з белага, аднаколернага і бліскучага змроку.

Перагон быў вельмі доўгі. Ямшчык (ім тут ездзіць даводзіцца не вельмі часта) спачатку быў даволі бадзёры і нават спяваў нейкую пахабную песню... Потым і ён сціх і час ад часу, падскокваючы, бег побач з санямі, тупаў нагамі і стукаў азяблымі рукамі ў рукавіцах... Мой спадарожнік, здавалася, зусім застыў. За ўвесь час ён загаворваў толькі раз, але яго голас падаўся мне скрыпучым і

непрыемным, і я прабурчаў нешта злоснае і не зразумелае нават мне самому. Потым ён маўчаў, як скарчанелы, і я ўяўляў сабе яго твар — з мізантрапічным і злосным выразам. Я таксама маўчаў і адварочваўся ўбок, каб шэрань ад майго дыхания не трапляла мне ў твар — праз адтуліну ў башлыку...

Дарога ішла лесам, палазы рыпелі, коні часта фыркалі, і тады ямшчык спыняўся і даставаў пальцамі ледзяшы з іх ноздраў... Высокія сосны, як белыя халодныя прывіды, праходзілі перад вачыма і не заставаліся ў памяці...

Ужо вечарэла, апошнія промні сонца, яшчэ жаўцейшыя і гусцейшыя, пакідалі лес, з цяжкасцю ўзбіраючыся на вяршыні. А ўнізе роўны белы змрок быццам яшчэ болей настываў і сінеў. Голас званочка раздаваўся неяк асаблі-ва, быццам лыжачкай стукалі па напоўненай шклянцы. Гэтыя гукі таксама раздражнялі і трывожылі нервы...

У адным месцы на вочы мне трапіла нечаканае ўражанне: непадалёк ад дарогі між буралому віўся тонкі дымок. На пні сядзеў чалавек, і яго постаць цёмнай плямай чарнела сярод агульнай белаты. Над ім з усіх бакоў звесіліся калматыя лапы лясных зараснікаў, угары яшчэ асветленыя сонцам, а ўнізе ахопленыя змрокам блізкай ночы. Відовішча гэта мільганула міма майго нерухомага позірку... У апошняе імгненне мне здалося, што постаць варухнулася і што гэта мела нейкія адносіны да нас, да нашага мітуслівага званочка, да нашай хуткай язды. Але я не павярнуў галавы, не павёў вачыма. Відовішча прамільгнула і знікла, і ўражанні чапляліся за свядомасць застыглыя, мёртвыя, нерухомыя, нічога ў ёй не абуджалі і не кранаді ўяўлення...

Ямшчык павярнуўся да нас і, нахіліўшыся, пачаў нешта гаварыць, і памятаю, што ён смяяўся. Але для мяне гэта былі толькі паасобныя гукі, быццам звінелі льдзінкі... Самі словы былі пустыя, яны для мяне ў тую хвіліну не мелі ніякіх паняццяў. Ямшчыкоў смех таксама не здаваўся мне смехам і не рабіў на мяне таго ўражання, якое зрабіў бы ў іншых абставінах. Я проста бачыў непрыемна жаўтаваты твар у рамцы футравага малахая, два вокі з пакрытымі шэранню вейкамі. Сківіцы на гэтым твары рухаліся, рот быў непрыемна перакошаны, і з яго вылятаді разам з парай пустыя гукі, як шкляны звон... Вось і ўсё... Мой спадарожнік заварушыўся і таксама нешта прамармытаў. Здаецца, ён злосна падганяў ямшчыка...

Кароткі дзень даўно патух, калі мы даехалі да станка і размясціліся на начлег.

Памятаю, гэта была купка хацін, як і большасць станкоў — пад стромкімі скаламі. Той, хто выбіраў месцы для гэтых станкоў, мала думаў пра выгоды жыхароў. N-скі станок стаяў на голай каменнай пляцоўцы, ля ракі, якая ў гэтым месцы ўецца па адкрытай на поўнач раўніне. Праз некалькі вёрст далей станок мог бы схавацца за выступам гары. Тут жа ён стаяў нічым не прыкрыты, нібы аддадзены ў ахвяру страшнаму паўночнаму ветру.

Акрамя афіцыйнай назвы жыхары называлі яго «Халодным станком». І сапраўды, цяжка знайсці што-небудзь, што давала б большае ўяўленне пра холад, чым гэтыя замеценыя снегам кучкі бярвенняў, гліны і гною, якія дрыжалі ад ветру на камяністай пляцоўцы. Лес, які мы пакінулі ззаду, скончыўся на пачатку лугоў у нізіне і не закрываў станка, а толькі поўніў прастору працяглым, трывожным гулам.

Хаця мы рады былі і гэтаму прытулку і даехалі якраз у пару, каб яшчэ адаграць застыглыя члены. На шчасце, лесу, які не належаў нікому, акрамя бога, вакол было багата, і хутка ў камінку затрашчаў яркі агонь, і мы, разаслаўшы на падлозе коўдру і скуры,— ляглі ля самага полымя, умомант праглынуўшы па шклянцы чаю. Цяжка было трымаць шклянкі ў скарчанелых руках, але адчуванне цяпла згубілася, мы апякаліся, а не саграваліся варам і, пакінуўшы чай, пазалазілі пад свае футры. Зубы ў мяне ўсё яшчэ стукалі, дрыжыкі перабіралі нават косці.

Гаспадар дапіў наш чай, пачаставаўшы таксама зусім азяблага ямшчыка, падклаў яшчэ дроў і схаваўся ў нейкі куток.

У цёмнай хаціне ўсё сціхла.

Толькі звонку чуўся роўны гул, быццам час ад часу нехта вялізны ступаў па скаванай марозам зямлі. Зямля глуха гудзела і заціхала да новага ўдару... Удары гэтыя станавіліся ўсё больш частыя і працяглыя. Часам і наша хаціна як быццам таксама пачынала ўздрыгваць, і сярэдзіна яе гула, як пустая скрынка пад ветрам. Тады, нягледзячы на футры, я адчуваў, як па падлозе цягне холадам, ад якога мацней разгараўся агонь і іскры гусцей ляцелі ў комін.

— Во няшчасце! — сказаў у адну з такіх хвілін гаспадар, звяртаючыся да заспанага ямшчыка.— Як паедзеш? Узняўся сівер, пазёмка ідзе.

— Ага...— адказаў той.— А мароз меншы не стаў... Та-

кому ветру,— дадаў ён, па-свойму каверкаючы рускую мову,— глядзі, і пошта не ходзіць...

— Не дай бог,— дадаў гаспадар, пазяхаючы.

Я зразумеў, што пачынаецца адносна рэдкая з'ява — марозная бура, калі вецер, які налятае невядома адкуль, б'ецца ў цяжкое марознае паветра. Асобныя штуршкі і гул былі прыкметай першых парываў ветру, які яшчэ не мог зрушыць згушчаную атмасферу... Потым штуршкі сталі больш працяглыя, гул станавіўся роўным, няспынным. Паветра, ахаладжанае ніжэй сарака градусаў, рушыла з месца і ішло, быццам над нашай пляцоўкай несліся хвалі бяздоннага акіяна...

Пад гэты шум я і пачаў засынаць, усё яшчэ дрэнна ўсведамляючы, што адбывалася, і толькі радуючыся жывёльнай радасцю, што я ў хаце, блізка ля агню, што ўсё тое, што ўва мне так непрыемна застыгла і скарчанела,— хутка павінна адагрэцца і распусціцца...

І сапраўды, штосьці «адагрэлася... і распусцілася...».

## V

— Як і калі сталася, што я ўжо не сплю і прытым зусім не сплю,— я б не мог сказаць. Я прачнуўся непрыкметна, але нейкі час мне здавалася, што я яшчэ бачу сон ці што я старанна захоўваю ў памяці рэшткі сну, быццам баючыся, што ён знікне і я не паспею ўбачыць у ім нешта вельмі важнае і вельмі патрэбнае. А між тым сон быў самы просты.

Я сніў, што я зноў еду па той жа дарозе, і зноў мне холадна, і зноў вакол мяне пасярэбраны шэранню лес, і касыя промні сонца, густыя і жоўтыя, выходзяць з гэтага лесу, гуляючы там-сям на ствалах і калматых лапах... Толькі недзе за лесам нешта яшчэ гудзе глухімі ўдарамі-стогнамі, быццам гоніцца за нашымі санямі.

Потым я ўбачыў купу дрэў, якія стварылі альтанку пад лахматымі галінамі, белымі ад снегу, і тонкі, быццам замёршы дымок, і цёмную постаць ля вогнішча... І ўсё гэта, па звычайнай нелагічнасці сну,— здавалася мне вострымі, калючымі льдзінкамі, якія праціналі мне грудзі і студзілі сэрца.

Потым я ўбачыў твар ямшчыка, спачатку бяздумны, невыразны... Паступова, аднак, ён мяняўся, рабіўся знаёмым, і, пад уплывам яго позірку, ільдзінкі ў грудзях пачалі

пакутліва хутка раставаць. І, разам з тым, я адчуваў, што лясная альтанка з галін паўстае ва ўсіх падрабязнасцях, якіх я раней не заўважаў, і ва ўяўленні кожная падрабязнасць абрастае асаблівымі ўражаннямі, і мне страшна зірнуць у твар чалавеку, які быццам заварушыўся на пні, але ямшчык патрабуе ад мяне, каб я абавязкова зірнуў... Я злуюся на яго, але потым бачу, што гэта ўжо не ямшчык, а Ігнатовіч і што пад уплывам яго позірку, поўнага пакутлівага суму,— усё тое, што ляжала ў глыбіні маёй памяці бясколернымі халоднымі льдзінкамі, раптам растала...

Апавядальнік спыніўся і, памаўчаўшы, дадаў:

— Вы памятаеце, мусіць, легендарныя расказы сярэдневяковых падарожнікаў пра палярныя краіны. Зімой словы замярзаюць і мёрзлымі льдзінамі ляжаць да цяпла. А потым растаюць і зноў робяцца словамі... Калі разумець гэта як метафару, у гэтым ёсць глыбокі сэнс. Прынамсі, у гэту хвіліну я нечакана ўспомніў ямшчыковы словы, якія ён гаварыў яшчэ тады, на дарозе, і якія дасюль ляжалі ў мяне недзе ў глыбіні памяці мёртвым грузам. Так, несумненна, ён гаварыў тады пра гэтага чалавека ў лесе і пра тое, што ён «забіўся» недзе на капальнях і ідзе пешшу ад станка да станка... Толькі цяпер гэтыя словы раптам адталі, і ад іх у грудзях у мяне нешта пакутліва заныла...

Я міжволі застагнаў і расплюшчыў вочы. Агонь у камінку дагараў. На дварэ ўсё яшчэ выў вецер, нада мной схіліўся твар майго спадарожніка...

Ніколі ў маім жыцці, ні раней, ні пасля, я не бачыў нічога больш жудаснага, чым гэты твар, асветлены трапяткім полымем камінка... Ён быў скрыўлены ад жаху і нейкага набалелага пытання. Ніжняя сківіца яго дрыжала, зубы барабанілі, быццам ад холаду...

— Што такое? Божа, мілы! — сказаў я і ўстаў.

— Вы не ведаеце? — спытаў ён, пазіраючы на мяне сваімі нежывымі мутнымі вачыма.— Скажыце,— хіба гэта... быў толькі сон?

— Што?

— Што вы зараз застагналі і прачнуліся,— сказаў ён рэзка і падазрона паглядзеў на мяне. Бачачы, што я не адказваю, ён усё гэтак жа падазрона ўзіраўся мне ў твар:

— Вы не заўважалі там, у лесе... чалавека?

Я прамаўчаў і мімаволі адвёў вочы.

— Паслухайце,— загаварыў ён,— скажыце мне што-небудзь... Я яшчэ думаю, што гэта быў сон... Не можа быць, каб гэта было ў сапраўднасці... Каб мы...

— Гэта і быў амаль што сон,— сказаў я.— Мароз так прытупляе ўражанні...

Ён зрабіў рэзкі рух і сеў на сваім месцы: вочы яго дзіўна блiснулі...

— Праўда?..— сказаў ён жаласна і потым дадаў з нейкай дзікай энергіяй: — Не хлусіце! Не выкручвайцеся... Я таксама лгаў... Я ведаў, што ўсё было на самай справе... Мы ўсе бачылі... усе... Гэты чалавек уставаў, ён хацеў нешта крыкнуць... Вы гэта ведаеце, і я ведаю і тады ведаў... Вы будзеце шукаць апраўданні... Сумленне замерзла!.. О, вядома, гэта заўсёды так бывае: варта тэмпературы цела панізіцца на два градусы, і сумленне замярзае... закон прыроды... Не замярзае толькі клопат пра сябе і подлая, фарысейская крывадушнасць... О, якая нізасць!..

Ён аберуч схапіўся за галаву, і некалькі секунд прайшло ў маўчанні. Наша хаціна ўсё ўздрыгвала, але роўны гул сціх: зноў пачуліся штуршкі, і мне наяве здавалася, быццам там, над ракой, лесам і цяснінамі, паволі хадзіў нехта вялізны і цяжкі...

— Ды падыміцеся, нарэшце, вы... нягоднікі! — крыкнуў раптам Ігнатовіч з дзікай варожасцю.— Мы ж з вамі чалавека забілі. Раз-зумееце вы, самалюбівае быдла! Гаспадар, уставай... Гавай... Заві ўсіх... Божа!.. Што рабіць, што цяпер рабіць?..

У асветленым крузе ля камінка паказаўся спалоханы твар нашага гаспадара. Ён ужо нейкі час варушыўся, прыслухоўваўся да незразумелай і трывожнай гаворкі незнаёмых праезджых людзей, якія ўспаміналі пра забойства. І цяпер, яшчэ сонны, спалоханы не столькі, відаць, словамі, колькі дзікай энергіяй, якая прарывалася ў голасе ледзь не звар'яцелага чалавека, ён скоранька ўскочыў і пачаў нацягваць на сябе верхняе адзенне. Потым, не гаворачы ні слова, расчыніў дзверы і выйшаў у цемру. Ямшчык, які прывёз нас, таксама прачнуўся, пазяхнуў, сышоў са свайго месца і падкінуў дроў у камінок... Ён, відаць, зусім не разумеў, у чым справа. У кутку заплакала дзіця, і пачуўся жаночы голас, які супакойваў малое.

Усё гэта назаўсёды ўрэзалася мне ў памяць, і ніколі не забыць мне гэтай жудаснай ночы, цёмнай хаціны, поўнай народу, які ціха набіўся ў яе, і гэтага працяжнага гулу знадворку. Ведаеце, часам ёсць нешта надзіва разумнае ў галасах прыроды... Асабліва калі яна пагражае...

VI

— Паслухайце, можа, вы ўсё-такі раскажаце, што было далей? — спытаў я праз нейкі час, бачачы, што мой спадарожнік задумаўся і як быццам забыўся пра сваю гісторыю, пазіраючы перад сабой на асветленыя сонцам горы нашага берага. Ракі з крыгаходам цяпер не было відаць. Мы ехалі лугам, наперадзе пляліся мае спадарожнікі і весела гаварылі са сваім ямшчыком.

— Ага, прабачце, калі ласка!.. — загаварыў ён.— Я задумаўся. Гэта вельмі цяжкія ўспаміны, але... вядома, я закончу расказ... спыніўся я на тым, што...

— Што ў хату пачалі набівацца ямшчыкі, якіх, відаць, паклікаў гаспадар.

— Так, так, вядома... Гаспадар паклікаў іх ледзь не ўсіх, бо думаў, што і сапраўды трэба будзе звязаць забойцаў. Ямшчыкі заходзілі нясмела, пазяхалі, хрысціліся і ціснуліся ўбок, пакідаючы вакол нас пустое месца. Неўзабаве ў кутку ля дзвярэй сабралася цёмная куча людзей, твары іх з цікаўнасцю і страхам цягнуліся з-за плячэй тых, што стаялі наперадзе, і пазіралі ў наш бок. Апошні прыйшоў староста з дзесяцкімі. Перахрысціўшыся на ікону, ён рэзка ступіў да нас і загаварыў груба, відаць, стараючыся падбадзёрыць і сябе і станочнікаў:

— Ну, што нарабілі? Вініцеся богу, вялікаму гасудару...

Аднак, калі я пачаў тлумачыць, у чым справа, у хаце ўсталявалася нешта падобнае на расчараванне. Гэтым людзям жылося заўсёды так холадна, і мой расказ, праўда, блытаны і непаслядоўны, не меў для іх таго трагічнага сэнсу, які ён меў для нас. Недзе ў кутку пачуўся нават смех.

— Ды гэта Мітрохін, пасяленец! — сказаў хтосьці.

— Праўда, ён... Тыдні, кажуць, ужо тры пляцецца з капальняў. Надакучылі нам...

— І праўда,— уставіў свае два грошы ямшчык, які прывёз мяне і Сакольскага.— У нас на станку тры дні таму назад быў. Каня хацеў. Завязіце, кажа, хрыстом богам прашу, ногі не ходзяць.

— Ну, чаму ж не далі? — запытаў староста сурова.

— Надакучыла ўжо нам вазіць іх. Ды і паперы няма...— адказаў ямшчык, адварочваючыся.— Была б папера ці каб да нас прывезлі яго, а то ж пешшу прыйшоў... Як людзі, так і мы...

— Пешшу прыйшоў! Разумныя. Дык то ж цёпла было, а тут, бачыш, сівер. Замерзне цяпер,— засядацель з доктарам, мабыць, пешшу не прыйдуць... Вазіць жа давядзецца... А вы, панове, чаго народ дарма бударажыце?.. Ноч жа...

— У яго цяпліна была (вогнішча),— уставіў ямшчык як апраўданне.

— Як жа дарма,— сказаў я, адчуваючы, што глеба ў нас пачынае вырывацца.— Чалавек жа замерзне... Трэба памагчы.

— Як паможаш?.. Калі бог зберажэ, прыйдзе, далей завязём... Чаму, Цімафей, не падабраў яго? — спытаў ён зноў у нашага ямшчыка.

— Дзе пасадзіў бы я? Сані маленькія, сам змёрз...

— Праўда і то... Утрох ехалі... Што ж цяпер рабіць? Цяпліна была, дык, можа, бог зберажэ...

— Пачакайце,— крыкнуў я ў адчаі,— нельга ж... У гэтую хвіліну, можа, чалавек памірае... Чуеце, што робіцца...

На імгненне стала ціха,— і зноў з двара чутны былі ўдары, быццам хто размерана і з прамежкамі тоўк штосьці ў ступе. І часам уяўленне прымешвала да гэтага стогны... Гэта даносіўся, відаць, звонкі гул лясных вяршалінаў ці, можа, на рацэ трашчаў лёд.

У хаце пачуліся ўздыхі. Тым не менш, дзверы адчыняліся. Ямшчыкі пачыналі патроху выходзіць.

— Ратуй яго, госпадзі! — прашаптаў хтосьці, і нечы другі голас рэзка дадаў:

— Самі таксама стынем... Няма той зімы, каб на бліжніх станках не замёрз чалавек ці двое. Перагон у нас люты!

— Трэці год — Хведзька ў гэтым жа лесе замёрз.

— Летась баба з хлопчыкам.

— А ў мяне ўнук не замёрз, ці што? — злосна выкрыкнуў у натоўпе нейкі стары.

— Гэтым ветрам пошта не ходзіць,— зноў сказаў наш ямшчык.

Дзверы рыпнулі яшчэ і яшчэ... Людзей станавілася меней.

— Пачакайце,— сказаў я ў роспачы.— Вазьміце грошы, ці што? Дзесяць рублёў,— хто згодзіцца паехаць са мной...

Тут мой позірк упаў на Ігнатовіча, які ціха сядзеў на лаўцы ля стала з зусім памярцвелым тварам, і мне стала жудасна. Голас мой сарваўся...

Памятаю, што ў гэту хвіліну стараста з раптоўным спачуваннем зірнуў на мяне і зрабіў нейкі рух...

— Дваццаць, трыццаць, усё, што ў нас ёсць! — сказаў я, амаль задыхаючыся ад хвалявання...

— Стойце! — крыкнуў стараста сваім груба-рашучым голасам, ад якога натоўп адразу спыніўся.— Нікому не выходзіць! Чуеце, людзі, грошы даюць, ды і без грошай усё адно трэба было б. Праўда, што грэх!.. Трэба бога ўспомніць! Ну, чыя чарга? Гаварыце, старыя!..

Натоўп адхлынуў ад парога на сярэдзіну хаты... Стараста стаяў побач са мной, і цяпер я не зводзіў з яго вачэй. Гэта быў мужык сярэдніх год, рослы, смуглы, з грубымі, але прыемнымі рысамі твару і глыбокімі чорнымі вачыма. У іх была рашучасць і як быццам клопат.

— Эх, пане,— сурова сказаў ён мне, калі сярод ямшчыкоў пачаўся гоман, якім звычайна пачынаецца абмеркаванне агульнай справы на сходзе.— Сумленне ў цябе ёсць, а розуму мала... Без грошай бы, мусіць, лепей было... Я ўжо хацеў аб'явіць нарад... Цяпер пойдзе сварка.

І сапраўды ўсчалася нясцерпная сварка. Вы ведаеце,— гэтыя ленскія ямшчыкі складаюць своеасаблівыя ямскія суполкі, абломак мінулых стагоддзяў. Зямлі ў іх няма, і пакладзена ім жалаванне. «Пара коней» складае аснову падушнай раскладкі, «душа» прыраўніваецца да часткі каня, якой адпавядае частка жалавання. Усе прыбыткі станка і ўсе павіннасці звязаны з гэтай асновай... Цяпер мае грошы ўступалі ў гэту раскладачную машыну, і прытым грошы экстраныя. Трэба было раскінуць іх на грамаду, а грамада павінна была выставіць чарговых.

Усчалася спрэчка... Прагонная плата, часткі коней, старыя рахункі, чэргі, возка дроў, паштовыя прагоны, правоз засядацеляў і спраўнікаў, сіроты, харчаванне арыштантаў — усё гэта цяпер выступіла на сцэну і абмяркоўвалася горача і ўсебакова. Я некалькі разоў спрабаваў спыніць гэтыя спрэчкі журботным напамінкам пра тое, што чалавек можа загінуць, але бліжэйшы ямшчык сказаў мне з сур'ёзнай упартасцю:

— Нічога не паробіш, не перашкаджай! Справа агульная... перашкодзіш, горай...

Спрэчкі прадаўжаліся. Рашэння ўсё яшчэ не было відаць... Знадворку даносіўся ўсё той жа злавесны гул...

Нарэшце ўмяшаўся стараста, якому як быццам перадавалася маё нецярпенне. Ён, вядома, лепей за мяне ведаў гэтую развёрстачную машыну, якая так шумна дзейнічала перад нашымі вачыма, і бачыў, што пакуль яна зробіць дакладна і справядліва сваю справу,— міне яшчэ нямала ча-

су... І вось ён выступіў наперад, адным вокрыкам спыніў шум, потым павярнуўся да абразоў і перахрысціўся шырокім крыжам. Дзе-нідзе ў натоўпе рукі інстынктыўна таксама ўзняліся перахрысціцца... Трывожная ноч рабіла сваё ўздзеянне на грубыя нервы...

— Браткі,— сказаў ён,— нельга гэтак... Бачыць бог, святая ўладычыца. Я адмаўляюся. Не трэба мне грошай... Я еду, не ў залік, без чаргі... Калі бог паможа, пакіньце свае грошы, панове... Свечку, калі што, пастаўце...

Натоўп заціх, і праз хвіліну адзін са станочнікаў, які яшчэ зусім нядаўна спрачаўся і гарачыўся з-за нейкай нечарговай «выці»,— першы сказаў са спакойным спачуваннем:

— Ну, памажы табе бог... Калі ахвотай...

— Справа твая...

— Не ў залік,— твая воля... І то сказаць: душа даражэй за грошы... Тут і сам застынеш...

— Бач, які сіверка... Госпадзі памілуй... Праўда,— пошта не пойдзе... Ну іх, і з грашыма. Свая душа даражэй.

— Памажы табе ўладычыца, Сафрон Сямёнавіч.

Я з вялікай палёгкай зірнуў у той бок, дзе сядзеў Ігнатовіч... Мне здавалася, што ў вялікадушнай стараставай прапанове і ў тым, як яна была прынята,— ёсць нешта такое, што як быццам апраўдвала і нас... Але Ігнатовіча на гэтым месцы ўжо не было.

Неўзабаве хата ачысцілася. Засталіся толькі гаспадар, некалькі ямшчыкоў і я. Ігнатовіча нідзе не было відаць. Ямшчыкі гаварылі, што ён выйшаў, апрануўшыся, яшчэ да канца развёрсткі...

У мяне сцялася сэрца ад нейкага прадчування. Я ўспомніў яго бледны твар пад час перагавораў. Спачатку на ім ляжаў адбітак звычайнай мізантропіі з дамешкам нейкай агіды да сябе і да іншых. Але ў апошнюю хвіліну мне запомнілася толькі глыбокая, безнадзейная туга. Гэта было тады, калі я прапанаваў грошы і сярод ямшчыкоў пачаліся спрэчкі...

Я выйшаў на пляцоўку, шукаў і клікаў яго, дадаючы на ўсякі выпадак, што ўсё зроблена і што я хутка еду па чалавека ў лесе... Але адказу не было, у вокнах растрывожанага станка тухлі агні, вецер цягнуў па-ранейшаму; часам стралялі сцены станочных мазанак і здалёк даносіўся стогн — гэта лопаўся лёд...

— Таварыша клічаш? — запытаўся ў мяне ямшчык, што праходзіў міма.— Ды ён, відаць, пайшоў спаць у дру-

гую хату... Неспакойна было ў вас... Можа, папрасіўся да шабroў.

У гэты час да хаты пад'ехалі шырокія сані, запрэжаныя парай коней, і староста, увесь захутаны ў футра, у велізарных рукавіцах, саскочыў з іх і падышоў да мяне.

— Што такое? — спытаў ён.— Што яшчэ?

— Хутчэй, хутчэй, богам прашу,— сказаў я, не могучы стрымаць нервовыя дрыжыкі. У мяне ўзнікла раптоўная ўпэўненасць, што я знайду Ігнатовіча па дарозе.

— Ну не,— сказаў ён.— Пачакай, пане, гэтак нельга. Адзенне ў цябе не для нашага ветру. На вось, я прывёз. Апранайся.

І ён настояў, каб я апрануўся ў яго футра... Мы выехалі амаль ужо на світанні, захапіўшы з сабой на ўсякі выпадак яшчэ бярэмя адзення...

Вецер быў цяжкі і пякучы. На небе свяціла поўня, а ўнізе імчала так званая пазёмка.

Вы ведаеце, што гэта? Вецер уздымаў з зямлі сухі снег і нёс насустрач роўна, няспынна, упарта... Гэта не мяцеліца, гэта горш за ўсякую мяцеліцу... У такое надвор'е ўсякі рух спыняецца: здаецца, мы сапраўды рызыкавалі тымсім у гэтую раніцу. Мне потым два пальцы адрэзалі...

— Знайшлі вы гэтага чалавека? — нецярпліва запытаў я, бачачы, што Сакольскі зноў спыніўся.

— Знайшлі...— адказаў ён ціха.— Гэта было ўжо шэрай раніцай... Вецер пачаў сціхаць... Сеў халодны туман... У яго быў агонь, але ён даўно патух... Ён, відаць, заснуў... Вочы ў яго, між іншым, былі расплюшчаны, і на зрэнках асела шэрань...

— А ваш таварыш? Ён сапраўды застаўся на станку?

Сакольскі паглядзеў на мяне памутнелымі пустымі вачыма.

— Я быў глыбока перакананы, што ён пайшоў па дарозе ў лес, і таму ўсю дарогу крычаў і прыглядаўся. Староста супакойваў мяне. Ён, па-першае, ніяк не разумеў, што чалавек можа вось так адправіцца на пагібель, а па-другое, дарога ад станка была толькі адна і прытым шырокая і абстаўленая тычкамі, збіцца было немагчыма, асабліва ў светлую ўсё-такі ноч...

Калі мы паехалі назад, паклаўшы і захутаўшы ў футру нашу сумную знаходку, была ўжо раніца. Вецер сціх, і мароз раптам здаўся. Потым узышло сонца. Слядоў нідзе не было.

— Значыць, вы памыліліся?

— Мы прыехалі на станок... Там яго таксама не было...

Сакольскі змоўк, і на расчуленым грубаватым твары яго праступіла глыбокая пяшчота...

— Ён быў непрактычны і бездапаможны, як дзіця,— сказаў ён.— Ніколі ён не ўмеў знайсці дарогу... Выйшаўшы з хаты, ён пайшоў ратаваць чалавека, але... узяў у другі бок...

Апавядальнік павярнуўся да мяне:

— Разумееце вы гэта? Узяў адразу са станка ў другі бок і пайшоў прама. Дарога тут была такая ж шырокая, і блізка таксама пачынаўся лес. У гэтым густым лесе ў зацішных мясцінах на наступны дзень яшчэ захаваліся сляды. Яны ішлі прама, не зварочваючы. Прайшоў ён надзіва шмат і... не адступіў ні кроку, пакуль...

Сакольскі змоўк і даволі доўга глядзеў убок.

— Ці спадзяваўся ён выратаваць гэтага незнаёмага чалавека?.. Не думаю... Ён пайшоў як быў, захапіўшы, праўда, трут і крэсіва, якія наўрад ці здолеў бы скарыстаць. Кажу вам — зусім дзіця. Яму проста стала нясцерпна... І яшчэ... Мне часам прыходзіць у галаву, што ён караў у сабе подлую чалавечую прыроду, у якой сумленне можа замерзнуць пры паніжэнні тэмпературы цела на два градусы... Рамантык у ім караў матэрыяліста...

Ён зноў змоўк.

— Вы сказалі, здаецца,— подлую чалавечую прыроду? — сказаў я праз нейкі час.

Ён азірнуўся, як быццам трохі здзіўлены.

— Ага!.. Не ведаю я, не ведаю!.. Проста нічога не ведаю. Ведаю адно, што гінуць часта не тыя, каму трэба было б, а мы, хто застаецца...

Ён не дагаварыў, махнуў рукой, і ўвесь астатні час мы ехалі моўчкі, пакуль з-за адхону не паказаліся дымкі станка, на якім нам давялося развітацца. Сакольскі вельмі спяшаўся да сваёй партыі і паехаў наперад, а мы паняволі ехалі цішэй.

## VII

Дні праз два пасля гэтага, калі мы праязджалі густым лесам, ямшчык, малады хлапчук, падлетак, паказаў мне пугаўём вялікі каменны крыж у гушчары, у баку ад дарогі і сказаў:

— Чалавек тут застыў... двое... Крыж паставіў Са-

кольскі з капальняў, можа, ведаеце? Учора праязджаў. Глядзі, яго сляды гэта...

Сапраўды, па глыбокім снезе, асветленым сонечнымі промнямі, што прабіваліся праз гушчар, добра відаць былі нечыя буйныя сляды ад дарогі да крыжа і назад.

— Ніколі міма не праедзе,— зноў сказаў ямшчык, павярнуўшыся на козлах і ўсміхаючыся.— Заўсёды вылезе. Пастаіць-пастаіць, зноў сядзе. Хрысціцца не хрысціцца, а, відаць, моліцца... Калі і заплача... Дзівак, а пан добры.

І, ударыўшы коней, ён дадаў задуменна:

— Відаць, прыяцелі былі...

*1900—1901*

# рака гуляе

*Эскізы з дарожнага альбома*

## I

Прачнуўшыся, я доўга не мог уцяміць, дзе я. Нада мной разляглося блакітнае неба, па ім ціха плыло, размываючыся, бліскучае воблака. Трохі задраўшы галаву, я мог бачыць у вышыні цёмную драўляную цэркаўку, якая праз зялёныя дрэвы наіўна пазірала на мяне з высокай гары. Справа, за некалькі сажняў ад мяне, стаяў нейкі незнаёмы будан, злева — шэры няўклюдны слуп з шырокім дашчаным дахам, з конаўкай і дошкай, на якой было напісана:

Ахвяруйце прахожыя
на звон гасподні.

А ля самых маіх ног плёскалася рака.

Вось гэты плёскат і абудзіў мяне ад салодкага сну. Даўно ўжо ён прарываўся да маёй свядомасці трывожным шэптам, ласкавым і разам з тым бязлітасным голасам, што ўздымае на досвітку для непазбежнага працоўнага дня. А ўставаць так не хочацца...

Я зноў заплюшчыў вочы, каб спакойна ўспомніць, як гэта я апынуўся тут, пад адкрытым небам на беразе гэтай рэчкі, побач з гэтым буданом і гэтым слупом з прастадушным зваротам да прахожых.

Патроху ў галаве маёй успылі папярэднія акалічнасці. Мінулыя суткі я правёў на Святым возеры, ля нябачнага горада Кіцежа, ціскаючыся ў натоўпе, слухаючы гугнявыя песні сляпых жабракоў, спыняючыся ля імправізаваных алтароў пад разложыстымі дрэвамі, дзе розныя беспапоўцы, скітнікі і скітніцы выспеўвалі свае службы, у той час як у іншых месцах, у густых купках народу, кіпелі гарачыя рэлігійныя спрэчкі. Ноч усю я прастаяў на нагах, сціснуты густым натоўпам ля старой капліцы. Мне ўспомніліся стомленыя твары місіянера і двух свя-

шчэннікаў, кучы кніг на аналоі, агні васковых свечак, пры дапамозе якіх тыя, хто спрачаўся, адшуквалі патрэбныя тэксты ў тоўстых фаліянтах, узбуджаныя твары «раскольнікаў» і «царкоўных», што шматгалосым гоманам сустракалі кожнае ўдалае пярэчанне. Успомнілася старая капліца з расчыненымі дзвярыма, у якіх віднеліся жоўтыя агеньчыкі ля абразоў, між тым як па сінім небе ціха плыў ясны месяц і над капліцай, і над цёмнымі шапаткімі дрэвамі. На досвітку я з цяжкасцю выграбся з натоўпу на прастору і, стомлены, з галавой, цяжкай ад бясплоднай схаластыкі гэтых спрэчак, з сэрцам, якое сціскалася ад няяснай тугі і расчаравання,— палявымі дарогамі паплёўся да сіняй паласы прывятлужскіх лясоў, услед за чарадой багамольцаў, што разыходзіліся па хатах. Цяжкія, бязрадасныя ўражанні нёс я ад берагоў Святога возера, ад горада, якога няма, але які так патрэбен народу... Быццам у душным склепе, пры цьмяным святле лампадкі правёў я бяссонную ноч, прыслухоўваючыся, як недзе за сцяной нехта мерным голасам чытае памінальную малітву над народнай думкаю, што заснула навек.

Сонца ўжо ўстала над лясамі і водамі Вятлугі, калі я, прайшоўшы каля пятнаццаці вёрстляснымі сцежкамі, выйшаў да ракі і, як мёртвы, паваліўся на пясок ад стомы і цяжкіх уражанняў, якія вынес з возера.

Успомніўшы, што я ўжо далёка ад іх, я бадзёра скінуў з сябе рэшткі сну і прыўзняўся на сваёй пясчанай пасцелі.

## II

Сяброўскі рачны шэпт зрабіў мне добрую паслугу. Калі, гадзіны тры назад, я ўкладваўся на беразе, чакаючы вятлужскага парахода, вада была далёка, за старой лодкай, якая ляжала на беразе ўгару дном; цяпер яе ўжо ўзмывала і пагойдвала прылівам. Уся рака кудысьці спяшалася, пенілася па ўсёй сваёй шырыні і даставала ледзь не да самых маіх ног. Яшчэ паўгадзіны,— калі б мой сон быў трохі мацнейшы,— і я апынуўся б у вадзе, як і гэта перакуленая лодка.

Вятлуга, відаць, разгулялася. Некалькі дзён назад ішлі ліўні: цяпер з лясных нетраў выкацілася паводка, і вось рака ўздулася, залiваючы свае вясёлыя берагі. Жвавыя струмені беглі, штурхаліся, кружыліся, завіваліся ў віры, развіваліся зноў і зноў беглі далей, і па ўсёй рацэ навы-

перадкі несліся шматкі жаўтавата-белай пены. Па берагах зялёны лапух, заліты вадою, цягнуўся з яе, трывожна размахваючы яшчэ не затопленымі галовамі, між тым як у некалькіх кроках, на большай глыбіні, і лапух, і падбел, і ўся зялёная братва стаялі ўжо пакорліва і ціха... Малады вербалоз, з зялёнымі навіслымі галінамі, дрыжаў ад удараў хваль.

На тым беразе весела кучараваліся ракіты, малады дубняк і вербы. За імі цёмныя елкі выступалі з зубчатым грэбенем; далей узвышаліся прыгожыя ясакары і велічныя сосны. У адным месцы, на высечцы, бялелі штабелі дошак, свежыя бярвенні і зрубы, а ў некалькіх сажнях ад іх тырчалі з вады жэрдкі перавазных масткоў... І ўвесь гэты мірны пейзаж на маіх вачах як быццам ажываў, поўніўся шолахам, плёскатам і звонам бурнай ракі. Плёскаліся неспакойныя струмені на стрыжні, звінелі хвалі, ударaючы ў барты старой лодкі, і па ўсёй рацэ стаяў шолах ад лопання пушыстай пены, ці, як яе называюць на Вятлузе, рачнога «цвету».

І здавалася мне, што ўсё гэта я ўжо некалі бачыў, што ўсё гэта такое роднае, блізкае, знаёмае: рака з кучаравымі берагамі, і простая сельская цэркаўка над стромай, і будан, нават запрашэнне да ахвяравання на «звон гасподні», якое такімі наіўнымі каракулямі пазірала са слупа...

Все это было когда-то,
Но только не помню когда...[1]

міжволі ўспомніліся мне словы паэта.

## III

— Гляджу я, братка, зусім цябе рака заплёсквае. Гэтта дамоў хадзіў. Іду назад, а сам думаю: мабыць, забрала ў мяне ўжо прахожага. Моцна ж спаў ты, добры чалавек!

Гаворыць мужык сярэдніх гадоў, ён сядзіць на лавачцы ля будана, і гукі яго голасу мне таксама неяк прыемна знаёмыя. Голас басісты, грудны, трохі асіплы, як пасля моцнага пахмелля, але ў ім чуюцца ноты такія ж непасрэдныя і наіўныя, як і гэта царква, і гэты слуп, і надпіс на слупе.

---

[1] Заключныя радкі верша А. К. Талстога «По гребле неровной и тряской...».

7 Зак. 3820

— І што толькі робіць, глядзі, што толькі робіць Вятлуга наша... Ах ты! Бяда ж гэта, далібог, бяда...

Гэта перавозчык Цюлін. Ён, панурыўшы галаву і неяк увесь апусціўшыся, сядзіць ля свайго будана. На ім паркалёвая брудная кашуля і сінія шарачковыя порткі. На босую нагу абутыя старыя атопкі. Твар маладжавы, амаль што без барады і вусоў, з выразнымі рысамі, з якіх вельмі добра выдзяляецца асаблівая вятлужская складка, а цяпер, акрамя ўсяго, выразна бачна засяроджаная панурасць дабрадушнага, але душэўна прыгнечанага чалавека.

— Знясе ў мяне лодку...— гаворыць ён і не варушыцца, позіркам знаўцы вывучае становішча справы.— Далібог, знясе.

— А табе б,— кажу я, размінаючыся,— выцягнуць трэба.

— Як не трэба. Не прамінуць, каб не выцягнуць. Бач, што робіць, бач, бач... Н-ну!!!

Лодка ўздрыгвае, прыўзнімаецца, робіць нейкі сутаргавы рывок і потым зноў бездапаможна кладзецца на ваду.

— Цю-ю-ю-л-і-ін! — нясецца з другога берага крык нейкага падарожніка. На высечцы, ля спуску да ракі, відаць маленькі-маленькі конік, і маленькі мужык, спусціўшыся да самай вады, адчайна махае рукамі і галосіць тонкай фістулой: — Цю-ю-ю-лі-ін!..

Цюлін з тым жа змрочным выглядам пазірае на лодку, што ўздрыгвае на вадзе, круціць галавой.

— Бач, бач ты — зноў!.. А ўчора яшчэ, бач ты, за масткамі была вада... Паглядзі, за ноч чаго не наробіць. Ліха на яе, шалёная рачулка! Гэтта пачне гуляць і пачне гуляць, братка ты мой...

— Цю-ю-ю-лі-ін, чо-орт! — звініць і абрываецца на тым беразе падарожнікаў голас, але на Цюліна гэты вокліч не робіць ніякага ўражання. Быццам адчайны крык — такая ж звычайная прыналежнасць ракі, як свавольныя ўсплёскі хваль, шэлест дрэў і шолах рачнога «цвету».

— Гэта ж цябе клічуць! — кажу я Цюліну.

— Клічуць,— адказвае ён спакойна, тым жа па-філасофску аб'ектыўным тонам, якім гаварыў пра лодку і рачныя выбрыкі.— Іванка, а Іванка! Іванка-а-а!

Іванка, светлагаловы хлопчык гадоў дзесяці, капае чарвякоў пад абрывам і так жа мала звяртае ўвагі на голас бацькі, як той — на крыкі мужыка з таго берага.

У гэты час па крутой сцежцы ад царквы спускаецца баба з дзіцем на руках. Дзіця, загорнутае з галавой у анучы, крычыць. Другое — дзяўчынка гадоў пяці — бяжыць побач, хапаючыся за суkенку. Твар у бабы заклапочаны і суровы. Цюлін робіцца адразу нейкі яшчэ больш пануры і сур'ёзны.

— Баба ідзе,— гаворыць ён мне, пазіраючы ў іншы бок.

— Ну? — гаворыць баба злосна, падыходзячы блізка да Цюліна і гледзячы на яго пагардлівым і злосным позіркам. Адносіны, відаць, склаліся ўжо даўно: мне зразумела, што бестурботны Цюлін і заклапочаная, стомленая баба з двума дзецьмі — два варожыя бакі.

— Чо яшчэ нукаеш? Што табе, бабе, трэба? — пытаецца Цюлін.

— Чо, яшчэ пытаецца... Лодку давай! Бач, цераз раку ходу няма мне, а то б не стала з табой, з блытанікам, і гутарыць...

— Ну-ну! — з абурэннем пярэчыць перавозчык.— Што ты, якая смелая прыйшла. Гаворыш...

— А чаму мне не гаварыць! Заліў шары ўжо... Куды толькі людзі глядзяць, п'яніцы нашы, даўно б цябе, негадзя п'янага, з перавозу турнуць трэба. Давай, чуеш, лодку!

— Лодку? Вунь хлопец цябе перамахне... Іванка, а Іванка, чуеш? Іванка-а!.. А я зараз дубцом яго, нягодніка, перацягну. Чуеш, прахожы!..

Цюлін паварочваецца да мяне:

— Ану, дай-ка, прахожы, дубец до-обры!

І ён з цяжкім намаганнем робіць выгляд, што хоча прыўзняцца. Іванка імгненна кідаецца ў лодку і хапае вёслы.

— Дзве капейкі з яе. Дзеўку так! — лянiва камандуе Цюлін і зноў звяртаецца да мяне: — Во гора мне: галаву ўсюю разламіла.

— Цю-ю-лі-ін! — стогне зноў той бераг.— Пераво-о-з!..

— Татка, а татка! Паром крычаць жа,— гаворыць Іванка, у якога, відаць, з'явілася надзея на тое, што ён будзе вызвалены ад абавязку везці бабу.

— Чую. Даўно ўжо крычаць,— спакойна канстатуе Цюлін.— Згаварыся там. Можа, яшчэ і не трэба яму... Можа, яшчэ і не паедзе... Чаго гэта так галаву ломіць? — зноў звяртаецца ён да мяне тонам самага шчырага даверу.

Угадаць прычыну няцяжка: ад небаракі Цюліна га-

рэлкай нясе, як з паўкварты, і нават да мяне, на адлегласці дзвюх сажняў, раз-пораз даносяцца вострыя струменьчыкі перагару, змешаныя з пахам ракі і берагавой раслiннасцi.

— Калі б выпіў я,— гаворыць Цюлін у роздуме,— а то не піў.

Галава яго апускаецца яшчэ ніжэй.

— Даўно не п'ю я... Дапусцім, учора выпіў...

І Цюліна зноў апаноўвае глыбокі роздум.

— Каб жа шмат... Хаця, дапусцім, учора я выпіў даволі... Дык жа сёння не піў!

— Дык гэта ў цябе, відаць, з пахмелля,— спрабую я вывесці яго на правільную дарогу.

Цюлін глядзіць на мяне доўга, сур'ёзна і надзвычай удумліва. Мая здагадка, відаць, падалася яму небеспадстаўнай.

— Хіба што ад гэтага. Сёння ж я няшмат выпіў.

Пакуль такім чынам Цюлін марудным, пакутлівым, але затое верным шляхам падыходзіў да сапраўднай прычыны сваіх пакут, мужык на тым беразе канчаткова страціў голас.

— Цю-ю-ю...— ледзь чутна далятала адтуль, праз плёскат рачных хваляў.

— Хіба што ад гэтага. Гэта ты, братка, відаць, слушна... П'ю я атруту гэту, хлябтаю, братка, хлябтаю...

## IV

Між тым мужык, што крычаў марна, сціхае і, пакінуўшы каня з возам на тым беразе, перапраўляецца да нас разам з Іванкам, для асабістых перагавораў. На маё здзіўленне, ён дабрадушна вітаецца з Цюліным і садзіцца побач на лаўку. Ён многа старэйшы за Цюліна, у яго сівая барада, блакітныя, выцвілыя, як і ў Цюліна, вочы, на галаве шапка, а на твары, дзесьці ля вуснаў, хаваецца тая ж вятлужская складка.

— Пакутуеш? — пытаецца ён у перавозчыка з усмешкай амаль сатырычнаю.

— Галаву, братка, усю разламіла. І чаго б гэта?

— Віна пі менш.

— Хіба што ад гэтага. Вось і прахожы тое ж баіць.

— А лодку ў цябе, глядзі, знясе.

— Як жа не знясе. Проста такі і знясе.

Абодва нейкі час глядзяць, як уздрыгвае, быццам у агоніі, перакуленая лодка.

— Давай паром, ці што,— ехаць трэба.

— Ды ці трэба табе яшчэ ехаць? Напэўна, у Красіху п'янстваваць?

— А ты ўжо накрасіўся...

— Выпіта. Галаву ўсё разламіла, каб яно! А ты, можа, лепей не едзь.

— Дзівак! У мяне ж дачка там выдадзена. Запрашалі на свята. І баба са мной.

— Ну, баба, дык, значыць, не прамінуць каб ехаць. Э-эх, шастоў няма.

— Як няма? Чаго балбочаш? Вунь жа шасты!

— Кароткія. Дваццаці чвэрцяў трэба. Бачыш жа, прыбывае Вятлуга.

— А ты што ж, дзівак, шастоў не назапасіў, калі бачыш, што прыбывае?.. Іванка, зганяй па шасты, хлопец!

— Схадзіў бы сам,— гаворыць Цюлін,— цяжкія ж.

— Ты схадзі,— твая справа!

— Не мне ехаць — табе!

І абодва мужыкі, ды і Іванка трэці, спакойна застаюцца на месцы.

— Ну я яго, паганца, дубцом выцягну...— зноў гаворыць Цюлін, робячы новую спробу ўстаць.— Прахожы! Дай-ка мне дубец...

Іванка з гугнявым ровам зрываецца з месца і трушком бяжыць на гару, да сяла.

— Не данясе,— гаворыць мужык.

— Цяжкія ж,— пацвярджае Цюлін.

— А ты б падбег хоць насустрач,— раіць мужык, гледзячы на намаганні мураша Іванкі, які з даўгімі шастамі паказваецца на гары.

— І я таксама хацеў сказаць: дабяжы ты.

Абодва сядзяць і глядзяць.

— Еўсцігне-ей! Чорт! — чуецца з таго боку пранізлівы і ядавіты бабскі голас.

— Баба крычыць,— гаворыць мужык з нейкім непакоем.

Цюлін захоўвае абыякавасць: баба далёка.

— А калі ў мяне мерын сарвецца ды хлапчука з бабай прыб'е... — гаворыць Еўсцігней.

— А жвавы хоць конь?

— Ого!

— Ну тады вельмі проста можа прыбіць. Ды ты б,

паслухай, ага... назад бы. Чаго табе ехаць, якая патрэба?

— Ат, дзівак! Ды хіба не бачыш: з бабай сабраўся. Хіба ж гэта можна, каб не ехаць!

Іванка, выбіваючыся з сіл, нарэшце прыцягвае шасты і з плачам кідае іх на бераг. Усё гатова, Цюліну давядзіцца брацца за работу.

— Гэй, прахожы! — звяртаецца ён да мяне з нейкім адабрэннем.— Паслухай, і ты з намі на паром! А то, бачыш, надта ўжо рака наша вясёлая.

Мы ўсе ўзышлі на рыплівы паром; Цюлін — апошні. Відаць, ён некалькі секунд раздумваў, паддаючыся спакусе: ці не хопіць людзей і без яго. Аднак усё-такі ўзышоў, шлёпаючы па вадзе, потым з глыбокім жалем паглядзеў на калы, за якія былі зачалены чалкі, і сказаў з ціхім дакорам да ўсяго свету:

— Э-эх! Чалкі, чалкі ніхто ж не адвязаў. Н-ну!

— Дык ты ж, Цюлін, апошні ступіў на паром. Ты і павінен быў адвязаць,— пратэстую я.

Ён не адказвае, магчыма, прызнаючы справядлівасць гэтай заўвагі, і гэтак жа ляніва, з тым жа беспрасветным сумам спускаецца ў ваду, каб адвязаць чалкі.

Паром зарыпеў, загайдаўся і паплыў ад берага. Перавозны будан, перакуленая лодка, пагорак з царквой імгненна, быццам падхопленыя невядомай сілай, нясуцца ад нас, а паўвостраў з зялёнай падмытай вярбой ляціць нам насустрач. Цюлін паглядзеў на свой бераг, пачухаў густую шапку валасоў і перастаў напірацца шастом.

— Нясе ж.

— Нясе,— адказаў мужык, з натугай налягаючы на чагень правым плячом.

— Ходка нясе.

— Ты чаму стаў? Чаму не напіраешся?

— Паспрабуй напрыся. З левага борта не маячыць.

— Ну?

— Вось табе і ну!

Мужык злосна сунуў свой шэст і ледзь не баўтануў у ваду,— яго чагень таксама не дастаў да дна. Еўсцігней спыніўся і сказаў раздзельна:

— Падлюга ты, Цюлін!

— Сам такі! Чаго лаешся?

— За што табе грошы плочаны, подлая фігура?

— Пагавары!

— Чаму доўгіх шастоў не завёў?

— Заведзены.

— Дык чаму няма іх?

— Дома. Хіба хлопчык прывалачэ... доўгія гэтыя?

— Кажу: подлы ты чалавек.

— Ну-ну! Ці не скажаш яшчэ чаго? Пагавары са мной!

Цюлінскі спакой, відаць, уціхамірвае абуранага Еўсцігнея. Ён здымае шапку і скрабе галаву.

— Куды ж мы цяперака? Да Казьмы Дзям'яна (у Казьма Дзям'янск) сплывём ці як ужо?

## V

Сапраўды, хуткая плынь, быццам жартуючы і пасміхаючыся з нашага парома, адносіць няўклюдную пасудзіну ўсё далей і далей. Вакол, абганяючы нас, бяжыць, лопаецца і пузырыцца «цвет». Перад вачыма мільгае і застаецца ззаду паўвостраў з падмытай вярбой. Далёка ззаду засталася высечка з новенькай хаткай са свежага лесу, з маленькімі калёсамі, якія цяпер сталі яшчэ меншымі, з бабай, якая стаіць на самым беразе, нешта крычыць ім, махае рукамі.

— Куды ж мы цяперака? Эх бяда, далібог, бяда,— безнадзейна, гледзячы на бабу, гаворыць Еўсцігней.

Становішча сапраўды даволі крытычнае. Шэст ідзе ў глыбіню, не маячыць, гэта значыць, не дастае да дна.

Цюлін, не звяртаючы ўвагі на Еўсцігнееў лямант, сур'ёзна глядзіць на раку. Для яго гэта небяспека большая, чым для каго, бо абавязкова давядзецца падымаць паром проці цячэння. Ён, відно, падцягнуўся, позірк яго робіцца больш разумным, цвёрдым.

— Іванка, трымай па плёсу! — камандуе ён сыну.

На гэты раз хлопчык хутка выконвае загад.

— Садзіся, Еўсцігней.

— Ці ёсць у цябе чым веславаць? — сумняваецца той.

— Пагавары мне!

На гэты раз словы Цюліна гучаць так цвёрда, што Еўсцігней пакорліва лезе з памоста і прыстрайваецца да вёслаў, якія, аказваецца, ляжаць на самым дне.

— Прахожы, лезь і ты... у тую ж фігуру.

Я саджуся «ў тую ж фігуру», гэта значыць уладкаваўшыся ля правага вясла, як Еўсцігней ля левага. Каманда нашага судна, такім чынам, гатова. Іванка, з твару якога зусім прапала абыякавасць, глядзіць на бацьку бліскучымі, уважлівымі вачыма. Цюлін суе шэст у ваду

і падбадзёрвае сына: «Трымай, Іванка, не зявай, глядзі». Маёй прапановы — замяніць хлопчыка ля руля — ён быццам не заўважае. Відаць, яны вераць адзін аднаму.

Паром пачынае ўздрыгваць... Раптам цюлінскі шэст дастае да дна. Невялікі «агрудак» дае магчымасць «папірацца» на адлегласці дзесятка сажняў.

— Валіся на перавал, Іванка, валі-іся на перавал! — шпарка, прыглушаным голасам камандуе Цюлін, налягаючы плячом на круглую галоўку шаста.

Іванка, упіраючыся нагамі, цягне руль на сябе. Паром робіць абарот, і раптам рулявое весла ўзмахвае ў паветры, і Іванка ляціць на дно. Судна «рыскнула», але праз секунду Іванка, са страхам пазіраючы на бацьку, сядзіць на месцы.

— Мацуй! — камандуе Цюлін.

Іванка завязвае руль вяроўкай, паром канчаткова «кладзецца на перавал», мы налягаем на вёслы. Цюлін магутным штуршком падае паром наперарэз плыні, і праз некалькі імгненняў мы ясна адчуваем, што напор вады аслабеў. Паром «ходам» падаецца ўгору.

Іванкавы вочы ззяюць ад захаплення. Еўсцігней глядзіць на Цюліна з яўнай павагай.

— Эх, хлопец,— гаворыць ён, ківаючы галавой,— каб на цябе не гарэлка,— цаны б не было. Гарэлка цябе ашуквае...

Але вочы Цюліна зноў патухлі, і ўвесь ён абмяк.

— Грабі, грабі... Заграбай, прахожы, глыбей, не спі! — гаворыць ён лянiва, а сам вяла, з ранейшым панылa-апатычным выглядам торкае шастом. Па ходу парома мы адчуваем, што цяпер яго шэст мала дапамагае нашым вёслам. Крытычная мінута, калі Цюлін быў на вяршыні свайго прызнанага перавозчыцкага таленту, мінула, і іскра ў вачах Цюліна патухла разам з небяспекай.

Каля дзвюх гадзін падымаліся мы ўсё-такі ўгору, і калі б Цюлін не зачапіўся за апошні «агрудак», паром панесла б на вузкі прамы плёс і яго не дастаць было б адтуль і за двое сутак. Паколькі прыстаць, як звычайна, было немагчыма — масткі даўно затапіла,— Цюлін прыстае да глiністага абрыву, зачальваючы за вербы. Пачынаецца спуск калёсаў. Гэту работу робім мы з Еўсцігнеем. Цюлін раўнадушна глядзіць на нашы намаганні, а баба, якая даўно ўжо пусціла на вецер усю сваю злосць, сядзіць на возе нерухома, як скамянелая, і стараецца не глядзець на нас, быццам усе мы абрыдлі ёй да самага краю. Яна

застыла ў сваёй лютай пагардзе да «не́гадзяў-мужыкоў» і нават не лічыць патрэбным сысці з дзіцем з воза.

Конь палохаецца, закідвае вушы і адступае.

— Ану, ану, сцебані гэтага веселуна па азадку,— раіць Цюлін, ажыўляючыся.

Гарачы конь падбірае зад і скача з берага. Хвіліна трэску, стукатні і грукату, быццам усё праваліваецца скрозь зямлю. Нешта грукнула, нешта застагнала, нешта трэснула, конь, зламаўшы тонкую загарадку, ледзь не сарваўся ў раку, але нарэшце воз устаноўлены на зыбкім і дрогкім пароме.

— Што, цэлыя? — пытаецца Цюлін у Еўсцігнея, які заклапочана аглядае калёсы.

— Цэлыя! — з радасным здзіўленнем адказвае той.

Баба сядзіць, як статуя.

— Ну? — недаўмявае і Цюлін.— А я думаў: як піць даць яны павінны былі зламацца.

— І то... бач, які абрыў.

— Та-ак! Самая такая строма, што яны павінны былі зламацца... Э-эх, а чалкі зноў ніхто не адвязаў! — заканчвае Цюлін з тым жа панылым дакорам і лянiва ступае на бераг, каб адвязаць чалкі.— Ну, заграбай, прахожы, заграбай, не спі!

Праз паўгадзіны цяжкай працы вёсламі, крыкаў: «навaліся», «лажыся ў перавал» і «мацуй» — мы нарэшце падыходзім да будана. З непрывычкі пот ліецца з мяне градам...

— Прасі з Цюліна кватэрку,— гаворыць напаўжартам Еўсцігней.

Але Цюлін, відаць, не настроены на жарты. Доўгае знаходжанне на беразе бязлюднай ракі, працяглы маркотны роздум пра прычыны цяжкой пахмельнай хваробы — усё гэта, відаць, скіроўвае да сур'ёзнага погляду на рэчы. Таму ён утаропіўся ў мяне сваімі бляклымі вачыма, у якіх паволі пачынае праблiскваць нешта падобнае на глыбокі роздум, і весела сказаў:

— Прычалім — паднясу... І не адну, чуеш, паднясу,— дадае ён канфідэнцыяльна, паніжаючы голас, прычым на твары яго выразна відно калі не задавальненне, дык, ва ўсякім выпадку, адсутнасць цяжкіх пахмельных пакут.

А з гары, па крутой дарозе ўжо спаўзаюць два вазы.

— Едуць...— тужліва гаворыць перавозчык.

— Ды яшчэ, можа, не паедуць,— суцяшаю я,— можа, у іх не важныя справы.

Я іранізірую, але Цюлін не разумее іроніі, можа, таму, што ў ім самім жыве нейкі асаблівы неўсвядомлены гумар. Ён быццам родніць яго з гэтымі някідкімі кучаравымі бярозамі, з гэтымі каравымі вербамі, з бурнай ракой, з драўлянай цэркаўкай на пагорку, з надпісам на слупе, з усёю гэтай наіўнай вятлужскай прыродай, якая ўсё ўсміхаецца мне сваёй мілай, прастадушнай і быццам даўно знаёмай усмешкай.

Як бы там ні было, але на маю з'едлівую заўвагу Цюлін адказвае зусім сур'ёзна:

— Калі без тавару, само сабой, пачакаюць. Няўжо ж павязу? Галаву ўсю разламіла...

## VI

Парахода ўсё няма. Гавораць, за гадзіну да прыходу ён будзе яшчэ «крычаць» недзе на адной з прыстаняў, што ляжаць вышэй, але калі гадзіны праз тры, паблукаўшы па сяле і напіўшыся чаю, я зноў прыходжу на бераг, пра параход нічога невядома. Рака ўсё шуміць, разгулялася яна не на жарт. Цюлін, ляніва плёскаючы босымі нагамі, па зялёнай, залітай ракою траве дабіраецца да свайго будана па калені ў вадзе, увесь мокры, шырокія штаны ліпнуць да яго ног, перашкаджаючы ісці, ззаду, на вяроўцы, цягнецца за Цюлiным усё тая ж старая лодка, якую, як і прадказваў знаўца-перавозчык, такі знесла вада.

— Што, Цюлін, ці здаровы ты?

— Дзякуй богу. Не дужа каб. Давай на той бок паедзем.

— Чаго?

— Бач, сварка там. Платы Івахінавы рака раскідаць хоча.

— А табе што?.. Клопат які?

— Бач, Івахін чацвярцінку цягне. Ды што чацвярцінка! Тут, брат, і паўвядра не пашкадуеш...

Ад сяла да берага таропкай хадою набліжаецца мужчына гадоў пад сорак пяць, у адзенні вясковага гандляра, з вострымі, неспакойнымі вачыма. Вецер раздзімаў крыссе яго світкі, у руцэ паблiсквала пасудзіна з гарэлкай. Падышоўшы да нас, ён адразу звярнуўся да Цюліна:

— Што, прыплёсквае?

— Ліха! — адазваўся Цюлін.— Сам жа бачыш.

— А плыцікі ў мяне падняла ўжо?

— Падхоплівае, ды яшчэ не пад сілу. А глядзі, надыме. Лодку ў мяне сёння злізала,— ледзь-ледзь бягом дагнаў за пераляскам...

— Ну?

— Во. Бачыш, мокры ўвесь да ніткі.

— Ах ты! — адчайна сказаў купец, ляпнуўшы сябе па сцягне вольнай рукой.— Не паспееш азірнуцца — плыты ў мяне параскідае. Во дзе ўбытку, во ўбытку! Ну і падлюга народ у нас жыве! — звярнуўся ён да мяне.

— Навошта б я дарма лаяў праваслаўных,— заступіўся за сваіх Цюлін.— У вас жа чарга была...

— Была.

— На пясок вазіць?

— Ну на пясок.

— Ну дык на пяску і ёсць, не ў іншым месцы.

— Дык жа, падлюгі вы гэтакія, рака пясок той ужо пакрывае!

— А як жа,— пакрые. Да раніцы, як ёсць, і следу не пакіне.

— Вось бачыш! А ім бы, падлюгам, толькі песні гарлапаніць. Бач, горла дзяруць! Ім і гора мала, што гаспадару ўбытак...

Абодва сціхлі. З таго берага, з высечкі, ад новага доміка нясліся нястройныя песні. Гэта арцель васюхінцаў здзекавалася над дробным лесагандляром-гаспадаром. Учора ў іх быў разлік, прычым Івахін ашукаў іх рублёў на дваццаць. Сёння Вятлуга заступілася за сваіх дзяцей і разгулялася на руку арцелі. Цяпер гаспадар прыніжана кланяўся, а арцель шапак не ламала і гуляла.

— Ні за сто рублёў! Будзеш ведаць, як жыць з арцеллю! Мы цябе навучым...

Рака прыбывала. Івахін перапужаўся. Кінуўся ў сяло, хуценька раздабыў кварту і пакланіўся арцелі. Ён не ставіў пры гэтым ніякіх умоў, не ўспамінаў пра плыты, а толькі кланяўся і прасіў, каб арцель не напомніла крыўды і згадзілася выпіць «дармавую».

— Ды ты, такі-сякі, не круці,— гаварылі арцельшчыкі.— Не заманіш.

— Ні за сто рублёў не палезем у раку.

— Няхай яна, матухна, пабушуе ды пагуляе на сваёй волі.

— Хай параскідае бярвенні, хай параскідае. Ідзі пазбірай!

Але кварту ўсё-такі выпілі і зацягнулі песні. З-за ракі

несліся бязладныя, дзікія, разудалыя галасы, і да іх прымешваўся плёскат і гоман буйнай ракі.

— Важна пяюць! — сказаў Цюлін з захапленнем і зайздрасцю.

Івахіну, здаецца, песня падабалася менш. Ён слухаў неспакойна, і вочы яго глядзелі разгублена і сумна. Песня шумела, бы навальніца, і, здавалася, не абяцала нічога добрага.

— Ці шмат недадаў учора? — запытаў Цюлін.

Івахін пачухаўся і, не адрываючы неспакойнага пазірку ад таго месца, адкуль несліся нястройныя гукі, адказаў гэтак жа проста:

— За дзве чырвоныя спрачаліся.

— Шмат жа, глядзі! Слухай, як бы не набілі цябе.

Па Івахінаваму твару было відаць, што здагадка не ўяўляецца немагчымай.

— Хоць бы плыты тыя павыцягвалі,— сказаў ён з глыбокай тугой.

— Можа, выцягнуць,— супакоіў Цюлін.

— Пагавары з імі,— паддобрываўся гандляр.— Маўляў, болей не прыбывае, назад, маўляў, да ночы пойдзе.

Цюлін адказаў не адразу; позірк яго быў прыкаваны да пасудзіны, і, памаўчаўшы, ён сказаў, салодка ўсміхаючыся:

— Другую кварту нясеш?

— Другую.

— Споіш і трэцюю. Перавезці, ці што?

— Вязі!

Лодка была на сярэдзіне, калі яе заўважылі з таго берага. Песня адразу грымнула яшчэ мацней, яшчэ больш нястройна, рэхам адлятаючы ад зялёнай сцяны высокага лесу, да якога блізка падыходзіла высечка. Праз некалькі хвілін, аднак, спяваць перасталі, і з высечкі чуўся толькі гучны і нястройны гоман. Неўзабаве Івахін зноў стралой ляцеў на гэты бераг і зноў рынуўся з новай пасудзінай на той бок. Твар у яго быў чырвоны, але ўсё-такі ў вачах праглядвала радасць.

На захадзе сонца ўся арцель лавіла івахінскія плыты. Пад гукі панылай «Дубинушки» бярвенні выкочвалі на бераг і рукамі ўсцягвалі на пад'ём. Неўзабаве ўвесь івахінскі лес узвышаўся штабялямі на абрыве, не дасягальны для неспакойнай ракі.

Потым зноў загрымела песня. Мокрыя, стомленыя, арцельшчыкі дапівалі апошнюю кварту. Івахін, потны,

злы, але ўсё-такі задаволены, пераправіўся апошні раз на наш бок і памчаў да сябе; вецер размахваў крыссем яго сібіркі, а ў абедзвюх руках было па пасудзіне, на гэты раз пустой.

Цюлін, яшчэ больш сумны, праводзіў яго даўгім позіркам.

— Ну што, пабілі? — запытаў я ў яго.

— Каго?

— Ды Івахіна.

— Не, што яго біць...

Я са здзіўленнем паглядзеў на Цюліна, і ў маёй галаве мільганула раптоўная і нечаканая здагадка: цюлінская фізіяномія прыпухла, а пад вокам быў сіняк, відаць, зусім свежы.

— Цюлін, галубок!

— Ну, што?

— Адкуль у цябе сіняк?

— Сіняк... Ды адкуль яму быць, сіняку?

— Дык жа цябе, Цюлін, відаць, білі.

— Хто мяне біў?

— Арцельшчыкі.

Цюлін задуменна паглядзеў мне ў вочы і сказаў:

— Хіба што ад гэтага... Дык жа, чуеш, і білі не вельмі каб...

Паўза, позірк на мяне, і ў позірку мільгае здагадка:

— Ці не Пархвен гэта мне заехаў?..

— Можа, і Пархвен,— зноў дапамагаю я павольнаму працэсу новага набліжэння да ісціны.

— Як піць даць Пархвен. Такі, скажу табе, шкодны мужычок,— заўсёды меціць, каб чалавека спаганіць...

Пытанне было дастаткова вытлумачана. Мне, праўда, яшчэ вельмі хацелася разведаць, якім чынам гнеў арцелі так нечакана змяніў свой кірунак і арцельная навальніца, замест Івахіна, абрынулася на зусім нейтральную цюлінскую фізіяномію, але ў гэты час з другога берага зноў пачуўся голас:

— Цю-ю-юлі-ін!..

Цюлін не павярнуў нават галавы і ляніва накіраваўся да будана, сказаўшы мне на хаду:

— Клічуць. Махануў бы ты, га? Жывым бы духам.

Але раптам ён насцярожыўся, павярнуўся і ажыў. На беразе, нягледзячы на змрок, можна было ўбачыць чырвоныя кашулі. Гэта арцельшчыкі гукалі Цюліна і, здаецца, самым заманлівым чынам махалі рукамі.

— Клічуць жа? — радасна сказаў ён, пазіраючы на мяне.

— Вядома, клічуць. Зноў наб'юць, напэўна...

— Не, што ты, бог з табой. Не можа быць!.. Пачаставаць мяне арцель жадае, вось што! На міравую, значыць...

І Цюлін надзіва паспешліва кінуўся на бераг. Звязаўшы чамусьці дзве лодкі — нос да кармы,— ён сеў у пярэднюю і рашуча адпіхнуўся ад берага, не пакінуўшы на гэтым баку ніводнай.

## VII

Я зразумеў яго нявінную хітрасць, калі ў цемры пачуў скрып воза, што з'язджаў з гары. Воз паціху пад'ехаў да ракі. Конь фыркнуў некалькі разоў і, адкінуўшы вушы, утаропіўся на ціхую Вятлугу, што змянілася так непазнавальна.

Ад воза аддзяліўся мужык, падышоў да самай вады, паглядзеў, пачухаўся і звярнуўся да мяне:

— Перавозчык дзе?

— Вунь...— паказаў я на светлую палоску, якая ўзразала цёмную паверхню ракі ўжо на сярэдзіне.

Ён паўзіраўся туды, зноў пакруціў галавой, прыслухаўся да песень васюхінцаў і пачаў разварочваць воз.

— І подлы ж мужык тутэйшы перавозчык,— сказаў ён, між іншым, даволі спакойна.— Паглядзі, і лодкі ж усе звалок... Усю ноч яго цяпер адтуль не дастанеш.

Адвёўшы каня, ён падышоў да мяне і пакланіўся.

— Прахожыя будзеце?

— Прахожы.

— Ці не з возера?

— З возера.

— Ага. Багата цяпер народу ідзе. Заўтра, што ёсць, і то яшчэ пойдуць... Эх, а рака як пыліць, божа! Калі б цяпер нам з вамі на паром... Але не, не ўправіцца... Начаваць, відаць... А вы не на параход?

— На параход.

— Ну, на досвітку, раней не будзе. Відно, начаваць і вам.

Ён паставіў за буданом воз і пусціў на бераг стрыножанага каня. Праз некалькі хвілін за буданом закурыўся дым.

Цюлін, відаць, прывучыў сваю публіку да цярпення.

Сонца даўно схавалася за гарамі і лясамі, над Вятлу-

гай апусціўся змрок, сіні, цёплы, ціхі. Наш агеньчык разгараўся, дым уздымаўся ўгору. Нейкі нават дзіўны быў гэты спакой паветра, адначасна з паспешлівым і бурным рухам на Вятлузе, якая ўсё яшчэ прыбывала. З таго берага ўсё несліся песні, і мне здавалася, што я адрозніваю цюлінскую фістулу ў агульным рознагалоссі. На недалёкіх пагорках адзін за адным успыхвалі агні суседняй вёсачкі. Удзень я не заўважыў яе — шэрыя хаты і цёмныя дахі зліваліся з агульнымі танамі пейзажу... Цяпер яна выступіла прыгожым россыпам агеньчыкаў на цёмнай вяршыні пагорка, а дзе-нідзе на фоне сіняга неба выдзеліліся чатырохкутнікі дахаў.

Гэта — вёска Салаўіха. Мой новы знаёмы ад няма чаго рабіць расказаў мне некаторыя цікавыя штрыхі з жыцця яе насельнікаў. Народ у Салаўісе жыве дзелавы і горды; у наваколлі салаўіхінцаў ведаюць як «зладзеяў». Давялося майму новаму знаёмаму спыніцца ў сяле Благавешчанні, у дзяка. Справа была зімой, пад вечар. Сядзяць за сталом. Раптам хтосьці стук-стук у акенца. Выглянуў дзяк: стаіць за акном Іван Сямёнаў, стары сусед, і пераначаваць просіцца. «Ды што ты, табе ж да дому ўсяго з вярсту!» — «З вярсту, маўляў, з вярсту, але міма Салаўіхі ісці. Як бы зноў да палонкі не завялі».

Аказалася, што між гэтым старым і салаўіхінцамі ўсталяваліся вельмі своеасаблівыя адносіны. Як толькі стары разжывецца на грошы, дык абавязкова нап'ецца на сяле, а як нап'ецца, дык і пачынае хваліцца: ёсць у мяне «кацька» ў кішэні. Пойдзе пасля гэтага дамоў, яго салаўіхінцы і пяроймуць на рацэ і да палонкі.

— Хочаш у палонку?

Ну, вядома, ён не хоча. Яны і не прымушаюць,— толькі аддай ім «кацьку». Ён і аддае, што зробіш... Яны зноў:

— Хочаш у палонку?

— Не хачу, браткі.

— Дык нікому, глядзі, не кажы. Не скажаш?

— Не скажу!

— Пакляніся!

— Каб мне,— кажа,— на гэтым месцы праваліцца, калі скажу хоць адной душы.

І не гаворыць. Колькі разоў гэтак яго лавілі,— надакучыла старому, перастаў вечарам міма Салаўіхі хадзіць, асабліва калі вып'ўшы, а нікому не сказаў. «Вадзілі,— кажа,— да палонкі, салаўіхінцы», а хто — нізашто не скажа.

Пасля гэтага апавядання я з асаблівай цікаўнасцю глянуў на «зладзейскую» вёсачку. Ну дзе, думаў я, акрамя Вятлугі, сустрэнеце вы такую прастату і непасрэднасць прыёмаў, і такі высакародны давер чужому слову, і такую прастадушную ўпэўненасць у магчымасці «праваліцца на гэтым месцы», калі клятву парушыш?.. Мой новы знаёмы, сам «вятлугай», запэўніў, што другой такой вёскі больш нідзе няма на ўсёй рацэ. У Мар'іне гады тры назад хадзілі «краснаяркі» [1],— ну, гэта справа іншая. А пакладзіце ў незачыненай хаце грошы і ідзіце на суткі,— ніхто не возьме.

— Як жа ўсё-такі салаўіхінцы?

— Такі ў іх, дазвольце сказаць, звычай...

Ну, дзе яшчэ, зноў думалася мне, знойдзецца такая цярпімасць да чужых звычаяў?.. І салаўіхінскія агеньчыкі прыветна і прастадушна міргалі мне: «нідзе, нідзе»...

— Вось і ў Цюліна,— сказаў я, усміхаючыся,— таксама звычай.

— Праўда! Подлы мужык, каб яго немач! І трэба сказаць: справу сваю ведае. Вось пойдзе восень ці зноў вясна: тут ён сябе пакажа... Іншы б нізашто ў паводку з перавозам не справіўся. Для гэтай пары больш і трымаем...

— Мір гаворцы!

— Калі ласка, да нас!

З берасцянымі кашамі за спіной, з кійкамі да нашага агеньчыка падышлі два вандроўнікі. Адзін з іх, скінуўшы ношку, уважліва паглядзеў на мяне і сказаў:

— Гэтага чалавека мы бачылі.

— Не дзіўна,— адказаў я.

— На Люндзе былі?

— Быў.

— Там і бачылі. Па душы ці абяцанне даў багародзіцы?

— Па душы. А вы?

— Мы на свята хадзілі, да сваякоў.

— Што ж, сядайце бліжэй да вогнішча.

— Ды нам бы на перавоз,— да дому недалёка. Да раніцы і дайшоў бы я.

— Ага, на перавоз! — умяшаўся мой знаёмы.— Цюлін апошнюю лодку звалок. На пароме хіба?..

[1] Краснаяркамі называюць фальшывыя «паперкі» *(заўв. У. Г. Караленкі).*

— Дзе там!.. Вельмі ж рака разгулялася.

— Ды і шастоў даўгіх няма.

Другі з прышэльцаў стомленым крокам падышоў да берага, і адразу ж над ракой разнеслася гучна, працяжна:

— Цю-ю-юлі-ін! Лодку дава-а-ай!

Голас пакаціўся па рацэ, быццам падхоплены хуткай плынню. Свавольная рака, здавалася, нясе яго з сабой, паміж соннымі ў цемры берагамі, перакідваючы з аднаго боку на другі. Адгалоскі несліся кудысьці ў вячэрнюю далеч і заміралі ціха, задуменна, нават тужліва,— так тужліва,— што, прыслухаўшыся, вандроўнік не адважыўся другі раз патрывожыць гэта аддаленае, вячэрняе рэха.

— Шабаш! — сказаў ён і, махнуўшы рукой, вярнуўся да нашага агеньчыка.

— А хлопцу ж і да дому рукой падаць,— сказаў першы з маіх знаёмых,— і ўсяго ж вярсты чатыры, з Пясошнай! Чулі пра пясочынцаў? — запытаўся ён з хітраю ўсмешкай.

— Не, я тут не бываў.

— У іх, у пясочынцаў, зноў жа свой нораў. Што ні горад, гавораць людзі, нораў, што ні вёска, то звычай. Сараўіхінцы — я вось расказваў — любяць так, каб чужое ўзяць, а ўжо пясочынцы — тыя свае берагчы майстры. Гэта гадоў, можа, з пяць назад пайшлі сямёра пясочынцаў у сяло Благавешчанне жалеза ладзіць: лемяхі там, сашнікі, сярпы і іншыя вясковыя прылады. Ну, зладзілі, ідуць назад да ракі і торбы з жалезам у руках нясуць. А рака, як вось і цяпер, прыбывае, гуляе, ды яшчэ вецер па рацэ ходзіць, хвалю разгойдаў. А лодка, вядома, вёрткая. «А што, браткі вы мае,— гаворыць адзін,— калі лодку ў нас кульне, жалеза ж, пэўна, патоне. Давай, хлопцы, канашалі да сябе прывяжам, каб жалеза не ўтапіць».— «І праўда!» Так і зрабілі. Да ракі ішлі — жалеза ў руках неслі; у лодку садзіцца — давай на сябе навязваць. Выехалі на сярэдзіну, рака пачала залiваць лодку, а лодка і перавярнулася. Ну, жалеза моцна да спінаў прывязана — не згубілася. Так разам з жалезам гаспадары на дно пайшлі, усе сямёра!.. Што, хлопец, ці не праўду я кажу?

Пясочынец не пярэчыў, і, пры святле агеньчыка, на тварах маіх субяседнікаў ляжала адна і тая ж дабрадушна-насмешлівая ўхмылка, з асаблівай вятлужскаю складкай, якая вельмі напаміна мне Цюліна.

— Ну, а вы самі адкуль? — запытаўся я ў старога, які бачыў мяне на Люндзе.

— А я, пане, сам па сабе. Без роду-племені, бяздомны чалавек, салдацкая костка.

— А ўсё-такі родам з Вятлугі?

— З яе, матухны. Не адну пуціну правёў на ёй змоладу. Ды і пасля царскай службы вось ужо пятнаццаты год бадзяюся.

Салдацкага ў гэтым старым было вельмі мала: хіба толькі нейкая спакойная ўпэўненасць гаворкі ды яшчэ старая зашмальцаваная шапка з нейкімі ледзь прыкметнымі кантамі і вялікім парваным казырком. З-пад казырка пазіралі і часам паблісквалі шэрыя вочы, а каля вусоў хавалася ледзь прыкметная ўсмешка. Голас у старога салдата быў вельмі прыемны, грудны, з «перакатам», які выдаваў былога добрага песенніка, але цяпер ужо трохі асіп ад старасці, ад рачной сырасці, а магчыма, і ад гарэліцы. Як бы там ні было, слухаць гэты голас з гумарыстычнаю ноткай і глядзець на вятлужскую ўсмешку старога салдата было вельмі прыемна, і я ўспомніў цяпер, што сапраўды мы сустракаліся з ім на возеры. У разгар самай гарачай спрэчкі на тэму: «Са злодзеем, з разбойнікам, тым больш з ерэтыком не знайся»,— калі абодва бакі закідалі адзін аднаго тэкстамі і рознымі тонкасцямі начытчыцкай дыялектыкі,— гэты старэнькі, з надарваным казырком і з бліскучымі вачыма, раптоўна вынырнуўшы ў самай сярэдзіне, сапсаваў усю гаворку, расказаўшы вельмі проста і без усялякіх тэкстаў просты жыццёвы выпадак. Гісторыя гэта працверазіла большасць слухачоў, начытчыкі аднесліся да яе з яўнай пагардай. Як бы там ні было, спрэчка была ўшчэнт сапсавана, і натоўп разышоўся, несучы, магчыма, не адно разбуджанае сумненне...

— Далібог, бабская гаворка, простанароддзе,— сказаў незадаволена адзін з начытчыкаў.— Хіба гэта ад Пісання?

— Ды хто гэта такі, ці не Яфім? — запытаў другі, падышоўшы пад канец гаворкі.

— Ён.

— Абы-што мужык, вятлугай. У работніках у нас жыў. Пісання не ведае. Евангелле адно чытаў...— і ён махнуў рукой.

Яфім-вятлугай толькі ўсміхаўся сваёю асабліваю ўсмешкай, якая невядома да чаго адносілася: ці да прадмета гаворкі, ці да слухачоў, ці, магчыма, да самога яго, пустога мужычка, бяздомніка, салдацкай костачкі... Як бы там ні было, мне здавалася, што ў ветлуговым апавяданні я пачуў першае на Светлаяры жывое слова.

Цяпер мы зноў завялі гаворку на тую ж тэму: пра Люнду, пра Светлаяр і Кіцеж, пра ўранёўцаў. Сярод шматлікіх груп рознай веры, якія збіраюцца на Светлаяры і прыносяць туды свае кнігі, свае напевы і сваю веру, асабліва выдзяляюцца ўранёўскія начытчыкі, якія штогод наладжваюць свой імправізаваны алтар пад адным і тым жа старым дубам, на схіле пагорка.

У той час калі побач з аўстрыйскім свяшчэннікам, у паўмантыі і з даўгімі косамі спераду над вушамі, ледзь набіраецца дзесятак веруючых — ля ўранёўскага дуба цесна стаіць вялікі натоўп. Мяне ўразілі суровыя, ганарыстыя твары гэтых начытчыкаў. Тут былі жанчыны ў цёмных скіцкіх сукенках, нейкі вельмі даўгі суб'ект з рэзкімі рысамі твару, малады хлапчук з жабрацкай торбай і з тварам, пакрытым воспай, і кудлаты юродзівы. Яны чыталі і спявалі па чарзе, аднастайнымі, гугнявымі галасамі, зусім не звяртаючы ўвагі на тое, што робіцца вакол. Між тым прадстаўнікі іншых групіровак ахвотна ўступалі ў спрэчкі,— уранёўцы трымаліся фанабэрыста, зняважліва і зусім не адказвалі на пытанні. Здавалася, для іх ва ўсім свеце не існавала нічога, што заслугоўвала б хоць нейкай паблажкі, і ўся святасць для ўранёўцаў сканцэнтроўвалася на гэтым невялікім астраўку, занятым іх цесна самкнёнымі «стрыжанымі гуменцамі» і напоўненым іхнімі панылымі спевамі.

— Вельмі ўжо высока самі сябе трымаюць,— гаварыў Яфім.— Народ, што і сказаць, вольны, цвярозы народ, а толькі нашаму брату ў іх няёмка.

— Чаму гэта?

— Сумна. Наша вера, можна сказаць, нашмат весялейшая,— адказаў за Яфіма гаспадар воза.

Пясочынец, які да гэтага часу маўчаў, пры гэтых словах усміхнуўся неяк радасна і сказаў:

— Бываў жа і я ў іх. Вельмі, браткі, дзіўна!

— А што?

— Ды так. Паняўся я ў іх летась да аднаго: брусы з лесу вывалачы. Прыехалі мы з маладым гаспадаром на маім кані ноччу. Раніцой прачнуўся я, а цёмна яшчэ — справа зімовая. Гляджу: старая свечку запальвае, потым хоча маліцца на абразы. А абразы прыгожыя, фарбаваныя. Ну, думаю, і мне пара: памалюся, давай, і я ды каня пайду запрагаць. Злажу ціхенька з палатак, стаў за ёй, давай сабе хрысціцца. Як яна тут павярнулася. Убачыла мяне і рукамі замахала. «Ты, кажа, што гэта ро-

біш?» — «А што, маўляў,— маліцца хацеў».— «Пачакай»,— кажа. «Чаго чакаць? Самы час».— «Пачакай, маўляў, пасля». Ну, пасля дык пасля, зноў я палез на палаткі. Скончыла яна маліцца, свечкі патушыла, прыбрала, гляджу зноў: трохі счакаўшы, стары з печы злазіць, сваю ікону ставіць на бажніцу, сваю і свечку запальвае. Я зноў з палатак. Думаю, цяпер і мне можна. Толькі нацэліўся лоб перахрысціць, дзядок мяне за руку цап! «Ты чаго гэта?» — «На табе!.. Ды я, маўляў, маліцца хацеў».— «Пачакай,— кажа,— нядобра табе». Вось і маеш. Зноў, відаць, на палаткі лезці. Ну, што будзе!.. Тут зноў маладайка злазіць з маладым гаспадаром у бакавушцы свечку запалілі. У тых абразоў няма,— адно распяцце. Я хуценька да іх, зноў сабе нацэльваюся. Давай, думаю, хоць на распяцце памалюся.

— Ну, дапусцілі, ці што? — спытаўся адзін з зацікаўленых слухачоў, бачачы, што апавядальнік спыніўся.

— Не! Што вы думаеце? І тут не дапусцілі! Адмаліліся самі, потым клічуць: цяпер, кажуць, ідзі, маліся сабе. Зайшоў я ў бакоўку, а там голыя сцены. Яны і распяцце знялі... Ах ты, каб вас! Што мне тут з вамі грашыць, думаю сабе. Не трэба! Я лепей, калі так, дарогай паеду, на сонейка божае памалюся.

— Тры веры ў адным доме! — заўважыў салдат.

— Тры і ёсць. Абедаць час настаў. Ну, пасадзілі мяне, добрага малайца, усё як трэба. Зноў старыя з дачкой разам, нам з маладым гаспадаром асобна, ды яшчэ, чуеш, абодвум кубкі розныя. Тут мне крыўдна стала. «Ах вы,— кажу,— такія не гэтакія. Вы ж не толькі мяне бракуеце, вы і свайго мужыка бракуеце».— «А таму,— старая кажа,— і бракуем, што ён па Русі ходзіць з вашым братам, з усялякім паганым народам набярэцца...» Вось бачыце, як яны пра нас думаюць!

— Та-ак,— пацвердзіў гаспадар воза, які ўжо ляжаў, заклаўшы рукі пад галаву.— Бач ты якія грозныя... А самі ж бессаромныя! Цяперака ў нас, непадалёку ў вёсцы, два браты; адзін, значыць, у салдаты пайшоў, другі яго бабу да сябе ўзяў. Гэта нявестку, значыць, ды яшчэ цяжарную. Другі са службы вярнуўся, таксама доўга не думаў: родную сястру першай жонкі да сябе. Дык бачыце: два браты на дзвюх сёстрах жанатыя, ды хлопчыку салдат і дзядзькам родным, ды амаль што і бацькам даводзіцца. Дык вось гэтым не грэбуюць. Оха-ха-ха... Ці не пара спаць?

Ненадоўга ўсталявалася маўчанне.

— Смяхоцце па Русі пайшло,— пачуўся праз хвіліну прастадушны голас пясочынца.

— Даўно ўжо гэта,— сказаў, укладваючыся, салдат,— не з учарашняга дня.

— Чаму ж не даўно? Вось цяперака малакане зноў...

— Ну, гэтыя іншая справа, другога роду. Спі-кладзіся, абы-чаго не гавары!

Але пясочынец, ахоплены роздумам пра «смяхоцце», якое пайшло «па святой Русі», доўга яшчэ не мог укласціся. Ён сядзеў, калупаў галінкай у агні, і ўбачыўшы, што я таксама не сплю, хітравата кіўнуў у бок Яфіма і сказаў:

— Іншая справа, кажа... Чаму ж не іншая справа! Сам з імі водзіцца, багам нашым маліцца перастаў, малако па пятніцах жарэ. Сам бачыў, а то б і казаць не трэба...

І ён таксама пачаў уладкоўвацца на пясочку.

## VIII

Я ўстаў і паглядзеў вакол.

Рака схавалася ў цёмнай сіні вечара. Месяц яшчэ не ўзышоў, зоркі ціха, задуменна міргалі над Вятлугай. Берагі, няясныя, таямнічыя, стаялі ў імгле, быццам прыслухоўваючыся да нямоўчнага шолаху ракі, якая ўсё прыбывала. Паверхня яе была цёмная, не відно было нават «цвету», толькі дзе-нідзе міргалі, расцягваліся і адразу знікалі на хуткай плыні дрыготкія зорныя адбіткі, ды часам гулівая хваля выскоквала на бераг і бегла да нас, пабліскваючы ў цемры пенай, нібы жывёліна, якая разгулялася на вачах у чалавека...

Арцель на тым беразе ўсё яшчэ шумела, але песня, відаць, атухала, як наша вогнішча, у якое больш ніхто не падкідваў сучча. Галасоў было ўсё меней і меней: відаць, не адна ўжо ўдалая галовачка лягла на высечцы і ў хмызняку. Часам які-небудзь дзікі галасіна выносіўся грамчэй, але яму ўжо не ўдавалася запаліць астатніх, і песня гасла.

Я таксама лёг побач з соннымі вятлугаямі і любаваўся зорным небам, якое пачынала загарацца залатымі водбліскамі месяца, што ўставаў за ўзгоркамі. А з гары з ціхім рыпеннем зноў спускаўся запознены воз, падыходзілі пешаходы і, пастаяўшы на беразе ці безнадзейна гукнуўшы разы са два лодку, пакорліва далучаліся да нашага табара, затрыманага ваеннай хітрасцю перавозчыка Цюліна.

Агні ў вёсачцы на ўзгорку даўно патухлі адзін за адным. Слуп з надпісам, афарбаваны агнём вогнішча, то выдзяляўся, то патанаў у цемры.

На тым баку, за ракой, заспяваў салавей.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Пераво-оз!

— Паравоз, паравоз, перраво-о-оз!

— Гэй, паравозчык, хутчэй — гэ-э-эй!

— Го-го-го-го-о-о!

Гучныя крыкі, якія раздаліся шумна, раптоўна, рэзка і звонка, быццам труба на зорцы, разбудзілі і мяне і ўвесь табар, што прыгрэўся ля вогнішча. Крыкі, здавалася, запаўнялі зямлю і неба, аддаючыся ў сонных лагчынах і затоках Вятлугі. Начныя падарожнікі прачыналіся і праціралі вочы; пясочынец, якога ўчора так сканфузіў яго ўласны сціплы вокліч, цяпер сядзеў неяк спалохана і пытаў:

— Што такое? З намі сіла святая, што такое?

Пачынала днець, рака туманілася, вогнішча наша патухла. У сутонні на беразе відаць былі дзіўныя групы нейкіх людзей. Адны стаялі вакол нас, другія каля самай вады клікалі перавозчыка. Непадалёк стаяў воз, запрэжаны круглым сытым канём, які спакойна чакаў перавозу.

Я адразу ж пазнаў уранёўцаў... Тут былі і старазнаёмыя скітніцы ў цёмным адзенні, і даўгі суб'ект са змрочным тварам, і рабы жабрак, і кудлаты «юрод», і яшчэ нейкія людзі.

Цяпер яны стаялі вакол нашага табара, які ляжаў упокат, і глядзелі на нас з бесцырымоннай цікаўнасцю і відочнай знявагай. Мае спадарожнікі неяк сканфужана пацепваліся і, у сваю чаргу, пазіралі на прыбыўшых нясмела. Мне чамусьці раптам успомніліся англійскія пурытане і індэпендэнты Кромвелевых часоў. Відаць, тыя святыя гэтак жа фанабэрыста глядзелі на прастадушных грэшнікаў сваёй краіны, якія адказвалі ім такімі ж сканфужанымі і безабароннымі позіркамі.

— Гэй, вы, вятлугаі-вадахлёбы! Дзе перавозчык? Дзе яго носіць?

— Перавоз, перавоз, перраво-о-оз!..

Можна было падумаць, што цэлая армія ўварвалася ў мірныя ўладанні бесклапотнага перавозчыка. Галасы

ўрапёўцаў грымелі і разлягаліся пад ракой, якая цяпер, здавалася, хутка і скапфужапа ўцякала ад пагрому, уся зноў жаўтавата-белая ад «цвету». Рэха доўга і далёка перакочвала гэтыя крыкі.

«Ану,— думалася мне,— ці выстаіць і цяпер цюлінскі стаіцызм!»

Зірнуўшы на раку, я са здзіўленнем убачыў у ранішнім тумане цюлінскую лодачку ўжо на сярэдзіне. Відаць, філасаф-перавозчык таксама знаходзіўся пад уплывам грозных урапёўскіх волатаў і цяпер гроб з усяе сілы. Калі ён прыстаў да берага, то на твары яго праглядала пахмельная туга і прыгнечанасць; гэта не перашкодзіла яму, аднак, хутка пабегчы на гару за даўгімі шастамі.

Наш табар таксама заварушыўся. Гаспадары вазоў вялі за грывы і паспешліва запрагалі коней, баючыся, відаць, што ўранёўцы не будуць чакаць і яны зноў будуць ахвярамі цюлінскага самаўладдзя.

Праз паўгадзіны нагружаны паром адваліў ад берага.

Каля астылага вогнішча мы засталіся ўдвух з Яфімам, які разграбаў пальцамі попел, каб закурыць вугельчыкам пілку.

— А вы чаму ж не пераправіліся разам з усімі на пароме?

— Ну іх, не люблю,— адказаў ён і закурыў.— Я не спяшаюся: пайду сабе па расе... А вось вам дык, пэўна, пара збірацца: чуеце, параход зверху бяжыць. Неўзабаве тут будзе...

Праз хвіліну і я мог ужо адрозніць гулкі стукат параходных колаў, а праз чвэрць гадзіны над мысам з'явіўся белы сцяг і на плёс плаўна выбег «Мікалай», міргаючы беднымі на золку агнямі і ведучы зачаленую збоку вялікую баржу.

Салдат паслужліва падаў мяне ў цюлінскай лодачцы на борт парахода і зараз жа сам вынырнуў на ёй з-за кармы, кіруючыся на той бераг, дзе грузны паром высаджваў уранёўцаў.

Сонца даўно залаціла вяршаліны прывятлужскіх лясоў, а я, бяссонны, сядзеў на верхняй палубе і любаваўся ўсё новымі і новымі краявідамі, якія з кожным паваротам шчодра адкрывала прыгажуня рака, яшчэ ахутаная дзенідзе сіняватаю імглою.

І я думаў: чаму ж гэта так цяжка было мне там, на возеры, сярод кніжных народных размоў, сярод «разумо-

вых» мужыкоў і начытчыкаў, і так лёгка, так вольна на гэтай ціхай рацэ, з гэтым стыхійным, бесклапотным, распушчаным і вечна хворым ад пахмелля перавозчыкам Цюліным? Адкуль гэта пачуццё цяжару і расчаравання, з аднаго боку, і палёгкі — з другога? Чаму на мяне, таксама кніжнага чалавека, ад тых патыхае холадам і адчужанасцю, а гэты здаецца такім блізкім і так добра знаёмым, як быццам на самай справе

Все это уж было когда-то,
Но только не помню когда...

Мілы Цюлін, мілая, вясёлая, гарэзлівая, бурная Вятлуга! Дзе ж гэта і калі я бачыў вас раней?

*1891*

# НОЧЧУ

*Нарыс*

## I

Было каля поўначы. У пакоі чуваць было глыбокае дзіцячае дыханне.

У кутку на падлозе стаяў медны таз. На дне яго было трохі вады і стаяла свечка з лою ў падсвечніку. Свечка вельмі нагарэла, кнот пакрыўся цёмнай шапкай і ціха патрэскваў. Акрамя таго, на сцяне стукаў маятнік, а на падлозе, у асветленым кружку ля таза, размясціліся некалькі таракана ў. Асеўшы на заднія лапкі і ўзняўшы галаву, яны пазіралі на агонь і варушылі вусамі.

На двары бушавала непагадзь.

Дождж стукаў па даху, перабіраў лісце ў садзе, плёскаўся на двары ў лужынах. Часам ён сціхаў і нёсся ўдалеч, у цёмную глыбіню ночы, але пасля з новай сілай бушаваў яшчэ мацней, яшчэ больш ліў на дах, хвастаў па аканіцах, і часам здавалася, што ён лье і плешчацца ўжо ў самім пакоі... Тады тут пасяляўся нейкі неспакой: маятнік быццам сціхаў, гатова была патухнуць свечка, са столі спаўзалі цені, тараканы трывожна вадзілі вусамі і, відаць, збіраліся ўцякаць.

Але бурныя парывы непагадзі былі нядоўгія. Здавалася, дождж вырашыў ніколі ўжо не пераставаць, і калі вецер пакідаў яго ў спакоі, ён гудзеў шырока і роўна,— і на двары, і ў садзе, і ў завулку, і ў пустых палях... Гул гэты, прасочваючыся праз зачыненыя аканіцы, стаяў у пакоі то роўным цурчаннем, то ціхімі ўсплёскамі.

Тады маятнік зноў, з рэзкай упартасцю пачынаў чаканіць свае ўдары, свечка ціха крактала, тараканы супакойваліся, хоць, відаць, упартасць дажджу наводзіла іх на сумны роздум.

Усё гэта чуў і глядзеў на ўсё гэта з-пад сваёй коўдры адзін з двух братоў-пагодкаў, якія спалі ў асветленым пакоі. Старэйшага звалі Вася, малодшага — Марк. У сям'і

была звычка даваць жартаўлівыя мянушкі. У Васі была вельмі вялікая галава, якой ён у раннім дзяцінстве пастаянна стукаўся аб падлогу, таму яго празвалі Галаванам. Марк быў непрыгожы і пазіраў трохі спадылба, і за гэта атрымаў прозвішча Мордзіка.

Мордзік соладка спаў, а Галаван ужо з паўхвіліны прыслухоўваўся да шуму дажджу.

Ён быў вялікі фантазёр і часта думаў пра тое, што дзеецца на свеце, калі ўсе спяць: і ён, і Марк, і дзяўчынкі, і старая нянька,— і, значыць, няма каму глядзець... Няўжо пакой застаецца такім жа, і маятнік працягвае стукаць, хоць яго ніхто не слухае, і свечка свеціць, хоць свяціць няма каму, і тараканы бязмэтна сядзяць на падлозе, утаропіўшыся на агонь?.. Не раз прачынаючыся з гэтай думкай, ён асцярожна выглядваў з-пад коўдры... Гэтым разам ён сам не заўважыў, калі прачнуўся, і яму здалося, што нарэшце ён заспее пакой знянацку. Вось ужо з паўхвіліны ён, не варушачыся, глядзіць на яго прыжмураным вокам, а ў ім усё працягваецца нейкае асаблівае, таямнічае жыццё, якое звычайна хаваецца, калі на яго глядзяць.

Усё тут жывое, дзіўнае, незвычайнае і страшнае... Дождж, адбіваючыся ад ветру, кідаецца і злуецца на вуліцы, маятнік спрачаецца з шумам дажджу, свечка паныла крэкча, тараканы сядзяць з разумным выглядам, як быццам толькі што размаўлялі між сабой і вырашылі аднагалосна, што становішча свечкі сапраўды вартае жалю, а дождж злуецца зусім дарэмна. Акрамя таго, Вася разумеў, што ўсе яны разам — увесь пакой з усімі прадметамі — нядобразычліва глядзяць на дзяцей, якія, нічога не падазраючы, спяць у сваіх пасцельках.

Аднак было і яшчэ штосьці самае дзіўнае, чаго Галаван ніяк не мог улавіць. Калі ж ён зусім расплюшчыў вочы і паварушыўся — усё адразу знікла.

Маятнік пачаў стукаць цішэй і зусім нецікава, свечка проста трашчала, а не крактала, пакой спахапіўся і набыў звычайны, будзённы выгляд.

А між тым ён усё ж адчуваў, што ёсць нешта дзіўнае... У ім самім, ці ў пакоі, ці, можа, ад гэтага шуму. Не, гэта просты дождж, шуміць зусім не моцна, быццам нехта вяла і невыразна мармыча. Нешта цячэ і капае, быццам хто плача за сцяной, і нечы ўздых праносіцца па дрэвах у садзе... А ў садзе, між дрэў, цяпер цёмна, і ў поўнач, ды яшчэ ў дождж, у альтанку ніводзін чалавек не адважыўся б пайсці. Марк аднойчы хваліўся, што пайшоў бы,

калі б яму дазволілі... Але і то, вядома, не ў такую шалёную, бурную ноч...

Па спіне ў Васі пабеглі мурашкі, ён прыпаў да падушкі і загарнуўся з галавой у коўдру.

Тады яму здалося, што недзе ў сцяне, ці за сцяной, ці пад падлогай адбываецца дзіўны рух і гоман. Чуліся нечыя галасы і крокі.

Што гэта такое? Ён высунуў галаву, каб чуць выразней, але гукі зноў прапалі. Яму здавалася, што ён павінен быў ведаць, што гэта такое, і тады ён зразумеў бы і тое, чаму гэта яму здаецца дзіўным. Але ён забыў і не можа ўспомніць, таму што ў сне яму снілася зусім іншае.

Тады хлопчыкам пачала авалодваць трывога.

— А ведаеш, Маркуша, што я табе скажу? — ліслівa сказаў ён, звяртаючыся да брата.

Але Марк адказаў толькі працяглым храпам.

## II

У дзіцячым пакоі існавалі некаторыя традыцыі. Кожную ноч каля гадзіны абодва хлопчыкі прачыналіся і сыходзіліся ля таза са свечкай. Гэта было накшталт начнога клуба, які часам наведвалі і дзяўчынкі. Апошняе здаралася не часта: для гэтага дзяўчынкам мала было прачнуцца ў пару — трэба было яшчэ ашукаць пільную старую няньку, якая спала з імі ў суседнім цёмным пакоі. Калі гэта ўдавалася, то старэйшая, часам з дапамогай братоў, даставала з ложка самую малодшую, Шурачку, і абедзве яны, жмурачыся і праціраючы вочы, паказваліся ў дзвярах і беглі на агонь. Тады тараканы адыходзілі ад таза і толькі здалёк злосна натапырвалі свае вусы на дзяцей, якія, як і яны, выпаўзалі з куткоў і адваёўвалі ў іх месца.

Тады пачыналіся доўгія і вельмі цікавыя размовы. Ніколі дзецям не гаварылася так дружна і добра: здавалася, ціхая ноч надавала гаворцы асаблівую прыгажосць мары і фантастычнай няпэўнасці, а агульны клопат пра тое, каб не разбудзіць няньку, аб'ядноўваў хлопчыкаў і дзяўчынак у цесны гурток начных змоўшчыкаў.

Хаця дзяўчынкі гаварылі вельмі мала: яны прыносілі з сабой коўдры, прасціны, сукенкі і нацягвалі ўсё гэта на сябе як папала. Старэйшая дапамагала малодшай, а тая пакорліва слухалася. І чым больш нечаканай была касцюміроўка, тым больш прыносіла асалоды. Асабліва калі ўдавалася прыхапіць няньчыны чаравікі і яе чырвоную

ў вялікія кветкі хустку, тады абедзве дзяўчынкі заміралі ў маўклівым самалюбаванні. Выцягнуўшы ножкі ў вялізных чаравіках, не варушачы галавой у фантастычным уборы, Шура сядзела салідна і моўчкі, а старэйшая, Маша, пачынала крыўляцца. Яна ўяўляла сябе вялікаю дамай, а хлопчыкі ў адных кашульках здаваліся ёй кавалерамі ў фраках.

Старая нянька даўно ваявала з гэтай звычкай, але перамагчы яе канчаткова не магла. Пасля шматлікіх сутычак паміж абодвума бакамі ўсталявалася нешта падобнае на кампраміс. Ніхто не меў права нікога будзіць. Але прачнуўшыся самі, хлопчыкі маглі сыходзіцца ля таза, абы сядзелі ціха. З дзяўчынкамі гісторыя была больш складаная. Толькі пачуўшы шолах у іх ложках, нянька, нават не даючы сабе клопату прачнуцца да канца, хапала ўцякачку і ўкладвала назад. Тады справа лічылася прайгранай і паўторная спроба — несумленнай. Злоўленая неўзабаве засынала.

Але калі дзяўчынкам удавалася ступіць на падлогу і дабегчы да парога, нянька махала рукой. Калі ж яна старалася дагнаць, усчынаўся страшэнны роў, хлопчыкі ўскоквалі і беглі на абарону, крычалі, што Маня ўжо зайшла ў іх пакой, што нянька «не мае права» і г. д. Уздымаўся страшэнны вэрхал, і над абодвума варожымі бакамі навісала пагроза вышэйшага ўмяшання. Бяда, калі шум даходзіў да бацькавага слыху. Але калі нават толькі маці заўважала валтузню ў дзіцячым пакоі, наступнай раніцай яна клікала дзяцей і няньку.

— Што ў вас там было зноў? — пытала яна незадаволена, і гэта засмучала ўсіх нават больш, чым бацькаў гнеў.

— Каб ніколі не збіраліся ля свечкі! — гаварыла яна дзецям і адразу ж, звяртаючыся да няньні, дадавала: — І вечна ты... старая.

Гэтыя апошнія словы ў дзіцячых вачах чамусьці зусім знішчалі сэнс першай забароны.

— Ну што, узяла, с-с-старая?! — ціха, але вельмі здзекліва дражнілі яны яе, гуртком вяртаючыся ў свой пакой. Нянька сярдзіта пярэчыла:

— Вечна мне за вас дастанецца, за распуснікаў.

— А ты навошта злавіла яе ў нашым пакоі?

— Няпраўда, я схапіла яе ў цёмным, а яна вырвалася.

— Ах, няпраўда! Вось ужо няпраўда! — горача пратэставала Маша.— Я была ўжо зусім за парогам.

Нянька здавалася, тым больш што спрасоння яна, па-

праўдзе, не магла ўпэўнена сцвярджаць, дзе схапіла ўцякачку. І, наогул, разбор гэты вяртаў усё пытанне на глебу кампрамісу, які ўмацоўваўся зноў і які дзеці выконвалі даволі сумленна.

## III

Цяпер Вася хітраваў: ён рабіў выгляд, што не будзіць Марка, а лічыць, што той прачнуўся.

— Ведаеш, што я табе скажу?

Але ў адказ быў толькі ўздых і соннае мармытанне. Старая таксама мармытала ў суседнім пакоі. Дождж усё ліў, хоць трохі цішэй. Цяпер ясней чуліся струменьчыкі, што падалі з даху і з вадасцёкавых труб.

Галаванавы вочы міжвольна пачалі пазіраць на цёмны пакой. Ён заўсёды здзіўляўся, як гэта дзяўчынкі не баяцца спаць у цемры, у якой яму заўсёды мроіліся дзіўныя зданні. Некаторыя з гэтых зданяў ён даўно ведаў, і цяпер яны пачыналі ўжо рухацца, хоць іх яшчэ і не было відаць. Здавалася, што шавеліцца сама цемра, перапоўненая гэтымі цьмянымі зданямі.

Ціхі няньчын храп палохаў іх, яны ўздрыгвалі, збіваліся ў кучу і прападалі, але адразу ж узнікалі зноў, кожны раз з большай настойлівасцю.

Гэта было вельмі пакутліва, і Галавану рабілася лягчэй, калі нарэшце яны праяўляліся больш выразна.

Раней за іншых з'явіўся, як і заўсёды, высокі франтаваты пан, увесь у зялёным, з асляпляльна белымі каўнерыкам і манжэтамі. Твару ў яго не было, і гэта было асабліва страшна. Акрамя таго, ён не меў выпукласцей, а неяк дзіўна выступаў з цемры, як быццам цёмная пустата проста афарбавалася ў зялёны колер. А часам Васю здавалася, быццам пан выразаны з зялёнага і белага кардону, што не перашкаджала яму праходжвацца вельмі фанабэрыста і з вялікай важнасцю «фігураць», як гаварылі дзеці, якім Вася ўдзень перадражніваў яго паходку.

У першыя імгненні зялёны пан з'яўляўся ў глыбіні пакоя і быў ледзь відзён. Ён праходзіў па кругавой лініі, быццам хто перасоўваў яго на спружыне, знікаў у левым куце і імгненна зноў з'яўляўся з правага боку, каб зноў прайсці па крузе, але ўжо бліжэй і ясней. Тады Вася пачынаў яго баяцца. Спачатку ён стараўся не бачыць зялёнага пана, потым са здзеклівай іроніяй перакопваў сябе, што пан выразаны з кардону. Але калі ён падыходзіў кож-

ны раз усё бліжэй, Васю рабілася ўсё страшней: а што, калі ў яго ёсць твар і ён зірне ў вочы? Тады ўжо давядзецца канчаткова адмовіцца ад меркаванняў пра кардон...

Разам з тым, каля зялёнага пана пачынала варушыцца яшчэ штосьці маленькае і неспакойнае. Яно ўжо зусім не мела ніякай формы і здавалася проста кавалкам цемры, якая варушылася і рабіла розныя рухі, смешныя з выгляду, але, па сутнасці, страшныя. Вася падазраваў тут варожую хітрасць: спачатку здаецца смешным, каб прыцягнуць увагу, а потым раптам і ў г э т а г а будзе твар,— што тады?

Паклікаўшы яшчэ раз Мордзіка і зноў не атрымаўшы адказу, Галаван вырашыў, што калі ўвесь час ляжаць і глядзець у цемру, то нічога добрага з гэтага не атрымаецца. Трэба было скінуць душэўны застой, з якога ўзнікаў кашмар, таму ён устаў і падышоў да свечкі. Тараканы, паспешліва перабіраючы ножкамі, перабеглі на другі бок таза.

Гэта на нейкі час заняло Галаванаву ўвагу, потым ён пачаў прыслухоўвацца да пошуму дажджу.

Дождж прыкметна страціў сілу. Шэпт яго то сціхаў, то зноў узмацняўся, як соннае дыханне. Затое ўздымаўся вецер, прабягаў па вяршалінах дрэў, і тады чуўся рэзкі шэлест. Вася ўбачыў, як сярод начной цемры хіляцца і лапочуць лістотай дрэвы і не вецер, а нехта варочае на дварэ гіганцкі аркуш паперы, таму і чуцён шолах. Яму вельмі падабалася, што якраз так і адбывалася, і нават сам гук мяняўся, і замест шапацення мокрай лістоты чуўся сухі шоргат паперы. Потым ён зноў мяняў здагадку: гэта сярод ночы нехта сыпле зерне з велізарнага мяшка ў гіґанцкую бочку. І таксама атрымлівалася. Калі вецер сціхаў, Галаван гаварыў сабе: «Пайшоў па новы мяшок, зараз прынясе». І сапраўды, адразу ж зноў ясна чулася, як сыплецца зерне, шамаціць, падае на дно і б'ецца ў сценкі.

Хоць адчуванне, што ў доме ёсць нешта дзіўнае ад гэтых адвольных здагадак, не прайшло, але затое Галаван змог забыць пра зялёнага пана. Увесь яго кругагляд цяпер абмяжоўваўся асветленаю часткаю падлогі, тазам, свечкай і тараканамі, якія драмалі насупраць. Гэта аднастайнасць наводзіла дрымоту і на яго. Ад полымя свечкі промнямі працягнуліся да яго вока залатыя ніці; свечка пачала расплывацца.

## IV

Але ў гэтую хвіліну ён раптам адчуў, што цяпер ён не адзін у пакоі. Ён уздрыгнуў, азірнуўся і ўбачыў, што Марк стаіць на сваім ложку, абапёршыся аб сценку, і глядзіць перад сабой так, быццам яшчэ не зусім прачнуўся. Але калі Вася радасна звярнуўся да яго, Марк адразу ўспомніў, што ўдзень яны пасварыліся з-за калоды картаў. І ён хуценька лёг у ложак і ўткнуўся ў падушку. Васю гэта засмуціла.

— Хіба ты не пойдзеш да свечкі? — запытаў ён панылым голасам.

— Не пайду! — рашуча адказаў Марк.

— Чаму?

— Ага, чаму? А карты памятаеш?..

— Ну, выходзь, заўтра аддам.

— Хлусіш?

— Праўда, аддам. І яшчэ дам трубу, іграць да абеду.

— Далібог?

— Ну, далібог.

— Скажы тры разы.

— Перастань.

— Не, скажы тры разы, а то зараз засну.

У Васевай душы ўздымалася глухая прыкрасць: хіба мала адной клятвы? Але Марк быў задзіра і часам любіў паламацца, а цяпер, у дадатак, спаганяў учарашнюю злосць, разумеючы, што Галаван у яго руках і выканае любое патрабаванне. І сапраўды, пачырванеўшы ад сораму, Вася скорагаворкай паўтарыў тройчы: «Далібог, дам карты».

Тады Мордзік вылез з ложка і, на вялікую братаву радасць, падышоў да свечкі.

Звычайна Вася прачынаўся першы, і прамежак адзіноты здаваўся яму жудасна доўгім. Пакуль ён стараўся не глядзець па баках і ні пра што не думаць, акрамя свечкі, тараканаў і таза,— яму здавалася, нібыта хтосьці схіляецца над ім, хтосьці ходзіць ззаду, хтосьці пазірае на яго і дыхае. Уяўленне чуйна наструньвалася, і ён адчуваў сябе зусім адзінокім у асветленай прасторы, быццам гэта была вяршыня гары, а вакол раскінулася цёмная і варожая бездань.

Затое калі смелы і станоўчы Марк падыходзіў да святла, здані адразу ж знікалі, і ўяўленне скіроўвалася ў другі бок: цяпер у ім былі іншыя, больш спакойныя, вобразы,

якія прыносілі Васю вялікую асалоду. У большасці гэта былі расказы з сямейных паданняў, якія Галаван лавіў з кароткіх успамінаў маці і бацькі ў якой-небудзь беглай размове з гасцямі, у зале. Ён лавіў гэтыя ўрыўкі з несвядомай прагнасцю, і ў начныя гадзіны, ля свечкі, калі напалоханае зданямі ўяўленне трохі супакойвалася, дзіўнае натхненне ахоплівала юнага казачніка: урыўкі сямейных паданняў спалучаліся ў стройнае цэлае незразумелым для яго самога чынам. Як гэта атрымлівалася, ён не ведаў. Ён не ведаў таксама, адкуль браліся некаторыя падрабязнасці, якіх ніхто яму не расказваў, але ён быў упэўнены, што ўсё гэта — шчырая праўда. Ён гаварыў лёгка і вольна пра тое, што было з бацькам і маці, «калі нас яшчэ не было», а часам — што было і з ім самім, калі яго яшчэ не было. Праўда, маці і бацька ў гэтых расказах і самому Васю, і яго слухачам уяўляліся не зусім такімі, як цяпер. Яны былі тыя ж, але трошку іншыя. Бо, па сутнасці, усё павінна было быць трошкі іншае, «калі нас не было». Цяжка, напрыклад, уявіць сабе, што мама калісьці была такая ж маленькая, як Шура, і гуляла з лялькамі, а тата — быў час — зусім не ездзіў на службу, а скакаў вярхом на палцы, у папяровым калпачку. Гэта было так дзіўна, што дзяўчынкі рагаталі, а самая малодшая нават пляскала ў ладкі, рызыкуючы разбудзіць няньку. Пасля гэтага нішто ўжо не здавалася дзіўным, і Галаван лёгка распараджаўся падзеямі гэтага свету, з якім дзеці звыкліся, як звыкаешся, пазіраючы ў каляровыя шкельцы, з тым, што неба здаецца чырвоным, і дрэвы таксама, і чырвоны фурман паганяе чырвоную кабылу, прычым чырвоныя колы ўздымаюць чырвоны пыл па дарозе... У мамы тады быў вялікі казёл, які ўсіх біў насмерць рагамі, а мама вадзіла яго на стужачцы, як сабачку. І калі тата задумаў ажаніцца з мамай, то маме было ўсяго чатырнаццаць гадоў, і казёл ледзь не забіў тату насмерць. Але тата ўсё-такі ўкраў маму з акна і ажаніўся. А потым, калі Вася ўжо быў на свеце, маму хацелі ў таты адабраць, аддаць у манастыр, і каб яны зноў былі нежанатыя, а Васі тады зноў не было б, таму што ў нежанатых ніколі не бывае дзяцей. І ўсё гэта ён памятае. Яму здаецца, што ён памятае, як тата ўкраў маму з акна. Ён у гэты час прыўстаў у ложку. Бацька аднойчы назваў яго за гэта апавяданне дурнем. Калі ж ён расказаў, які быў ложак, і дзе ён стаяў, і які быў пакой, то бацька назваў яго дурнем у другі раз, таму што яго тады не было на свеце, а ў ложку, які ён апіс-

вае, спала сама мама, калі яшчэ была маленькай дзяўчынкай, і пакой быў той, дзе мама жыла дзяўчынкай, а бацька ажаніўся з ёй у іншым горадзе. І, напэўна, мама яму расказвала пра свой пакой, а ён хлусіць, што сам яго бачыў. Усё атрымлівалася як быццам і так, і праўда была на бацькавым баку; але Вася з горыччу думаў сам сабе, што праўда заўсёды на баку дарослых, хоць па сутнасці гэта не так: варта яму заплюшчыць вочы, і перад ім з'яўляўся нейкі пакой, і акно, і тата нясе з акна маму. А месяц свяціў неяк дзіўна, бо і месяц быў, вядома ж, трошкі іншы, як і людзі.

Усё гэта і шмат што яшчэ ажывала ўночы, і кожны раз, узіраючыся ў гэтыя карціны, Вася адкрываў у іх усё новыя падрабязнасці. Кожны раз новая дробязь зрасталася з ранейшымі так моцна, што пры наступным расказе яе ўжо нельга было аддзяліць, і Васю здавалася, што ён усё гэта сам бачыў і памятае. Гэта акалічнасць была іншы раз прычынай непаразуменняў: скептычны і станоўчы Марк часам напамінаў, што раней Вася расказваў інакш, і пачынаў сцвярджаць, што ўсё гэта хлусня і «не можа быць». Вася пакутаваў і стараўся змякчыць Марка паддобрываннем; але гэта не заўсёды дзейнічала, і тады Мордзік, з уласцівымі яму ўпартасцю і жорсткасцю, пачынаў адмаўляць усё. Па-першае, ён сцвярджаў, што ўсё-такі ён быў бы, калі б нават тату з мамай зрабілі зноў нежанатымі. Ён усё-такі быў бы сабе, дый годзе, і ведаць нічога б не ведаў... Ці мала што!.. Потым ён гаварыў, што Вася не бачыў, як тата ўкрадаў маму праз акно, таму што Васі тады не было; тата з мамай былі яшчэ нежанатыя, а сам жа Вася гаворыць, што ў нежанатых не бывае дзяцей. Потым ён ішоў яшчэ далей і падвяргаў сумненню сам факт «украдання». Жэняцца заўсёды ўдзень і выходзяць у дзверы; ён бачыў, як на суседнім двары жаніўся лакей. Ён сышоў з ганка і сеў у воз да рамізніка, а пакаёўка, якая таксама з ім жанілася, села ў панскую каляску.

— Ну хлусіш... ну вось і хлусіш,— горача заступалася за Васю Маша.— Я сама чула, тата гаварыў у гасцінай, што мама — крадзеная і што яе хацелі адабраць.

— Не, не крадзеная... не, не крадзеная! — упарціўся Мордзік.

— Значыць, па-твойму, тата схлусіў, скажы: схлусіў? — наступала горача Маша.

— Тата пасмяяўся, а вы, дурні, верыце! Што, з'ела?..

І казла не было,— усё гэта адны выдумкі і хлусня і не можа быць...

— Не, не хлусня, не, не «не можа быць», а ты — агідны нявера, брыдкі Мордзік!..

— Хлусня, хлусня, хлусня!..— паўтараў Мордзік з халоднай злосцю.

— Не хлусня, не хлусня, не хлусня!..— старалася перагаварыць яго Маша, а маленькая Шура, яна заўсёды была на сестрыным баку, пачынала плакаць.

Шум будзіў няньку... Але калі нават не было гэтага, гульня была сапсавана. Дзеці ў гэтую хвіліну ненавідзелі Мордзіка, як і тады, калі яны з цяжкасцю састаўлялі карточныя домікі, а ён кожны раз упарта страляў у іх з кутка папяровымі шарыкамі.

Фантастычныя Галаванавы домікі таксама развальваліся ад скептычнага дотыку, і дзеці разыходзіліся ад свечкі з кіслым настроем. Васю гэта засмучала да слёз.

Тым болей што ён, па сутнасці, разумеў, што, напэўна, праўда Мордзікава. Але справа ж не ў гэтым. У Васі таксама праўда, і ён зусім не хлус. І потым: як жа не было казла, калі казёл быў і мама сама гаварыла?..

## V

Падышоўшы цяпер да свечкі, Марк перш-наперш злаўчыўся і пстрыкнуў аднаго таракана так лоўка, што той некалькі разоў перакуліўся ў паветры і, як ашалелы, пабег у куток.

Марк трымаўся смела і незалежна. Не вельмі прыгожыя рысы твару ўражвалі ўпэўненасцю і нейкай станоўчасцю. Вася быў мацерыным любімцам, Марк — бацькавым, які любіў яго за станоўчасць і храбрасць. Ён не баяўся цёмнага пакоя, не баяўся халоднай вады, кідаўся ў раку гэтак жа лёгка, як і залазіў на палок гарачай лазні. Між тым як Васевы пачуцці настройваліся ўжо загадзя; загадзя ён сцінаўся ад холаду, і ад гэтага, здавалася, сама скура рабілася ў яго больш далікатнай; ён дрыжаў ад холаду там, дзе Марку было толькі прахладна, і не выносіў гарачыні тады, калі Марк сцвярджаў, стоячы на ўвесь рост на палку, што яму «ніколькі не горача». І хаця, выключаючы выпадкі накшталт расказанага, браты вельмі сябравалі між сабой і разумелі адзін аднаго з паўслова, а часам і без слоў.

— Ну што, бачыў зноў? — спытаў Мордзік.
— Зялёнага? Бачыў.
— Хлусіш, я думаю.
— Далібог, бачыў.
— Ну?
— Нічога не хлушу! Бачыў, больш нічога... Без твару.
— З паперы?
— Як быццам... не трэба гаварыць.
— Вось глупства! Я не баюся. Чаго баяцца, калі ён з кардону? Ну ты, зялёны, выходзь! — храбрыўся ён, павярнуўшыся да дзвярэй. Аднак чорная цемра падзейнічала і на яго; ён адвярнуўся і дадаў ужо цішэй: — Я б яго разадраў, болей нічога.
Вася паспяшаўся перамяніць гаворку.
— А табе здаецца дзіўна? — спытаў ён.
Мордзік падумаў:
— На самай справе, здаецца. А табе?
— І мне здаецца. Чаму б гэта?
— Таму, што... на двары вецер,— сказаў Мордзік, прыслухоўваючыся да шэлесту лісця.
— І дождж ішоў вялікі. І цяпер яшчэ ідзе, але меншы. Але гэта не таму. А здаецца табе,— жыва дадаў ён,— што гэта шалясцяць аркушам паперы... вя-я-лізным?
Мордзік прыслухаўся і сказаў:
— Не, не здаецца.
— А здаецца табе, што гэта сыплюць зерне ў бочку?
Мордзік зноў паслухаў.
— Зусім не здаецца, таму што гэта вецер.
— А мне часам здаецца. Але, усё-такі, сёння дзіўна не таму.
— А чаму?
— Не ведаю. Ведаў, ды забыўся. Цяпер не ведаю.
— І я не ведаю.
Абодва памаўчалі.
У гэты час на другой палове дома, якая была аддзелена даўгім калідорам, рыпнулі імкліва адчыненыя дзверы. Ім адгукнулася аконная рама ў дзіцячым пакоі, полымя свечкі ўскалыхнулася, і дзверы зноў зачыніліся.
— Чуў? — запытаў Вася.
— Ага, чуў... Пастой.
Сапраўды, у тыя імгненні, пакуль дзверы адчыняліся і зачыняліся, з другой паловы данесліся нейкія гукі. Відаць, там не спалі і, мусіць, не клаліся ўсю ноч. Нечы голас патрабаваў вады, нехта нават галасіў і плакаў, нехта

стагнаў... Пры апошнім гуку сэрцы ў хлопчыкаў забіліся трывожна.

— Ведаеш, што гэта там? — жыва спытаў Вася.

— Ведаю. У мамы неўзабаве народзіцца дзяўчынка.

— А можа, хлопчык.

— Н-ну... можа, і хлопчык.

Мордзік памятаў два выпадкі нараджэння, і абодва разы гэта былі дзяўчынкі. Таму яму і цяпер здавалася, што павінна нарадзіцца абавязкова дзяўчынка. Хаця паколькі ён памятаў нараджэнне дзяўчынак, а свайго і Васевага не памятаў, то часам яму прыходзіла ў галаву простая ідэя, што нараджаліся толькі дзяўчынкі, таму што быў час, калі іх зусім не было. А яны, хлопчыкі, ніколі не нараджаліся і былі заўсёды. Ён сам не вельмі верыў у гэтую тэорыю, але яна ўзвышала яго ў сваіх вачах і давала перавагу перад дзяўчынкамі, якія таксама хацелі б «быць заўсёды», але павінны былі змірыцца перад нядаўнасцю факта Шурынага нараджэння.

— Вось чаму і здаецца дзіўна...— зноў сказаў Вася.

— Хлу-усіш...— зацягнуў быў Мордзік, але потым пагадзіўся: — А відаць, твая праўда.

— Вядома, ад гэтага. Бачыш, там ніхто не клаўся. І потым гэта ж заўсёды бывае дзіўна...

Абодва задумаліся.

— Раптам не было дзяўчынкі, раптам ёсць...— сказаў Галаван.

— Ага,— паўтарыў і Мордзік,— раптам не было, раптам ёсць... Дзіўна: адкуль бяруцца?.. Пачакай, я ведаю,— паспяшаўся з адкрыццём: — Падкідваюць!

Тлумачэнне было простае, але іх не задавальняла.

— Не,— сказаў Галаван.

— Чаму гэта не?

— Таму што... таму... вось чаму не: таму што адкуль жа той чалавек возьме, які падкіне?

— Ён у іншага.

— А іншы?

— Яшчэ ў каго-небудзь.

— А яшчэ хто-небудзь дзе возьме?

— Н-не ведаю... Нянька гаворыць: мяне пад лапушнікам знайшлі. Глупства, я думаю.

— Вядома, глупства. Хто туды пакладзе дзіця? І пра залатую нітку... быццам па залатой нітцы спускаюць — таксама глупства.

— Ужо гэтая старая скажа!.. Ну, а як па-твойму: адкуль?
— Вядома, з таго свету.
Мордзік задумаўся. Здагадка падалася яму вельмі простай і зразумелай... Канечне: на гэты свет трапляюць з таго свету.
— Ну, а як?
— Можа, прыносяць анёлы.
— Анёлаў, можа, яшчэ і няма.
— Ну, ужо гэта ты не кажы. Гэта грэх. Гэта ўжо ўсе ведаюць, што ёсць.
— А дзядзька Міхал...
— Ці мала што. Калі людзі бачылі...
— Хто бачыў?
— Многія бачылі. Я таксама бачыў... у сне...
— Які ён?
— Белы-белы. Ляцеў ад саду Выгоўскіх, усё з дрэва на дрэва, а потым пераляцеў праз агарод, праз плошчу. А я гляджу, дзе ён сядзе. Сеў на дах на Мошкавай краме і пачаў махаць крыламі. Потым зняўся і паляцеў далёка-далёка.
— Добра лётае?
— Выдатна. Я потым кажу Мошку: я сніў, што на тваім даху анёл сядзеў.
— А Мошка што?
— А Мошка кажа: ай-вой, падумаеш! У мяне кожны шабаш бываюць у доме анёлы, а чарцей насядзе на дах, усё роўна як галак на старую таполю...
— Хваліцца.
— Н-не, наўрад. У яўрэяў шмат што бывае. А памятаеш Юдку?

## VI

Юдка быў аграмадны жыд, з вялікай барадой і страшнымі паўвар'яцкімі вачыма. Ён разносіў па хатах лепшыя гатункі мукі і прадаваў яе ў розніцу. Адмераўшы муку гарцамі, ён потым дабаўляў яшчэ патрошку — «дзеткам, кухарцы, няньцы, кошцы, мышцы». Пры гэтым барада яго трэслася, а вочы варочаліся ў арбітах. Як толькі яго аграмадная постаць з мяшком на сагнутай спіне паказвалася ў варотах, дзяцей калаціў жах і цікаўнасць. Яны дрыжалі перад Юдкам, але не маглі адмовіць сабе ў задавальненні паглядзець, як Юдка будзе прыкідваць «па кошку, на мыш-

ку». Ён хадзіў кожны тыдзень і кожны раз рабіў на дзяцей вельмі моцнае ўражанне.

Неяк аднойчы Юдка раптам знік і не паказваўся некалькі тыдняў. І маці і дзеці былі ў разгубленасці і думалі, што стары жыд памёр. Аж было іншае: у судны дзень Юдку схапіў жыдоўскі чорт, якога ведаюць у народзе пад імем Хапуна. На кухні гісторыю расказвалі з усімі падрабязнасцямі. У судны дзень пад вечар яўрэі збіраюцца ў сінагогу, пакідаючы «патынкі» (чаравікі) ля ўвахода. Потым запальваюць мноства свечак, заплюшчваюць вочы і пачынаюць жаласна крычаць ад страху. У гэты час Хапун налятае на іх, як каршун, і хапае аднаго. Потым, калі выходзяць з сінагогі, усе разбіраюць свае патынкі, але адна пара заўсёды застаецца. На гэты раз засталіся вялізныя патынкі старога Юдкі, і таму ўсе даведаліся, што Юдку схапіў Хапун.

Потым Юдка раптам аб'явіўся зноў, але ён кульгаў і здаваўся змардаваным, і дзеці пачалі баяцца яго яшчэ больш. Аказалася, што Юдку выратаваў яго прыяцель млынар з Кодні. Млынар гэты выйшаў вечарам на сваю грэблю і стаяў спакойна, чухаючы жывот і слухаючы, як шуміць вада ў латоках і бугай бухае ў чароце. А вечар быў ясны. Раптам бачыць ён: ляціць «нейкае» па небе. Прыгледзеўся, аж гэта Хапун цягне вялізнага жыда. «Ну,— думае млынар,— другога такога здаравеннага жыда не знайсці. Не інакш як Хапун на гэты раз схапіў майго пакупніка, старога Юдку». Канечне, калі б не тое, што Юдка заўсёды браў у млынара муку, ніколі млынар не стаў бы ўмешвацца ў гэтую справу. Але тут ён такі пашкадаваў старога знаёмага. І таму, затупаўшы нагамі, ён знянацку крыкнуў што было голасу: «Кінь, гэта маё!» Хапун выпусціў ношку і ўзмыў угору, махаючы крыламі, як малады каршун, па якім стрэлілі з ружжа (голас у коднінскага млынара будзь здароў!). А бедны жыд з усяго размаху пляснуўся на грэблю і моцна пабіўся.

Юдка быў у наяўнасці, і ўсе бачылі, што ён сапраўды кульгаў пасля гэтага здарэння. Таму і Мордзік не спрачаўся: сапраўды, у яўрэяў усялякае бывае. Акрамя таго, напамінак пра Юдку наогул знішчыў у ім нарасткі скептычнай упартасці.

— Ага, дык вось тады Мошка багата мне расказваў... і тое, як нараджаюцца дзеці.

— Ну?

— Ён кажа: у бога ёсць два анёлы: адзін дастае з лю-

дзей душу, а другі прыносіць новыя душы з таго свету. І вось калі трэба, каб у каго-небудзь нарадзілася дзіця, тая жанчына робіцца хворая.

— Чаму?

— А таму, што бог пасылае абодвух анёлаў: марш абодва на зямлю да такіх і такіх людзей і чакайце майго загаду. Калі на тых людзей бог не злуецца, то кажа: пакладзіце дзіця ля маці і вяртайцеся абодва. Тады маці зноў ачуньвае. А часам кажа: вазьмі ты, смерць, душу ў маці. І тады маці памірае. А часам кажа: вазьмі і маці і дзіця — тады абое паміраюць.

— А ведаеш што,— дадаў Галаван,— можа, гэта і праўда, таму што заўсёды баяцца, калі трэба дзіцяці нарадзіцца, і мама нядаўна гаварыла: а можа, я памру.

— А цётка Каця і памерла.

— Ну, вось бачыш.

— Мусіць, гэты анёл страшны?

— Не, чаму... я думаю, не вельмі страшны. Ён жа не па сваёй волі. Думаеш, яму вельмі прыемна, калі праз яго ўсе плачуць? Але што ж яму рабіць? Бог загадвае — ён павінен слухацца. Ён жа не ад сябе.

— А заўважыў ты, пасля таго як Каця памерла, якія ў Генрыха вочы сталі?

— Цёмныя.

— Не, не цёмныя,— вялікія.

— Вялікія і цёмныя. І ніколі ён з намі так не дурэе, як бывала.

— І ўсё сварыцца і спрачаецца з Міхалам.

— Я ведаю, чаго ён злуе. Я чуў, як яны моцна сварыліся. Міхал кажа: калі чалавек памрэ, то з яго зробіцца парашок, і чалавека няма зусім. А Генрых кажа, што чалавек ідзе на той свет і глядзіць адтуль і шкадуе...

— Дык што? За што ж тут злавацца?

— Гэ! бачыш: калі з чалавека робіцца парашок, то, значыць, і з Каці таксама. А ён гэтага не хоча... Ён яе кахае.

— Як жа кахае, калі яе няма?..

— Кахае...

Абодва памаўчалі. Паколькі ніводнаму з іх не прыходзіла ў галаву зняць нагар, то свечка нагарэла так, што кнот стаў, як грыб. Прыдушанае полымя цягнулася ўгору языкамі, быццам галінкі дрэва з абстрыжанай вяршыняй; асветлены круг стаў яшчэ меншы. Не было відаць ні сцен, ні столі, ні акон. Цемра шатром навісла над хлопчыкамі,

і шацёр гэты ўздрыгваў і гайдаўся. А плёскат дажджавых кропель і шолах дрэў цяпер, здавалася, прасачыліся ў сам пакой і разносіліся ў яго цемры. І хлопчыкі адчувалі, што такой дзіўнай ночы не было яшчэ ніколі.

Цяпер абодва ўжо ўсвядомілі змест гэтага адчування дзівоснасці. Нездароўе маці і яе прадчуванне, трывожная бацькава пяшчота, успаміны пра смерць цёткі Каці, потым гэты незвычайны рух, гоман і тупат на той палавіне, і нечы плач, і нечыя стогны — усё гэта было зведзена да аднаго і цяпер мела форму. Нягледзячы на падазроны аўтарытэт крамніка Мошкі, нават скептычны Марк не знаходзіў пярэчанняў супраць тэорыі, якую толькі што развіў Галаван. Новае жыццё рыхтавалася ўвайсці ў іх дом, і смерць, якая ішла ўпоручкі з ім, распасцерла над домам свае цёмныя крылы; разам са слабым стогнам маці яна дыхнула ў дзіцячыя душы спачуваннем і жахам.

— Слухай! — ціха сказаў Марк.

— Што? — яшчэ цішэй спытаў Вася.

Марк нахіліўся да яго, быццам баючыся, каб гук яго слоў не пранік туды, за цёмны купал над іх галовамі.

— Слухай... калі гэта праўда, то, значыць, абодва яны...

— Ага... дзе-небудзь тут...— Хлопчыкі адчулі раптоўны холад.

— Пабудзім дзяўчынак.

— І няньку... ідзі пабудзі.

— Я... баюся...

— І... і я таксама,— прызнаўся бясстрашны Марк.

Абодва браты інстынктыўна пасунуліся адзін да аднаго і да свечкі. Цемра, якая дасюль навісала зверху, цяпер праглынула і печ, і сцяну, і ложкі, і суседні пакой з дзяўчынкамі і нянькай, і нават сам успамін пра іх адсунуўся некуды далёка. А шолах і шэпт канчаткова зайшлі з двара, і хтосьці ціха гаварыў над галовамі двух братоў нешта незразумелае, але вельмі важнае.

Так прайшло некалькі хвілін. Магчыма, прайшло б і болей, калі б Марк не дадумаўся зняць нагар са свечкі. Але як толькі ён зрабіў гэта, полымя адразу выраўнялася, купал над галовамі хутка рассунуўся, адкрываючы столь, сцены, знаёмую старую печ з задымленым душнікам, ложкі з пакамечанымі падушкамі і скінутымі на падлогу коўдрамі і дзверы ў суседнюю дзявочую спальню. Тады шолах пайшоў з пакоя, і, замест важнага голасу, чуўся плёскат разрозненых струменьчыкаў на двары.

— Пайду пабуджу,— сказаў Мордзік, устаючы і накі-

роўваючыся да дзяўчынак.— Нянька, нянька, уставай!— затармасіў ён старую.

Нянька адразу села на сваёй пасцелі, з вылупленымі, здзіўленымі вачыма.

— А што? Хіба ўжо? — спытала яна спалохана.— Ах я, старая, праспала!

Яна паправіла на галаве кічку, з-пад якой выбіваліся сівыя пасмы, і, хуценька абуўшы чаравікі, накінула на плечы світку.

— Кш у мяне!.. Сядзіце тут ціха. Я скора вярнуся.

І старая паспешліва выйшла ў калідор. Неўзабаве яе крокі сціхлі, і Марк пазіраў на брата з сумным расчараваннем.

— Пайшла!.. Вось дурніца! — сказаў ён.

— Ага, лепш было б не будзіць. Як жа цяпер мы адны?

— Пабудзім дзяўчынак.

Але дзяўчынкі, разбуджаныя валтузнёй, прачнуліся самі.

Чуваць было, як старэйшая дапамагае малодшай вылезці з ложка, і неўзабаве яны абедзве паказаліся ў дзвярах, трымаючыся за рукі.

— Добры дзень, васпаны, вось і мы! — сказала Маша весела і трохі манерна. Убачыўшы, што нянькі няма, яна гаварыла радасна і моцна.

— Цішэй дурніца! — абарваў яе Марк.— У мамы родзіцца новая дзяўчынка, а ты тут крычыш.

— Цішэй усе! — сказаў старэйшы, прыслухоўваючыся да нечага. Дзяўчынкі пакорліва селі ля свечкі і таксама сціхлі.

## VII

Дождж, відаць, зусім перасціх. Ранейшы няспынны пошум разарваўся, і з-за яго ясней праступілі далёкія гукі: калыханне вяршалін дрэў, сонны сабачы брэх і яшчэ нейкі ціхі гул, які, пачаўшыся дзесьці вельмі далёка, на самым краі свету, цяпер патроху нарастаў і падкочваўся ўсё бліжэй.

— Нехта едзе,— сказаў Мордзік.

— Далёка, у горадзе...

Сярод сну і начной цішы, якая парушалася толькі плёскатам вады з вадасцёкавых труб ды шолахам ветру, гэты адзінокі гук колаў міжвольна прыкоўваў увагу. Хто

едзе, куды ў гэтую дзіўную ноч? Вася задумаўся. Яму ўявілася ўдалечыні маленькая каляска, якая цацілася па цёмных і пустых вуліцах, абавязкова маленькая, з маленькімі кавапымі коламі, таму што і гэтае меладычнае ракатанне здавалася маленькім і ціхім, хоць і далятала ўжо выразна. Маленькія конікі хутка цокаюць капытамі па бруку, і маленькі фурман заносіць руку з пугай. Хто ж гэта едзе ў позні час па вуліцах соннага горада?

Калёсы грукаталі, каціліся бліжэй, хутчэй... Потым шум адразу абарваўся, і пачулася толькі ціхае лескатанне па мокрай небрукаванай дарозе; даносіліся час ад часу то звон вобада аб каменьчык, то скрып драўлянага кузава, і кожны раз усё бліжэй...

— Праз поле едзе... да нас,— сказаў Мордзік.

Дом стаяў на краі горада, побач з шырокай пустэчай, парослай бур'яном і травой. Хто ж гэта мог ехаць да іх ноччу, ды яшчэ такой ноччу, калі ўсё так дзіўна і ў іх павінна нарадзіцца дзіцятка? І адразу стук экіпажа, што пад'язджаў, далучыўся да ўсяго, што было незвычайна, што тварылася ў іх толькі гэтай ноччу...

Затаіўшы дыханне, дзеці слухалі, як адчыніліся вароты, як колы шорхаюць на двары і пад'язджаюць да ганка. Пасля мітусня ўзмацнілася, часцей заляскалі дзверы, узмацніўся рух на той палавіне.

— Гэта дзіцятка прывезлі? — спытала Маня.

— Маўчы!..

Вася прыслухаўся, і ў яго ўяўленні ўзнікла дзіўная карціна: анёлы вылезлі з каляскі. Яны асцярожна нясуць дзіцятка, аддаюць яго маме і віншуюць: усё дзякуй богу, усё дзякуй богу! Бярыце яго сабе, усе будуць жывыя...

Але дзіўна: у доме так ціха і ніхто не радуецца. Мітусня супялася, дзверы перасталі ляскаць. У калідоры нехта асцярожна падышоў да бліжэйшых дзвярэй, дзе жыла старая цётка, якая ніколі не выходзіла са свайго пакоя, і Вася чуў гаворку:

— Дзякуй богу, прыехаў! Цяпер усё будзе добра.

— Ох, пані, пачакайце радавацца! Сама без прытомнасці... Божа мой, як цяжка...

Потым дзверы рыпнулі, і ўсё сціхла. Яшчэ праз хвіліну ў дзіцячы пакой убегла нянька. Сівыя кудлы зусім выбіліся з-пад хусткі, па маршчыністым твары цяклі слёзы. Не звяртаючы ўвагі на дзяцей, яна нечага пашукала ў куфры, потым залезла на свой ложак, і калі яна зноў выбегла, дзеці ўбачылі ў спальні чырванаваты водбліск. Пе-

рад абразамі ціха разгаралася «страшная свечка», «грамніца»...

Дзяўчынкі нічога не разумелі і толькі пазіралі перад сабой шырока расплюшчанымі вачыма. Браты глядзелі адзін на аднаго і чакалі: хто з іх заплача першы. Тады дзіцячы пакой адразу перапоўніўся б нястрымапым ровам... Але было надта страшна... На двары хтосьці гудзеў працяжна і злосна, і дзеці ўжо не пазнавалі ў гэтым гудзенні голасу ветру, што пралятаў над садам.

Але раптам дальнія дзверы зноў адчыніліся, і чыйсьці надзіва спакойны, упэўнены голас гучна сказаў:

— Цудоўна, цудоўна! Віншую! — і працяжны ўздых палёгкі, якога дзецям ніколі ў жыцці не даводзілася чуць, ціха прапёсся па ўсім доме і патух...

Васю раптам стала неяк радасна, хоць у галаве была блытаніна яшчэ большая... Ён не ведаў, што значыць гэты дзіўны голас, і яму здалося, што ён засынае. Напружанне брала сваё, Шура драмала седзячы, і дзеці не заўважалі, як ішоў час...

— А я ведаю, хто прыехаў,— раптам сказаў Марк, які не паддаўся дрымоце, але словы замерлі ў яго на вуснах. Дзверы зноў адчыніліся, але цяпер не было чутна ніякіх гукаў, акрамя дзіцячага плачу. Плакала маленькае дзіцятка нейкім асаблівым, тонкім голасам, захлёбваючыся, але ўпарта і гучна...

Гэта было так нечакана, і плач чуўся так выразна, што нават маленькая Шура апрытомнела, узняла галаву і сказала:

— Дзецінька... паця.

Між іншым, яе гэта, відаць, ніколькі не здзівіла.

Затое ўсе астатнія ўскочылі на ногі. Маша запляскала ў ладкі, а Марк кінуўся да дзвярэй.

— Пойдзем туды!

Вася пайшоў за ім, але каля парога спыніўся.

— А сварыцца будуць?

— Ну, адзін раз нічога...— супакоіў Марк. Ён хацеў сказаць, што менавіта на гэты раз, у гэтую ноч, усё дазволена.— А вы, дзяўчынкі, заставайцеся...

Але Маша думала іначай:

— Вось які разумны! Заставайся сам, калі хочаш... Пойдзем, Шурачка, пойдзем, мілая! — і яна паспешліва падняла Шуру.

— Няхай ідуць,— падтрымаў Вася, які добра разумеў, што ён і сам нізашто не застаўся б.

Калі яны адчынілі дзверы ў калідор, на іх дыхнула цёплым і вільготным ветрам. Звыш іх чакання, калідор быў асветлены: у самым канцы ля ўваходных дзвярэй нехта забыўся свечку ў падсвечніку. Яна ўся аплыла, вецер гайдаў яе полымя, мітуслівыя цені бегалі па ўсім калідоры, то мільгаючы па сценах, то хаваючыся ў кутках, а чорная дзірка печы таксама быццам шавялілася, перабягаючы з месца на месца. Наогул і калідор у гэтую ноч стаў зусім іншы, незвычайны. У напаўрасчыненыя дзверы відаць была частка сіняга начнога неба, і чорныя вяршыні саду гайдаліся і шумелі. Калі дзеці падышлі ў канец калідора, вецер абдаў іх голыя ногі.

Дзверы «на тую палавіну» былі недалёка ад уваxода, направа. Марк ішоў наперадзе і першы, стаўшы на дыбачкі, ціха адчыніў гэтыя дзверы. Дзеці адно за адным шмыгнулі ў першы пакой.

Знаёмыя раней, пакоі цяпер мелі зусім іншы выгляд. Перш за ўсё дзеці звярнулі ўвагу на дзверы мамінай спальні. Там было ціха, слабае святло ледзь мігцела і дазваляла бачыць бацькаву постаць, якая пяшчотна нахілілася ў галавах ложка... Няпэўным ценем па спальні часам праходзіла цёмная постаць незнаёмай жанчыны.

Марк таргануў Васю за рукаў.

— Бачыш цяпер, хто гэта прыехаў?

— Хто?

— Глядзі: дзядзька Генрых і... Міхал.

Вася перавёў вочы з дальніх дзвярэй і зірнуў у суседні пакой, які аддзяляў пярэднюю ад спальні. Раней гэта была гасціная, але цяпер у ёй усё было нерастаўлена інакш. Дзядзька Генрых задумліва сядзеў на крэсле, над ім вісела лямпа, і на яго бледным твары відны былі адны вочы, якія, здавалася дзецям, сталі яшчэ большыя. Міхал без сурдута, з засуканымі рукавамі выціраў рукі.

— Што цяпер рабіць? — разгублена спытаў Вася. Ва ўсіх практычных справах ён аддаваў першынство Марку.

— Не ведаю,— адказаў той, адыходзячы ў цень. Дзеці пасунуліся за ім. Прысутнасць Генрыха і Міхала іх азадачыла. Генрых раней быў весяльчак, гуляў з дзецьмі, казытаў іх і круціў у паветры. Каля двух гадоў назад у яго нарадзілася Шура, а жонка памерла. З таго часу ён паехаў у іншы горад і рэдка бываў у іх, а калі прыязджаў, то дзеці заўважалі, што ён вельмі змяніўся. Ён быў з імі па-ранейшаму добры, але яны адчувалі сябе з ім не так, як раней: нешта бянтэжыла іх, ім не было з ім весела.

Цяпер ён глыбока задумаўся, і ў вачах яго было вельмі шмат смутку.

Міхал быў значна маладзейшы за брата. У яго былі блакітныя вочы, бялявыя валасы ў дробных кудзерках і вельмі белы, правільны, вясёлы твар. Вася ведаў яго яшчэ гімназістам, з чырвоным каўняром і меднымі гузікамі, але гэта ўсё-такі было даўно. Потым ён прыязджаў з Кіева ў сінім студэнцкім мундзіры і са шпагай. Старэйшыя гаварылі тады між сабой, што ён стаў зусім дарослы, закахаўся ў паненку, зрабіў раз «аперацыю» і ўжо не верыць у бога. Усе студэнты перастаюць верыць у бога, бо рэжуць трупы і нічога ўжо не баяцца. Але калі прыходзіць старасць, то зноў вераць і просяць бога даравць ім. А часам і не просяць дараваць, але тады бывае ім кепска, як доктару Вайцахоўскаму... Такія заўсёды паміраюць раптоўна, і ў іх лопаецца жывот, як у Вайцахоўскага...

Міхал ніколі не звяртаў на дзяцей увагі, і дзецям заўсёды здавалася, што ён не церпіць іх па дзвюх прычынах: па-першае, за тое, што яны яшчэ не выраслі, а па-другое,— за тое, што сам ён вырас яшчэ нядаўна і што ў яго яшчэ не было вусоў. Хаця, калі цяпер ён падышоў да лямпы і апрануў зусім новы мундзір, дзеці здзівіліся, як ён змяніўся: у яго былі ўжо ладныя вусікі і нават бародка, і ён на самай справе стаў дарослы. Твар у яго быў задаволены і нават ганарысты. Вочы блішчалі, а губы ўсміхаліся, хоць ён стараўся захаваць важны выгляд... Апрануўшы мундзір, ён такі не вытрымаў і, круцячы папяросу, сказаў Генрыху:

— Ну, што скажаш, Геня, як я справіўся?.. А выпадак цяжкі, і гэты стары асёл, Рудніцкі, напэўна адправіў бы на той свет ці маці, ці дзіця, а магчыма, і абаіх разам...

Генрых адвёў вочы ад сцяны і адказаў:

— Малайчына Міша!.. Так, мы прыехалі з табой своечасова. Магчыма, калі б два гады назад... у маёй Каці...

Але тут голас яго стаў глушэйшы... Ён адвярнуўся.

— А ўсё-такі,— сказаў ён,— нараджэнне і смерць... так блізка... побач... Так, гэта вялікая таямніца!..

Міхал паціснуў плячыма.

— Гэту таямніцу мы, брат, прасачылі амаль што ад найпершай клетачкі...

Дзеці разгубіліся і не ведалі, на што рашыцца. Па-першае, усё аказалася даволі будзённа, па-другое, яны зразумелі, што і ў гэтую ноч, як і заўсёды, ім можа папасці за смелы набег: а нават вымова ў Міхалавай прысутнасці

была б для іх вельмі непрыемнай. Невядома, як скончылася б іх двухсэнсоўнае становішча, калі б не прымяшаўся нечаканы выпадак.

Уваходныя дзверы рыпнулі, прачыніліся, і нехта зазірнуў у шчыліну. Дзеці падумалі, што няня, нарэшце, успомніла пра іх і прыйшла шукаць. Але шчыліна рассунулася шырэй, і ў ёй паказалася незнаёмая галава з мокрымі валасамі і барадой. Галава нясмела азірнулася, і потым нейкі чужы мужык ціхенька зайшоў у пярэдні пакой. Ён быў апрануты ў белую світку, за поясам тырчала пуга, а на нагах былі вялізныя боты. Дзеці прыціснуліся да сцяны ля куфра.

Мужык патаптаўся на месцы і ціха кашлянуў, але быццам наўмысна так ціха, што ў спальні яго ніхто не пачуў. Усе яго рухі выдавалі баязлівасць, і дзверы ён пакінуў прачыненымі, як быццам пакідаючы сабе шлях да адступлення. Кашлянуўшы яшчэ раз і яшчэ цішэй, ён пачаў чухаць патыліцу. Вочы ў яго былі блакітныя, бародка русявая, а нясмеласць і амаль што адчай на твары выклікалі ў дзяцей міжвольную сімпатыю да яго.

Ці то ціхі дзіцячы шэпт, ці тое, што ён прывык да паўцемры пярэдняга пакоя, паказалі незнаёмаму яго суседзяў. Ён, відаць, не здзівіўся, і ў яго на твары з'явіўся выраз даверлівай радасці. Ціхенька на дыбачках, хоць і вельмі няўклюдна, ён падышоў да куфра.

— А што мне... коней распрагаць загадаеце? — запытаў ён з такім амаль дзіцячым даверам да іх «загаду», што дзеці зусім пасмялелі.

— А гэта вы прывезлі маленькае дзіцятка? — спытала Маша.

— Гэ! Якое дзіцятка? Я прывёз пана з панічом... А што, мне, не ведаеце, коней распрагаць ці як?

— Не ведаем мы,— сказаў Мордзік.

— А ты вось што: ты, панічку, ідзі ў той пакой і запытай у паніча, у Міхала, што ён скажа табе?

— Ідзі сам.

— Ды я, бачыце, баюся... Мне гэта, мне не гэта... А вы б схадзілі, вам лепей схадзіць. Не бог ведае, што з вамі зробяць.

— А з табой?

— Гэ, які ж ты, хлопчыку, неразумны. Ідзі, ідзі...

Ён выпхнуў Мордзіка з кутка і накіраваў да дзвярэй. Марк лепей бы праваліўся скрозь зямлю, чым з'явіўся перад усімі — і асабліва перад Міхалам — у адной кашулі

і так нечакана. Але рука незнаёмага цвёрда накіроўвала яго ўперад.

— Што гэта, аднекуль дзьме...— пачуўся ціхі матчын голас. Тады Міхал павярнуўся на крэсле, і Марк зразумеў, што лёс яго вырашаны. Таму ён са злосцю адмахнуў руку незнаёмага і храбра выступіў перад здзіўленымі глядачамі.

— Ён кажа, вось гэты...— гучна загаварыў Марк з відавочным жаданнем зваліць на мужыка цалкам віну свайго нечаканага з'яўлення,— даведайцеся, кажа, што мне коней распрагаць ці не трэба?..

— Хто? Дзе? — спытаў бацька, ён таксама павярнуўся на галасы.

— Там вось, мужык.

Але ў гэты час мужык па-здрадніцку адсунуўся да выхада і, напалову схаваўшыся за дзвярыма, палітычна чакаў канца сцэны. Маша, убачыўшы гэты манеўр, абурылася:

— А ты чаго хаваешся? Вось бачыш які: выпхнуў Маркушу, а сам схаваўся!..

Гэтае ўмяшанне выдала ўсіх. Міхал узяў з камоды свечку, узняў яе над галавой і асвятліў дзяцей.

— Эге,— сказаў ён,— тут іх цэлы вывадак. І дурань Хведзька з імі. Хведзька, гэта ты там, ці што?

— Аніхто, толькі я. Я бо пытаю, ці распрагаць мне коней?

— Дурань, зачыняй дзверы! — крыкнуў Міхал.— Ды не адыходзь пакуль што! Пачакай там у пярэднім пакоі.

Мужык з вялікай неахвотай паслухаўся.

— Ну, цяпер расправа: як вы сюды трапілі, свавольнікі? Ты навошта іх прывёў, Хведзька?

— А які іх чорт прыводзіў... Я зайшоў спытаць, ці распрагаць мне коней. Гляджу, а іх там напхана цэлы куток. Вось! А мне што? Во і маленькая панначка кажа: «Ты дзіцятка прывёз...» Якое дзіцятка, бог ведае...

Усе засмяяліся.

— Ну, цяпер вы гаварыце: як сюды трапілі?

Абодва хлопчыкі панура апусцілі галовы... Яны чакалі незвычайнага, а замест таго трапілі на допыт, ды яшчэ да Міхала.

— Мы пачулі, што дзіцятка плача,— адказала адна Маша.

— Ну, дык што?

— Нам цікава,— панура адказаў Марк,— адкуль яно?

— Ого, ого! — сказаў на гэта Генрых, які між тым узяў на рукі сваю Шуру.— Вось што называецца пытанне! Запытайце ў яго,— кіўнуў ён на Міхала,— ён усё ведае.

Міхал паправіў свае акуляры з абыякавым выглядам.

— У лапушніку знайшлі,— сказаў ён, трасянуўшы сваімі кучарамі.

Міхалава абыякавасць зачапіла Марка за жывое.

— Глупства, — сказаў ён раздражнена.— Мы ведаем, што гэта не можа быць. На дварэ дождж, яна б прастудзілася.

— Ну вось, адна гіпотэза абвергнута,— засмяяўся Генрых,— падавай, Міша, другую...

— Спусцілі проста з неба на нітачцы...

— Расказвайце...— запярэчыў Марк, уваходзячы ў больш азарт.— Відаць, самі не ведаеце. А мы вось ведаем!

— Цікава. Відаць, ад старой дурніцы, нянькі?

— Не, не ад нянькі.

— А ад каго?

— Ад... ад жыда Мошкі.

— Яшчэ лепш! А што вам сказаў мудрэц Мошка?

— Раскажы, Вася,— звярнуўся Марк да Галавана.

— Не, расказвай сам.— Вася быў вельмі сканфужаны і адчуваў сябе зусім знішчаным насмешлівым тонам Міхалавых роспытаў. Марк жа не так лёгка падпадаў пад чужы настрой.

— І раскажу, што ж такога? — задзірыста сказаў ён, выступаючы наперад.— У бога два анёлы...

І ён смела выклаў Мошкаву тэорыю, падфарбаваную Васевай фантазіяй. Па меры таго як ён расказваў, бадзёрасць яго ўсё больш узрастала, таму што ён заўважыў, як узрастала ўсеагульная ўвага. Нават маці паклікала бацьку і папрасіла сказаць, каб Марк гаварыў мацней. Генрых перастаў песціць Шуру і ўтаропіўся ў Марка сваімі вялікімі вачыма; бацька ўсміхнуўся і ласкава ківаў галавой. Нават Міхал хоць і пагойдваў з абыякавым выглядам правай нагой, пакладзенаю на левую, але сам, відаць, быў зацікаўлены.

— Што ж гэта ўсё... праўда? — запытаў Марк, скончыўшы расказ.

— Усё праўда, хлопчык, усё гэта праўда! — сказаў сур'ёзна Генрых.

Тады Міхал, які яшчэ за хвіліну перад тым сцвяр-

джаў, што дзяцей знаходзяць у лапушніку, нецярпліва павярнуўся ў крэсле.

— Не вер, Марк! Усё гэта — глупства, неразумныя Мошкавы казкі... Ахвота...— павярнуўся ён да Генрыха,— забіваць дзіцячую галаву глупствам!

— А ты толькі што не забіваў яе лапушнікам?

— Гэта не так шкодна: гэта — відочны абсурд, ад якога ім пазбавіцца лягчэй.

— Ну, раскажы ім ты, калі можаш...

— Ты ведаеш, што я мог бы расказаць...

— Што?

Міхал звонка засмяяўся.

— Фізіялогію... зразумела, у папулярным пераказе... Спадзяюся, гэта была б праўда.

— Дарэмна спадзяешся...

— Чаму?

— Ты ведаеш няшмат, а думаеш, што ведаеш усё... А яны адчуваюць таямніцу і стараюцца ўвасобіць яе ў вобразы... Па-мойму, яны бліжэй да ісціны.

Міхал нецярпліва ўскочыў з крэсла.

— А! Я сказаў бы табе, Геня!.. Ну, ды цяпер не час. А толькі вось табе лепшая мерка: паспрабуйце вы ўсе, з вашаю... ці, правільней, з Мошкавай тэорыяй зрабіць тое, што, як ты зараз бачыў, мы робім з фізіялогіяй... Вы будзеце з замілаваннем маліцца і чакаць анёлаў, а хворая памрэ...

— Ну, паміраюць і з фізіялогіяй, я ведаю гэта з блізкага вопыту...— сказаў Генрых глуха.

— Прыватны факт, і фізіялогія дрэнная...

— Гэты прыватны факт для мяне — зразумей ты — больш агульны, чым усе твае абагульненні. Пачакай, ты зразумееш калі-небудзь, што значыць смерць каханага чалавека і ці прыватны гэта факт.

— Ісціна вышэй асабістага пачуцця! — сказаў Міхал і змоўк. Ён зразумеў, што з Генрыхам цяпер нельга працягваць гэту гаворку.

## VIII

У пакоі стала ціха. Дзеці былі збянтэжаныя. Яны не зразумелі ні слова з таго, што гаварылася, але адчувалі адно: спрэчнасць іх тэорыі. Гэта іх бянтэжыла і не радавала.

У гэты час Хведзька, пра якога ўсе забыліся, зноў высунуў галаву з-за вушака.

— А што, мне распрагаць коней ці не? — прамовіў ён з глыбокім сумам у голасе.

Гэта ўмяшанне было ўсім вельмі дарэчы.

Міхал весела засмяяўся.

— Ага-а! — сказаў ён.— Вось яшчэ адзін мудрэц. Паспрабуем зараз маленькую індукцыю... Як ты думаеш, Хведар, куды мы з табой ехалі?

— Ды я ж думаю, нікуды, толькі сюды.

Ён уважліва, не адрываючы вылупленых вачэй, пазіраў на Міхала, як быццам баяўся яго жартаўлівых роспытаў.

— Ну?

— А што ну?

— Ну, прыехалі мы сюды ці не?

— Гэ, вы бо ўсё смяецеся. Чаго б я пытаў, калі яно само відно?

— Дык нашто ж коням стаяць на дажджы, дурань?

— Вось і я так думаў,— узрадаваўся Хведзька.— Яно хоць дажджу ўжо няма, а коням стаяць няма чаго. Пайду распрагаць. Так і казалі б адразу...

І ён з яўнай палёгкай паспяшаўся выйсці.

— Ну, і вы таксама... марш назад! — сказаў бацька.

— А... а дзетачку? — сказала Маша сумна.

Віноўніца ўсёй валтузні знаходзілася ў спальні. Маці ціха сказала нешта, і неўзабаве бабка вынесла яе на руках у прыгожанькім белым спавівачы.

Сярод кучы бялізны відаць была маленькая галоўка. Вочы глядзелі прама, на твары быў той надзіва свядомы выраз, які часам робіць твары дзяцей амаль старэчымі. Дзяўчынка пазяхала і пацягвалася.

— Ганарлівая якая! — невядома чаму вырашыла пра яе Маша, устаючы на пальчыкі.

Калі б мама была здаровая, яна, напэўна, успомніла б, што дзецям трэба прынесці адзенне. Але цяпер ніхто не звярнуў увагі на тое, што яны выйшлі, як і зайшлі, у адных кашульках. Шура засталася на бацькавых руках.

Выйшаўшы ў калідор, Маша адразу ж пабегла ў дзіцячы пакой, а хлопчыкі затрымаліся. Марк убачыў у прачыненыя дзверы, што ля канюшні стаіць брычка, а Хведзька ўжо распрог коней і вядзе іх пад павець. Гэта яго зацікавіла, і ён шмыгнуў на ганак; Вася пайшоў за ім.

Хведзька прывязаў коней, потым яго белая світка міль-

ганула ля брычкі, і ён вынес адтуль вялізны чамадан. Усцягнуўшы яго на ганак і паставіўшы на верхняй прыступцы, ён, па-свойму, з наіўнай фамільярнасцю звярнуўся да Марка:

— А то, відаць, у вас нарадзілася тут нешта?

— Не нешта, а дзяўчынка.

— Вось я і кажу. А пра што гэта панічы спрачаліся?

— А гэта, бач ты... Мы кажам: у бога два анёлы...

— Ну-ну, не два,— шмат... Ці ж мала іх у бога... багата...

— Праўда? А Міхал кажа: глупства!

— Но!.. Малады паніч іншы раз скажа, дык будзе з чаго пасмяяцца! — І ён сам засмяяўся.

Дзеці адчулі да яго поўны давер.

— А праўда, што дзяцей прыносяць анёлы?

— Яно... гэта самае... дык трэба сказаць, што дзяцей прыносяць бабы... і не хто іншы... А душу анёлы прыносяць. Вось ужо гэта дык ваша праўда. Вось што, хлопчыкі: душу... Ну, а мне, хлопчыкі мае, трэба куфар несці, вось што. А то я б тут вам усё гэта як след расказаў...

І Хведзька ўзваліў сабе на плечы цяжкі чамадан.

Хлопчыкі вельмі шкадавалі аб гэтай неабходнасці. Там, у кабінеце, іх тэорыя, якая паспяхова вытрымала ў дзіцячым пакоі іх уласную крытыку, неяк затуманілася. Яны адчувалі разгубленасць. А тут кароткая гаворка з Хведзькам зноў аднавіла яе ў ранейшым парадку і стройнасці.

І абодва яны адначасова паглядзелі на неба.

Толькі цяпер яны звярнулі ўвагу, што і на двары таксама ўсё дзіўна. Першае дзіва заключалася, вядома, у тым, што яны такой парой стаяць на ганку босыя і неапранутыя і што іх абдзімае халаднаваты і сыры вецер. Акрамя таго, на двары, там і сям, нейкім асаблівым, загадкавым водбліскам начнога неба дзіўна адсвечвалі лужыны, а сад усё калыхаўся, быццам усё яшчэ не мог канчаткова супакоіцца пасля начных хваляванняў. Неба святлела, і таму больш рэзка выглядалі на ім буйныя, цяжкія і быццам ускудлачаныя воблакі. Быццам нехта праляцеў па небе, усё параскідаў, усё перарыў, і цяпер да надыходу раніцы так цяжка прывесці ўсё ў парадак. А між тым усюды відна была паспешлівасць. Адно тонкае воблака, якое велізарным слупам выцягнулася да самай сярэдзіны неба, хутка хілілася, слуп ламаўся і закрываў адны зоркі, у той час як з-за яго смела выглядвалі іншыя. Нейкія параскіданыя па небе лахманы сцягваліся ў адно месца, у

суцэльную хмару, якая ўсё асядала ўніз; і па меры таго як хмара ападала, рабілася святлей, і можна было разгледзець, як асіна ў садзе раз-пораз мяняецца ад ветру, узмахваючы сваімі, белымі знізу, лістамі.

І дзецям у пасвятлелым небе бачыўся няўлоўны палёт светлага анёла, між тым як другі распасцёр цёмныя крылы там далёка, пад нізкімі хмарамі. Абодвум хлопчыкам хацелася сустрэць тут усход сонца,— гэта так цікава,— і яны прастаялі б яшчэ доўга, калі б нянька, нарэшце, не спахапілася. З буркатнёй і злосцю неслася яна па калідоры з неўласцівай старым нагам хуткасцю. Аднак да ганка яна не дабегла, а спынілася за тры крокі ад дзвярэй, прыхінуўшыся да сцяны, так што засталося вузкае месца для праходу дзяцей.

— А кш, а кш! — крычала яна.— Ах, праклятыя гультаі, куды забраліся, няма на вас халеры вялікай!.. А кш!..

Хлопчыкі ахвотна не пайшлі б праз небяспечны праход, але яны разумелі, што іх учынак зусім выходзіў з рамак кампрамісу і што нянька мае права на адплату. Заставалася толькі спадзявацца на свой спрыт.

Галаван быў няньчыным любімцам, і хаця бег першым, але ўдар атрымаў лёгкі. Затое пляскач, адпушчаны Марку, разнёсся па ўсім калідоры. Тым не менш, адбегшыся на сярэдзіну калідора, ён спыніўся і сказаў даволі раўнадушна:

— Думаеш, надта баліць? Зусім не баліць, толькі звонка.

Праз паўгадзіны ўсё ў доме супакоілася, хоць спалі не ўсе.

Бацька думаў пра тое, што яшчэ прыбавіліся выдаткі, а пенсіёну і так не хапае. Маці думала пра тое ж. Яна загадала прынесці да сябе дзяўчынку, глядзела на яе і плакала, таму што не ведала, ці можна радавацца гэтаму новаму жыццю пры такіх мізэрных сродках. Міхал пачынаў драмаць і ў дрымоце думаў пра жыццё, што яно цудоўнае. А Генрых не спаў, пазіраў у цемру і думаў пра смерць: што ж яна такое?

Толькі дзеці спалі ціхамірна і моцна.

*1888*

# апошні прамень

I

Нюйскі станок размешчаны на невялікай паляне, на беразе Лены. Некалькі ўбогіх хацінак задамі прыціскаюцца да самых скалаў, нібы адступаючы ад сярэдзіны ракі. Лена ў гэтым месцы вузкая, незвычайна быстрая і панурая. Падэшвы гор процілеглага берага стаяць у вадзе, і тут больш, чым дзе-небудзь, Лена апраўдвае сваю назву «Праклятая шчыліна». Па сутнасці, гэта як быццам гіганцкая расколіна, па дне якой клубіцца цёмная рака, абстаўленая панылымі скаламі, абрывамі, цяснінамі. Тут падоўга спыняюцца туманы, стаіць халодная вільгаць і вечны змрок. Насельніцтва гэтага станка нават сярод астатніх прыленскіх жыхароў уражвае сваёю вяласцю, беднасцю і безнадзейнай апатыяй. Панылы гул лістоўніц па горных хрыбтах служыць вечным акампанементам гэтага сумнага існавання.

Прыехаўшы на станок ноччу, стомлены і акалелы, я прачнуўся, відаць, даволі рана.

Было ціха. У вокны глядзеў ці то цьмяны світанак, ці то позні вечар,— нешта запоўненае бясформенпай і змрочнай імглой. Вецер дзьмуў у «шчыліне», як у трубе, і гнаў па ёй начныя туманы. Зірнуўшы з акна ўгору, я мог бачыць трошкі яснага неба. Значыць, па белым свеце пачыналася яркая сонечная раніца. А міма станка ўсё неслася клубамі халодная імгла... Было змрочна, ціха, шэра і сумна.

У хаціне, дзе я начаваў, на стале яшчэ гарэла газоўка, прымешваючы да змроку пакоя сваё нясмелае жаўтаватае святло. Пакой быў даволі чысты, драўляныя перагародкі, якія аддзялялі спальню, былі абклеены газетнай паперай. На покуце, ля абразоў, густа віселі стракатыя карцінкі з ілюстрацый — галоўным чынам партрэты генералаў. Адзін з іх быў Мураўёў-Амурскі, вялікі і ў рэгаліях, а побач яшчэ ўчора я разгледзеў два невялікія сціплыя партрэты дзекабрыстаў.

Лежачы на сваёй пасцелі, я з-за перагародкі бачыў стол з лямпай ля процілеглай сцяны. За сталом сядзеў стары, з даволі прыгожым, але бледным тварам. Барада ў яго была шэрая, з роўнай густой сівізной, высокі адкрыты лоб адліваў жоўтым воскам, рэдкія на цемі валасы — ззаду былі доўгія і трохі кучаравыя. Наогул, постаць нагадвала духоўнага, можа, нават аднаго з евангелістаў, але колер твару быў непрыемна бледны і нездаровы, вочы мне падаліся цьмянымі. На шыі відаць былі, як пухліна, прыкметы валляка,— хваробы, вельмі пашыранай на Лене і якую прыпісваюць ленскай вадзе.

Побач з ім сядзеў хлопчык гадоў васьмі. Мне была відаць толькі яго нахіленая галава, з тонкімі, як лён, бялявымі валасамі. Стары, жмурачы праз акуляры свае падслепаватыя вочы, вадзіў указкай па старонцы кнігі, якая ляжала на стале, а хлопчык з напружанай увагай чытаў па складах. Калі ў яго не выходзіла, стары папраўляў яго з ласкавым цярпеннем.

— Людзі-аз... *ла*... ведзі-есць, і кароткае...

Хлопчык спыніўся. Незнаёмае слова не давалася. Стары прыжмурыўся і дапамог.

— Салавей,— прачытаў ён.

— Салавей,— добрасумленна паўтарыў вучань і, узняўшы разгубленыя вочы на настаўніка, запытаў: — Са-лавей... Што такое?

— Птушка,— сказаў стары.

— Птушка...— І ён працягваў чытаць: — «Слова-іжа, *ся,* дабро-яць-людзі, *дзей*... Салавей ся-дзеў... на ча... на ча-ро... на чаро-му-се...»

— Што такое? — зноў прагучаў, нібы драўляны, абыякавы дзіцячы голас.

— На чаромусе. Чаромха, значыць, дрэва. Ён і сядзеў.

— Сядзеў... Чаго сядзеў?.. Вялікая птушка?

— Маленечкая, спявае хараша.

— Спявае хараша...

Хлопчык нерастаў чытаць і задумаўся. У хаціне стала зусім ціха. Стукаў маятнік, за акном плыў туман... Кавалачак неба ўверсе прыводзіў на памяць яркі дзень у іншых мясцінах, дзе вясной спяваюць салаўі на чаромхах... «Што гэта за дзяцінства такое няшчаснае! — думаў я міжвольна пад аднатонныя гукі дзіцячага галаска.— Без салаўёў, без квітнеючай вясны... Толькі вада ды камень, які засланяе вачам прастору белага свету. З птушак — можа,

адна варона, па схілах — сумная лістоўніца ды зрэдку сасна...»

Хлопчык прачытаў яшчэ нейкую фразу ўсё тым жа невыразным голасам і раптам спыніўся.

— А што, дзед,— запытаў ён,— ці не пара нам, глядзі?..— На гэты раз у яго голасе чуліся ўжо новыя, усхваляваныя ноты, і ясныя вочы, асветленыя агнём лямпы, з яўнай цікаўнасцю глядзелі на дзеда.

Той зірнуў на гадзіннік, які раўнадушна цікаў маятнікам, потым на акно, дзе за шклом клубілася імжа, і спакойна адказаў:

— Рана яшчэ. Толькі палова!..

— Можа, дзядуля, гадзіннік сапсаваўся.

— Ну, ну... цёмна яшчэ... Ды яно, дурненькі, нам жа лепей. Бач, вецер... Можа, марак той прагоніць, а то нічога і не ўбачыш, як пазаўчора.

— Лепей,— паўтарыў хлопчык сваім ранейшым, пакорлівым голасам і пачаў чытаць.

Прайшло хвілін дваццаць. Стары зірнуў на гадзіннік, потым у акно і патушыў лямпу. У пакоі разліўся шэраблакітны світанак.

— Апранайся,— сказаў стары і дадаў: — Ціхенька, каб Таня не пачула.

Хлопчык борзда саскочыў з крэсла.

— А яе не возьмем? — спытаў ён шэптам.

— Не... куды ёй... І так кашляе... Няхай спіць.

Хлопчык з асцярожнай паспешлівасцю пачаў апранацца, і неўзабаве абедзве постаці — дзедава і ўнукава — прамільгнулі ў паўзмроку пакоя. На хлопчыку было нешта падобнае на паліто гарадскога пакрою, на нагах вялікія валёнкі, шыя заматана жаночым шалікам. Дзед быў у кажушку. Дзверы рыпнулі, і абодва выйшлі на двор.

Я застаўся адзін. За перагародкай чулася ціхае дыханне дзяўчынкі і хрыплае пастукванне маятніка. Рух за акном усё ўзмацняўся, туман нёсся ўсё хутчэй, разрываўся часцей, і ў прамежках усё шырэй выглядвалі суровыя плямы цёмных скалаў і цяснін. Пакой то святлеў, то зноў патанаў у змроку.

Мой сон прайшоў. Маўклівая журба гэтага месца пачынала пранікаць і ў мяне, і я амаль з нецярпеннем чакаў, калі рыпнуць дзверы і вернуцца стары з хлопчыкам. Але іх усё не было...

Тады я вырашыў паглядзець, што гэта іх выманіла з хаты на туман і холад. Спаў я апрануты, таму мне не трэ-

ба было шмат часу, каб нацягнуць боты, паліто і выйсці...

Абодва — і стары і хлопчык — стаялі на ганку, засунуўшы рукі ў рукавы, і як быццам нечага чакалі.

Мясцовасць здалася мне яшчэ больш панылай, чым з акна. Уверсе туман рассеяўся, і на прасветленым небе горныя вяршаліны выступалі выразна і сурова. На цёмным фоне гор праносіліся толькі асобныя гарызантальныя шматкі туману, але ўнізе ўсё яшчэ стаяў халодны морак. Вада ў Лене яшчэ не замерзла, але была ўжо цяжкая і цёмная і неслася ў вузкім рэчышчы, завіваючыся ў варонкі і віры. Здавалася, рака ў нямым адчаі кіпіць і рвецца, стараючыся прабіцца на волю са змрочнай цясніны... Халодны перадранішні вецер гнаў рэшткі начнога туману, трапаў наша адзенне і злосна імчаў далей...

Дамы, раскіданыя кучкамі па каменнай пляцоўцы, пачыналі прачынацца. Дзе-нідзе віўся дымок, дзе-нідзе цепліліся вокны; высокі худы ямшчык у парваным кажушку, пазяхаючы, правёў за павады пару коней на вадапой і неўзабаве растаў у цяні берагавога схілу. Усё было будзённа і паныла.

— Што гэта вы чакаеце? — спытаў я ў старога.

— Ды вось, унучку хочацца сонейка паглядзець,— адказаў ён і спытаў у сваю чаргу: — Вы чые? Расійскія?

— Ага.

— Чарнышовых там не ведалі?

— Якіх Чарнышовых? Не, не ведаў.

— Хаця, дзе ж ведаць. Расія ж вялікая... Кажуць, генерал быў...

Ён памаўчаў, пацепваючыся ад холаду, і, нешта абдумаўшы, зноў павярнуўся да мяне:

— Праезжы тут адзін расказваў: пры царыцы Кацярыне служыў Захар Рыгоравіч Чарнышоў.

— Ага, быў такі...

Стары хацеў спытаць яшчэ штосьці, але ў гэты час хлопчык рэзка заварушыўся і крануў яго за рукаў...

Я міжволі таксама глянуў на вяршыню скалы, якая стаяла на нашым баку, ля павароту Лены...

Да гэтага часу месца гэта здавалася нейкім цёмным жаралом, адкуль усё яшчэ выпаўзаў туман. Цяпер над ім, у вышыні, на вастраканечнай вяршыні каменнай скалы нечакана нібы ўспыхнула і засвяцілася вяршаліна сасны і некалькіх ужо агаленых лістоўніц. Прарваўшыся аднекуль з-за гор процілеглага берага, першы прамень сонца, якое для нас яшчэ не ўзышло, ужо дастаў да гэтага ка-

меннага выступу і купы дрэў, што выраслі ў яго расколінах. Над халоднымі сінімі ценямі нашай цясніны яны стаялі, нібы ў воблаках, і ціха ззялі, радуючыся першай ласцы раніцы.

Усе мы моўчкі глядзелі на вяршаліну, быццам баючыся спалохаць урачыста-ціхую радасць адзінокага каменя і купкі лістоўніц. Хлопчык стаяў нерухома, трымаючыся за дзедаў рукаў. Яго вочы былі шырока расплюшчаныя, бледны твар ажывіўся і ззяў захапленнем. Між тым у вышыні зноў нешта здрыганулася, затрымцела, і другая скала, якая дасюль ляжала ў агульнай сіні панылай гары, загарэлася, далучыўшыся да асветленай групы. Яшчэ нядаўна яны безаблічна зліваліся з аддаленымі схіламі, а цяпер смела выступілі наперад і фон іх стаў як быццам яшчэ больш аддалены, імглісты і цёмны.

Хлопчык зноў тузануў дзеда за рукаў, твар яго зусім змяніўся. Вочы блішчалі, губы ўсміхаліся, бледна-жоўтыя шчокі, здаецца, заружавеліся.

На процілеглым баку ракі таксама адбылася перамена. Горы ўсё яшчэ хавалі сонца за сабой, але неба над імі зусім пасвятлела, і абрысы хрыбта выступалі рэзка і выразна, утвараючы між дзвюма вяршынямі значную лагчыну. Па яшчэ цёмных схілах, звернутых да нас, спаўзалі ўніз струмені малочна-белага туману, быццам шукалі месца цямнейшага і сырэйшага... А неба расквечвалася золатам, рады лістоўніц на грэбені выступалі на светлым фоне выразнымі фіялетавымі сілуэтамі. Здавалася, за імі штосьці варушыцца — радаснае, няўрымслівае і жывое. У лагчыне, ад гары да гары праплыла лёгкая палымяная хмарка і знікла за суседняй вяршыняй. За ёй другая, трэцяя, цэлая чародка... За гарамі тварылася нешта радаснае і святочнае. Дно расколіны разгаралася. Здавалася, сонца ўздымаецца па схілах хрыбта, каб зазірнуць сюды, у гэтую бедную шчыліну, на гэтую цёмную раку, на гэтыя сіратлівыя хацінкі, на старога з бледным хлопчыкам, якія чакалі яго з'яўлення.

І вось яно з'явілася. Некалькі ярка-залацістых промняў пырснулі ў глыбіні расколіны між дзвюх гор, прабіўшы шчыліны ў густой сцяне лесу. Вогненныя іскры пасыпаліся пучкамі ўніз, на цёмныя расколіны і цясніны, вырываючы з сіняга халоднага змроку то асобнае дрэва, то вяршыню сланцавага ўцёса, то невялікую горную палянку... Пад імі ўсё пачало рухацца і мітусіцца. Купы дрэў, здавалася, перабягалі з месца на месца, скалы выступалі

наперад і зноў прападалі ў імгле, палянкі свяціліся і патухалі... Палосы туману змяіліся ўнізе трывожна і шпарка.

Потым на некалькі імгненняў засвяцілася нават цёмная рака... Успыхнулі грабяні хуткіх хваляў, што беглі да нашага берага, зазбліпчаў на беразе пясок з чорнымі плямамі ямшчыцкіх лодак і купкамі людзей і коней ля вадапою. Косыя промні слізганулі па бедных хацінах, адбіліся ў слюдзяных вокнах, ласкава прабеглі па бледным, узбуджаным твары хлопчыка...

А ў расколіне між гарамі ўжо ўздымалася частка вогненнага сонечнага круга, і на нашым баку ўвесь бераг радаваўся і свяціўся, паблісквау, іскрыўся і пераліваўся рознакаляровымі слаямі сланцавых парод і зелянінай пушыстых соснаў...

Але гэта была толькі кароткая ранішняя ласка. Яшчэ некалькі секунд, і дно даліны зноў стала халоднае і сіняе. Рака патухла і зноў імчалася ў сваім цёмным рэчышчы, шалёна круцячы вадаваротамі, слюдзяныя вокны пагаслі, цені ўздымаліся ўсё вышэй, горы завесілі нядаўнюю разнастайнасць сваіх схілаў аднакаляровай сіняй імглой. Яшчэ некалькі секунд на нашым баку гарэла адзінокая вяршыня, нібы факел згасаў над цёмнымі туманамі... Потым патухла і яна. У расколіне закрыліся ўсе шчыліны, лясы самкнуліся, як і раней, суцэльнай жалобнай паласой, і толькі дзве-тры адсталыя хмаркі ішлі над імі, шэрыя і халодныя...

— Усё,— паныла сказаў хлопчык. І ўзняўшы на дзеда свае сумныя пагаслыя вочы, запытаў: — Болей не будзе?

— Не будзе, мабыць,— адказаў той.— Сам бачыў: толькі беражок сонейка паказаўся. Заўтра ўжо пойдзе нізам.

— Канчай, брат! — крыкнуў ямшчык, што вяртаўся з ракі.— Добры дзень, дзед з унукам!..

Павярнуўшыся, я ўбачыў, што і ля іншых хацін дзенідзе таксама былі відаць гледачы. Рыпелі дзверы, ямшчыкі заходзілі ў хаты, станок зноў патануў у бясколерным халодным тумане.

І гэта ўжо на доўгія месяцы!.. Стары расказаў мне, што ўлетку сонца ходзіць у іх над вяршынямі, пад восень яно спускаецца ўсё ніжэй і хаваецца за шырокім хрыбтом, не маючы сіл узняцца над яго абрэзам. Але потым пункт усходу перасоўваецца на поўдзень, і тады на некалькі дзён яно раніцой зноў паказваецца ў расколіне між гарамі.

Спачатку яно пераходзіць ад вяршыні да вяршыні, потым ідзе ўсё ніжэй, нарэшце толькі на некалькі імгненняў зазяюць залатыя промні на самым дне лагчыны. Гэта і было сёння.

Нюйскі станок развітваўся з сонцам на ўсю зіму. Ямшчыкі, вядома, убачаць яго ў час сваіх раз'ездаў, але старыя і дзеці не ўбачаць да самай вясны ці, правільней, да лета...

Апошнія водбліскі зніклі... За гарамі быў поўны дзень, але ўнізе гусцеў туман, схілы гор завесіла мутная аднакаляровая імгла. Рассеянае святло прасочвалася з-за гор, халоднае і непрыветнае...

## II

— Дык вы, кажаце, таксама з Расіі? — запытаў я ў старога, калі мы зноў зайшлі ў хату і ён паставіў на стол невялікі старэнькі самавар. Хлопчык пайшоў за перагародку да сястры, якая прачнулася, і пачаў забаўляць яе. Часам адтуль чуўся слабы дзіцячы смех, быццам хто перакідваў кавалачкі шкла.

Стары паправіў абрус і праз нейкі час адказаў даволі неахвотна:

— Ага... Што ўжо тут... Тут нарадзіліся, значыць, тутэйшыя. Яны вось, дзеці, напэўна, што і не простага роду...

— Як прозвішча? — спытаў я.

— Ды што!..— зноў гэтак жа вяла адказаў ён.— Аўдзеевы, скажам, прозвішча. Ды гэта так, па-простаму. А сапраўднае прозвішча іх Чарнышовы...

Ён раптам пакінуў абрус і паглядзеў на мяне ўважлівым і зацікаўленым позіркам.

— Вы, вось, пра Чарнышова Захара Рыгоравіча таксама, значыць, чыталі. Генерал быў?

— Ага, быў генерал пры Кацярыне. Толькі ён не быў сасланы.

— Ну, не ён, а відаць, таго ж роду... Пры імператары Мікалаі... Пры ўступленні на прастол, ці што...

Ён пільна ўзіраўся ў мой твар, але я не мог нічога прыпомніць пра Чарнышова... Стары тужліва пахітаў галавой...

— Кажуць: кніжнік быў. Паміраў, усё наказваў дзецям: галоўная справа за грамату трымайцеся мацней...

Ён памаўчаў і потым дадаў:

— Ды што ўжо тут... Вядома — гіблае месца... Дачка

мая за ўнукам яго была, за Яўгеньевым. Вось і пайшлі Аўдзеевы... Не жывуць... Сам памёр, маці памерла, вунь двое на руках засталіся... Я стары, а яны кволыя... Хлопчык прыпадачны... Так, відаць, і сыдзем... Следу не застанецца.

Дзверы расчыніліся, зайшоў ямшчык, перахрысціўся на абразы і сказаў:

— Аўдзееў... Хадзі, прыезжых запішы... У старасты.

— Добра!

— Вас хіба таксама Аўдзеевым завуць? — запытаў я.

— Ды вось, бач ты... І мяне па іх: Аўдзееў ды Аўдзееў. Былі калісьці людзі...

І стары, магчыма, адзіны грамацей на Нюйскім станку, узяў пад паху патрапаную кнігу і выйшаў.

Больш нічога я не мог даведацца пра гэту туманную генеалогію і неўзабаве назаўсёды пакінуў пануры Нюйскі станок. Гадзіны праз дзве, павярнуўшы на другі плёс, я ўбачыў перад сабой сонца... Яно стаяла невысока, але ўсё ж вогненнымі блікамі залівала і берагі і ваду... І яго ціхае, нават сумнае святло здалося мне ў гэтую хвіліну і яркім і радасным.

## III

Пазней, вярнуўшыся ў Расію, я стараўся даведацца што-небудзь пра ссыльную галіну чарнышоўскага роду. Імя Захара Рыгоравіча Чарнышова часта сустракаецца на старонках кацярынінскай гісторыі, але ён ніколі не быў у ссылцы. Аднойчы, чакаючы парахода на волжскай водмелі, я пачуў ад рыбака песню пра прускі палон рускага добрага малайца, Чарнышова Захара Рыгоравіча. Рыбак не ведаў, вядома, нічога пра гістарычную асобу,— але песня ўсё-такі была адгалоскам сапраўднай падзеі. У часы Пугачова ўдалы казак Чыка прыняў на сябе імя Захара Рыгоравіча Чарнышова і дадаў у народнай памяці да папулярнага імя апальную рысу; іншая песня расказвае ўжо пра цямніцу на волжскім беразе, у горадзе Лыскаве. Удалы добры маладзец, Чарнышоў Захар Рыгоравіч, склікае да сябе бурлакоў і нізавую вольніцу...

Наогул, імю гэтаму чамусьці пашанцавала ў народнай памяці, і сярод загадкавых асоб Сібіры прозвішча Чарнышовых таксама мільгае даволі часта. Гэтым я і растлумачваў сабе сустрэчу на Нюйскім станку; сапраўднае находжанне роду, магчыма, ссыльнага, згубілася, і стары

несвядома ўзяў папулярнае імя... У яго сумным голасе чулася праўдзівасць і перакапанасць...

Зусім ужо нядаўна, праглядаючы невялікую нататку пра дзекабрыстаў, я наткнуўся на адно мала вядомае імя таксама дзекабрыста, якое памінalася рэдка... «З. Р. Чарнышоў».

Тады сустрэча на Нюйскім станку зноў усплыла ў маёй памяці і, здавалася, азарылася новым святлом: «Значыць,— думаў я,— стары Аўдзееў гаварыў праўду».

Далейшыя звесткі, аднак, разбурылі гэтую ўпэўненасць: дзекабрыст Захар Рыгоравіч Чарнышоў вярнуўся ў Расію, тут ажаніўся і памёр за мяжой.

Над генеалогіяй Аўдзеевых зноў навісла туманная заве са... У прасторнай і змрочнай Сібіры такім жа чынам згубілася нямала жыццяў, і многія роды з вяршынь, асветленых сонцам, назаўсёды апускаліся ў халодныя нізы, у цясніны і туманныя даліны... Вышэй Якуцка, на Ленскім беразе, стаіць скала, па якой над безданню ўецца вузенькая сцяжынка. У расколіне захаваліся сляды жытла. З гэтым месцам звязана жаласлівая легенда: тут шмат гадоў жыў нейкі ссыльны, чалавек вядомы, які трапіў у апалу. У Сібіры ён жыў у розных месцах і нарэшце пасяліўся тут, побач з бедным пасёлкам. Ён сам сек дровы і цягаў ваду. Аднойчы, калі ён падымаўся наверх з вязкай дроў, на сцяжынцы перад ім з'явілася знаёмая постаць. Гэта была жонка, якая адшукала яго ў гэтай цясніне. Ссыльны пазнаў яе, але ад радасці ці страху яму стала блага: ён пахіснуўся і паляцеў у бездань.

Я дарэмна стараўся даведацца імя гэтага чалавека і падрабязнасці гэтай падзеі: абыякавая і халодная Сібір дрэнна захоўвае гэтыя звесткі, і памяць пра гэта некалі, можа, яркае жыццё і трагічную смерць замірае адгалоскамі неразгаданай легенды, звязанай ужо толькі са скалой, а не з чалавекам...

Гэтакае ж няяснае і няпэўнае паходжанне хлопчыка, якога я сустрэў на Нюйскім станку. Але калі я пачынаю ўспамінаць Сібір, у маім уяўленні мімаволі ўзнікаюць цёмная шчыліна, быстрая рака, убогія хаціны і апошнія водбліскі сонца, якія атухаюць у сумных вачах апошняга нашчадка нейкага згаслага ўжо роду...

*1900*

# агеньчыкі

Нейк даўно, у цёмны асенні вечар, давялося мне плыць па панурай сібірскай рацэ. Раптам на павароце ракі, наперадзе, пад цёмнымі гарамі мільгануў агеньчык.

Мільгануў ярка, моцна, зусім блізка...

— Ну, дзякуй богу! — сказаў я з радасцю.— Блізка начлег!

Вясляр павярнуўся, паглядзеў цераз плячо на агонь і зноў апатычна налёг на вёслы.

— Далёка!

Я не паверыў: агеньчык стаяў, выступаючы наперад з няпэўнай цемры. Але вясляр казаў праўду: аказалася, сапраўды далёка.

Уласцівасць гэтых начных агнёў — набліжацца, перамагаючы цемру, і ззяць, і абяцаць, і клікаць сваёй блізкасцю. Здаецца, вось-вось яшчэ два-тры ўдары вяслом — і шлях закончаны... А між тым — далёка!..

І доўга яшчэ мы плылі па цёмнай, як чарніла, рацэ. Цясніны і скалы выплывалі, насоўваліся і адплывалі, застаючыся ззаду і губляючыся, здавалася, у бясконцай далечы, а агеньчык усё стаяў наперадзе, пераліваўся і вабіў — усё гэтак жа блізка і ўсё гэтак жа далёка...

Цяпер мне часта ўспамінаюцца і гэта цёмная рака, зацененая скалістымі гарамі, і гэты жывы агеньчык. Багата агнёў і раней і пасля прываблівалі не аднаго мяне сваёй блізкасцю. Але жыццё цячэ ўсё ў тых жа панурых берагах, а агні яшчэ далёка. І зноў даводзіцца налягаць на вёслы...

Але ўсё-такі... усё-такі наперадзе — агні!..

*1900*

## ЗМЕСТ

**Караленка У. Г.**

К 21 Апошні прамень. Выбранае./[Пер. з рус. А. Кудравец].— Мн.: Маст. літ., 1984.— 239 с.
У пер.: 1 р. 60 к.

Пісьменнік глыбокага чалавечага таленту, творчасць якога заўсёды была засяроджана на балючым, жывым пульсе сучаснасці, У. Г. Караленка (1853—1921) застаецца сучасным і сёння. Яскравае сведчанне таму гэты зборнік выбраных твораў, перакладзеных на беларускую мову,— маленькая часцінка літаратурнай спадчыны, пакінутай ім нашчадкам.

К $\frac{47020210100-051}{М302(05)-84}$ 146—84 ББК84Р7

Р1

ВЛАДИМИР
ГАЛАКТИОНОВИЧ
КОРОЛЕНКО

**Последний луч**

Избранное

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар *Т. А. Зарыцкая*. Мастак *І. М. Лобан*. Мастацкі рэдактар *А. І. Труханава*. Тэхнічны рэдактар *А. Б. Барадзіна*. Карэктар *Т. М. Собалева*.

ІБ № 1678

Здадзена ў набор 27.06.83. Падп. да друку 26.12.83. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 12,60. Ум. фарб.-адб. 12,60. Ул.-выд. арк. 13,75. Тыраж 8000 экз. Зак. 3820. Цана 1 р. 60 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.